ГАЛЕРЭЯ 

# Леанід Галубовіч

# Зацемкі зь левай кішэні



БІБЛІЯТЭКА ФРАГМЭНТЫ

Сэрыя «Бібліятэка Фрагмэнты» заснаваная ў 1998 годзе
Цэнтрам Эўрапейскага Супрацоўніцтва «ЭўроФорум»
і часопісам «Фрагмэнты»

## У 1998 годзе выйшлі:

Міхась Баярын «Шалёны вертаградар»
Сяргей Дубавец «Дзёньнік прыватнага чалавека»
Валянцін Акудовіч «Мяне няма.
Роздумы на руінах чалавека»
Алесь Разанаў «Рэчаіснасьць»
Ігар Бабкоў «Герой вайны за празрыстасьць»
Сяргей Санько «Штудыі з кантрастыўнай
і кагнітыўнай культуралёгіі»

## У 1998 годзе рыхтуюцца да выданьня:

***Калекцыя «Галерэя Б»***
Ігар Бабкоў «Менская Опэра»
***Калекцыя «Сучаснае мысьленьне»***
Юрась Барысевіч «Цела і тэкст»
Валерка Булгакаў «Мой Багушэвіч»
Ігар Бабкоў «Выглумачэньні руінаў»
***Калекцыя «Беларуская эміграцыя»***
Антон Адамовіч «Каханы горад»
***Калекцыя «Сярэдняя Эўропа»***
Чэслаў Мілаш «Скуты розум»

«ЭўроФорум» і часопіс «Фрагмэнты» выказвае падзяку IDEE (Варшава) і асабіста Паўлу Казанэцкаму, дзякуючы якім выданьне гэтай сэрыі сталася магчымым

УДК 882.6-8
Г168
ББК 84.(4Беи)

**Галубовіч Л.**
Г168 Зацемкі зь левай кішэні.— Менск: БГАКЦ (па замове ЭўроФоруму), 1998.— 220 с.

ISBN 985-6012-35-х

*„Зацемкі зь левай кішэні"* — разважаньні вядомага беларускага літаратара пра сябе, пра жыцьцё, пра творчасьць. Гэта й назіраньні з жыцьця менскага літаратурнага кола, у якіх багата якія вядомыя постаці выступаюць часам у нечаканым сьвятле.

Кніга прызначана ўсім, хто цікавіцца сучаснай беларускай літаратурай і сталічнай культурнай сытуацыяй.

**ISBN 985-6012-35-х**

***

Калі я гавару ці думаю пра паэзію, то я гавару і думаю пра сябе.

***

Паэзія ні пра што не гаворыць. Яна гаворыць за нешта ці за некага. Альбо — маўчыць... Яна можа гаварыць за ўсё і за ўсіх, апроч Бога, бо Ён і ёсьць Слова. А што можа сказаць Слова пра Сябе? Яно схаваецца за іншымі словамі, тым самым сьцьвярджаючы сваё Адзінства ў мностве...

***

Ноч... Сум, самота, роздум... І так хочацца напісаць верш, ажно рукі сьвярбяць! І ведаю — што змагу. Аднак падсьвядома нейчы голас мне кажа: без майго ведама і дазволу ня псуй паперу. Дзіўна. А калі паспрабаваць аслухацца? Пераступіць яго волю? Пераступіць Слова? На жаль, бывае і так...

***

Разьлітыя каляровыя фарбы — самі па сабе — ужо ёсьць семя мастацтва. І трэба мець толькі своеасаблівае вока (бачаньне), каб распазнаць (разгледзець) у гэтай разьлітай густой пляме вобраз нашае цывілізацыі... Гэта тычыцца ня толькі фарбаў, але і каменю, і слоў, і гукаў — усяго таго, без чаго чалавек ня ў стане стварыць мастацкі вобраз. Магчыма, вышэйшая праява мастацтва не ў гармоніі, а ў хаосе...

***

Я стаю за тваімі вейкамі — ты ня бачыш мяне...
(радок зь ненапісанага верша)

***

Адзіны сябра твой — Роздум — насьміхаецца над поўнай чаркай твайго адчаю...
(згадваючы паэта Купрэева)

***

У пісьменьніцкай сям'і грэбуюць беларускай мовай. І нават сам пісьменьнік іграе гэткую ролю беларуса ў сям'і,

як выпадковы артыст у рускім тэатры імя Горкага. Што і гаварыць, ня соладка жыць беларускаму пісьменьніку! А якое жыцьцё — такое і пісаньне...

***

Толькі жывая прырода адгукаецца на мой голас... Лес мікрафонаў...
(блукаючы па лесе)

***

Да выказваньня „Паэты паміраюць рана" я дадаў бы: „Але многія яшчэ доўга пішуць".

***

Купрэеў даслаў у канвэрце разам зь лістом тры восеньскія лісточкі зь Белавежскае пушчы для дачкі... На такое здольны, бадай, яшчэ Толя Сыс. Хоць, па першым уражаньні, якраз ад іх такога і прадбачыць немагчыма.

***

Калі напісанае ёсьць пражытае, то яго шкада, як жыцьця...
(роздум над ненапісаным)

***

У кожнага чалавека, на жаль, адно жыцьцё, але — дзякаваць Богу — і адна сьмерць.

***

Шэрхлае лісьцё пад падэшвамі шэпчацца пра холад людзкой душы...

***

Усё цяжэй прагаворвацца вершамі, спатыкаешся, ідучы ў традыцыйным рытме. Ня сьвет спачувае табе, а ты — яму...

***

Кніжкі — для ўсіх, вершы — для паэтаў, паэзія — для абраных.

***

Паэзія і проза ёсьць дзяцінства і старасьць, здагадка і ўспамін. Гётэ ня зьведаў старасьці і памёр маладым, а Купала „памёр" ад старасьці...

***

Калі ноччу глядзіш у заваконную цемру — ты ўжо нажыўся.

***

Нядаўна на Маскоўскіх могілках паставілі помнік Жэні Янішчыц. Ён як бы адштурхоўваецца ад магілы і разам з тым ціснe на яе сваім цяжарам, прызямляючы маю памяць... А побач — магіла скульптара Анікейчыка: убітая ў зямлю рамачка з фотапартрэтам і надпісам і ані каліва каменя, граніту, бронзы... Адсутнасьць помніка ёсьць геніяльны помнік скульптару! Ня кожны зразумее, але хіба на могілках трэба нешта разумець?! На могілках трэба здагадвацца. Ну, хоць бы пра помнік самому сабе, які Анікейчыку бачыўся... І вось я стаю тут і дадумваю яго, гэты помнік...

***

Дзякававаць Богу, час не прыпыняецца нават пасьля сьмерці генія, але... асэнсоўваецца.

***

Лістапад, а табе за сорак... Восень нарэшце мае ўсе правы на мой час, дух і плоць... Жывучы гэтым разуменьнем, нават халодную імжу ўспрымаеш спагадліва і прачула...

***

Восеньскі сад... Некалькі антонавак усё яшчэ ўпарта трымаюцца за гальлё. Рыжая трава састарэла, чакаючы іх...

***

Калі пішаш верш, ня думай пра яго. Думай пра самога сябе, бо ніхто іншы, а ты пішаш гэты верш. Лепш, канечне, калі верш цябе піша...

***

Творы Алеся Разанава адлюстраваныя на яго тварах. Асабліва — квантэмы...

***

Чытаў Дубаўца і думаў пра сябе. Часьцей за ўсё нашых пісьменьнікаў чытаеш, на жаль, думаючы пра іх...

***

Мінкін — паэт кніжны, Прыходзька — акопны, а Сыс — з Гарошкава...

***

Купіў першы зборнік „Ластаўка ляціць" ЛЮДКІ Сільновай. Прачытаў год нараджэньня — і расчараваўся...

***

Калі з ванны чуецца плёскат вады, то я не магу адчуваць сябе дарэшты чыстым.

***

Я мог бы спакойна засынаць штоноч, калі б ведаў, што абавязкова прачнуся...

***

Слова не дае права на вечнасьць. Вечнасьць дае права на слова.

(перачытваючы Біблію)

***

Былі людзі, безь якіх я не нарадзіўся б, і ёсьць людзі, безь якіх я ня жыў бы, і будуць тыя, дзеля якіх я памру...

(пасьля бацькавай сьмерці)

***

Акудовіч нават заікаецца своеасабліва, як бы ўзьбіраецца на гару, час ад часу перастрахоўваючыся...

***

Калі няма больш аніякага паратунку — успамінаеш маці...

***

Прачытаўшы Віктара Шклоўскага, ужо не зьдзіўляешся аб'ёму яго галавы...

***

Чытаю ў рэцэнзіі Барыса Эйхэнбаўма на кніжку Ганны Ахматавай такі пасаж: „Хочацца больш простай і строгай вокладкі". Пасьля гэтых словаў напаўняешся гонарам: у нашых кніжак вокладка больш клясычная, чым у Ахматавай.

***

Цяпер многа маладых, як яны любяць казаць, файных паэтаў. Адзін зь іх — гарадзенец Юры Гумянюк. На людзях — заўжды ў чорным гарнітуры, белай кашулі з матыльком, вылізаны, чырвонашчокі... Ня столькі чуць хочацца, як бачыць дзейства. Вось зараз ён агучыць слова СЭКС — і самлела ўспацее... Факір!

***

Кніжка адгорнутая на трыццаць шостай старонцы... Гэта — так, міжволі зазначаеш. Калі словы не нясуць асаблівага значэньня, то пачынаеш зьвяртаць увагу на лічбы.

***

Як падумаеш, колькі табою выпіта, як столькі ўлезла... і адкуль вылезе, і ў што выльецца?! Божа, барані...

***

Не пішы з самага ранку. Падумай...

***

Бадай, сёньня настаў той час, калі не чытач выбірае паэта, а паэт — чытача.

***

Зьявілася цэлая плойма вершатворцаў, у якіх за душою, апроч маці, бацькі і рыфмы, нічога няма. Аднак упартыя: не расьце, а ўсё адно сеюць — пясок на пясок, і задаволена сябе пачуваюць на гэтым жвіры, як на кактэбэльскім пляжы...

(прачытаўшы каляндарны плян работы Дома літаратара, дзе пазначаныя творчыя вечары)

***

Люблю Сідарэвіча проста за тое, што ён ёсьць які ёсьць. Сапраўдных цяпер вельмі мала, усё больш штучныя. Ён жа, можна сказаць, — мара Купалы пра беларуса: пра лапці не забыў, а розуму дастаў.

***

Заплакаць не ад гора, але ад шчасьця — вось вышэйшая праява чалавечнасьці.

***

У кожнага чалавека — сваё жыцьцё. Але, да таго ж, у нас — ва ўсіх — адно жыцьцё. Ва ўсяго чалавецтва — адно жыцьцё... І — толькі...

***

Паэты ёсьць прыродныя, прытворныя і прыдворныя...

***

У нас ва ўсе вякі хапала разумных людзей, патрыётаў і змагароў за беларушчыну, але заўжды не было каму гаварыць на беларускай мове... Таму і сёньняшні наш сувэрэнітэт многім падаецца сувэнірным падарункам нашаму народу ад вялікай Расеі.

***

Чорная кава ў кубку канчаецца, а сэрцабіцьцё толькі пачынаецца...

***

Прызнацца ў каханьні — гэта прызнацца ў бясьсільлі перад прыродай.

***

...А пачынаецца паэзія там, дзе канчаецца паэт...
(зь верша, які ня стаў фактам паэзіі)

***

О, як многа, Гасподзь, прашу,
Сам душы сваёй не дарыўшы, —

Нібы крыж нацельны нашу,
Кроў чужую з рук не адмыўшы...
(чамусьці далей не пайшло)

***

Мне здаецца, Сідарэвіч ведае ўсё, апроч сябе самога...
(пасьля ягонага трыццаціхвіліннага маналёгу ў мэтро...)

***

Я з задавальненьнем буду мыць посуд на кухні, толькі б ніхто не перашкаджаў маёй адзіноце... мыючы посуд, і сам унутрана як бы ачышчаешся ад усякай набрыдзі. Своеасаблівае адпушчэньне грахоў...

(сямейнае)

***

Жанчына, як крытык, ня больш чым бэлетрыст. У іх ад прыроды не крытычная лёгіка, яна ў іх мацярынская, а значыць, суб'ектыўная.

***

Як быццам бы пісьменьнікі пішуць граматна, а час усё адно выпраўляе іх памылкі.

***

Нічога ў сьвеце не зьмянілася ад напісаных мною словаў. Магчыма, зьмяніўся я сам...

(такое ўражаньне, што некага паўтараю)

***

Паэт валодае гукавым мысьленьнем, а дзеці падказваюць і тлумачаць яму новыя словы.

(гуляючы з дачкою)

***

Кожны сапраўдны мастак стварае свой вобразны сьвет, але сам СЬВЕТ, у сваім абсалюце, больш цэльны, гарманічны і непагрэшны, як і быў у задуме геніяльнага яго творцы Госпада, які ствараў яго не ад вялікай сілы, а адзінствам і паразуменьнем магчымых сілаў...

(няўцямнае пасьля няўцямна прачытанага)

***

Абсалютна сумленных людзей цяпер няма. Яны былі тады, калі маральнасьць была сутнасьцю іх душы, а не вісела над душою Дамоклавым мячом, як вісіць зараз.

***

Сыс нарадзіўся з хаосу, і хоча з аскепкаў хаосу скласьці люстэрка, каб убачыць у ім адлюстраваньне сваёй гармоніі, пра якую ён нічога ня ведае. Ён толькі ведае, што яна павінна быць...

***

Чытаю М. Бярдзяева і, скрозь туман падсьвядомасьці, лаўлю той момант, той шоўкавы шолах, калі жонка сьцеле ложак на ноч...

***

Жыцьцё такое цынічнае, што грэх яго цытаваць.

***

Вершы — як сны... Ня ведаеш, што прысьніцца, і ня кожны сон памятаеш.

***

Сны — заўжды абрывачныя, фрагмэнтарныя, беспачатковыя і бясконцыя... Нешта накшталт адной з частак выпадкова ўбачанага мэксыканскага сэрыялу... Але ў снах няма лёгікі, ёсьць інтуіцыя, інстынкт, прадчуваньне і мяжа небясьпекі (прачынаньне). Сны нельга любіць ці ненавідзець, хацець іх альбо не... Сны можна толькі сьніць і тым мець уяўленьне пра памяць і жыцьцё па сьмерці. Сны зьберагаюць вечнасьць і засьцерагаюць ад вар'яцтва. Пакуль жывеш — сьніш, а паміраеш — сьнішся...

(яшчэ да сну)

***

На чарговым банкеце сакратар СП Беларусі сказаў прыкладна так: вось сёньня мы зноў прынялі ў саюз сем чалавек, на падыходзе ў нас яшчэ чатырнаццаць таварышаў і на прыкмеце тыя, за кім мы пастаянна сочым... Не, мы не дадзім памерці нашай мове і нашай беларускай літаратуры!

Зразумела, што памерці не дадуць, а — жыць?

***

Усе падваконьнікі ў кватэры жонка заставіла кактусамі.

Карлікавыя, таўсматыя, яйкападобныя, але ўсе — вусата-калючыя... Жонка любіць кактусы. З чаго б гэта? Ці не адлюстроўвае гэтая прывязанасьць яе сутнасьць? Я хачу гэтым нягучна зазначыць, што жонка такая ж калючая па характары, як і яе любімыя кактусы...

(пішу, сузіраючы іх насьцярожанасьць)

***

Відаць, так і памру, ня ведаючы, што такое жыцьцё... Траве лягчэй...

(стоячы на балконе)

***

Паэт, не прызнаны самім сабою, памірае...

***

Божа, пра што толькі ня думаеш, калі думаеш ні пра што...

(бяссоньне за сталом)

***

Калі абступае цемра, то бачыш сябе самога...

(вечарам у адзіноце)

***

Рэдка якой запалцы выпадае дагарэць дарэшты...

(прыпальваючы цыгарэту)

***

З усіх сустрэч зь Яўгеніяй Янішчыц мне найбольш глыбока запала ў душу яе усьмешка, ад падсьвядома прачутага трагізму, якой у мяне заўжды нямела нутро... Пазьней, дзякаваць Богу, я такой усьмешкі ні ў каго не сустракаў. Калі хто памятае клясычны выраз твару французскага міма Марсэля Марсо, то здагадаецца, пра што я хацеў тут сказаць...

(падчас працы над дакумэнтальнай стужкай)

***

Нарэшце прыйшлі і сказалі: вось вам воля, свабода і дэмакратыя! І паказалі, якія яны, навошта, адкуль і дакуль... І мы, абміраючы ад шчасьця, абмацваем ГЭТА рукамі і ўсё маракуем, як ГЭТА спатрэбіць на ўласную карысьць...

(пасьля БНФ-скага мітынгу)

***

Слова НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ ужо стварыла сваю першапачатковую цнатлівасьць. Таму многія цяпер абыходзяцца зь ім вульгарна, як з вулічнай дзеўкаю, незалежна ад таго, у якой ступені яны да ГЭТАГА падрыхтаваныя.

(вынесенае з тых жа крыніц)

***

Чытаючы Розанава, як бы і сам сарамліва распранаешся... і падсьвядома ўяўляеш, зь якой агідай глядзяць на тваё грэхападзеньне знаёмыя, якія яшчэ ўчора гатовыя былі захапляцца прышчыкам на тваім носе... А насяра ў цябе, дай Божа! Цяжка чытаць Розанава, але яшчэ цяжэй зразумець, што ты значна горшы за яго, а ісьціна яшчэ страшнейшая...

***

Фанабэрся тады, калі пішаш, а не пасьля таго, як напісаў. Пасьля таго — ты ўжо і так відзён...

***

Цікава: чаму пра жыдоўства шэпчуцца, пра славянафільства гавораць, а пра нацыяналізм крычаць? ..

***

За ўвесь дзень — ні аднаго тэлефоннага званка! Ну, што гэта на самой справе — зьдзек, ці што?! Вечарам патэлефанаваў сам...

(да ўрбанізацыі душы)

***

Ідучы да свайго, не тапчы чужога.

***

Агромністы Брыль усё ж вытыркаецца з сваіх мініяцюраў.

***

Міхась Скобла запрашае на сваю вечарыну пародыі і просіць, каб, крый Божа, не сьмяяўся. Маўляў, так задумана па сцэнары. Дзівак, няўжо ён дачасна ўпэўнены, што я буду сьмяяцца?

***

Пісьмянкоў незадаволены, што на вокладцы новай кніжкі мастак выканаў назоў „ПЛАНІДА" не прасталінейным шрыфтам, а пакручастым... „Лёс, часьцей за ўсё, і бывае такім", — кажу яму, суцяшаючы. Не, бачу, незадаволены... Можа, і сапраўды лёс яго просты... Бывае...

***

Левым вокам чытаю Адама Глёбуса, а правым падсьвядома „страляю" на эратычны фотаздымак яго жонкі Алены Адамчык. Дзякуй Богу, левае ў мяне — 1,0, а правае — 0,1... Але хто мне паверыць?!

***

Творца і літаратар адрозьніваюцца тым, што адзін жыве для таго, каб пісаць, а другі піша для таго, каб жыць.

***

Апоўначы тэлефануе кум. Усхопліваюся са сну, намацваю рукою трубку. Павітаўшыся, пытаецца, колькі цяпер часу. Раздражнёна кажу, што дзьве гадзіны ночы! Спагадліва спачувае: „Што, дзядзька, і ў цябе бяссоньніца?"

— ??????

***

Аднойчы ў Крывошынскай псыхушцы, куды мяне закінулі „на лячэньне ад алькагалізму", я начаваў першыя тры ночы з шызафрэнікамі. Вядома, ня спаў. У спальным блёку гарэла сіняя лямпа, а да таго ж нада мною ўсю ноч стаяў

шызік і, дзіка пасьміхаючыся, глядзеў мне ў твар... Я ляжаў як утрапёны, ня ведаючы, што рабіць, але гэтага ня ведаў і шызік, таму стаяў нада мною ўсю ноч і пасьміхаўся... Ранкам, пасьля адпаведных уколаў, ён настойліва са мной пазнаёміўся, каб наступнай раніцай... знаёміцца зноў...

Чамусьці гэты выпадак успомніўся мне пасьля кумавага начнога званка. Трэба было б яму распавесьці гэтую гісторыю і пра ягоны начны званок нагадаць таксама...

***

„Гэткая ўжо прырода слова: гаворыш на сваёй мове, а пішаш на чужой. Адсюль я раблю такую выснову, што ўсе мы ў нашым рамесьніцтве адным мірам мазаныя: усе катаржнікі, усе кляймёныя".

(Жан Поль Сартр, „Словы")

„Пісаць па-народнаму вельмі нялёгка. І ня лішне трэба крыўдаваць, што людзям цяжкай працы і няшчодрага хлеба не падабаюцца гладкія морды..."

(Янка Брыль, „Свае старонкі")

Чым родняцца і чым розьняцца гэтыя дзьве цытаты вядомых пісьменьнікаў? Родняцца яны вонкавым зьместам, а розьняцца ўнутраным сэнсам...

***

„Кветкі лятаюць вакол матылькоў" — вусная творчасьць чатырохгадовай дачкі. Выклікае, хоць і супярэчлівы, але імгненны водгук. А скажы яна: матылькі лятаюць вакол кветак... Які банал! Ні адна душа не страпянецца. Неардынарнае бачаньне альбо ўяўленьне сьвету — гэта ўжо знак асобы.

(гуляючы ў Зялёным Лузе)

***

Калі хварэе маці, то востра адчуваеш, які ты адзінокі ў гэтым шматмільярдным сьвеце...

***

Усе людзі страшныя эгаісты, хоць, канечне ж, і не прызнаюцца ў гэтым. Нават Богу пакланяюцца дзеля ўласнай пасьмяротнай карысьці.

***

Карані чалавечнасьці гнязьдзяцца ў нашым сумленьні. А дзе гнязьдзіцца сумленьне? У пластах геннай памяці...

***

Бабкоў — нацыяналіст эўрапейскага ўзроўню...
(іранічна падумалася)

***

Прачытаўшы „Стомленасьць Парыжам" Дранько-Майсюка, адчуў элегантнасьць, вытанчанасьць, галантнасьць, інтэлігентнасьць айчыннага слова... Мне, ня зжыўшаму вясковай стрыманасьці, было ўсё ж наўскрай нясьцерпна падглядзець інтымныя сувязі ўзьнёслых слоў... Як ня ўспомніць да гэтай эстэтычнай згадкі на карысьць нашай мовы падслуханае ў гаворцы маладых суседак з бацькам: „Татачка, ды мы на ўсё здатныя, было б для каго..."

***

Прагледзеў столькі вершаваных зборнікаў, выдадзеных за свой кошт, і нічога, што тычыцца Паэзіі, не знайшоў. Такая бяздарнасьць і няздатнасьць, відаць, і ад таго, што ганарар у аўтараў быў у кішэні яшчэ да напісаньня... Гавораць, што ПАЭЗІЯ і ГРОШЫ — рэчы несумяшчальныя, а па мне, дык наадварот — несумяшчальныя ГРОШЫ І ПАЭЗІЯ. Ёсьць, як кажуць, відавочная розьніца.

***

У паэзіі няма ні тэорыі, ні практыкі... Бо іначай — як жа зь нерукатворнасьцю!?

***

Ёсьць кніжкі, якія нельга не чытаць, і кніжкі, якія не чытаць нельга... Аднак духоўны набытак чалавецтва палягае ня ў гэтых кніжках, а ў чытачах, якія прачытаюць ці не прачытаюць тую ці гэтую кніжку... Кніжкі ўжо напісаныя, а чытачы яшчэ вагаюцца... І сьвет ня мае пэўнасьці...
(разважаньні ў камэрцыйным аддзеле кнігарні)

***

Чалавека колькі заўгодна і як заўгодна можна любіць альбо ненавідзець — усё адно Ён пераменіцца не ад гэтага.

(пасьля сямейнага канфлікту)

***

Кожны з нас — сьвядома ці падсьвядома — любіць сябе, не асабліва спадзеючыся на іншых.

(пасьля размовы зь сябрам)

***

У рэцэнзіі Галі Тычкі вычытаў цытату з Г. Гесэ: „Паэт дзейнічае на чытача не сваёй якой-небудзь адметнай асаблівасьцю — тэхнікай, густам, розумам, а тым, зь якой сілай і дасканаласьцю ён выказвае незвычайнасьць свайго характару".

Тут, безумоўна, ёсьць драбніца солі, калі, напрыклад, згадаць нашых Купалу, Караткевіча, Сыса... Аднак ёсьць і супрацьлеглыя ня менш вабныя выбітнасьці, як Багдановіч, Стральцоў, Разанаў, Мінкін, Дранько-Майсюк...

***

Паэзія месьціцца і ў асоце і ў пахучым кветніку — быў бы талент Пчалы, а ня Трутня..

***

На вечарынах у Доме літаратара заўжды адна і тая ж публіка — і ў залі, і на сцэне... Сустрэўшы выпадкова незнаёмы твар, бянтэжышся: ці не з КДБ таварыш?

***

Не самоцься, Сыс! Цяпер большасьць пісьменьнікаў выносяць з бару... нават калі выносяць на могілкі...

(вядомае ўсім сябрам СП)

***

Найбольш спрыяльны рэжым жыцьця для такога самотніка, як я, — таталітарны...

(вызнана на працягу ўсяго жыцьця)

***

Ненавіджу грошы, за якія купляюць. Шаную грошы, якія аплочаны.

***

Наконт мяккага знаку я, можа, і пагадзіўся б, але навошта зьмякчаць ЦЬВЁРДЫ?..

(вакол пытаньня пра „ь")

***

Мне здаецца, што мы часта пішам і гаворым пра той народ, якога даўно няма і ніколі ня будзе...

О, наша хваравітае трызьненьне! І ня так нацыянальнае ў нас пакрыўджана, як — чалавечае...

***

Клецкая міліцыя мяне не „ценіла": то суткі, то псыхушка, то спэцлячэньне... Мае вершы ня выклікалі ў іх спагады.

А вось слуцкія сяржанты!..

...Атрымаўшы аванс за першы свой паэтычны зборнік і добра адсьвяткаваўшы ў Менску, я паехаў на таксі (!!!) у Слуцак. Там двойчы за адзін вечар трапіў у КПЗ. Двойчы чытаў свае вершы ў выцьвярэзьніку... пасьля чаго, бяз штрафаў і доўгай затрымкі, быў прыведзены сяржантам на кватэру да майго дзядзькі. „Вершы пісаць умее, а піць — не!" Такі быў строгі сяржанцкі вэрдыкт. У Вароніна я прыехаў амаль бяз грошай, на якія можна было б жыць ня менш году...

Сяржант быў шчыры і праўдзівы. Яшчэ папрактыкаваўшы гады тры, я кінуў гэты няўцямны для мяне занятак.

А слуцкага сяржанта помню. Ён якраз піць умеў, і ня мог трываць дылетантаў у гэтай сьвятой славянскай справе...

А-у! — сяржант. Нізкі паклон...

(адкідаючы прапанову Клецкага райсавету аб супрацоўніцтве пры напісаньні кніжкі „ПАМЯЦЬ")

***

Жыць хочацца заўсёды, нават замысьліўшы самагубства...

***

Сьмерць зблiжае людзей...

(з роздуму на могiлках)

***

Можна хадзiць босым па гарачых вуглях, а памерцi ад саракаградуснай тэмпэратуры.

***

Лiтаратура — гэта адчай няспраўджанага чалавецтва.

(думаючы пра сябе)

***

Я — вандроўнiк, якi далёка ад сябе не адыходзiць...

***

Калi чалавек не заўважае сябе ў натоўпе, то цi распазнае сябе сам-насам?

***

Пiшу — i ўспамiнаю сябе...

***

О, калi б я ведаў, што я напiшу, то я не пiсаў бы!

***

Зямля — замглёная, неба — неабходнае...

***

Дрэвы i трава выражаюць зямлю, сонца высьвятляе прастору... А што акрэсьлiвае сабою чалавек?...

***

Апошнiм часам мне бывае сорамна за тое, што я нейкi там паэт... Апынуўшыся ў коле простых, добрых i, здавалася б, разумных людзей, як здаля ўслухоўваешся ў iх гамонку, пакуль раптам нехта ня скажа зь iронiяй у голасе: „Вось тут сярод нас беларускi паэт... хай падзелiцца... цiкава...” i я тады, налiваючыся чырваньню, i горычна думаю: „Госпадзе, ну чаму я не такi, як усе, за што я такi „пракажоны”?! Ï чаму яны не

пашкадуюць мяне і не паспагадаюць мне за гэтую, Богам прызначаную кару — маю адзіноту сярод людзей?..

***

Той-сёй з паэтаў спрабуе давесьці, што ён піша толькі для сябе, толькі для асалоды ўласнай душы... Дарэмныя высілкі гэтай маскіроўкі...

Усе, хто піша вершы, пішуць іх хоць для нейкага адзінага чытача ці слухача, калі ўжо так сорамна — за вершы? — прызнацца, што пішаш для людзей.

Навошта траціць паперу і час для пісаньня? Навошта пісаць для самога сябе?

Можа, самыя геніяльныя паэты так і памерлі ў літаратурнай невядомасьці, не занатаваўшы для нашчадкаў ані радка...

Бо верш — гэта твая душа, дух твой, твая зямная сутнасьць, тваё чалавечае апраўданьне перад небам (Богам). І калі паэзія ёсьць у табе, то яна адзіная і непаўторная, як ты сам. Нерукатворная, як твой дух. Таленавіты чалавек і ёсьць дасканалы верш сам па сабе, ёсьць вытлумачэньне самому сабе сваёй боскай прыроды і спрадвечнай зямной гармоніі.

А калі пачынаеш паслоўна выцягваць верш зь сябе на паперу, шукаць клей тым паасобным словам — форму, стыль, рытм, рыфму, — каб надаць гармонію сябе-верша, то тут і здараецца, калі ня поўная, то пэўная страта паэзіі. Верш ужо робіцца, ён становіцца рукатворным. Вершам не для сябе, а — зь сябе, для некага...

Які б ня быў талент — пішучы, ён страчвае... Але траціць сябе дзеля ўслаўленьня Вечнага, хіба гэта ня боскае прызваньне?!

***

Ноччу сьвет сьцінаецца да сьвятла настольнай лямпы, але ты і яго тушыш...

***

Паэт-маладзён піша на крутыя сэксуальныя тэмы. Аднак заўважаеш, што нават словы ў яго радках СТАЯЦЬ ня так, як трэба...

***

Як толькі я забываю пра сябе — сьвет робіцца лепшым.

***

У мяне было прадчуваньне, што цяжка захварэе маці... Так і здарылася. Як я сябе ненавіджу!

***

Гультайства маё — ад сумненьня. А ці так, а ці тое, а ці патрэбна? І вершы таксама адтуль. Таму іх — патрэбных — так мала.

***

У мяне суседзі па кватэры — каханкі без грамадзянскага шлюбу. Ёй — семдзясят, а яму пяцьдзясят гадоў. Сварацца п'яныя на балконе пятага паверху. Яна: „Ну, скачы, мацъ тваю! Скачы, дакажы, што любіш!!!" На гэты раз ня скочыў... Але мабыць-такі даказаў, бо па часе супакоіліся... І гэтак ажно тры разы на месяц — у аванс, зарплату і пэнсыён!

***

Час нялітасьцівы! Юнацтва ўжо ўспамінаецца як чужое жыцьцё...

***

Прыйшлі выпадковыя словы і тлумачаць мне сэнс жыцьця...

***

Словы таксама бываюць вечныя і сьмяротныя. Напрыклад — жыта і серп.

***

Цераз ноч пасьля сьмерці Караткевіча прыжджаў да мяне Ўладзя Арлоў. Я спаў, а калі быў ім разбуджаны, то аказаўся ня ў форме... Спачуваючы маёй хваробе, ён дапамог мне акрыяць. І вось, праясьніўшы свой розум, ужо за вёскай на лясной дарозе, я сказаў яму пра сьмерць Караткевіча. Нягледзячы на мой стан, вячэрняя радыйная інфар-

мацыя ня выветрылася з маёй істоты. Уладзя ўтрупянеў і паглядзеў на мяне, як на апошняга алкаша зь „белымі" трызьненьнямі, і перапытаў... Я зноў сказаў тое ж самае... у хуткім часе ён сабраўся і паехаў...

Уяўляю на той жа лясной дарозе ці на будучым аўтабане двух інтэлігентных людзей нашага тагачаснага ўзросту гадоў гэтак праз... Адзін кажа другому: „Слышал, сегодня по шестнадцатому каналу передали, что умер белорусский писатель, то ли Горлов, то ли Горлович?" „Да?!" — зьдзівіўся другі. — А разве у нас был еще и белорусский писатель?! Странно... Для кого же он писал?.."

Усё можа быць. Прабач, Уладзя, за згадку...

***

Зіма... Каламутны сьнег... І я тапчу гэтую брудную кашу на менскіх вуліцах амаль бессэнсоўна і маркотна думаю: а што, калі б я зараз памёр, ці паменела б у сьвеце самоты і жалю?.. Калі б ведаў, што — так, то — памёр бы...

***

Памяць — гэта своеасаблівае „выбранае" з нашага жыцьця. На вялікі жаль, ня ўсё там людзкае...

***

Прыехаў да хворае маці і — саракатрохгадовы мужчына — ня змог сказаць ёй нейкіх цёплых, пяшчотных, самых-самых слоў. Мыкаў, гаварыў нешта: „Не хварэй, маці... беражыся..." Гэтак, мабыць, бывае толькі пры першым каханьні, чыстым і сьветлым... Калі кахаеш і любіш, а слоў гэтых вымавіць, ну, аніяк ня можаш, быццам яны могуць парушыць тую сьветласьць і чысьціню душы. Лягчэй з адлегласьці напісаць гэта ў лісьце або ў цыдульцы, як пішу я зараз у сваім нататніку, ужо пасьля ўсяго выказанага нутром: Я люблю цябе, мама... Дасьць Бог, засьпее прачытаць.

***

Дашкольніцы-аднагодкі, мая дачка і суседзкая, гуляюць у двары. Сяджу непадалёку на лаўцы, чытаю...

Чую іхныя галасы з кустоўя, што нарасло каля самага пад'езду. Суседзкія: „Ксения, смотри, какая веточка красивая! Давай обломаем...”

Мая: „А вось, каб ішлі якія-небудзь дзядзькі і сказалі: паглядзі, якая ў гэтай дзяўчынкі ручка прыгожая! Давай адкруцім...”

О Госпадзе, думаю: выхаваньне — жончына, а літаратурны троп — мой...

***

Размова ў жаночым гурце наконт прэзыдэнцкай выбарнай кампаніі. Вядомая паэтэса наіўна-прабачальна ўстаўляе: „А вы ж ведаеце — у мяне сабака... І ўсё так дарага... А тут суседка, дай ёй Бог здароўя, цэлы тыдзень ні з таго, ні зь сяго косткі стала прыносіць, ды такія добрыя, сытныя... А заўчора прынесла і падпісны ліст за прэтэндэнта ад кампартыі... Ну, што ты зробіш? Аддзячыць жа чалавеку нейк трэба... Падпісала... Шкада сабаку...”

***

Кахаю і люблю... цяжка вызначыцца ў трактоўцы і разуменьні гэтых слоў, амаль сынонімаў. Кахаю — гэта я цябе хачу, а люблю — гэта я ўжо цябе маю?! Заўжды быў прафанам у падобных вызначэньнях, як, спадзяюся, і многія іншыя, апроч моваведаў, ня дай Бог, такіх жа пунктуальных у інтымных пытаньнях, як і ў моўных...

***

Дзіўны народ — беларусы. Вось і Адамовіч — паехаў змагацца за дэмакратыю ў Маскву, а пахавацца сябе папрасіў у таталітарнай Беларусі.

***

Пра жыцьцё я цяпер думаю, як пра нешта вызначанае і акрэсьленае... Таму часьцей за ўсё я разважаю пра сьмерць, якую хацелася б зразумець і ўсьвядоміць...

***

Няма людзей бяднейшых за паэта, але і паэта няма бяднейшага за людзей.

***

Ноч... А на вуліцы ўсё нехта крычыць немым голасам... ці не мяне ён кліча?! Ня кліч, не крычы, браток. Усе мы — адны...

***

Перад самай сьмерцю бацька ўсё важдаўся зь дзьвярыма. Паправіў дзьверы ў сенцах, зрабіў яшчэ адны (падвойныя) у склеп, падладзіў і падфарбаваў весьніцы ў двары... Цяпер, калі прыяжджаю ў вёску і адчыняю тыя дзьверы, заўжды застыгла насьцярожваюся на думцы: што хацеў зачыніць за сабою бацька, адыходзячы ў той сьвет?..

***

Калі бацька памёр, то мне давялося дапамагаць суседцы абмываць яго. У вёсцы жылі толькі старыя і немачныя. Ён быў маладзейшы за іх. І яны, пэўна, мелі спадзеў на яго сілу. Хто цяпер будзе араць і касіць іх агароды, рабіць ім труны і капаць магілы?

Я ж сам і галіў яго. Цела было ўжо схаладзелае, нацягая скура добра давалася лязу. Аднак унутрана я адчуваў небясьпеку так, як бы галіў сябе, сам дарэшты агаляючыся перад яго памяцьцю.

***

Жонка прывяла дачку з садка, і тая, кідаючыся мне на шыю, усхвалявана і пакрыўджана ўзахлёб распавядае, як у яе баляць жывоцік і галоўка, таму што падчас гульні яе моцна і наўмысна стукнуў гэты „дрэнны хлопчык Юрка"... Вось тут, па ножцы!..

І ты яскрава ўспамінаеш, як і дзень, і другі балела ўся твая чалавечая істота ад аднаго абразьлівага слова...

Баліць — ня нешта, а баліць — таму што...

***

Гарадзкі сталічны васямнаццацігадовы хлопец, сын маіх былых аднавяскоўцаў, хоча застацца жыць ў дзедавай вёсцы і быць там конюхам. Дзедава хата якраз каля

самай канюшні. Хлапчуком ён там заўжды праводзіў летнія вакацыі і падпрацоўваў у калгасе, тое-сёе падвозячы на фурманцы... Коней, пэўна, бачылі ўсе, і мала хто іх ня любіць, але ня ўсе, тым больш сёньняшнія ды яшчэ гарадзкія, хочуць жыць у вёсцы і даглядаць тых коней. Мабыць, дзед ці мясцовы конюх не прамінулі абагрэць яго гарадзкую душу ў капе сьвежага пахучага сена альбо саломы... Сур'ёзны хлопец — і такое! Кампутары дзесьці далі збой у яго выхаваньні... А мне вось усьцешна...

***

А ў самім „трэцім Рыме" — Маскве — жыве яшчэ адна мая трыццацігадовая сваячка. Халасьцякуе, але ўжо мае сваю прыватызаваную двухпакаёўку. Зь дзяцінства да гэтага часу займаецца коннай выездкай. Конская спартыўная збруя, скураная, пахнучая вясковым выганам, з шматлікімі бляшанымі ўпрыгожваньнямі, вісіць на сьцяне ў яе сталічнай кватэры... Нядаўна яна скончыла заалягічны ці то падобны інстытут. Ведаю, што абараняла дыплём па мушках, жучках ды ўсялякіх чарвячках...

Ну, што тут скажаш?! Непрыкметная мая вёска Вароніна не дае дарэшты ўрбанізавацца сталіцы. Дарэчы, дзед таго юнака, што хоча быць конюхам, і бабка гэтай маскоўскай верхавой наезьніцы зьяўляюцца роднымі братам і сястрою маёй бабкі Алімпы.

Я таксама многа пішу пра коней, хоць конюхаў у нашым родзе не было спакон веку. Дзіўная рэч генэалёгія! Куды яна нас вывезе?!

***

Наша пісьменьніцкае. Увесь час хочам спасьцігнуць глыбіні ўласнай душы. А там усё так мелка і каламутна...

***

Каб пісаць вершы, больш таго тварыць паэзію, трэба жыць надзвычайным, неардынарным жыцьцём, перш за ўсё ўнутраным. І дух, і быцьцё, у рэшце рэштаў, павінны быць на ўзроўні паэтычнай мэтафары...

У наш час гэтаму адпавядаюць у пэўнай меры, бадай, толькі Сыс ды Разанаў... Адпавядалі Стральцоў і Караткевіч...

***

Упершыню на пісьменьніцкім зьезьдзе я зьдзівіўся такой агромністай масе беларускіх літаратараў. І што ні твар — то своеасаблівы калярыт... Увогуле мне падалося, што тут разам сышліся на нейкі мітычны карнавал ці сучаснае „шоў" вядомыя і невядомыя беларускаму чытачу прататыпы герояў беларускай літаратуры. Не пісьменьнікі, а менавіта прататыпы сваіх літаратурных герояў...

***

Адныя гоняцца за славай, носячы „сталінскі фрэнч" ці галіфэ, другія — вечна падбітае вока, трэція — пляшку гарэлкі, чацьвёртыя — разладжаную гітару...

А я сяджу зь ёй побач на кухні і п'ю каву, час ад часу пішучы гэтыя зацемкі. Слава — жанчына высакародная і ня любіць тых, хто дамагаецца яе сілком...

Праўда, Мантэнь сьцьвярджае адваротнае: „Славалюбства не сумяшчальнае з адасобленасьцю. Слава і спакой ня могуць ужыцца пад адным дахам". Дзеля справядлівасьці скажу, што гэта я вычытаў у Брыля, а не ў Мантэня. Аднак ці ня сам Брыль і адкідае гэтыя словы Мантэня?..

***

У мяне ўжо няма таго, што было. І пэўна ж, ня будзе і гэтага, што пакуль яшчэ ёсьць... То што ж я буду мець у выніку свайго жыцьця, адыходзячы на той сьвет? Ат, як той казаў, лепш адысьці налегцы, чым зь цяжарам, спадзеючыся, што нейдзе ж тое некаму засталося...

***

Жонка перад сном не праміне ўпікнуць, што ў мяне заўжды халодныя рукі. І гэта — сьвятая праўда.

Так вось засьнеш, а цябе незнарок прымуць за нябожчыка... І ня шмат у чым памыляцца...

***

Самы трывожны час — перад сном, калі навіслы дзённы цяжар схіляе цябе над цёмнай безданьню ночы...

***

У горадзе ўсе дзённыя гукі зьліваюцца у бессэнсоўную какафонію... Нешта канкрэтнае нельга вылучыць для ўласнага слыху. А вось ноччу... Там, за домам, прастукаў на стыках рэек трамвай... Недзе за вуглом падвывае на павароце вуліцы тралейбус... Вуркоча, абмінаючы калдобіны, аўтобус... Шпарка, з шыкам прашмыгнула, як мышка, легкавушка... Шоргае па тратуары падэшвамі і нешта бубуніць, шморгаючы носам, шарамыга „пад шафэ"... А вось — цокае, выбіваючы дробны, пасьпешлівы, палахлівы такт, загулялая маладзіца на абцасіках... А гэта — усхвалявана грукае тваё сэрца...

Ноччу ўсё выказваецца больш выразна і больш асабіста. Дзень — нівэлюе, ноч — увасабляе...

***

О Госпадзе, хто я і што я ?! Позьняй гадзінай сяджу, абхапіўшы галаву рукамі, і пакутую ад няведаньня сутнасьці сваёй... А ты пасьміхаешся, бо — ведаеш... хоць тое веданьне ў рэшце рэштаў прыцісьне каменем да зямлі нас абодвух...

***

Ня так даўно памёр мой сябра, вясковы пагодак Пеця. Пеця Платонікаў — так называлі яго ў нашай вёсцы, дадаючы імя бацькі. Але я тут не пра сьмерць і нават не пра сябра канкрэтна.

Хоць калі я ўпершыню прывёз сваю жонку да бацькоў, то яе вельмі ўразіў гэты самы мой сябра — нізенькі ростам, неабдымна-тоўсты, круглакаваты, зь сінюшнаапухлым тварам, на якім вытыркаліся ледзь бачныя жывыя гузікі вочкаў... Саракагадовы халасьцяк, п'яніца, добры, душэўны чалавек сам па сабе, якога за бязладнасьць лёсу да пашаноты любілі ўсе вясковыя бабы...

А ўразіла жонку тое, што гэты забыты Богам мужычок называў яе, жонку свайго сябра, намнога малодшую за яго, ня іначай як Верай Іванаўнай і зьвяртаўся да яе толькі на „вы".

У нашай вёсцы да 1939 году панавала шляхетная культура грамадзкіх паводзінаў. А вось тое, што ўжо добра памятаю я — савецкае ад сярэдзіны пяцідзясятых, — было трохі іншае. Набірала моцы п'янства, і як сьледзтва — лаянка, бойкі, хамства... Асабліва ў сем'ях.

Але помніцца і тое, што, да прыкладу, большасьць людзей старэйшага пакаленьня як толькі выходзілі за весьніцы свайго двара, усіх вяскоўцаў, апроч родных і вельмі блізкіх сваякоў называлі па бацьку: як жывяце, Платонавіч, Філярэтавіч, Макаравіч?.. А то: гэта ж мабыць, прыехаў у госьці Лёня Мішы Філярэтавага... Гэта значыць, я — сын Мішы, у якога бацька зваўся Філярэтам... Ці так: вунь Лёня Зоні Паўлюковай пайшоў... Гэта значыць, зноў я — сын Зоні, у якой бацька зваўся Паўлюком...

Бацька майго памерлага сябра Плятон называў мяне толькі Міхайлавічам і на „вы", хоць я быў пагодкам яго сына.

Дык вось, ён часта „пасьвіў" мяне ў сваім гародзе. Іду я гэта раненька росным цьвярозым выганам да крамы ведама чаго... А ён — тут як тут, з-за слупка акоранага вытыркнецца, шапку з галавы і: „Добрай ранічкі вам, Міхайлавіч! Ці не ў магазынь вы часам? А то ў мяне ад хатняга рэвізора, ведаеце ці не, колькі капеек ў калышыну закацілася... Гэтая курвіза маракуе, раз ёй венік даверылі, то яна можа ўсё вымесьці..."

Прапанова, ад якой адмовіцца, не пакрыўдзіўшы чалавека, нельга. Бярэш тых капеек сорак... Ідучы назад, не заўважаеш яго як ні ўглядайся, і ўжо цешыш сябе кволай надзеяй разьмінуцца, аднак ён вырастае перад табою, бы з-пад зямлі, з шкалікам і зялёнай цыбулінаю ў руках...

Такія вось мужыкі цябе і пад лішняй чаркай будуць усё адно называць на „вы" і Міхайлавічам. Але толькі да той пары, пакуль гэтыя шляхцюкі ад культуры ( і бацька мой у тым ліку) пераступалі мяжу свайго двара і надзейна зашчэплівалі за сабой весьніцы. Вось тут ужо яны адчувалі сябе самадзержцамі. Грубая лаянка, аплявуха, а то і добрая зубатычына жонцы ды трапіўшым пад гарачую руку дзецям... Рэжым у сям`і трымалі таталітарны. Асабліва на падпітку.

...І якія ж сьвецкія мужчыны выходзілі назаўтра ранкам на вуліцу з гэтых двароў! Мой бацька, настаўляючы

нас, трох сыноў, часта з гонарам заяўляў: я за ўсё сваё жыцьцё на вуліцы нават кураня не зачапіў! Але ж колькі качак затаптаў на ўласным падворку!

...Большасьць зь іх ужо на тым сьвеце. Пухам вам, Плятонавічы, Філярэтавічы, Макаравічы... зямля! Вы ўсё ж яе любілі, абраблялі і ўпрыгожвалі...

І ты, Вяруня, не засмучайся. Верай Іванаўнай цябе яшчэ, спадзяюся, назавуць, хоць бы ў гарадзкой установе...

***

Бацька мой захварэў нечакана і цяжка. Памёр, лепш сказаць, згарэў, хутка. Рак... Пакутваў ён апошнія дні свае жудасна. Да таго ж — баяўся сьмерці. А награшыў ён дастаткова, каб мець гэты страх, але і добрага зрабіў шмат, каб не губляць спадзеву на боскую літасьцівасьць... Пакуты і страх не адпускалі яго. Усёй сілай волі ён кантраляваў сваё, ужо ні на што ня здатнае, цела. Таму мозг і сэрца жылі, вочы жылі — бяссонныя, ён баяўся заснуць, глыбокія, зазіраючыя некуды далёка-далёка...

Мы з братам паехалі у раённую бальніцу да знаёмага тэрапэўта, свайго аднавяскоўца, каб той што параіў ці даў якіх сродкаў для аблягчэньня цялесных пакутаў. Ён ведаў бацьку, яго безнадзейны стан, і даў нам некалькі аднаразовых шпрыцоў ды чатыры ампулы з морфіем. Распавёў, як і калі рабіць тыя ўколы.

Прыехаўшы, брат ня надта ўмела, а мо і баючыся, зрабіў укол. Бацьку неўзабаве палягчэла. Ён прыдрамаў... Заснуў... І ўжо больш ніколі не прачынаўся... Ён, нечакана для сябе, разьняволіўся. Выпусьціў тыя пазафізыялягічныя лейцы, якія ўвесь час напружана трымаў напагатове, не адпускаючы. І — памёр. Не было каму кантраляваць прагу жыцьця.

Як насчувала нас маці і як мы бясслоўна дакаралі адзін аднаго! Ён бы яшчэ жыў дзень ці гадзіну, але — жыў бы... Няхай і ў неймаверных пакутах. Мы, здаровыя, спачуваючы чужым мукам, не разумеем у той час галоўнага — самакаштоўнасьці жыцьця. Кожнага яго імгненьня. Пэўна ж, ён яшчэ і разьвітаўся б, сказаў бы нешта такое... аб чым найбольш шкадавала маці. Урэшце і пакуты яго былі асабіста ягонымі, прадаўжэньнем і лягічнаю высноваю яго

ўласнага зямнога жыцьця. Мы паскорылі яго сустрэчу са сьмерцю, якую ён адцягваў як мог. Мы падштурхнулі яго да таго, чаго ён баяўся і не хацеў.

Гэта — вялікі грэх. Яго не замоліш, як ня вернеш тых бацькавых, адабраных намі, імгненьняў жыцьця.

Зьлітуйся, прабач нам, бацька. І Ты, Гасподзь, не асуджай нас дачасна, але ў свой час... Мы ўсе вартыя тваёй кары і ... спагады...

***

Я нарадзіўся, каб ведаць, што я памру. І гэта самае існае з таго, што я ведаю...

***

Аспрэчваць ці палемізаваць зь біблейскім тэкстам мы можам толькі да пэўнага часу. Бо, уступаючы ў свой няпэўны час, мы страчваем галоўны аргумэнт — зямлю пад нагамі...

***

Здараецца ў жыцьці зьбег нейкіх акалічнасьцяў, што вымагаюць досьведу ці веры ў „фатум" і розныя патаемныя сілы.

Да прыкладу, чытае жонка ў газэце „Звязда" (ад 18.11. 94 г. ) такую ўрэзку: „Віншуем дарагую матулю Асташонак Ганну Мікалаеўну з 70-годзьдзем! Жадаем моцнага здароўя, дабрабыту, многа шчасьця ў жыцьці мець, жыць да ста і не хварэць. Дзеці і ўнукі".

— Слухай, а ці ня кумавага гэта? — пытаецца жонка.

— Ты што — ня памятаеш? Яго маці ўжо колькі гадоў як памерла. Ды і бацька, здаецца, у бальніцы...

... Праз пару гадзінаў тэлефануе жонка Алеся Асташонка : „Лёня, Алесеў бацька памёр..."

Ня ведаю, як усё гэта акрэсьліць, якую падвесьці выснову. Тым больш, што якраз гэтай ноччу вычытваў два апавяданьні, якія неўзабаве зьбіраецца друкаваць часопіс. Апавяданьні таго самага Асташонка. Апавяданьні сябра, якія мне ўпершыню ня надта спадабаліся. Веяла ад іх пэўным наканаваньнем, стратай чалавечай душы... Але гэта

былі апавяданьні майго кума і ад таго тое адчуваньне падвойвалася, зьмешвалася з шкадаваньнем, не давала спакойна заснуць...

Пасьля бяссоннага астатку ночы — газэта „Звязда", а — нарэшце і жалобная вестка па тэлэфоне — усё гэта і змусіла задумацца над згаданымі акалічнасьцямі і напісаць тое, што напісаў.

І вось думаю: усе мы пад Богам ходзім, але ёсьць яшчэ і нейкая іпастась, што нас зь ім зьвязвае, і падказвае нам, і скіроўвае нас, і трымае на дыстанцыі...

***

Быў на пахаваньні... Які выраз твару ў нябожчыка?! У мяне прапала ўпэўненасьць, што ў дамавіне можна пазбыцца адзіноты...

***

Усе мы нараджаемся простымі і сьветлымі, як сонечныя промні. Але складанае зямное жыцьцё змушае нас прымаць яго пакручастыя формы. І мы — круцімся, віхляемся, прагінаемся, укладваючыся ў свае лёсавыя нішы...

І толькі на сьмяротным ложы зноў вяртаемся да першароднай прастаты. Робімся яснымі і зразумелымі, як месячнае сьвятло...

***

Засынае дзіцё — і час чакае яго. Засынаю я — і мой час набліжаецца...

***

Творчасьць — гэта сьвядомая разьмежаванасьць мастака зь сьветам, гэта калючы дрот уласнай ісьціны, якім ён ад сьвету адгарадзіўся і на які сам жа кідаецца, разьдзіраючы душу і плоць, пакутуючы ў палоне ілюзіяў і адзіноты...

Але вызваліўшыся, ён вызваляецца і ад творчасьці.

***

Мы ведаем менш, чым думаем...

***

... Еду ў электрычцы... І раптам — бачу: я сяджу насупраць сябе. Самотны, абыякавы да ўсіх і да ўсяго, ненавісны сабе самому. Абрыдла з сабой. Раздражнёны, я падымаюся і выходжу на бліжэйшай станцыі. Закалыхваючы, цягнік нудна цягнецца сваім чыгуначным шляхам. Як добра, што я выйшаў... Цяпер, застаўшыся аднаму, мне прасьцей зьмяшацца з гэтым вандроўным людам, каб пасьля ўжо, на сталічным вакзале, прыпальваючы ў аднаго зь іх, адразу пасьміхнуцца пачутаму:" Я помню, сёньня ты ехаў са мной да станцыі Азярышча...", і роспачна ўсклікнуць у адказ — „Я?!" — сабе насупраць...

***

Алькагалізм — вось, здаецца, дзе магло б разгуляцца маё пяро! На жаль, дарма... П'янкі памятаеш, а сябе — не...

***

Слухаем з дачкою па радыё „Новую зямлю" Якуба Коласа ў выкананьні Уладамірскага. Якая простасьць, якая сьвятасьць, які боль, які высокі сьветлы беларускі дух! Урывак пра гібель ваўка ў нёманскай ледзяной палонцы... Колькі не сказанай людзкай спагады ў Міхала да зьвера! Не нянавісьці, не пагарды нават, а падсьвядомай біблейскай любові, бо і ты такі ж, і на цябе палююць... Прынамсі, мне гэта так чулася.

І расьце камяк у горле, сьлёзы самі набягаюць на вочы, і вось я ўжо захлынаюся ў іх, як той няшчасны воўк у ледзяной палонцы... У-у-у...

Прабачце, Канстанцін Міхайлавіч, што па ветранай маладой пары я ня так высока ставіўся да Вашай паэзіі. І цяпер, саракачатырохгадовы мужчына, сяджу і плачу, хаваючы вочы ад дачкі, слухаючы Вашыя словы...

А можа, я плачу па ўсім нашым — і ўчарашнім, і сёньняшнім, і будучым... Па нашай вечна старой і новай зямлі...

***

Аднойчы ўжо я пісаў пра характар маёй жонкі ў сувязі зь яе любімымі кактусамі...

Цяпер яна ўзялася за скандынаўскую прозу. Безумоўна, кніжкі сур'ёзныя, але я не адолеў і чатырох старонак раману Сынгрыд Унсэт „Улаў сын Аўдуна", які яна дачытвала сёньня вечарам, зморана заснуўшы з кніжкай на грудзях...

Холад, стрыманасьць, чысьціня, разьлік, мужнасьць — усё гэта знаходзіць у ёй водгук.

Мае ж сумненьні і перажываньні выклікаюць у яе пагардлівы скепсыс. Аднак такі чалавек мне і трэба, каб не даваць маёй натуры заўсёдна кіснуць і хлюпаць у нашым беларускім, не дарэшты высушаным балоце...

***

Тэлефаную маме. Кажа, што памерла наша суседка цётка Воля. Сукачыха па-вясковаму. Старэнькая, маленькая, згорбленая — што дзіцятка. Мая дачка пудзілася яе чамусьці. Можа, з-за твару.. які дакладна выпісаны ў Рубцова:

> ... и на лице её землистом
> росла какая-то трава.

...І на магілцы будзе расьці... і скасіць па часе ня будзе каму. Зьвяне, высахне, зьляжыцца пад ветрам, дажджом, сьнегам, памяцьцю нашай...

...Яшчэ замінулым летам кожны падвячорак тэпала да мамы на тэлевізар, паглядзець „Проста Марыю". Недачувала, сядзе ўпрытык да экрана, разморыцца, задрэмле, засьне смачна... Разбудзім перад тым, як самім спаць класьціся, ачомаецца, бы з таго сьвету ўваскрэсьне, вочкамі нявінна міргае, напраўду, што дзіцянё якое... Сьмяяліся: проста Воля.

„Памерла баба Сукачыха", — сумна паведамляю дачцэ. „Каля тэлевізара?" — бясьпечна пытаецца яна, гледзячы амэрыканскі мульцік. Што ёй адказаць? Усе мы паміраем перад экранам сваёй адзіноты...

***

Нядзеля. Цёплы вясновы дзень. Жонка з дачкою пайшлі гуляць у лес, што непадалёк ад Зялёнага Лугу. Упрошвалі і мяне. Не пайшоў. Самотны і апатычны, сяджу ў сваім куродыме, нешта думаю, крэмзаю... *Для каго, для чаго?* Я ўжо даўно не магу пісаць штосьці жыцьцярадаснае і зда-

ровае. Усё напісанае мной канае разам са мною. Пакутліва і сьвядома. Аднак гэты працэс паміраньня — нябачны, нязьведаны — і прыцягвае...

Спакусьлівае перажываньне сьмерці — гэта, па вялікім рахунку, і ёсьць маё сапраўднае жыцьцё.

***

Жыць робіцца страшнавата: ня слова творыць чалавека, а чалавек — словы... забыўшы ў сваёй адукаванасьці, што стваральнік Слова адзінавядомы. Адсюль — процьма графаманаў, якія пішуць словы, не разумеючы і ня ведаючы іх найменьняў. Можна прачытаць палову „ленінскай" бібліятэкі і стаць пацыентам псыхіятрычнага дыспансэра. А можна прачытаць адну Кніжку і быць божым чалавекам. Пры ўмове, што слова будзе тварыць, а чалавек тварыцца.

Паколькі гэта ня так, то сьвет поўніцца дысгармоніяй і гібласьцю... Усьвядоміўшы набліжэньне апакаліпсысу, чалавецтва змушана будзе ахвяраваць усе свае зямныя грэшныя словы на алтар „адраджэньня" адзінага Словабыцьця...

Ї ўсё пачне быць спачатку...

***

Філёзафы, за рэдкім выключэньнем, людзі па-добраму „прыпыленыя". Аднойчы давялося назіраць, як яны сур`ёзна разважалі-спрачаліся-палемізавалі над досьведам славянскага філялягічнага тэрміну „паняцьце" — „панятак". Дамагаліся адзіна правільнай беларускамоўнай транскрыпцыі. Якія імёны згадваліся, якія навуковыя канцэпцыі выкладваліся!

Я цярпліва слухаў, але так і ня „ўехаў" у іх „панятак"...

Праз колькі дзён, вычарпаўшы свае разумовыя магчымасьці на навукова-філязофскае абгрунтаваньне гэтага тэрміну, яны занурыліся на вырашэньні яшчэ адной „прынцыповай загадкі"...

Філёзафы — людзі ў сабе і для сябе. Ціхія эгаісты ўласнага розуму. Памятаю, у вар'ятні адзін пацыент зь філязофскім профілем чытаў па памяці „Капітал" Карла Маркса, а мы з кніжкай у руках сачылі за дакладнасьцю яго патэтычнай дэклямацыі. На шаснаццатай старонцы стамі-

ліся зьвяраць тэкст. Пацыент быў гнеўна незадаволены! Ён меркаваў, што мы ўнікаем у зьмест і словы. І яшчэ — вядома ж! — ён не сумняваўся, што гэта ягоныя словы. А мы ўнікалі, перш за ўсё, у яго шызафрэнічную паталёгію.

„Паняцьце" — „панятак"...

Там мне хапала і трох кубікаў амінізыну, каб некалькі дзён запар быць вольным ад філялёгіі... А вось філязофія — невылечная... Таксама па сабе ведаю. Чалавек ў прынцыпе і нараджаецца філязафам. І зь першых дзён бачыць сьвет так, як бачыць толькі ён. Але чамусьці з узростам ён хоча, каб так бачылі ўсе... Адсюль выцякаюць усе зямныя непаразуменьні чалавецтва.

***

Аднойчы зайшла ў рэдакцыі вясёлая гамонка пра Міколу Шаляговіча, Разанаў, някідкі да пустых размоў, раптам, ажывіўшыся, і як бы ніякавата дадаў, што прыяжджаў той некалі і да яго на кватэру, бо да ўсяго яшчэ пазямляцку знаёмы зь ягонай жонкаю...

І, неўпрыкмет разгаварыўшыся, зусім ужо па-зямному, па-прасталюдзку разьнявольваецца, і твар яго робіцца жывым і прасьветленым. Нечакана адцураўшыся сваёй застыглай гістарычна-бесьсьмяротнай маскі, — распавядае, як хутка апрэчыла тую шалягоўскую агітацыю за „яцьвягаў" яго жонка.

— Мыкола, чому у тыбэ вушы чырвоны?

— Як во всіх.

— Не, у нас бел-чырвона-білы...

Сьмяецца Разанаў, сьмяемся мы. І, можа, ня так сьмяюся я ад гэтай хохмы-розыгрышу, як ад душэўнага задавальненьня: ну, жывы ж яшчэ Алесь Сьцяпанавіч чалавек, і жонка ў яго, тым больш, жывая, і, магчыма, найперш дзякуючы ёй, ён, хоць і ня ўвесь, але яшчэ Тут з намі, а ня Там з самім сабой... Маё шанаваньне ёй.

***

Вечарам еду ў перапоўненым тралейбусе дамоў. Цесна, мулка, пахне парфумай і потам... Прыслухоўваюся да нейкага нядобрага гоману каля пярэдніх дзьвярэй... Ці не кантралёр?! Цiснуся бліжэй да кампосьцера і зь цяжкась-

цю прабіваю квіток. Усе глядзяць на мяне, як на поўнага вар'ята! Няёмка, сорамна робіцца перад гэтымі мілымі, затурканымі жыцьцём, суайчыньнікамі. Хоць скрозь зямлю праваліся. Адварочваюся ад вакна, упёрваю вочы ў цёмна-шэры сьвет пустэльнай вечаровай вуліцы... Ну, ня буду я так больш, ня буду, людцы мае родныя, браткі мае па няшчасьці!

Лепш бы ўжо сапраўды — кантралёр...

***

Ня маю звычкі да маналёгу, і ў дыялёгу я да магчымага лякацічны. Люблю слухаць, а калі сказаць больш дакладна — хачу зразумець...

***

Цалуючы жаночыя грудзі, заўжды жыву патаемным спадзяваньнем адчуць на губах забыты пах мацярынскага малака...

Не адчуваю — і зайздрошчу немаўляці...

***

Ніколі не забуду гадзіну маўчаньня ў рэдакцыі часопіса „Нёман" зь Міхасём Стральцовым. Сядзелі і маўчалі... У пакоі была яшчэ Ала Сямёнава, якая гаварыла за абодвух, спадзеючыся, што гэтым скрашвае няёмкасьць часу. Але, відаць, і яна ня вытрымала нашай панурай натуральнасьці, бо ўрэшце сышла. Мы аднаскладова выдыхнулі зь сябе ўсё, што нас стрымлівала. Не згаворваючыся, закурылі. Моўчкі... Дакурыўшы, моўчкі разьвіталіся. Назаўжды.

***

Чытаю вечарам „Жыцьцё Ісуса" Эрнэста Рэнана, а жонка прасуе бялізну... Адрываючыся ад тэксту, услухоўваюся скрозь зачыненыя дзьверы ў яе рухі, дыханьне... Думаю: калі б Ісус пабраўся з Марыяй Магдалінай, то яна была б яшчэ больш няшчаснай, чым была...

***

Сяджу за навагоднім сталом. Ем, п'ю, гавару, сьмяюся... А недзе ў Грозным трывае ў ваеннай асадзе чачэнскі паэт, сябра па Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве,

перакладчык маіх вершаў Зэлімхан Яндарбіеў, віцэ-прэзыдэнт, паплечнік Дудаева...

Памятаю, летам 1988 году загінуў пад коламі тралейбуса ў тым жа, але яшчэ мірным Грозным твой дзесяцігадовы сын.. Ты ня плакаў... Але на тваім твары чыталася прадчуваньне, што гэта не апошняе гора... Ты, мабыць, ужо тады быў падрыхтаваны да страшнейшага, да ГЭТАГА...

Не магу ўявіць цябе агрэсарам ці вераломным забойцам. Патрыётам, абаронцам — так, уяўляю...

Але — кроў, Зэлімхан, мая кроў стыне ў жылах, пакуль яна сьцякае з тваіх рук... Не апраўдваю і не кляну... Дзякаваць Богу, што кроў сына твайго ўжо ня памятае гэтай крыві...

***

Дзесьці льецца кроў, гінуць людзі... Тысячы людзей з болем у сэрцы ў апошні раз упіваюцца зрэнкамі вачэй у сіні марозны акраек неба. Пусты ледзяны наст неба... Якой спагады ці выратаваньня шукаюць яны там?

І што хочаш ты, паэт, з дня ў дзень рыфмуючы высокія, але безадносныя і варожыя адно другому словы: „кроў" — „любоў"?! І нездарма ў рускай транскрыпцыі гэтая спрадвечная рыфма больш трывалая, дакладная і неад`емная: „кровь" — „любовь"... Якім барбарствам патыхае ад іх супрацьстаяньня!

Калі ты ёсьць, Госпадзе, то даруй неразумным дзецям сваім, Паэтам.

***

Усё хачу напісаць аповед пра закаханасьць вясковай цёткі-векавухі да такога ж дабрадушнага недацёпы-бабыля і пра дваравога сабаку Жука, якога яны абое любілі... Мне ў тым магчымым аповедзе бракуе галоўнага героя. А гісторыя рэальная. Яны і па сёньня жывуць адзінока побач... Вось толькі сабака здох...

Не, не напішу, ня хопіць трываньня дацягнуцца да іх заземленай сутнасьці. Дый сабака здох немаведама па чыёй віне...

***

Мы пішам і прамаўляем мноства апраўдальных прыгожых словаў, каб выказаць сябе, бо ісьціна, якую абыхо-

дзім, кажучы і пішучы, месьціцца ў адным канкрэтным слове, ад якога, як ад яго асновы, мы пачынаем ткаць жалобны саван той ісьціне, хаваючы яе і хаваючыся ад яе...

Ад пачатку сьвядомага жыцьця свайго мы баімся ісьціны, як сьмерці, бо яна і ёсьць сьмерць...

***

Люблю думаць, мроіць, разважаць і ўяўляць гэта як бы напісаным... ды наяве запісваць тое якраз і ня хочацца. Лянота мая і адчуваньне, што на паперы выйдзе ня так, як думалася...

Люблю проста думаць... Я — не літаратар, я, перш за ўсё, — задумшчык... Я і жыцьцё сваё так задумаў, каб даўмецца яго сутнасьці. Ня для некага, для сябе самога...

***

Некаторыя, дажыўшы да старасьці, — мудрэюць, іншыя — дзяцінеюць... Усе астатнія, на вялікі жаль, — паміраюць... Такімі, якімі ёсьць...

***

Ня бойся пісаць пра сябе, бо напісаць сябе такім гнюсным, якім ты ёсьць, не атрымаецца, ня хопіць таленту... Гэта сьцьвярджае і ўвесь вопыт сусьветнай літаратуры.

***

Праўда толькі адна. І ня будзеш жа ёю раскідвацца на кожным кроку. Зьберагаеш яе, як сваё адзінае апраўданьне перад Богам... Таму і хлусіш паўсядзённа: не сабе, дык іншым, ня іншым, дык сабе... І лепш бы сказаць, што праўда не адна, а праўда для аднаго...

***

Адсутнасьць здаровага творчага розуму адчуваецца паўсюль. Хаос і апатыя — адметнасьці таго. Дый сам вось сяджу над гэтым аркушам і адчуваю падсьвядома, што словы ўзьнікаюць на паперы не ад разумнасьці, не ад глыбокае думкі, ад нямоглясьці і хваравітасьці жыцьця, якое і вымагае агрэсыўных альбо спачувальных слоў да самога сябе.

***

Пасьля нічога ня будзе. Усё ёсьць сёньня. Запамінай кожную дробязь, каб было чым жыць пасьля...

***

Ёсьць адчуваньне, што страчваю сэнс жыцьця. Куру, што патраплю. Чытаю, на што наткнуся. Гавару з кім давядзецца. Не сьмяюся. Ня плачу. Не заводжу гадзіньнік. Забываю нумар свайго тэлефону...

***

Ня лезьце ў маю душу! Там ужо няма пустога месца...

***

Люблю наіўных. Гэта боскі знак, калі прыпомніць першыя дні стварэньня сьвету... Гасподзь быў наіўным...

***

Літаратура зьняволіла мяне. Літаратура — вуліца, літаратура — людзі на вуліцы, работа — літаратура, дом — літаратура, з жонкай — раман, цыгарэтны дым — літаратурна-крытычны... Я ўвесь — літаратура... Якая гэта літаратура — іншая рэч...

***

Ужо месяц, як паказваюць крывавы жах чачэнскай вайны... Жонка асьцярожна пытаецца: а ці змог бы я забіць чалавека? Схамянуўшыся ад нечаканасьці, роспачна думаю над тым і раптам горычна ўсьведамляю: а ці ня ёсьць ужо сама гэта думка перадумоваю магчымасьці забойства?.. О Госпадзе!

***

Чым больш чалавек гаворыць, тым больш ён няшчыры. Шчырасьць, як немаўля, выдае сябе ня словам, а голасам, не маўленьнем, а маўчаньнем, ня тым, як было, а тым, як ёсьць...

***

Разанаў каторы дзень жаліцца на зубны боль... Мне гэта дзіўна чуць. Я зразумеў бы яго і паспагадаў бы яму,

калі б ён жаліўся на душэўны боль... А так — толькі пацепваю плячыма, ні паэзіі, ні філязофіі ў яго пакутах не адчуваючы... Жорсткі я чалавек...

***

Калі гонар пераважае талент, то ў пройгрышы застаецца чалавечая годнасьць...

***

Пах гною — жыцьцядайны і несьмяротны...

***

Кава і цыгарэты змушаюць мяне паміраць больш аптымістычна...

***

Сьпяшайся ці не сьпяшайся, а — напрыканцы *даходзіш*... Апошняе слова і засьцерагае мяне ад сьпешкі, але не ад непазьбежнасьці.

***

„Біблія" — адзіная кніга, пра якую ведаюць нават тыя, хто нічога ня хоча ведаць.

***

Народзіны, вясельлі і хаўтуры — сёньня ўжо ня кожнаму па кішэні. Таму — ня ўсе нараджаюцца, але ўсе паміраюць...

***

Сапраўдны творца павінен вяртаць чалавека да першапачатку, а ня весьці людзей да канца...

***

Бывае, што жыцьцё нешта дадае чалавеку, бывае, што нешта забірае... Ураўнаважаным чалавек доўга быць ня можа... Ураўнаважаны ён — мёртвы...

***

Калі словы пачынаюць зьдзіўляць сваім патаемным сэнсам — пішы вершы. Але толькі да той пары, пакуль не перастанеш зьдзіўляцца, што ты іх пішаш...

***

Будзень набліжае тое, што будзе. Сьвята вяртае да таго, што было.

***

Вясна! Ружавее вішня... Салодкі сорам апладненьня...

***

Маладзічка гадоў дваццаці з выявамі яшчэ ня страчанага спартыўнага складу некалькі хвілінаў круціць „кола" ці „сонца" (ня ведаю, як правільна называецца гэтае практыкаваньне ў гімнастыцы), паказваючы пры кожным пераваронце дзірку у трусах паміж шырока разьведзеных ног...

Дзяўчына — душэўнахворая, і адбываецца тое ў вар'ятні. А робіць яна практыкаваньне за недапалак цыгарэты, які пасьля атрымлівае ад зацікаўленай публікі — алькаголікаў, што лечацца тут, у суседнім наркалягічным корпусе. Дарэшты прапітыя мужыкі з пэўнымі зачаткамі імпатэнцыі. У большасьці зь іх ёсьць ці былі жонкі і нават дочкі ўзросту гэтай, няшчаснай і хворай, колішняй гімнасткі. Яны скаляцца і жывёльна выкручваюць свае лупачы ўсьлед за той дзіркай у трусах, а яна толькі неўразумела пасьміхаецца, з смакам пыхкаючы пасьля абсьлінелым недапалкам...

Менавіта тады я ўпершыню сьвядома вырашыў „завязаць" з п`янствам. Зьявіўся страх, што і я „скацінею"

... А тое „сонца" час ад часу яшчэ пракручваецца ў памяці, згадваючы ў сьвядомасьці пушкінскую малітоўную засьцярогу "Не дай мне Бог сойти с ума..."

***

Пішэце вершы простымі алоўкамі. Атрымліваецца неразборліва і лёгка сьціраецца. Для вершаскладальнікаў гэта не апошняе правіла.

***

Няма большай шчырасьці, чым думаць пра сьмерць, жывучы...

***

Садом і Гамора — пакараныя, а Лас-Вэгас — квітнее...

***

У адной з тэлеперадач расейскі чыноўнік распавядаў, што чачэнцы на цэнтральнай плошчы Грознага, мітынгуючы перад урадавай рэзыдэнцыяй, сьпявалі адну і тую ж патрыятычную песьню. Сьпявалі яе бясконца, суткамі, наэлектрызоўваючы і сябе, і тых, хто там быў. Урэшце мэлёдыя настолькі авалодвала і ўзьдзейнічала на псыхалёгію людзей, што нават чалавек, абыякавы да патрыятычных настрояў, міжволі рабіўся агрэсыўным нацыяналістам...

У зьвязку з гэтым мне ўспомніўся вар'яцкі дом у Крывошыне, што пад Баранавічамі. Трапіўшы туды на прымусовае лячэньне ад алькагалізму, я апынуўся ажно на трое сутак у аддзяленьні шызафрэнікаў. Алкашоў туды зьмяшчалі як бы на каранцінны тэрмін для псыхалягічнай апрацоўкі. Адразу пачуваешся там жахліва, аднак ужо на наступныя суткі, зьмірыўшыся з сытуацыяй і шчыльней прыгледзеўшыся да шызанутай, але наіўнай і квола-запаволенай ад лекаў публікі, з творчай цікавасьцю пачынаеш прыстасоўвацца да іх жыцьця-быцьця...

Памятаю аднаго волата-мужлана, з назаўсёды прыліплай да твару дзіцячай сьмяшынкай, я аніяк ня мог абыграць у шашкі. Больш таго, раз за разам прайграваў яму, аднак злавацца мог толькі на свой разумовы патэнцыял і ў прынцыпе толькі шкадаваць гэтае двухмэтровае дзіця, што, відаць, ці ня ў першую чаргу дзякуючы сваёй усьмешцы і трапіла ў гэтае вар'яцкае месца. Дзіця толькі акругляла вочы, будучы непахісна задаволена і сабой, і мной, і шашкамі, чамусьці пафарбаванымі ў розныя колеры, апроч чорнага і белага... То быў шчасьлівы чалавек! А я быў няшчасны...

Аднак у зьвязку з Чачнёй успамінаецца іншы выпадак. Зрэшты, там усё было выпадкова. І людзі — таксама...

Адзінае, чаго паўсядзённа бракавала шызафрэнікам — курыва. З гэтым узьнікалі бясконцыя праблемы. „Бычкі" былі коштам залатога самародка. Цыгарэты — адзінае, з-за чаго ўспыхвалі непаразуменьні, агрэсія і нават кароткія сутычкі, пакуль дзяжурны перакормлены санітар не апускаў цяжкую зьвязку ключоў на сьпіну як заўжды менш вінаватага і больш слабага...

Была нядзеля. Сьвяты дзень. Цёпла і сонечна. Пацыенты, пасёрбаўшы рэдкага чаю з шэрым батонам і атры-

маўшы па прыгаршчы „колаў з тармазамі" „ненавіта разьлегліся ў двары, хто на лаўках, хто на траве. А Іван і Чэсь выйшлі да разамлелай публікі з баянам. Іван налаўчыўся выцягваць з таго, калісьці музычнага, інструмэнту пэўныя мэлядычныя, хоць і аднатонныя, гукі. Чэсь жа няблага сьпяваў напаўблатныя прыпеўкі беларускага паходжаньня. Цяпер я ўжо не магу прыпомніць ні аднаго куплету з тых прыпевак. Урэшце, цымус усяго быў ня ў музыцы і ня ў словах. Хлопцы-небаракі бралі нечым іншым. Абняўшы за плечы Івана, Чэсь зацягваў жаласьлівым голасам пачатак куплету, Іван расьцягваў задышлівы мех баяна і ўжо разам з Чэсем сьпяваў канцоўку... Зь іх вачэй цяклі сьлёзы... Так яны сьпявалі з падыгрывам, ходзячы ў абдымку па пэрымэтры пляца, абгароджанага высокім глухім дашчатым плотам. Дзейства заварожвала... Я і яшчэ адзін мой калега-алькаголік, расчуліўшыся, далі ім пару-тройку цыгарэтаў, каб яны працягвалі далей. Іван з Чэсем задаволена запалілі і ўжо сьпявалі з цыгарэтамі ў зубах, якія трывала прыклейваліся да ніжняй губы і скурваліся да языка, пасьля чаго са шкадаваньнем неахвотна сплёўваліся. Сьпявалі паўтараючыся, пачыналі чатыры-пяць куплетаў і вярталіся да пачатку... Я не магу пераказаць, што тварылася ў маёй душы, асуджанай на вось такі нечалавечы зьдзек! І таму я бессаромна плакаў разам з Іванам і Чэсем. Сьпявалі яны гадзіны тры... Гэта быў экстаз! Для мяне і майго супольніка па няшчасьці. Для Івана з Чэсем гэта была работа, магчыма, больш прыемная, чым прыборка гальюноў, але работа. Ну, і прырабатак, вядома... Для ўсіх астатніх тое ня мела аніякага дачыненьня. Кожны быў заняты сабою і неўпрыкмет разьвіваў свой талент... Зьнясілены душэўным перажываньнем, я на той час мог быць залічаны паўнапраўным пацыентам чацьвёртага шызафрэнічнага аддзяленьня. Дзякаваць Богу, гэта ўсё ж скончылася разам з цыгарэтамі і фізычнымі магчымасьцямі Івана і Чэся...

У Чачні — іншае — кроў, барбарства...

Там зь песьні ўсё пачыналася, тут зь песьняй усё канала...

***

З разумнымі ў нас — праблемы, з астатнімі — клопат...

***

Усё праходзіць... Застаюцца сьляды... Але і яны затоптваюцца тым, што праходзіць сьледам...

***

Да нас у рэдакцыю прыйшла працаваць новая карэктарка, Мая Ўладзімераўна. Маладэчанскай гадоўлі жанчына. Мажная і, можа, ад таго мяккая па характары, дабрадушная. Распавядае, як нядаўна езьдзіла-лятала да свайго сына ў Калюмбію. Пра тамашні клімат, народ, мафію, наркотыкі... І проста, звычайна і па-мацярынску душэўна тлумачыць нам гэта, быццам толькі што вярнулася з Маларыты... Мілая Мая Ўладзімераўна! Нездарма і прозьвішча ў яе дзявоцкае — Галубовіч...

***

Усе рэчы ў прыродзе застаюцца такімі, якія яны ёсьць, незалежна ад таго, як мы іх уяўляем і што пра іх думаем...

***

Калі раней літаратары пісалі стылем дыямата, то цяпер пішуць супраматам... Супраціўленьне матэрыялу і матэрыяльнага ў сёньняшняй літаратуры відавочнае.

***

Часта бывае няёмка і сарамотна за гасьцінным сталом. Мацъ тваю, думаю, дажыўся да таго, што ўжо няма здароўя выпіць за ўласнае здароўе!

***

І згорбленай плоцьцю і бяскрылай душой адчуваю, як няўтульна мне на гэтай зямлі. Здаецца, што я быў чужым, лішнім, нетутэйшым ад самага нараджэньня...

Тут мяне не чакалі... Мяне чакаюць ня тут, бо сьвет і сьвятло сьціскаюцца вакол да зьнікласьці, а цемра ўжо называе маё імя такім знаёмым, родным мне, матчыным голасам...

***

Літаратура — гэта споведзь сьвядомых грэшнікаў перад людзьмі, але ня перад Богам...

***

Пісаць можна бясконца, а чытаць — не...

***

Напрыканцы траўня надвячоркам усчаўся моцны лівень. Я забіраў дачку з садка. Парасонаў у нас не было. Вада імгненьна затапляла дарогі, тратуары... Хацелася перачакаць, аднак малая ўпарта цягнула за руку, ёй карцела быць саўдзельніцай прыроднай стыхіі. І мы пайшлі, пераступаючы лужыны, але яны былі скрозь, і вада ўжо не стаяла, а плыла, бегла... Пабеглі і мы... Мокрыя да ніткі, ужо не баючыся вады, а наўмысна шлёпаючы ў яе нагамі, уздымаючы пырскі... Сьмех, шал, адкланьне дзяцінства! Я бег за дачкою, шчасьлівы, вымаклы, і жыў па-за сёньняшнім часам...

Мяне нарэшце дагнала маё маленства — нечакана і неўпрыкмет, але гэтак жа незаўважна і сышло, як тая навальнічая вада, што напаіла зямлю і сама стала зямлёю...

***

Патэлефанаваў Георгій Колас наконт майго „лімаўскага" верша „Даведка пра Купалу". Паразумеліся мы проста, шчыра і чалавечна, хоць для яго маё прысьвячэньне і было „нетактоўным"...

Звычайным голасам, даверліва сказаў, што ў яго рак... (Размова ішла пра яго бальнічны рэжым — і ён вось так, без адчаю і скрухі ў голасе, сказаў: дык у мяне ж рак...) Адразу гэта выклікала шок, але паступова ягоны спакой перадаўся і мне. Я распавёў пра тое, як ад „гэтага" паміраў мой бацька, а ён пра свайго васьмідзесяцігадовага бацьку, які яшчэ тады-сяды дазваляе сабе кілішак каньяку.

Разьвіталіся цёпла і абнадзеена...

І вось праз пару гадзінаў пасьля размовы пішу гэтыя словы... Што я хачу імі сказаць сабе ці іншым? Навошта наогул пішу? Адназначна, што пасьля зьяўленьня ў нашай сьвядомасьці азначэньня РАК, усё ў жыцьці набывае большую вагу, асаблівасьць, істотнасьць... Ты пачынаеш адчуваць сябе САМ-НАСАМ, як бы ўжо дачасна выпадаючы з агульнага МЫ... Пачуваеш сябе сьмяротным чалавекам у бесьсьмяротным чалавецтве... Ты нарэшце даходзіш да СЯБЕ...

***

Талент ня ёсьць мера мастацтва. Мастацтва ёсьць мера таленту.

***

Пляменьніца Купалы, цяпер ужо нябожчыца, Уладзіслава Юльянаўна Раманоўская распавядала маёй жонцы, што яе ўнуку бацькі не дазвалялі вучыць для дэклямацыі на дзіцячых імпрэзах вершы Купалы. У прыватнасьці — „Хлопчык і лётчык"...

О, гэта больш, чым беларускае! Гэта — МЭНТАлітэтнае...

***

Еду ў падземцы. Абапал мяне сядзяць расфарбаваная дзяўчына ў міні і хлопец з „крутых", а мо сёньняшніх каапэратараў... Дзяўчына нешта чытае, ці не дэтэктыў, а хлопец тупа глядзіць у аголеныя дзявочыя калені насупраць... Сумна, цесна, душна...

На чарговай станцыі заходзіць у вагон дзядок, хваравіты, ціхмяна-вясковы... Нечакана для мяне хлопец, заўважыўшы, усхопліваецца: „Дед, садися, во..." Нават крыўдна, што мяне апярэдзіў, але прыемна. Паварочваю галаву: дзяўчына наважваецца выходзіць на чарговай станцыі, зьбіраючыся, загортвае кніжку. Чытаю на вокладцы: Якуб Колас... Зьдзіўленьню няма мяжы... Божа, якое неверагоднае падарожжа! І нават тая грашовая сума ганарару за кніжку, які я еду атрымліваць, здаецца прыстойнай... Я не адзіны. Я — сярод людзей.

***

Гуляю з дачкою. Насустрач ідзе, занураная ў сябе, сумнаватая з твару, дзяўчына, але апранутая вельмі ярка і страката. Дачка тузае за руку і гаворыць чутна ня толькі для мяне, але і для дзяўчыны і тых, хто побач: „Тата, глянь, якая цётка прыгожая! Праўда?!" Машынальна ківаю галавой... А дзяўчына раптам усьміхаецца, чырванеючы, і робіцца сапраўды прывабнай...

***

Сорамна казаць, а за шэсьць гадоў, што стала жыву ў горадзе, ні разу ня быў у тэатры. Ні разу...

Але ж ёсьць людзі, якія не прапускаюць ні адной прэм'еры, і — ня разу не падалі жабраку на вуліцы. Ня разу...

Ї што з гэтага вынікае? Ня ведаю. Так, сяджу, думаю, пакутую ад бяссоньніцы... А нехта спакойна сьпіць пасьля чарговай тэатральнай драмы...

То і жыві і дабрадзей свае лепшыя і такія нядоўгія дні на гэтым сьвеце! Ї — дзякуй Богу! Бо ён Такім чынам і выказаўся ў табе...

***

Дачка зьбірае розныя прыгожыя каменьчыкі. Ї ўжо засыпала імі амаль увесь бабін стол... Колькі ж камянёў назапасіць яна яшчэ і на чыю галаву яны абрынуцца? Ї на маю, ведама, бо сам жа і дапамагаю ёй зьбіраць...

***

На выгане, за мамінай хатай, мой вясковы аднагодак пасе чараду кароў. Адпасвае сваю калейку... Пра што ён думае, спакойна выходжваючы па выгане? Пэўна, ён ведае, што і гэты год будзе з малаком...

А пра што думаю я, сноўдаючы пяром з канца ў канец па белым загоне паперы? Пэўна, пра тое, што і на мой век хопіць слоў і чарніла... Так і жывём, бяскрыўдна адзін на другога...

***

Прынёс з мамінага падворку гусінае пяро. Белае, доўгае, вынашанае з густам... Пушкінскае... Паклаў побач са сваім вэрхалам папераў на стале. Дзіўлюся...

А сам пішу гэта „гжэчнай" замежнаю самапіскай, якую падараваў паэт-перакладчык яшчэ ў Маскве, і маракую: чаму ўсё напісанае Аляксандрам Сяргеевічам гусіным пяром такое высокае і лятучае, а напісанае намі замежнымі самапіскамі такое груваcткае і цяжкое?!

***

Надвячоркам зазірнуў у вясковую бібіліятэку, дзе, часьцей за ўсё, хлопцы гуляюць у карты, п'юць ды слухаюць модныя рытмы...

Бачу, вісіць на сьцяне ў рамцы пад шклом „райкомаўскі" партрэт Леніна! Непарушны і непарушаны... Дзіва, дый

годзе! Вось яна беларуская талерантнасьць. І бальшавікоў у вёсцы як бы не было і няма, а — Ленін і сёньня жывейшы за ўсіх сяльчанаў... Бо царква, што якраз насупраць бібіліятэкі — струхлелая, абваленая і забытая людзьмі...

І думка пра тое — страшней за ўсю ленінскую ідэалёгію...

***

Ёсьць жанчыны, якія выклікаюць адразу неспазнанае пачуцьцё каханьня. Яны зьяўляюцца як бы ўвасабленьнем тваіх першых юначых летуценьняў аб прыгажосьці душы і цела...

І ёсьць жанчыны, якія адразу ж узбуджаюць у табе пожад любові і похасную жарсьць. Ты нават не зважаеш і не заўважаеш прыгожыя яны ці вычварныя, ты толькі адчуваеш іх фізыялягічную грэшную плоць, і — жадаеш іх, толькі іх і толькі зараз...

Кажуць, здараюцца і шчасьлівыя выпадкі, калі тое і гэта супадае. Кажуць... Здараецца... О Божа, пакажы мне на гэтага шчасьліўца, а лепш — на яе...

Але ж і страшна: раптам Ён пакажа на тую, што даўно побач з табою і разам з тым — на тваю духоўную ці фізыялягічную немач...

***

Ужо занёсшы над паперай самапіску, каб накідаць гэтую зацемку, прыпомніў гамзатаўскага Абуталіба з кніжкі „Мой Дагестан". Здаецца, Абуталіб гаварыў там, што пасівеў ад таго, што вельмі доўга чакаў пакуль які-небудзь пашпарэек прынясе яму бутэльку гарэлкі, па якую ён пасылаў... Нешта ў гэтым сэнсе... Я веру, бо меў падобны вопыт...

Аднак пасівеў я, чакаючы паштальёнаў. Калі я быў хлапчуком, то паштальёніў у нашай вёсцы мой дзядзька Міша. Я чакаў яго з пошты, а яна была за восем кілямэтраў, у цэнтры калгаса... Яшчэ зь вясковага пагорку выглядаў яго постаць на лясной дарозе і ўтрапёна ўслухваўся ў мэталёвы бразгат пасьляваеннага ровару... Газэты пахлі сьвежаю фарбай, белым крыльлем выпырхваючы з тоўстай дэрмацінавай сумкі. Канвэрты ўражвалі маркамі і рознакаляровасьцю...

Цяпер амаль не лістуюцца: тэлефоны, машыны... Дый пісаць пра што? Усё ў газэтах напісана, па радыё сказана,

па тэлевізары бачана... І самі людзі сталі падобнымі бытаваньнем, учынкамі, лёсамі...

А тады — ліставаліся з смакам і пачуцьцём, нібы частаваліся. З той пары я і стаў абагаўляць слова. Пасьля чакаў паштальёнаў з адказамі з рэдакцыяў, зь лістамі ад сяброў, выклікамі ў міліцыю дый іншыя ўстановы, а яшчэ са сваімі рэдкімі публікацыямі ды паштовымі пераводамі... Зараз я, будучы ў адпачынку ў вёсцы, чакаю ад паштальёна Пеці лістоў ад Купрэева з бальніцы ды весткі ад згубнага Толі Сыса альбо хоць братавую „Народную газету"...

Нешта ён прывязе мне і сёньня. Прытым прывязе ў пэўны час, едучы ўсё той жа спрадвечнай лясной дарогай на такім жа бразготным ровары, — недзе спаміж трынаццацьцю і чатырнаццацьцю гадзінамі...

Я гэта дакладна ведаю, але — не-не ды выглядваю да весьніц з паштоваю скрынкаю, непакоечыся няведама чаго, і патрохі сівею, чакаючы ўсё жыцьцё так патрэбнага мне чалавека. Паштальёна?..

***

Мужчына нягеглага складу, гадоў пад пяцьдзясят, ідучы з калгаснай работы, спыняецца каля весьніц майго дзядзькі Міхаля, якому пад дзевяноста. Мужык той, прапіўшы ўсе свае трыццаць сьвядомых гадоў жыцьця, гаманкі да абсурднасьці, тым больш цяпер, калькі летаў як не п'ючы...

Адьверазеўшы, стаў ён ня ў меру гаспадарлівым, выдаў замуж дзьвюх дачок, ажаніў сына, а малодшага, які выйшаў якраз у яго, спрабуе адпрэчыць ад свайго вопыту...

Дзед жа схварэлы, пабялелы да лёгкасьці, бы ліпеньскае воблака, а да ўсяго — глухі да крыку...

Стаяць гэта яны, абапершыся на весьніцы, і гамоняць, адзін другога ня чуючы і ня слухаючы...

Мужчына ўсё жаліцца на працу, ад якой не разагнуцца, а дзед — на сьпякоту...

Добра натаміўшыся пустой гамонкаю, мужчына, адыходзячы, раздражнёна, але нязлосна лаецца: „Гарбееш і гарбееш гэтак з малых гадоў, а — што?! Ды хай яно ўсё гаўном пазаплывае! Як ні круці — памром... Пайду хіба яшчэ да прыцемку лопух скашу на ўзьмежку, а то збудзьвее, мадь яго..."

Дзед, як бы здагадаўшыся на сказанае, трасе нярвова галавою ды шамкае ўсьлед: „Каб жа той маладой пары, то і гаўно еў бы...”

Я чую ўвесь гэты дыялёг, набіраючы ваду з калёнкі, што побач зь дзядзькавай хатай, ды сам сабе таксама мысьлю па-мужыцку: „Колькі ўжо вякоў людзі з гэтай зямлі бяруць і бяруць жывую вадзіцу, а яна ўсё цячэ і цячэ, не высыхаючы, як людзкі род...”

***

Звожу на тачцы наколатыя дровы ды складаю ў касьцёр на дрывотні. Работа аднатонная, нямулкая і нясьпешная... Працуеш яе ды заадно думаеш. І думаеш-мысьліш, як табе самому здаецца, пра нешта значнае, высокае і вечнае...

І што тут больш важкае ў тваім сёньняшнім жыцьцібытаваньні: гэтая напаўдрымотная работа плоці ці гэтае ўзьнёслае думаньне?

Адно пэўна, што зімою ў матчынай хаце будзе цёпла і ўтульна.

Адначасна і ў душы маёй, мажліва, стане сьветла і лёгка, прыпамінаючы гэтую часіну. Так лёгка, як лёткаму дыму з коміну над мамінай хатай..

***

Часта ў сваім жыцьці даводзілася чуць выслоўе: ня ўмееш ты жыць. І за гэтым „ня ўмееш” інтуітыўна-падсьвядома падразумявалася: ня ўмееш красьці, ня ўмееш хлусіць, ня ўмееш прагінацца і г. д. Гэтага я сапраўды ня ўмею. Таму і маю тое, што маю... Як мелі мае бацькі, дзяды і прадзеды...

Якая ж частка людзтва павінна „ўмець жыць”, а якая — „не”, каб чалавечае жыцьцё ўсё-ткі працягвалася?

***

На якія толькі выдумкі і фантазіі ня здольны чалавек! Здаецца, што ён можа ўсё і ўжо мала залежыць ад боскага... Аднак ня можа вызваліцца ад спрадвечнага зададзенага: нараджэньня і сьмерці... Тут усё якраз безь яго ці супроць яго волі. Яшчэ, значыць, раб Божы!

***

Трэці дзень з шваграм даводзім да ладу апошні бацькаў прытул на могілках, хоць адзін Бог ведае, дзе цяпер ягонае месца...

Могілкі старыя, даўнія пахаваньні зарасьлі высокай травою, крапівою і асотам. На многіх грудах няма нават надмагільных камянёў, бо прыкладвалі дубам, а ён ужо згніў. Нават дуб згніў... Разваленая царква ледзь-ледзь трымае сябе пад ветрам на самай горцы... Векавыя дубы адуплелі і шырока раскінулі свае тоўстыя шэрхлыя лапы, што вось-вось могуць абваліцца пад цяжарам часу і пахаваць пад сабою памяць пра мінулае жыцьцё. І толькі бярозы, як састарэлыя ўдовы шэпчуцца пра пустое і вечнае...

Гэта ўсё паўстае перад вачыма, калі мы садзімся перакурваць. Курым глыбока і моўчкі... Пра што гаварыць? Тут ляжыць добрая палова маіх аднагодкаў. Усе памерлі ад жыцьця: хто — ад п'янага, хто — ад бязладнага... Каго лёс прыбраў... Яны ўжо — тут... А я — яшчэ толькі прымерваюся, прыглядваюся...

Недзе ў кустах зьбірае кветкі мая шасьцігадовая дачка. І ў памяці ўзнаўляюцца рубцоўскія радкі:

Девочка на кладбище играет,
Где кусты лепечут, как в бреду.
Смех ее веселый разбирает,
Безмятежно девочка играет
В этом пышном радостном саду.
Не любуйся этим пышным садом!
Но прими душой, как благодать,
Что такую крошку видишь рядом,
Что под самым грустным нашим взглядом
Все равно ей велело играть!..

Наогул рубцоўскае тут як ніколі блізкае і вярэдзіць душу... А багровае сонца ўжо скочваецца за лес, і здаецца, што ўсе навакольныя цені зьбягаюцца за агародку могілак... Нам трэба пасьпець своечасова сысьці адсюль...

***

Куру, натомлены будзённай дробязнай работаю ды невыноснай сьпёкаю, выглядваючы зь весьніц на вячэр-

нюю пасьвяжэлую і аціхлую вясковую вуліцу. З боку канюшні тэпае стары. Прыпыняецца, убачыўшы мяне, з адчуваньнем маленькае радасьці — магчымасьці пагаварыць, а пэўней, выгаварыцца, выказацца. У вёсцы старыя людзі гэта ўмеюць. Пачынаюць як бы зь нічога, паступова даводзячы значнае.

— Абрыдла табе, Лявоне, у вёсцы? Што тут — корпаемся, як тыя жукі гнойныя... У горадзе ў вас там пайсьці ёсьць куды, людзей процьма сноўдае: туды-сюды... Работа ў іх такая, ці што? Але ж весялей, га?! Я, вось, залетась быў у сына... І як там жывуць, і хто там жыве, і як там жыць?! Асабліва ў вялікіх гарадох... А ў майго ж — дзявяты паверх! Паглядзеў я — і хітравата з падтэкстам апускае вочы долу — а людзі ж там усе такія маленькія...

І пайшоў сабе, нічога мне больш ня кажучы, задаволены сам сабою.

***

Надвячоркам сустракаю дзеда з кошыкам у руках.

— Куды ідзяце, дзед, што несяце?

— На спакой іду, дзень да ночы нясу...

***

У мамы ажно тры каты ці коткі, хто іх ведае. Жывуць, праўда, ня ў хаце, а на падворку ды ў адрыне. Адна акацілася — усё-ткі была, значыць, і котка — адразу трыма кацянятамі. Адно зьгібела зь першых дзён , а двое вылузаліся і жылі сырадоем з-пад каровы. Дачка выбрала адно і насілася зь ім, дапякаючы сваёй празьмернай ласкаю... А на кацяняці тым — усякай паўзучай набрыдзі!.. Адважваю дачку, ды дзе ты за ёю ўсочыш...

Маці ж дэкляравала, што калі не сама аднясе тых кацянят у лес, то брат адвязе на машыне куды-небудзь далей... І ўсё гэта гаварылася, вядома, як надалей ад даччыных вушэй...

У той жа вечар, калі ўсе пакладліся спаць, недзе апоўначы, я, адарваўшыся ад свайго літаратурнага тлуму, выйшаў у двор папаліць... Аж бачу, вядзе котка кацянят тых кудысьці паўз хату, далей — да весьніцаў, а там — і на вуліцу... Выгульвае на прахалодзе пасьля дзённай сьпёкі, падумалася.

Своеасаблівы прамэнад... Але назаўтра кацяняты прапалі. Іх не было ў двары ўжо зранку. Шкада іх стала і самому. Зьвёз, пэўна, брат мой малодшы, укінуўшы мяшок зь імі ў машыну, адʼяжджаючы на работу. Але ж — не. Ніхто іх нікуды ня звозіў. Ні маці, ні брат. Божацца, клянуцца... А дачка мая заліваецца сьлязьмі ад страты ды гора...

Пасьля ўжо, праз тыдзень, маці шапнула мне, што кацяняты нашыя аказаліся ў суседзкай запушчанай адрынцы...

І тады я зноў прыпомніў той кашыны сямейны прамэнад. Няўжо кошка-маці адчула небясьпеку, якая навісла была над яе дзецьмі?!

Так як адчула мая маці некалі небясьпеку за маё жыцьцё, падняўшы мяне ў цёмным начным завулку, пʼяна спаўшым на сьнезе ў ноч на ціліпаўку... Марозная была ноч, казалі, хоць сам я і ня памятаю...

***

Іду раніцай па малой патрэбе. Натыкаюся соннымі вачыма каля дзьвярэй парніка на скрываўленае лязо сякеры... Яшчэ не ачомаўшыся ад сну, — раптам, цьвяроза халадзею нутром...

Чую, як у хляве, хваравіта кашляючы, шамаціць саломаю маці...

Маці! Гэта яна і засекла пеўня, пра якога яшчэ ўчора казала ў абед за пуставатай патраўкай... Нікога не папрасіла, хоць у хаце двое мужчын, — сама. Ведае, што мы ня зможам. І бацька-нябожчык ня мог. Калоць сьвінча заўжды клікалі суседа... Усьмерціць жывое ў нікога з нас не падымаецца рука. Душа не дазваляе, ці што?

А маці — магла і можа. Хіба ёй прасьцей гэта і лягчэй даецца?! Здавалася б, наадварот. А ўсё-такі здольная яна ўзяць на душу чужую сьмерць дзеля нашага сытага жыцьця, дзеля жыцьця ўвогуле! О маці, цалую твае акрываўленыя рукі з наліплым лёгкім, як душа, птушыным пухам...

***

Кожны дзень з акна сваёй кватэры гляджу я на адно і тое ж месца. Абсяг майго пагляду не звужаецца і не пашыраецца, але, пэўна, ён усё ж паглыбляецца, калі за ўсякім разам я заўважаю ў даўно знаёмым нешта новае...

Напрыклад, за водным каналам Зялёнага Лугу ў даў-

жэзным доме на пагорку, што пры лесе на вуліцы Карбышава, у самым кутнім акне апошняга паверху штоночы гарэла сьвятло. Ня надта яркае, чырванавата-трывожнае, мабыць ад настольнай лямпы альбо таршэру...

... І вось з учарашняга вечара — там цёмна... І ад таго у маёй душы зьяўляецца нейкая няўпэўненасьць і насьцярога.

Раз-пораз кідаю ў той бок змушаны позірк, а ўсё — цёмна... Калі б там ведалі, як гэта мяне хвалюе!..

***

Колькі часу я загубіў на бяздарныя вершы?! Колькі душы я страціў у незваротным часе, каб зарыфмаваць гэтае „ночы-вочы", так і ня ўбачыўшы сьвятла ў цемры!

Цяпер я пераважна пішу вэрлібрам, наіўна спадзеючыся, што чытачы не адчуюць маёй духоўнай немачы...

***

Сьпякота... Духата... Апатыя... Нічога ня хочацца. Нават пісаць. Але ж, вось — пішу, дыхаю гэтым гарачым паветрам, жыву... І ўсё толькі дзеля аднаго — упэўніцца ў сваёй існасьці...

Дарэчы — Рубанаў памёр. Сорак два гады. Таксама — жыў, дыхаў, пісаў... Ці пасьпеў хоць упэўніцца?..

***

Ня ўсякае слова — ісьціна, але ўсякая ісьціна — Слова.

***

Могуць зьмяняцца формы, мэтады і зьмест мастацкай літаратуры, бо і сама плоць Слова, як і чалавек, нараджаецца, памірае, эвалюцыянуе... Нязьменным застаецца толькі адно — выказваньне, выдых, сам дух Слова. Мы амаль не задумваемся над вымаўленымі словамі, мы іх інтуітыўна прагаворваем, каб выказаць сябе альбо свае адносіны да нечага-некага. Але, перад тым як выдыхнуць Слова, мы павінны ўдыхнуць... яго сутнасьць — дух быцьця...

***

Усё пазьней кладуся спаць... Сяджу, п'ю каву, чытаю, куру, пішу ўсякі суб'ектыўны маразм як зараз, мрою, вольна думаю пра ўсё і нічога — мысьлю сабе...

Карацей: ноччу мне жыць ясьней.

***

Прафэсыйна я магу толькі пісаць. Усё ж іншае — падылетанцку ці па змушанасьці.

***

Пры адчыненым акне летнім сьпякотным днём услухваюся ў дзіцячы розгалас у двары. Самотны, я ўслухваюся ў будучае, ужо ня чуючы там свайго голасу...

***

Так, я — вясковы, грубы, малаінтэлігентны, але з дастаткова пэўным чалавечым гонарам. Чаго я хачу? Сьмешна сказаць: памерці са здаровай душой...
Ёй жа яшчэ перад Богам быць...

***

Глыбакадумна разважаць пры маладых жанчынах можа толькі непаўнавартасны мужчына.

***

П’яная дзеўка, вульгарна разваліўшыся на лаўцы, з дакорам і зьдзіўленьнем лыпае на мужчынаў: „Скоты...” Ня можа ўразумець, ні адпітым розумам, ні грэшнай плоцьцю, чаму гэта яна раптам стала нікому не патрэбная...
„Курва...” — грэбліва плюецца, прайшоўшы міма яе растапыраных ног, франтаваты дзядок, але так, каб яна ня чула...
Ды — курва, дзядок, але ж і мы — „скоты”...

***

Стары плот, які калісьці мы гарадзілі з бацькам, зусім разваліўся. І бацькі ўжо няма, і трэба ставіць новы плот самім. Зьехаліся летам і вось майструем яго разам з братамі ды шваграм. Зьвезьлі гнільлё, укапалі слупкі, падагналі-прымацавалі жэрдкі, нацягнулі шнур; прыбіваем штыкет, пастаўшы ў дзьве пары — адзін трымае ды разьмервае, другі — з малатком ды цьвікамі...
А маці адзінока корпаецца ў градах. Скрушна гаворыць нам адтуль: „Ня вырасла сёлета нічога, і як вы будзе-

це ў горадзе зімаваць? Во, нейкія два дзясяткі агуркоў выкапала, на ўсіх і дзяліць няма чаго...”

... А новы плот тым часам пакрысе вырастае-шырыцца... Надзейны, з разьлікам на астатні мамін век...

І гляджу я з-за таго плоту на згорбленую сіратлівую матчыну постаць. І думаю: „Божа, ды гэта ж мы ўжо ад яе адгароджваемся...”

***

Жанчыны плачуць сьлязьмі, вымываючы імі вочы, каб ясьней бачыць сьвет. Мужчыны ж плачуць крывёю, і яна ім той сьвет засьціць...

***

Паэтка жаліцца на журбу свайго адзінокага жыцьця, на немагчымасьць распавесьці каму-небудзь спагадліваму самотную душу...

Не смуткуй, дзеванька, каб было каму выгаворвацца, то — адкуль узяліся б словы на паперы?

Душа — незапатрабаваная, нявымаўленая — і спараджае творчасьць.

Іначай, навошта б тая паэзія і што б, і каго б яна выяўляла?

Душа — самотнае сьціло Паэта.

***

Толькі гадзіньнікавыя майстры ды паэты раз-пораз зьвяраюць сваё жыцьцё з рытмам часу...

***

„Стукну по карману — не звенит.
Стукну по другому — не слыхать.
Если только буду знаменит,
То поеду в Ялту отдыхать...”

Знакамітым стаў, але ня стала часу ехаць...
Многія цяпер езьдзяць па-іншым прынцыпе:
Ляпну па кішэні — шамаціць.
Ляпну па другой — і там кішыць.

Трэба ў Ялту ехаць адпачыць,
Каб у Менску знакамітым жыць...

І езьдзяць. „Но — не слыхать...”

***

Віншуюць! Сёньня я маю сорак чатыры гады. Лепш бы сказаць: сёньня я ўжо ня маю сарака чатырох гадоў...

***

Мінулае — жывіць, надзённае — хмеліць, будучае — цьвярэзіць.

***

Душа чарсьцьвее, як хлеб, калі ня мае ў сабе патрэбы.

***

Аднойчы ў прыватнай застольнай палеміцы Валянцін Акудовіч сказаў, што „паэтычная творчасьць ёсць чысты ананізм для задавальненьня аўтарскай натуры”...

Але ж займацца анамізмам, хай сабе і літаратурным, на публіку — ня што іншае, як блюзьнерства. Хоць — што казаць — чамусьці адчуваньне падобнага ідыятызму ад надрукаванага ўсё ж узьнікае...

***

Звык да свайго самотнага кватэрнага жыцьця, як асуджаны да зьняволеньня. Нават выходзячы па неадкладнай справе, і ўладкоўваючы ключ у дзьвярны замок, падсьвядома адчуваю, што зноў замыкаю сябе... Ня мае значэньня — зь якога боку...

***

Ноч... Сяджу бяздумны і адзінокі, забыўшыся на сьвет, і сьветам забыты. Нічога і нікога няма вакол мяне, апроч цемры. Ды і мяне па сутнасьці ўжо няма — адна душа толькі... Але і яна — ноч...

***

Прыгожыя словы часьцей за ўсё непраўдзівыя. Але — вабныя. Скарыстаўшы, забываеш іх, як зьлізаную цукерку...

Праўдзівыя словы — страшныя. Яны — трывалыя, цяжкія, непазбытныя. І менавіта на іх трымаецца сьвет, як дом на падмурку...

***

На кухонным стале перада мною — букет засушаных кветак...

Чамусьці зьвяртаеш на іх увагу толькі тады, калі і сам пачуваеш сябе выжытым...

***

Засядзеўся данельга... Жонка сьпіць, дачка сьпіць, суседзі, дом увесь, горад двухмільённы...

Цёмна, суцішна, одумна... Усе — сьпяць... Можа, гэты абложны сон і засьцерагае мяне ад сну...

***

Мяне раздражняюць рэчы, якія апынаюцца не на сваіх месцах. Натыкаючыся на вэрхал і дысгармонію, мне здаецца, што і самі тыя рэчы пакутуюць ад дэспатыі чалавека... Канечне, яны — рабы гаспадара. Але я заўжды змагаюся за іх пэўную неабходнасьць у інтэр'еры. Хачу, каб яны мелі сваю значнасьць на сваім месцы... Дарэчы, як і людзі...

***

Пасьля ўзаемнай шчасьлівай блізкасьці з табой я доўга — УВЕСЬ — не магу заснуць. Натоленая і натомленая млосная плоць ужо спачывае, але па-сіроцку — чуйна, чакаючы душу, якая ад цябе яшчэ не вярнулася... Яшчэ ўсё разьвітваецца.

***

Вось ужо тыдзень запар, каля гадзіны ночы, у фортку над маім сталом даносіцца юначы голас: „Анюта! Аню-та!! А-ню-та!!!"

Доўга да хрыпаты чуецца з двара той голас-крык. Натомлены дарэшты і безадказны, ён гэтак жа раптоўна абрываецца, як і пачынаўся...

Начная бязьлюдная ціша дажоўвае рэха і праглынае яго..

А я ўсё хачу здагадацца — што адбываецца пасьля. Зь ім і зь ёю. З намі ўвогуле.

...Даўно сьпіць мая жонка... Ці пачуе, ці адгукнецца, калі з далёкай немачы сваёй давядзецца і мне выдыхнуць яе імя ў глыбокую і бязьлюдную ноч?..

***

Заўважыў, што большасьць літаратараў, асабліва паэты, пішуць на кухні. Дый гамонкі на літаратурныя тэмы пры сустрэчах зноў жа пераносяцца туды. Гэта ўжо напрацаванае, і пайшло ад таемнасьці рамяства, а яшчэ ад зручнасьці і безадрыўнасьці працэсу, прынамсі начнога. Ня будзеш жа бадзяцца па кватэры, дзе сьпяць сямейнікі, па чай, каву, цыгарэты ці па што яшчэ мацнейшае для падтрымкі творчага тонусу...

І наогул, не зважаючы на цеснату, на кухні само жыцьцё ўспрымаецца аб'ёмней, у сукупнасьці з бытам, быцьцём...

...Вось, напрыклад, заходжу я да свайго сябра і кума Асташонка, а ён мне з парога, нават не чакаючы майго адказу, кідае: „Прывітаньне! Праходзь на кухню, якраз кава ёсьць..."

Гэта азначае — хочаш ты ці ня хочаш — а трэба ісьці на кухню і абрынацца душой і плоцьцю ў гэты глыбокі, але каламутны літаратурны вір...

На кухні можна пісаць добрае ці кепскае, але нельга на яе звальваць сваю літаратурную немач. Чаго яшчэ?! Кухня — „альма матэр" літаратуры, хоць і выдае кожнаму па здольнасьцях. Не задарма ж поіць-корміць...

Канечне, гэта мой асабісты хваласьпеў кухні. Вунь, Хаям любіў пісаць на базарах, Рубако Шо — у прытонах, а Хемінгуэй — у кавярнях... І ўсё ж — як гэта недалёка ад згаданага месца!

Не, браткі, што ні кажыце, а нічога вартага не напішаш, ня маючы сваёй уласнай літаратурнай кухні...

***

Чытаю „Так сказаў Заратустра" Ф.Ніцшэ, але найбольшую асалоду атрымліваю ад абеларушчанага тэксту Васіля Сёмухі. Нават ня верыцца, што гэты Ніцшэ пісаў панямецку, настолькі яго Васіль нацыяналізаваў...

Больш бы было Сёмух, глядзіш — зьявіўся б і „свой Ніцшэ"...

***

Нічога няма ўва мне звышасаблівага, апроч уласнага досьведу — што я ёсьць, які ёсьць...

***

Маё літаратурнае крэда: пра разумнае пішы звычайна, пра звычайнае — разумна.

***

Гулялі сям'ёй у батанічным садзе. Дзіўнае адчуваньне: быццам увесь гэты прыгожы дэкаратыўны расьлінны сьвет аўтаномна жыве за зрэнкамі тваіх вачэй, як рыбы за шклом акварыюму. Ужо калі выйшлі за браму, побач, у парку Чалюскінцаў заўважыў, што дрэвы тут жывуць інакш — па-людзку, ці што...

Больш разьняволена, менш дагледжана, але шчыльней і зьяднаней...

***

Часта перачытваю Брыля — супастаўляю словы з шчырасьцю...

А нехта ўжо даводзіць, што гэтыя мае зацемкі „пайшлі ў сьвет ад яго". Не, шаноўныя, хачу запярэчыць я, яны вылузаліся самі па сабе з досьведу пражытага і перажытага мною, але... Але, пэўна, што ўсё лепшае ў Брыля падсьвядома скіроўвала маю руку да яго формы і стылю. І я не саромлюся гэтага. Пальцаў адной рукі замнога, каб палічыць тых нашых клясыкаў, якія схілялі б да сябе, не прыкладаючы для гэтага аніякіх намаганьняў, апроч слова ды чалавечых паводзін...

***

Мая вясковая бабка Алімпа, якая зжывае дзявяты дзясятак гадоў, зьдзіўлена пытаецца, чаму гэта дачка кліча мяне татам.

„Папа, — зазначае яна, — прыгажэй, дый цяпер жа ўсе так кажуць..." І гэта гаворыць мая бабка, якая далей за вёску нідзе не была і, здаецца, апроч гэтага „папа" аніякага замежнага слова не прамаўляла ў сваім жыцьці. Ці гэта толькі зразумелае чалавечае жаданьне, каб яе нашчадкі былі, як і ўсе?

„Беларусы ж мы...” — даводжу ёй без націскнога павучаньня.

„Але ж ... беларусы... То і па-людзку ў нас усё быць павінна — прыгожа...” — не ўдаючыся ў нацыянальныя пытаньні, мовіць яна, шчыра і хораша гледзячы мне ў вочы, акуратна склаўшы высушаныя лёгкія рукі на чыстым фартушку. І сёньня не разумею. Думаю вось...

***

Кожны літаратар — сьвядома ці падсьвядома — спадзяецца на славу, вядомасьць, гістарычную памяць нашчадкаў ці хоць бы на даўгавечнасьць страфы, радка, выразу...

Многія, калі б ня большасьць, кінулі б пісаць, каб заўчасна ўведалі пра дарэмнасьць і аднадзённасьць напісанага...

Але ўсіх нас змушае трымаць сьціло спадзяваньне.

***

„Нам не дано предугадать,
Как наше слово отзовется, —
И нам сочувствие дается,
Как нам дается благодать...”

І гэта, Богам дадзенае, спачуваньне-суцяшэньне ёсьць і ратунак, і ўзнагарода і геніяльнаму, і бесталаннаму... Пры жыцьці.

А далей ужо ўсё вырашае час, сьціраючы ці само напісанае ці толькі пыл зь яго...

***

Ёсьць даўно і добра ўтрамбаваная сьцежка, што вядзе ад вуліцы да пад'езду нашага дому. Каторы ўжо год я і сноўдаю па ёй...

Але вось учора дачка мая малая настойліва пацягнула мяне няходжаным шляхам, дзе расьце яшчэ сьвежа-зялёная трава, гусьцеюць неабламаныя кусты язьміну, ды красуе мноства дзікарослых кветак...

Як хвалююча і цікава было ісьці незнаёмай мясьцінаю! А раней я і не задумваўся, што да свайго дому можна прыйсьці іншым кірункам і зь іншым адчуваньнем. З адчуваньнем уласнае дарогі...

***

Якія статычныя, гіпсавыя твары ў большасьці людзей. Сяджу ў вагоне мэтро і намагаюся зазірнуць хоць каму зь іх у вочы і не магу, бо яны ў іх як бы перавернутыя і глядзяць унутр чалавека..

І здаецца, што людзям гэтым усё адно, куды ехаць і дзе выходзіць. Яны, зрэшты, ужо задаволеныя тым, што — зайшлі, селі і едуць...

Куды? Аб тым пэрыядычна паведамляюць...

***

Адчуваю, што Паэзія пакінула мяне, нібыта каханая, якой я здрадзіў... А яшчэ точыць досьвед, што каханьне тое было сапраўднае, а значыць — непаўторнае...

Што ж, той, хто быў сьведкам нашага каханьня і чытаў з нашых вуснаў словы прызнаньня, скажа так: яна была зь ім і яны любілі адно аднаго, але не маглі нарадзіць Слова, бо ня меў ён мужнасьці і волі, каб аддаць ёй усяго сябе, і гэтым здрадзіў, і яна пакінула яго...

Так, мажліва, скажуць... Але ж гэта было, было! .. То і памятай, бо ня кожнаму выпадае. І плач па ненароджаным Слове. Гэта адзінае, чым адорвае паэтаў няспраўджанае каханьне да Паэзіі..

***

Слова і слава — такія блізкія па гучаньні, што на аддаленьні жыць ім цяжка. Але й сумесна яны не ўжываюцца... Адсюль — драмы, трагедыі, сьмерці... Аднак толькі пры такім зыходзе яны і могуць паразумецца...

***

Таленавітыя, тым больш геніяльныя творцы ў большасьці выпадкаў паміралі своеасабліва, неардынарна, прыгожа, як, зрэшты, і жылі. Мною, у дачыненьні да іх сьмерці, слова „прыгожа" не ўспрымаецца як блюзьнерства, а наадварот, як акт творчасьці.

Таленавіта жыць нялёгка, але намнога цяжэй таленавіта памерці, а значыць — застацца...

Гэтак мне падумалася ў Нясьвіжы, у замку Радзівілаў, калі мы стаялі зь Някляевым каля дзьвярэй флігэлю, за якімі

памёр Аркадзь Куляшоў. А Валодзя пасьля доўгай і настыглай паўзы выдыхнуў : „Прыгожае месца... Памерці тут, так як памёр Куляшоў, можна...”

***

Камандзіроўка ў Берасьце. Трэба было вельмі рана ўставаць, дабірацца да тэлестудыі, садзіцца ў „рафік” — і ехаць...

Ужо пры выезьдзе зь Менску, закалыханы нейкай лянотнаю думкай, — заснуў... смачна гэтак, усяго гадзіны на тры-чатыры...

Штурхаюць, міргаю неўразумелымі, як ў немаўляці, вачыма: што, дзе?!

— Прачынайся — Берасьце! Палову Беларусі праспаў...

Вось так і ўсе мы — жывем-сьпім-едзем — і ... невядома, дзе прачынаемся...

***

Дзіўлюся часта на тое, як паводзіць сябе *глёбус*. Круціцца ён, круціцца... Мільгаюць рэкі, горы, моры, Менск, Масква, Барсэлёна... А ён усё круціцца... Аднак я адчуваю сябе спакойна на сваім лапіку бацькаўшчыны, мяне нават не хістае...

***

Нерукатворная Паэзія выцякае не з гармоніі, а — з стыхіі — першапачатку ўсяго існага, яшчэ неўразумелага і неўсьвядомленага...

***

Сярэдзіна ліпеня... Цярусіць цёплы шапаткі дождж..-.На гарадзкім прыпынку людзі ўслухоўваюцца ў яго, і кожнаму ён нашэптвае нешта сваё...

А мне ўзгадваецца мой першы пацалунак у цягніку „Ўладзівасток-Масква” больш чым дваццацігадовай даўнасьці. Мы цалаваліся зь ёй у тамбуры, а за вокнамі вагону непадалёк Куйбышава шапацеў такі ж цёплы дождж... няўмела і далікатна дакранаўся я да яе спакусна-прыадкрытых вуснаў, як бы пранікаючы ў яе душу, і адчуваў, што мая адзінота пакідае мяне...

Пазьней высьветлілася, што першыя свае мужчынскія пацалункі я ахвяраваў вабнай башкірскай курве...

Вядома, яна без асаблівых намаганьняў вылічыла маю нявіннасьць. Мне здаецца, што толькі ў такіх выпадках у жанчын падобных паводзінаў зьяўляецца адчуваньне ўваскрашэньня ўласнае цноты.

Што ж, я нікольки не шкадую пра тое. Магчыма, я падараваў ёй салодкае імгненьне ачышчэньня...

Многае ўжо ў маім саракачатырохгадовым жыцьці забылася...

Але ж вось засталося і, пэўна, да сьмерці будзе жыць у памяці гэта: цёплы шапаткі дождж за акном цягніка і вабная цёмнавокая жанчына, зь якой я хацеў падзяліцца сваёй адзінотаю... і яна спакусілася на тую адзіноту, напілася яе саладжавай горычы, але не змагла зжыцца зь ёй надоўга і пакінула яе ў кутку прыспанага купэ, выскачыўшы неўпрыкмет на нейкай станцыі...

І вось праз дзясяткі гадоў, застаючыся сам-насам, я натыкаюся ў сваёй адзіноце на яе сьлед...

Ня ведаю, для чаго яна тады пакінула мне свой адрас. Як ні дзіўна, ён аказаўся правільным. Мне адпісалі, я пра ўсё даведаўся...

І назаўжды, напэўна, забыў бы яе, каб іншым разам вось такі цёплы дождж не нашэптваў яе імя... У імя чаго?

Любай звалі яе. „Любовью", як сама назвалася...

***

Я многа чытаю, але мала што памятаю з прачытанага, у прынцыпе, толькі тое, што выбрала з памяці душа. І чым больш я чытаю, тым менш у душы маёй чужога...

***

Калі памёр бацька, я адназначна зразумеў, што я яшчэ ня жыў сам.

***

Мяне зноў нечакана прыхапіла хвароба. І вось ужо аблытаны я іпахандрычнымі думкамі і нядобрымі прадчуваньнямі... Не жыву — а разьвітваюся...

„Разныўся, як баба..." — пакепліва ставіць дыягназ жонка. Хоць тут трэба аддаць належнае жанчынам, бо

якраз яны да сваіх фізыялягічных і псыхалягічных баля-чак адносяцца больш трывуча і спакойна, без гэтага сама-га ныцьця.. Можа, таму і хварэюць радзей і жывуць даў-жэй. Самакаштоўнасьць асабістага жыцьця для іх ня пер-шаснае. Дзеці, бацькі, блізкія, а пасьля ўжо сваё ўласнае...

Мужчыны ж — вялікія эгаісты, асабліва творцы. Ім здаецца, што бязь іх жыцьцё пойдзе наперакасяк, сонца патухне, сьвет абрынецца...

Хто яго ведае... Сёньня, калі мне палягчэла, я развa-жаю пра ўсё гэта цьвяроза і нават іранічна. Але ня маю пэўнасьці, што заўтра, калі мне зноў стане блага, я ня буду гундосіць, „што ня роўна дзеле Бог", і што безь мяне „за-глохнет нива жизни"...

***

Пакінуўшы піць, я адразу ж адчуў, што з маіх вершаў выветрыўся хмель Паэзіі. А сам працэс літаратурнай пра-цы ператварыўся ў своеасаблівы сындром пахмельля: пісаць хочацца, а адпаведнага натхненьня бракуе; груба пера-фразуючы: рукі калоцяцца, а чарка — пустая...

Кажучы яшчэ прасьцей: паэзія — занятак запойны ва ўсіх сэнсах. Адсюль — і паэты. Бог ім судзьдзя...

***

Верасьнёўскі вечар. Доўга і нудна сяджу за сталом і разважаю, як хутка бяжыць час і неўпрыкмет праходзіць жыцьцё...

А вось гэты — канкрэтны — вечар такі доўгі... Такі доўгі, што на працягу яго я магу ўспамінаць усе свае бы-лыя вечары, якія так незаўважна мінуліся... І пэўна, такім жа звычайным будзе і гэты вечар, пра які я міжволі ўспом-ню ўжо заўтра ці яшчэ пазьней, а магчыма, і ня ўспомню зусім... І гэтак будзе цягнуцца да таго часу, пакуль аднoй-чы ўсё маё жыцьцё ня зьмесьціцца ў адно імгненьне...

Не, чалавек не зьяўляецца захавальнікам часу... Час адлічвае чалавека...

***

Калі хочаш жыць у маім сэрцы, то змушай яго біцца...

***

Заўтра еду ў вёску дапамагчы маме выкапаць бульбу. Ды — не, проста еду ў вёску да мамы! Хоць чамусьці да гэтае пары ня ехаў...

О Божа, як яшчэ трымае нашу кроўную беларускую повязь гэтая бульба!

***

Бульбу выбралі хутка — трасілкаю. Але напрыканцы заімжэў дождж, таму — мокрую, брудную — вырашылі ў капец не засыпаць. Назаўтра павысыпалі яе зь мяшкоў у двары і далі падсохнуць на позьнім, але цёплым верасьнёўскім сонцы. Пасьля, каб вясною ўжо наноў не перабіраць з капца, адабралі адразу: вялікую — для сябе, сярэднюю — на насеньне і дробную — сьвіньням. Выкапалі на рыдлёвачны штых неглыбокую яму, круглую, у два мужчынскія крокі. Убілі пасярод ямы кол, абвязалі снаповаю саломаю... Перш-наперш, засыпалі туды насенку, а дробную ссыпалі ў мяшкі ды адвозілі ў склеп на мамін двор, бо капец рабілі на бабіным падворку. Вялікую таксама ссыпалі ў мяшкі, каб насыпаць пасьля на самы верх капца...

Бульбу тую, што насыпалі ў яму і трошкі за яе краі, зводзілі конусам пад верх калка з саломаю, але не дарэшты. Пакідалі вяршок, на які потым ужо начэпяць якое старое вядро ці чыгунок для доступу паветра... Пасьля бульбу абкладвалі яловымі лапкамі ды прысыпалі слоем зямлі, абабіўшы яе шуфлям ці рыдлёўкаю... Бліжэй да маразоў гэта ўсё будзе яшчэ засыпацца прывезеным зь лесу лісьцем...

Ня ведаю, для чаго гэта ўсё пішу падрабязна... Хоць, можа, для сутнасьці далейшага аповеду гэта апраўдана.

Дык вось, якраз падчас пераборкі бульбы і заявілася з Масквы мая траюрадная сястра Рыта. І не адна — з мужам, карэнным масквічом, бязвусым, інтэлігентна прыакуляраным... Тое ды гэтае... Жанкі, грэючыся апошнім сонцам бабінага лета, загаманіліся... Аднак у вясковых жанчын усё працуе незалежна адно ад другога: і язык, і рукі... Гамоняць сабе дый работу робяць...

Муж Рыцін і пытаецца пасьля агляджкі, прыглядкі, роздуму і доўгіх ніякаватых ваганьняў: для чаго, маўляў, вы гэтую бульбу зь месца на месца перакідваеце?

Бабы па чарзе, а пасьля, згледзеўшы яго поўнае неўразуменьне на твары, усе гуртам пачалі яму даводзіць, што тут да чаго і ў чым тут справа...

Стаіць гэты юнакаваты маскоўскі муж, ляпае праз свае акуляры адукаванымі вачаняткамі ды пацепвае плечукамі...

Ня вытрывала тут Рыта марнасьці цётчыных тлумачэньняў, ды кажа Николаю свайму голасна, але як бы іранічна і як бы для ўсіх разам: „Да оставьте вы это пустословие... Не поймёт он. Правда, Николаша?! Да и зачем? В Москве ведь съедают все без разбора... Мелкое-большое... Говорить не о чем...”

І сама ж хуценька, хітравата пасьміхаючыся куточкамі вуснаў жанчынам, зьвяла гаворку на іншае...

Мне чамусьці ўсё гэта запомнілася, хоць і сапраўды — як бы пустое і нязначнае... Урэшце, як для каго...

***

Калі верыць вядомым у літаратурным сьвеце людзям, то вершы пішуць, а паэзію як бы запісваюць за Некім...

З гэтага напрошваецца выснова, што верш — сачыненьне, а паэзія дыктоўка...

Адсюль ужо вынікае парадаксальнае. Верш — акт творчы, а паэзія — ледзь не плягіят...

***

Дачка перад сном, праслухваючы ўрывак зь „Бібліі”, а перад тым — сямейную сварку: „Бог стварыў людзей і надзяліў іх розумам, і тады ў іх зьявіліся дурныя думкі...”

***

Чытаю нашыя тоўстыя мастацкія часопісы... Якое літаратурнае бясьсільле!

І — крычма крычаць, што страчваюць прыхільнасьць чытачоў...

Гэта ўсё нагадвае мне анэкдатычную сытуацыю: мужчына-імпатэнт „празь не магу” напрошваецца на ўзаемную блізкасьць з прыгожай інтэлігентнай дзяўчынай... Але ж гэтай „блізкасьці” ён можа дамагчыся толькі адзін раз... Выхаваная дзяўчына пасьля „таго разу”, можа, і прамаў-

чыць, сыходзячы з нормаў маралі... Але — на другі раз ты ўжо, браток, не спадзявайся...

***

Люблю драўляныя рэчы. О, як доўга я мроіў пра ўласны пісьмовы стол! Шырокі, паліраваны, з мноствам шуфлядаў, з настольнай лямпаю, з прыладамі для пісьма...

Атрымаўшы кватэру, я адразу ж зьдзейсьніў сваю парнаскую мару... Аднак у дзьвюхпакаёвай „хрушчоўцы" служыць мне той стол для гасьцяваньня. На ім бразгочуць бутэлькі, шклянкі, талеркі ды відэльцы... Пішу я за кухонным сталом. Праўда, ён таксама драўляны. І гэта ці не галоўная прычына, што змушае мяне пазьбягаць канцылярШчыны і літаратурнай падзёншчыны.

Вядома, шкада марнай мары пра стол. Хоць — стоп, стол усё-такі ж ёсьць. Нават два... Цяпер можна засяродзіцца і на больш неабходнай, немінучай драўлянай рэчы. І яна ў мяне будзе. Без усякага сумневу. Хоць і не па сваёй волі, але ёю я задаволюся... Ад яе на кухню не ўцячэш...

Адкуль жа ў нас любоў да драўляных рэчаў?

Усё вельмі проста. Яны нас супакойваюць. Ад калыскі да труны...

***

Я не люблю галіцца электрычнай брытваю. Раздражняе скуру і голіць ня надта чыста. Таму я галюся лёзамі „Шык". Раблю я гэта вечарам, каб раніцай даўжэй паспаць і не сьпяшацца-рэзацца перад адыходам на службу. Галеньне, можа, самы агідны для мяне занятак.

Таму я зь нецярпеньнем чакаю пятніцы, каб хоць на два вечары забыцца на гэты абрыдлы рытуал мужчынскай гігіены.

А якраз і была пятніца. Аднак я пагаліўся, бо намагаўся жаночай блізкасьці, і яна абяцалася...

Але пасьля, чакаючы, пакуль жонка ўладзіцца са сваімі справамі, я ўнурыўся ў сьвежыя кніжкі-часопісы-газэты, так захапіўшыся, што апрытомнеў для рэчаіснасьці толькі а першай гадзіне ночы... Жонка ўжо спала...

Які гнеў авалодаў мною на ўсё і ўся! О Божа! Навошта ж я галіўся?! Для каго, для чаго?!

Сеў, папаліў, супакоіўся... Думаю...

Колькі ж я перачытаў мудрых кніжак, а першабытны пачатак урэзаўся ў маё чалавечае Я, як вострае лязо брытвы ў зарослы валасяной шчэцьцю зьвярыны твар..

І ці толькі ў мой?

Зьвера не паголіш... Ён сам выліняе па часе, але час зноў і зноў надае яму рысы першабытнасьці...

***

І за што я люблю гэтага чалавека?!

Ды — ні за што. Проста — чалавек ён, аднойчы народжаны, жыве, чакаючы сьмерці...

Хіба можна яго не любіць, такога ж няшчаснга, як і ты сам?..

***

Чалавек узяты зь зямлі (гліны), зямлёю і забіраецца.

Слова — гэта адзінае, што зьвязвае яго зь небам. Але пакуль сэнс Слова не разгаданы, неба — недасяжнае...

***

Слова сьцьвярджае сябе, дзякуючы свайму кораню. Толькі корань словаў несумненны.

***

Гавораць, што я шмат пішу пра сьмерць. Гэта — так.

Але ў сваіх словах я намагаюся ўраўнаважыць Яе з Жыцьцём. Спрабую даць сьмерці права на жыцьцё.

І гэтыя словы мае адрозныя ад слоў тых, хто хацеў бы зьвесьці жыцьцё да сьмерці.

***

— Ды зьезьдзіў бы ты хоць раз за мяжу, ды параўнаў тутэйшае жыцьцё з тамашнім! Адсталы ты, цёмны чалавек...

Для мяне гэта па-за лёгікаю. Як можна параўноўваць жыцьцё з жыцьцём альбо сьмерць са сьмерцю. Абсурд! Формы ж, у якіх нашыя жыцьці месьцяцца, мяне, можна сказаць, не цікавяць.

Гэта як у базарнай показцы.

— Купі, браток, карову — сем цыцак мае! Больш такой не патрапіш...

— А малако дае?

— Ну, галава. Дык я ж кажу, сем цыцак мае...

— Навошта мне цыцкі, мне малако трэба...

***

Дома па кватэры хаджу. Па службовым пакоі хаджу. Па вуліцах... Адзін хаджу, з усімі і перад усімі...

— Ды сядзь ты, нарэшце, мільгаеш перад ваччу, як надакучлівая муха! Сядзь — у нагах праўды няма...

А я і не хаджу ў пэўным сэнсе слова — я думаю... Звычка? Ня ведаю. Проста, мысьленьне змушае мяне рухацца... Як тут ня ўспомніць: руху няма, сказаў мудрэц, а другі ўстаў і пачаў перад ім хадзіць...

Колькі ног стаптана!..

***

Неаднойчы журліва да сьлёз робіцца вечарамі на адзіноце. І мае вочы поўняцца вільгацьцю не ад таго, што мне радасна да ўзьнёсласьці душэўнай ці блага да ненавіснасьці, а ад таго, што падобнай хвіліны ўжо ніколі ня будзе.

Будуць вечары, але не такія, буду я, але ня той...

***

Уся лёгіка павінна пачынацца з Бога, толькі тады наша мысьленьне ўступае ў дыялёг з Сусьветам...

***

Трэба любіць усіх людзей. Увесь чалавек дрэнным не бывае...

***

Адзін раз у жыцьці я выпіваў інтэлігентна. Зь Янам Скрыганам у яго службовым пакойчыку на Фрунзэ, 5. Малюпасенькімі чарачкамі-напарсткамі, у якія капалася з шыкоўнай нямецкай квадратнай кварты, што даставалася з-пад замка цяжкага зялезнага савецкага сэйфу.

Смакавалі замежны напой пад сурдзінку, папярэдне замкнуўшы ўваходныя дзьверы. Разумна напаўголаса га-

варылі пра літаратуру высокім штылем, асабліва калі Іван Аляксеевіч даставаў карткі з выпісанымі цытатамі нашых ды замежных клясыкаў. Выкшталцоны Ян Скрыган тварыў сьвяшчэнадзейства...

... Цяпер на Фрунзэ, 5 ужо колькі гадоў запар пасьвінску п'юць у адкрытую і гамоняць па ўсіх магчымых закутках. Бывае — і пра літаратуру, але не пра тую, пра якую хацелася б слухаць...

***

Ніяк не ўбярэцца вясна... Макрэць, вецер, холад...

Ды — не, відаць, проста старэю. Вунь, запыханая ружоващчокая дачка прынесла з прагулянкі некалькі галінак вярбы з пухнатымі коцікамі... Вясёлая, жыццярадасная, ставіць іх у гладыш, налівае ваду...

Яе вясна наступіла, а мая ўжо мінулася. Дый чакаю ня столькі самой вясны, як цяпла, каб адагрэць сваю схаладзелую зямную плоць...

***

„Я — у адчаі! Шукаю багатага чалавека, які прыватызаваў бы паэта з рукапісамі, сям`ёй і тэлефонам нумар шэсьцьдзясят пяць пяцьдзясят шэсьць дваццаць сем. Буду ўдзячны. Л.Г."

***

Нішто не даецца так цяжка, як жыць самім сабой...

***

...Прачнуўся сярод ночы... Здалося, што званілі ў дзьверы. Хто б гэта мог быць — ляжу насьцярожана ў чаканьні паўторнага званка. Аднак — ціха... Падымаюся, іду да дзьвярнога вочка. На лесьвічнай пляцоўцы — нікога...

І ўсё адно ўражаньне, што менавіта званілі, не праходзіць і што наяве, а ў ня сьне — таксама. Ня спаў да ранку...

Магчыма, усё ж званілі ня ў дзьверы, але тое, што званілі мне — несумненна. Хто і чаго? Але добра ўжо і тое, што прыслухоўваюся і чую, што неабыякавы да ўсяго, што будзіць... што яшчэ прачынаюся на ўсе істотныя званкі і позвы...

***

Жонка мая ў дзявоцтве вучылася ў Літаратурным інстытуце і пісала не зусім благія вершы. Аднак выйшла замуж, закінула гэты занятак і стала зусім неблагой жонкай і надзіва прыстойнай жанчынай...

***

Ня ведаю, ці ёсьць яшчэ цяпер у Цімкавічах, што непадалёку Капыля, лячэбна-прафілякторна-працоўна-прымусовая ўстанова тыпу ЛПП... Трымалі там да трох месяцаў розных бамжоў, п'яніц і проста аматараў выпіць па-за жончынымі вачыма...

Быў там завод зялезабэтонных плітаў, а рабочых бракавала. Таму меўся яшчэ і вось гэты згаданы прафілякторый. Лячылі там парашкамі, якія выплёўваліся з-пад языка ў гальюн, ды ўколамі аміназіну, каб супакойваць занадта ўвішных (пасьля іх пацыент хварэў па-сапраўднаму і цягаў нагу, як кувалду), бо якраз праз чыгуначнае палатно перад вачыма спальнага памяшканьня, спакусна віднелася крама з гарэлкай... Аховы асаблівай не было — усё адно пасьля вернуць і даражэй абыдзецца — толькі абрыдлыя шараговыя праверкі ранкам, абедам і вечарам, як у войску...

— Базаревич!?

— Тута я...

— Ах, ты ещё „тута"?! Хорошо, пойдешь в ночную на растворный...

Карацей, крама была даходнаю, а прадаўшчыца мажнаю...

Ісвось, у той час, калі я гарбеў на пагрузцы зялезабэтону, выдавецтва „Мастацкая літаратура" даўмелася выдаць у сьвет першую вершаваную таміну „Таемнасьць агню". Даведаўшыся пра тое, я адправіўся ў Капыль, каб здабыць сабе ў местачковай кнігарні на ўсе тры пазычаныя рублі дванаццаць асобнікаў сваёй рыфмаванай працы. Томікаў аказалася толькі два. Затое рэшты — два рублі і пяцьдзясят капеек. Гэтага якраз і хапіла, каб аплакаць аўтарскую радасьць на пару з „гусаком" вэрмута...

Вядома, вярнуўся я на „службу" ва ўзьнёслым настроі... і чытаў свае вершы гаротным пацыентам, мэдсёстрам і нават самому „доктару", якога мой філялягічны ўхіл жыцьця надта насьцярожыў...

Атрымаўшы сваю дозу аміназіну, я паўстаў і загана-рыўся. Выратавала мяне запрашэньне на нараду маладых пісьменьнікаў ажно ў Маскву, якое брат прывёз назаўтра. І ўсё ж „гіпакрат па гарэлцы" нізавошта не хацеў мяне ад-пускаць, зьбіраючыся тэлефанаваць і пісаць „куды трэба"...

А я — зьбег... Мяне шукалі, каб адправіць у ЛПП на два гады (гэтая пастанова ёсьць у архіве Клецкага нарко-ляга)...

Аднак пасьля Масквы і хуткага прыёму ў Саюз пісь-меньнікаў на такі „адказны" крок ужо не рашыліся. Хоць, счакаўшы два гады, пры гарбачоўскай барацьбе з п'ян-ствам, усё адно ўпяклі ў Крывошынскую вар'ятню. Але бу-дучы менавіта там, я і пачаў сваю дзейнасьць, як агля-дальнік газэты „Літаратура і Мастацтва"...

Цяпер, здаецца, зноў надыходзіць такі час, калі ў дзяр-жавы можа ўзьнікнуць патрэба ўва мне. Ну, да прыкладу, пустуе вакантнае месца дарадцы прэзыдэнта па пытань-нях цьвярозасьці...

***

Паэт Анатоль Вярцінскі пры кожнай нагодзе любіць паўтараць выказваньне амэрыканца Робэрта Фроста. Маў-ляў, назваць сябе паэтам — гэта амаль тое ж самае, як сказаць, што ты добры чалавек...

Але добры чалавек аніяк ня зможа быць добрым паэ-там. Паэт — чалавек жорсткі ў адносінах да сьвету, людзей і, у першую чаргу, да самога сябе... А лепш сказаць — шчы-ры, праўдзівы да жорсткасьці.

Можа, якраз праз гэта Бог нялітасьцівы да саміх паэ-таў, якія часам намагаюцца ўскласьці на сябе Яго непа-мысную місію...

***

Хачу, каб мяне пахавалі ў вёсцы... Бяз гэтага прата-кольнага вынасу цела з халодных глухіх сьценаў Дома Літа-ратара, без абыякавых шкадобна-рытуальных поглядаў, без казённых словаў пра мае словы, бяз кветак, якія купля-юцца на грошы Літфонду, бяз мёртвай канцлягернай пус-тэльні Паўночных могілак... Каб хавалі не выпадковыя ка-легі па пяру і працы, а родныя і блізкія мне людзі.

У вёсцы хаваюць чалавечней, разьвітваюцца шчыра і як бы не назаўсёды, яму капаюць на вышэйшым месцы — глыбокую і ёмкую, многа плачуць і сьветла помняць...

... — І хто ж мне цяпер агарод заарэ?..

— Я ўжо й думаць змаглася, што нехта пасобіць, аж, дзякаваць Богу, ён...

— ... а ён паглядзеў толькі так, і хоць бы благое слова сказаў. От чалавек быў...

— ... зробіць работу, вып'е, закусіць, а грошай ніразэчку ня ўзяў...Душэўны...

— ... то ж пахаваем яго дый самі сьледам, і за ім як бы ўжо і ня страшна...

— ... хорашанька, радком, поруч з сваімі ляжа... Сямейкай спачываць — лепш і не дагодзіш, каб усім у свой час так Бог даў...

— ... пажыў, нарабіўся, нагасьцяваўся — то, ведама, такі чалавек і Богу стаў заўгодным...

— ... матачкі, ляжыць, што жывы, наўпраўду, мо ён нас чуе...

— ... прыбраны такі, прыгожы, мо ці было калі так, жывучы, прыбірацца...

— ... хай бы пабачыў, што да яго ўсе людзі прыйшлі... бо ўсім любы быў... нават вунь Хведар, што ўжо казаць, калі і Хведар прыйшоў...

Шкада толькі — царква ў нас свой драўляны век аджыла. Струхлела, разваліласся... Казалі, некалі яе старая пані на свае грошы тут збудавала. Прозьвішча ў яе было Вароніна. Вельмі ж месца ёй падалося: сярод лесу — балота, сярод балота — гара... Нават дарогу-брукаванку пачала будаваць... Ды... затое камісары ў пяцідзясятых пабудавалі поруч з могілкамі сьвінафэрму, ім таксама месца спадабалася... Сёньняшнія пакуль у задуменьні: ці то сьвіней даесьці, ці то царкву аднавіць?..

А людзі тым часам жывуць ды паміраюць... І да той пары, пакуль тут будзе жыць хоць адзін чалавек, будуць і могілкі. І — памяць таксама...

Хачу тут легчы. Стомленым і бяскрыўдным да ўсіх і ўсяго, як тыя, што жылі, і тыя, што яшчэ жывуць, і тыя, што пахаваюць і будуць жыць...

Сьмерць ня губіць жыцьцё, яна яго бароніць ад старасьці і бяспамяцтва...

***

Кажуць, што ў нашым прэзыдэнту *памёр* чалавек. І ў гэтым выпадку, мяркую, на *адраджэньне* ўжо няма аніякай надзеі...

***

... Краіна гаротных несьвядомых рабоў... І — я ?! Са мной яшчэ страшней: я — раб сьвядомы...

***

Вечарам тэлефануе сябар па пяру. Узбуджаны і зранку апахмелены, пагрозьліва завярае, што кідае піць — раз і назаўжды...

Колькі трагізму ў яго голасе!.. Але трэба зазначыць, што і рашэньне неардынарнае. Не дачакаўшыся маёй рэакцыі, маўкліва пасопшы ў трубку, заклапочана дадае: „Вось толькі дапішу яшчэ адну рэч... Праўда, рэч сур`ёзная і аб`ёмная. Часу, відаць, адыме шмат..."

Гамэрычны ўздых і — поўнае ўзаемаразуменьне...

***

У пераходзе мэтро на плошчы Перамогі ў стракатым натоўпе згледзеў Васіля Быкава. Адзінокі састарэлы мудрэц... Але бачны ў гэтым бязвольным натоўпе і выбітны зь яго менавіта сваёй адзінокасьцю і мудрасьцю — АДЗІНКАВАСЬЦЮ...

***

Чытаю новую кніжку Алеся Разанава і асуджана разумею: ён — неба, а я — зямля...

Суцяшае толькі тое, што мы знаходзімся на роўнай адлегласьці адзін ад другога...

***

Чакаю прыходу Велікодных сьвятаў, каб нарэшце паехаць у вёску і пахрыстосавацца з мамай. І наогул — пабачыць сваё і сваіх, пагаманіць, абагрэцца душэўна, падыхаць прыродай і зямным людзкім словам...

Надта ўжо задоўжылася чаканьне гэтага майго чалавечага ўваскрашэньня...

***

Апоўначы чульліва перачытваў Фета. Унутрана, падсьвядома параўноўваў з нашым рамесьніцтвам...

Адназначна, што ў чалавецтва значна паменела душы і пабольшала розуму, а лепш сказаць, разьліку...

У нас вынікаюць словы зь вершаў, у яго — вершы са словаў...

***

У расейскай тэлеперадачы „Момантісьціны" журналіст Андрэй Каравулаў гутарыць зь літаратарам Булатам Акуджавам. Пасьля размовы аб прэзыдэнцкай камісіі па памілаваньнях, у якую ўваходзіць Булат Шалвавіч, пераходзяць да крывавай тэмы руска-чачэнскай вайны...

І раптам, Каравулаў задае правакацыйнае пытаньне мэтру-гуманісту: „Булат Шалвавіч, а ці парукаліся б вы з Грачовым пры сустрэчы?" „Не, вядома, не... Я не падаў бы яму руку..." — адказвае мараліст-літаратар.

— А Ельцыну?

— Ельцыну... падаў бы...

... Паўза...

Як кажуць у народзе: за што адных мілуюць, за тое другіх караюць... Вось яна, сёньняшняя мараль дэмакрата з камісіі па памілаваньнях.

***

Калі я жыў у Маскве ў бурны час мітынговай перабудовы, у мяне, у інтэрнацкім пакоі літаратурнага інстытута завялася мыш... Маленькая, шэранькая. Ноччу не давала спакою і даводзіла цяжарную жонку да істэрыкі...

Я адшукаў у падлозе невялікую дзірачку ад сучка, праз якую мыш мела сувязь з божым сьветам; выстругаў драўляную затычку ды забіў тую дзірку.

Няшчасная мыш цэлы тыдзень шкрабалася і пішчэла пад падлогаю. З кожным днём — усё цішэй і цішэй...

Мне цяжка перадаць, што тварылася ў маёй і жончынай душы... Прынамсі, я адчуваў сябе забойцам, ня кажучы ўжо пра жонку, якая сама павінна была неўзабаве выпусьціць на сьвет жывую душу...

Урэшце праз колькі дзён і начэй усё сьціхла... Але тая цішыня стаіць увушшу да гэтага часу...

***

Каб абвесьціць прыход літаратурнага генія, некаму пра яго зьяўленьне, апроч яго самога, трэба сказаць уголас першым. Ня кожны адважыцца ўзяць на сябе такую адказнасьць. Ды некаму ж трэба.

Няхай я буду першым: Разанаў — геній...

Мы — глядзім, а ён — бачыць, мы — думаем, а ён — мысьліць...

Вось і я — усяго толькі думаю, хоць і напісаў. О, гэты літарацкі сьверб быць першым...

***

Каму мулка ў грамадзтве, таму ўтульна ў літаратуры.

***

Памятаю, школьнікам я ніякавата адчуваў сябе, натыкаючыся ў рускіх тэкстах на слова „інстытутка". Прыкладна так, як адчуваю сябе цяпер, натрапіўшы ў газэтах на слова „прастытутка".

Мабыць, нейкая сувязь між імі ўсё-ткі існуе...

***

Наш прэзыдэнт на сустрэчы з журналістамі ў жывым этары. „Меня никто не создавал! Меня сделал народ!"

А нас — няшчасных — бацькі... І ў гэтым уся трагедыя бацькоў і дзяцей, пра якую яшчэ калісьці выдатна напісаў Тургенеў...

***

Зь сярпом і молатам супраць мяча! Няшчасная геральдыка ў руках барбараў...

***

Здаецца, бальшавікоў агораю. Магчыма, Бог дасьць, перажыву камсамольцаў...

І ўсё ж піянэры ды акцябраты мяне даканаюць...

***

Жонка адшукала летнія тапкі, якія падаравала ёй колькі гадоў таму паэтка Надзея Артымовіч, неспадзеў гасьцяваўшы ў нас. Усё па часе прыдаецца і знаходзіць у сабе патрэбу...

Артымовіч і нейкія тапкі?! Але жонка задаволена, а я згадваю ў памяці радкі беластоцкае паэткі:

... паэты паміраюць тады
калі знойдзены дакладныя адрасы.

... А зусім нядаўна Ян Чыквін паведаміў сумную вестку: роднаму брату Надзеі, апроч ампутацыі ног, дактары ўжо нічым дапамагчы ня могуць...

***

За абедам слухаю напаўвуха радыёперадачу пра бацьку Міная-Шмырова... Не разумею гэтай камуна-славянскай гераікі. Дзеці — заложнікі — расстраляныя, бацька — партызан — жывы... У імя якой чалавечай ідэі гэты бацька не пайшоў на магчымае і немагчымае выратаваньне сваіх дзяцей?!

Як пісаў паэт (жонка ўспомніла яго радкі зь верша ці паэмы): „Ён ня мае на гэта бацькоўскага права". А права на бацькоўства ён меў?

Госпадзе, „окстись" ад такога бацькі! І ад такога паэта, які напрыканцы яшчэ і дадае патэтычна: „Вось і ўсё. Перад бацькам Мінаем станьце ўсе бацькі на калені".

Апошнія радкі дапісваю цяпер, адкапаўшы аўтара. Куляшоў, на жаль...

***

Сёньня — Радаўніца, дзень памінаньня рускай праваслаўнай царквой сваіх продкаў. Цэлы дзень дзьве расейскія праграмы тэлебачаньня круцяць кінакамэдыі... „Паласаты рэйс", „Вясельле ў Малінаўцы", „Прывітаньне, я ваша цётка", „Жандарм у Нью-Ёрку"...

Што тут скажаш: гуляй, Ваня! „Умом... — як напісаў Цютчаў, — не понять..."

***

Абсурд нашага жыцьця выцякае з нашай празьмернай лягічнасьці...

***

У чалавеку, перш за ўсё, важна разуменьне і ўсьведамленьне сваёй грэшнасьці. Ня думаю, што ёсьць сьвятыя ў сёньняшнім грэшным жыцьці. Гэта ў прынцыпе немагчыма, ёсьць проста не ўсьведамляючыя свайго граху. І гэта страшна... Ад іх ідзе радавод грэшнікаў.

***

Маці папрасіла занесьці ў лес трох маленькіх, яшчэ напаўсьляпых кацянят і — закапаць...

Я набраўся мужнасьці, узяў рыўлёўку і, асьцярожна паклаўшы іх у мяшок, пайшоў... Ледзь уступіўшы ў прылесак, стаў абдумваць тое, што мне трэба зрабіць. Але думкі роіліся, сэрца таххала, душа не давалася...

І раптам, мабыць, ад нэрвовай узбуджанасьці на мяне найшло адчайнае барбарства — бязвольнае, інстынктыўнае, безвыходнае, можна сказаць, жывёльнае...

Ашаломлена і хутка я выкапаў ямку на два рыдлёвачныя штыхі, нягледзячы, вытрас туды кацянят і груба засыпаў іх адчайны піск, прытаптаўшы нагой...

Ня думаючы, не азіраючыся, пайшоў прэч... Нястрымана зьвінела ўвушшу... І я, нечакана для сябе самога, подбегам вярнуўся назад. Напружана ўслухаўся... Ціха было... Цішыня глыбела наўкол мяне.

І тады, ужо асьцярожна ступаючы па зямлі, я пайшоў да хаты. І толькі каля весьніц душа дагнала мяне... І мне яшчэ трэба было наноў зжыцца зь ёй...

***

Я магу ўступіць у палеміку зь любым інтэлектуалам, нават заведама ўсьведамляючы свой пройгрыш. Мяне, часьцей за ўсё, цікавіць ды інтрыгуе не сама спрэчка, ня доказы і не аргумэнтацыя. Мяне захоплівае ня столькі сутнасьць, колькі сам працэс мысьленьня — чалавек у слове і слова ў чалавеку...

З простымі вясковымі людзьмі я ніколі не палемізую нават па самых наіўных і простых зямных пытаньнях. Мне ніякавата і сорамна зь імі спрачацца. Я слухаю і ўслухоўваюся...

Размова можа быць нецікавай і нават пошлай, а словы — пахнуць перашабытнасьцю....

***

Будучы на малой радзіме, нечакана сустрэў у Клецку мясцовага знаёмца, мастака Сашу. Стаіць у гандлёвым радзе зь дзядзькамі ды цёткамі — прадае штучныя прыгожыя кветкі, прывезеныя з Кітаю ці Галяндыі.

Заўважыўшы, што я яго згледзеў і пазнаў, вінавата-патасна гарлае: „О, якія людзі наведалі нарэшце свой родны кут! Хочаш букецік файны? Задарма...”

Патаптаўшыся, сьцішана распавядае: майстэрню закрылі, жонка на інваліднай групе, адна дачка ў сталічным інстытуце, другая канчае школу... Даводзіцца вось так выжываць... Навар не вялікі, але нешта перападае... Шкада пэндзляў... Ківаю галавой. Абодвум няёмка...

— А ты ўсё пішаш ды па тэлевізіі выступаеш?..

— Не выступаю ўжо... Нешта ўсё крэмзаю...

— Усе мы нешта крэмзалі... І — вось...

— Не адчайвайся...

— Звык ужо. Ня думай толькі ... наўпраўду, вазьмі букецік дачцэ...

... Разьвітваемся, хаваючы самоту вачэй.

Мастак гандлюе штучнымі кветкамі. Але не сьпяшаймася прыніжаць ці асуджаць яго. Давайце прыгледзімся да сябе. Якімі „кветкамі” гандлюем мы?

Саша, дзякаваць Богу, гандлюе толькі штучнымі. Штучнымі гандляваць можна, каб не завянуць жывым...

***

Хацеў пазычыць грошай на блёк танных цыгарэт у каго-небудзь з рэдакцыі. Ні ў каго няма. І гэта насампраўдзе.

Але ж нейк жывём, пры ўсім тым і часопіс час ад часу, але выходзіць. За якія шышы — адзін Бог ведае... Такая ўжо дзіўная краіна выпала для жыцьця і выжываньня.

— Дай цыгарэту, Валянцін...

Працягвае апошнюю. Дымім... Думаем... Пішам...

***

Мялю вечарам каву, паставіўшы кавамолку на томік Васіля Розанава. У мяне — пяты паверх, блёчны хрушчоўскі дом. Усё агучваецца зьверху да нізу... і наадварот... Калі малоць каву на стале, то адбываецца страшэнная вібрацыя, а суседка пада мной — хворая на сэрца...

Таму для амартызацыі падкладаю пад кавамолку кніжку тую, што якраз пад рукой.

Сёньня — Васіль Васільевіч. А заўтра гэта можа быць Мікалай Васільевіч, той, што Гогаль, зь якім ВасільВасільевіч ня тое што не сябруе, а падчас варагуе нават... Што ж — пад кавамолку яго!

Але абодва ведайце, што пасьля, за кавай, я вас чытаю з аднолькава глыбокім роздумам.

Божа, „дажыць бы" мне да такога! Ды — хоць пад сядзеньне ў машыне!..

***

Ёсьць у мяне як для літаратара „шызанутае" аматарства — футбол... Ходзім на цікавыя матчы разам зь Пятровічам і Асташонкам. Усе трое, мы — невылечна хворыя. І дыягназ нашай хваробы — не 3 : 0 ці 0 : 3, а — круглы, як зямля, мяч у павуціне няўпільнаваных варот іх самотным апосталам...

Палова стадыёну — шалее ад шчасьця, палова — няўцешна смуткуе... І мы хварэем ад таго, што ніяк ня можам скласьці гэтыя дзьве паловы ў адно цэлае і гарманічнае...

***

Сёньняшняя літаратура напамінае мне лапушыстую капусту: зялёных лістоў многа, а качана няма...

***

Глядзеў першынство сьвету па хакеі з шайбай: Расея — Чэхія. „Хварэў" за чэхаў. Фінальны сьвісток: 0 : 2 — чэхі выйгралі!..

І — узьнёслыя эмоцыі чамусьці патухлі. Апанавала расчараваньне і нейкая апатычная незадаволенасьць самім сабой... Ну, ня ведаю, — адчуваньне, што і ты ня выйграў...

Часта ў адносінах да Расеі ў глыбіні душы вось *гэта* цепліцца і, нават залічваючы сябе ў пэўнай меры да людзей з нацыяналістычным сьветапоглядам, не магу гэта ў сабе пераадолець...

***

Раб сам сабе выкуе аковы, сам іх і парве. Ён адчувае сваю магутную сілу і не баіцца выкоўваць сабе ўсё больш і больш надзейныя аковы...

„Я — раб! — пырскаючы сьлінай, крычыць ён сваім цёмным горлам, адначасна напаўняючыся пыхлівым гонарам за сябе ў стыхійным натоўпе падобных яму рабоў. — Я — прыгнечаны і няшчысны раб!"

„Мы парвём свае путы!" — пагрозьліва крычаць яны ўяўнаму ўладару. „Рвіце! Сабе даражэй, — спакойна і мудра разважае вечны ўладар. — Заўтра будзеце каваць новыя".

***

Часта на вечарынах назіраю, як слухаюць Разанава. Не разумеючы ў большасьці таго, што ён павольна, паскладна выцыганьвае з свайго розуму... Людзям, перш за ўсё, цікавы сам працэс яго моўнага мысьленьня, ды і ўвогуле — сам ён цікавы, як цікавы другі бок Месяца і жыцьцё на Марсе...

Людзей прыцягвае таямнічае, неразгаданае, незразумелае...

Яны ня прагнуць адкрыцьцяў, ісьціны, здаровага сэнсу, бо ўжо добра ўсьвядомілі, што ў кожнай ісьціне прыхавана патэнцыйнае зло...

Ім хочацца адрынуцца ад зямнога, павіснуць між зямлёй і небам. Яны чакаюць цуду, але не ад саміх сябе... Інтэлігенты — ад Пазьняка, іншыя — ад Лукашэнкі... Астатнія нічога і ні ад каго не чакаюць, проста — жывуць... Натуральнае жыцьцё і ёсьць найвялікшы цуд, падараваны чалавеку Богам.

***

Здаецца, ня раз гучалі прапановы вылучыць палянэз Міхала Агінскага „Разьвітаньне з Радзімай" як адмысловы твор для гімна Рэспублікі Беларусь.

Як гэта ўжо сёньня злабадзённа і прароча!..

***

Еду ў тралейбусе на работу. Мінуў тыдзень пасьля рэфэрэндуму. Смуткам поўніцца асірацелая душа...

Углядаюся ў акно — лаўлю вачыма аскепкі белых і чырвоных колераў. І ненаўмысна гэта, а спрацоўвае падсьвядомасьць. І колераў гэтых няшмат, але трапіўшы ў поле зроку паасобна — белы і чырвоны — імгненна спалучаюцца, магнэтычна прыцягваюцца розумам адзін да аднаго ў розных ракурсах...

На вуліцы Куйбышава — раптам! — хударлява-хваравіты хлапчук гадоў дзесяці ў ярка-чырвоным швэдры, з зламанай рукой на белай бінтавай падвязцы...

Унутрана скаланаюся — вось ён, наш сымболь...

***

Пражыўшы на сьвеце сорак пяць гадоў, я — вясковец па нараджэньні і па сутнасьці сваёй — ніколі да гэтага часу ня еў сала і ня піў малака...

Ня ведаю чаму — ці то арганізм не ўспрымаў, ці то выбар у харчаваньні быў адносна багацейшы...

І ня еў я таго сала, і нават гідзіўся ім і пры Сталіне, і пры Хрушчове, і пры Брэжневе, і пры Андропаве, і пры Чарненку, і пры Гарбачове, і пры Шушкевічу, і пры Грыбе нават...

Учора — пры Лукашэнку — паспытаў. У халадзільніку, апроч яго, чамусьці больш нічога не было, а есьці хацелася. Халоднае, з маразілкі, з цыбуляй — я еў сала ўпершыню ў жыцьці...

А што — голад зьбівае... Але пры гэтым міжволі адчуў сам у сабе нейкую разьмежаванасьць, і цэльнасьць пэўная прапала, і гонар сапсеў...

Да таго ж у жонкі зьявіўся неаспрэчны аргумэнт для іроніі: Лукашэнка, маўляў, адновіць у табе „дзярэвню", верне да сьвінства"... Вядома, у падтэксьце яна трымала і той факт, што ў маладосьці я доўгі час працаваў электрыкам на сьвінагадоўчай фэрме...

***

Свабода — гэта калі думаеш, няволя — калі сьцьвярджаеш задуманае...

***

Літаратурная палеміка за вінным сталом. Акудовіч: „... не люблю паэзію за тое, што яна памірае..." Разьвіваючы далей сваю канцэптуальную думку, лягічна даводзіць яе да пэўнай (абранай заўчасна?) высновы: паэт ня будзе пастацьцю ў XXI стагодзьдзі, якой ён быў, пачынаючы з XXI стагодзьдзя да нядаўняга часу...

Аднак, на мой погляд, усе падобныя ды іншыя канцэпцыі ня маюць пад сабою асновы ў непрадказальнай

эвалюцыі чалавечай культуры. Тут чамусьці найбольшымі прарокамі былі фантасты, як гэта ня дзіўна...

Зрэшты, паэты і ёсьць фантасты ці, скажам наадварот, фантасты ёсьць паэты...

***

Ноччу выйшаў на балкон папаліць... Цяплынь, ціша, зорная бездань... І ўспомніўся міжвольна Кант зь яго агульнавядомым філязофскім пастулятам: ...ёсьць дзьве неаспрэчныя рэчы — зорная неба нада мной і маральны закон ува мне...

... Як бы бачыцца нават: сядзіць гэты геніяльны карлік у Кёнігсбэргу ноччу на каменных прыступках дома, а зьверху, з далёкіх зорных вышыняў апускаецца да яго, сьвецячы німбам, убелены вечнасьцю Гасподзь і шэпча яму тыя словы... Кант не ўсьведамляе ўчутага ім, але разумее непагрэшную існасьць сказанага, і ўсё паўтарае і паўтарае пра сябе тыя словы, пакуль ня ўпэўніцца, што яны ўжо яго, — і зорныя сьлёзы цякуць зь бяздонных вачэй філёзафа...

Уздрыгваю нутром ад сваёй нечаканай думкі і ўяўленьня — зачыняю балкон... І зорны сусьвет за сабой... і вечнасьць... Заснуць будзе цяжка...

***

Сумная сытуацыя зь беларускай мовай... Але яшчэ больш сумная сытуацыя з самім беларускім чалавекам...

***

Калі ў мастацтве пачынае прысутнічаць разьлік, то ў выніку гэтага Гамэр ператвараецца ў Эўкліда, а Пушкін — у Лабачэўскага...

***

Заўважыў, што ў сям'і і на рабоце на „омерзительные" (паскудныя) тэмы я міжволі пачынаю гаварыць па-руску. Да гэтага, відаць, змушае рускі мат, бо нашая лаянка залішне памяркоўная...

***

Чалавек бяз слова, бяз мовы скацінее. Паназірайце за жэстамі людзей, якім не хапае словаў у запале гутаркі. Іх міміка і жэсты — жывёльныя...

***

Паэты ад Бога — людзі ненармальныя... І сапраўды, хіба можа нармальнае (унармаванае) натхніць аўтара і ўсхваляваць чытача?..

***

Творца піша так, як думае, а графаман думае так, як піша...

***

Я пішу рэдка, а трэба было б гусьцей...

***

Можна філязофстваваць на вадзе, можна — на агні... Я люблю — на кіпені...

***

Наіўна-інтуітыўна падумалася: толькі ад уласнай сьмерці не застаецца аніякіх уражаньняў...

***

Чытаю, разглядаю перадсьмяротныя вершы Максіма Танка. Звычайны школьны сшытак у клетачку...

Не захапленьне, а зьдзіўленьне перасьледуе мяне, бо нічога ў тых дробна-вузлаватых радках новага і надзвычайнага няма, але ёсьць, як гаворыць Разанаў, „жывое дыханьне". Яно і схіляе мой чалавечы пэсымізм да аптымізму. Сьмерць жывіцца плоцьцю, а паэзія — духам.

Скурко памёр — Танк застаўся...

***

Філязофія — гэта не навука. Філязофія — гэта суб'ектыўнае жыцьцё.

***

Прыехаў летам на адпачынак да мамы ў вёску. Дні міналіся неўпрыкмет за рознымі сялянскімі клопатамі...

А вечарам — о Госпадзе — чытаў-праглядаў газэту „Вечерний Минск", якую сёлета чамусьці выпісалі большасьць вяскоўцаў. І ня ў кошце, відаць, тут справа... А ў

чым? Як сказаў паштальён маім усівелым землякам: будзеце ведаць, як вашы дзеці ў горадзе жывуць...

***

Ляжыць хворая цётка, не ўстае... Суседзі так-сяк глядзяць за ёй, бо ўсе дзеці цётчыны ў гарадах і розныя ў іх важныя прычыны...

Прычынаў заўжды процьма, а маці — адна...

Аднойчы яна і кажа суседцы, якая з-пад яе прыбірае: „Вы ўжо, пэўна, і ягад, і малін на варэньне панацягвалі... Я ж не магу, хоць крычы... А трэба было б сыночку хоць вядзерца сабраць — у яго ж дзеткі малыя..."

***

Бабуля мая скрушна: „Унучак, цяпер да мяне па тыдні ніхто дзьвярэй у хату не прыадчыняе... Ляжу тут адна, як у яме... Нічагусенькі ня ведаю — што-дзе... Відаць, і пра сьмерць сваю апошняй даведаюся..."

***

Яна зноў жа — мне пры размове: „Чалавек любое гора агорае, а раскошу — не..."

***

Яна, пагладжваючы па галоўцы маю дачку: „Шануй бацькоў сваіх, Аксенька, — і Бог палюбіць цябе..."

***

Сухенькая мая бабуля, сьветленькая... Як пісаў я калісьці: „... і ценю яе няма"... Не пісьменная, але начутая. Слухае радыёкропку, каб ня так адзінока пачувацца ў пустой хаце. Хоча дазнацца, што я раблю ў тым горадзе... Адказваю ёй, што пішу патрохі... Прастадушна, але настойліва дапытваецца: „Каму, унучачак?.."

***

Напіўшыся да глыбокай стомы, прыехаў падвячоркам сусед з Клецку, каб на досьвітку скасіць поплаў у гародзе маці, ужо нябожчыцы... Бухнуўся на раскладушку ў двары, а радыё пакінуў на падваконьні ўключаным на ўсю моц... І чамусьці выпала таму галёкаць на хвалях радыё-

станцыі „Свабода"… Міколу гэта не перашкаджала. Устаў ён на досьвітку, скасіў поплаў яшчэ па расе…

Апоўдні сустрэўшыся зь ім, іранічна пытаюся: „Мікола, і што там новага па „Свабодзе" казалі?" Сур`ёзна адказвае: „А што яны нам, цёмным рабацягам, новага скажуць ?! Разбудзілі на зорцы — кажуць: годзе спаць мужыкі, пара за косы брацца…"

***

У калгасе як кралі, так і цяпер крадуць. Можа трохі менш, бо ўжо мала чаго засталося. Пры тым — сьвядома крадуць і ня надта хаваючыся. Цягнуць з фэрмы рознае дабро — хто выганам, хто ўзьлескам. А я ў мамы за плотам дровы калю…

— Дабрыдзень, Лявоне! Дровы шчапаеш, маці памагаеш — добра, добра… А я, во, на фэрме сьвіньням мукі травяной узяў… Трэба ж вас неяк у горадзе карміць…

— Дык грэх жа…

— Мы, Лявоне, за іх галасавілі. А камуністыя ўзяць заўжды давалі, абы толькі ў меру… Па магчымасьці, так сказаць, і здольнасьці… Здаецца, так у іх запісана…

***

Мова і культура захоўваюцца ў вёсцы ня дзякуючы культурнай палітыцы дзяржавы, а — насуперак ёй… Якія б разумныя і сьветлыя словы мы не пісалі — яны ўжо ня новыя. Усе новыя словы нараджаюцца тут, у вусьцішных вуснах прыродных вясковых беларусаў.

***

Каця (руская паваенная ўцякачка): „Ой, якая дачушка ў вас культурная! Гэта ж ехала па нашай вуліцы на лісапедзе, ды тапак з нагі згубіла… Прыпынілася, стаіць на адной ножцы, просіць мяне: патрымайце, калі ласка, ровар, я свой тапак падыму… Божачка ж мой, гэта цяпершняе гарадзкое дзіця вясковай задрыпанай бабе: калі ласка… Я ажно прасьлязілася. Тут цяпер нашанскія дзеці мацюкамі лаюцца…"

Дажылі! Ужо і ў вёсцы зьдзіўляюцца не брыдоце, а выхаванасьці…

***

Паўнакроўнае жыцьцё патрабуе ўсяго чалавека, а мы, хоць якім бокам, ды ўхіляемся...

***

У Крывошынскай вар'ятні ўжо на трэці дзень я не асабліва нудзіўся. Паводзіны кліентуры былі не ў навіну дый вопыт папярэдніх „высылак" — рэч не апошняя...

Прыладзіўся я ў вар'яцкім клюбе памагатым мастакуафарміцелю, таму што меў, па словах доктара, адносіны да друкаванага слова, а тым больш — навюткі членскі білет СП СССР.

Мастак пад сурдзінку піў віно, якое яму прыносіла мэдыцынская сястрычка-палюбоўніца. Харошы ўвогуле быў чалавек — свой, клецкі, знаёмы — зводзіў калісьці мяне з сваёй сястрой на пэрспэктыву — і шкада, што год таму назад залыгаўся на вяроўчыне ў местачковай царкве на брэстчыне, якую ці то расьпісваў, ці то дапамагаў рэстаўраваць...

Зрэшты, вернемся ў афіцыйную вар'ятню. Я і насамсправе няблага пісаў плякатнымі пёрамі (гэткая доля спасьцігла мяне яшчэ ў арміі, дый увогуле ў нашым родзе былі і ёсьць даволі здатныя і самавітыя малявальшчыкі) — то і выводзіў на вялікіх ватманскіх аркушох розныя цытаты знакамітых людзей — ад Гіпакрата да Гарбачова...

Так і жылі, не сьпяшаючы пацець, выплёўвачы кіслыя таблеткі „антабуса", чакаючы свайго прызначанага тэрміну выздараўленьня...

Аднаго дня ў клюб зайшоў чалавек маіх гадоў, на выгляд прыстойны і ня надта для гэтага месца падазроны, аднак па паху адчувалася, што ён ня з нашай алкашнай публікі, а з далейшых муравана-ўкратаваных карпусоў...

„Ты — писатель?!" — не спытаўся, а голасна сказаў ён, ад чаго мне стала не зусім добра.

„Так, пішу", — як можна выбачальна адказаў я.

„Все пишут. Я не о том. Ты — писатель?!" — найстойліва паўтарыў ён, пагойдваючыся перада мной.

„Друкуюся", — цьвярдзей вымавіў я.

„Я спрашиваю — настоящий ли ты писатель, понял!" — безапэляцыйна і нейк ужо вульгарна-недаверліва дапытваў ён да астатку.

„Член Саюза пісьменьнікаў", — здаўся я, уздыхнуўшы.

„Значит, настоящий писатель! Прекрасно. Меня не обманули. Я написал роман, — ён палез рукой за бальнічны руды балахон і дастаў адтуль пашарпаную папку з надпісам: „История болезни", зь якой вытыркалі зялёна-шэра-жоўтыя аркушы паперы. — Надо срочно издать!"

„Цікава, — сказаў я, — калі можна, я мог бы пачытаць вечарам..."

„Читают в книжках, — павучальна і строга сказаў ён, трымаючы папку аберуч. — Издадим, почитаем вместе. Я — Володя из Баранович, слышал? Из пятого блока. Это ничего, что я из Баранович?"

„Якая розніца адкуль. Я вунь у вёсцы жыву", — спрабаваў я перахапіць ініцыятыву. Але ён быў неўгамонны і настойліва-дырэктыўны.

„И кто же тебя в деревне издает? Впрочем, мы пока здесь. Материал собран, главврач подписал, надо издавать. Ты Главного знаешь? Петра Федоровича?.. Тоже учти — писатель! Книгу моих рассказов пишет. Диагнозами назвал. Жил такой на юге. В бочке. Давно... Федорович не курит, правда. А без курева писателем быть трудно. Я ему не раз говорил, да... Кстати, ты куришь?" — ён нарэшце стаміўся.

Даю цыгарэту. Прыпальваем. Нечакана з папкі высыпаецца колькі лістоў. Я зьбіраю іх, услужліва складваю і падаю Валодзю.

„Ладно, ладно, — памякчэўшым голасам гаворыць ён. — Знаю я — это тяжелое дело. Возьми себе, вставишь в свой роман... Я еще напишу... Так значит — издаем? Хорошо! Только красными буквами, я люблю, когда красиво... Запомни, значит, я — Володя из Баранович, из пятого блока... Увидишь такой роман — купи. Почитаем...."

Але тут маналёг Валодзі абарваў санітар, постаць якога шырока і хмарна мільганула за клюбным акном. Валодзя, не разьвітаўшыся, імгненна зьнік, пакінуўшы мне два аркушы паперы, вырванай, відаць, зь нейкага бальнічна-адміністрацыйнага гросбуха...

На адным была выпіска з гісторыі хваробы надта неразборлівым почыркам, на другім — вялікімі літарамі чырвоным алоўкам — вось гэта: МОЯ ФАМИЛИЯ ВОЛОДЯ ИЗ БАРАНОВИЧ ЖИВУ Я В ПЯТОМ БЛОКЕ.

Больш з Валодзем з Баранавіч я не сустракаўся, хоць не-не ды настальгічна яго ўспамінаю, беручы ў рукі чыйнебудзь чарговы раман у „Кнігарні пісьменьніка"...

***

Прысьнілася, што забіў чалавека. У сваёй вёсцы, у суседзкім двары, пры знаёмых людзях... Праўда, самога чалавека не распазнаў. Біў кіем па галаве. Ня памятаю, за што...

Прачнуўся потны ад страху за ўчыненае. Сядзеў у ложку і сонна-мітусьліва думаў: што ж гэта са мной адбываецца?...

***

Ня меней году — а пры такім гаспадары, як я, то й ня дзіва — рыпелі ўваходныя дзьверы ў кватэру. Рыпеньне тое было гідлівым да моташнасьці... Але ўсё адкладвалася, звыкалася, рабілася нармалёва-звыродлівым, як і ўся наша сёньняшняя рэчаіснасьць.

І вось учора змазаў завесы дзьвярэй маслам для пішучай машынкі.

Сёньня, сьпешна і затуркана ўвайшоўшы ў кватэру, раптоўна схамянуўся — якія і куды я дзьверы адчыніў?!

Такая нясвойская цішыня... Зладзейская...

***

Ні пры якой уладзе мне не жылося і не жывецца так паскудна, як пры сабе самім...

***

Усё слабее мой зрок, а я ўсё ўзьдзяваю на свой доўгі нос акуляры — і ўсё чытаю й чытаю...

Вочы мае да вяршынь зрэнак запоўнены літарамі, словамі, сказамі, вершамі, раманамі, тэкстамі... якія зьліваюцца адно ў адно, наплываючы адно на другое, засьцячы існы сьвет... Я ўчытаў у сябе ўсё, што мог.

Цяпер мне трэба па магчымасьці пазбавіцца ад празьмернасьці назапашанага, каб убачыць сьвет сваімі вачыма, — і гэта ня так проста, як думаецца...

***

Кажуць, што літаратура памірае... Я тут удакладніў бы ад сябе: вузее кшталт менавіта мастацкай літаратуры... бо пішуць цяпер, можа, нават больш, чым раней...

Чалавек у наш урбаністычны, тэхналягічны час робіцца ўсё больш адзінокім, замкнёным у сабе і на сабе, ён — так ці інакш — пачынае пісаць розныя тэксты, прагаворваючы сябе, спадзеючыся некаму адкрыцца ці быць адкрытым, як кінутая ў марскія хвалі бутэлька з цыдулкаю...

Літаратура цяпер — перш за ўсё, душэўныя, а не духоўныя зносіны адзінокіх людзей у пяцімільярдным мурашніку чалавецтва. Гэта вяртаньне да эпісталярнасьці (ліставаньня), але ўжо ў адкрытым уласна адрэдагаваным варыянце. Я пішу ўсім, няхай мне адгукнецца хоць нехта... Кампутарныя праграмы — тэксты — гэта таксама своеасаблівы эпісталярый будучага.

Такая літаратура будзе існаваць і ў далейшым быцьці чалавецтва, як Храм маральнага ачышчэньня, як споведзь аднаго перад усімі.

Усё гэта, на мой погляд, ня тычыцца чыста мастацкай літаратуры, дзе мастак спавядаецца ня перад людзьмі, а перад самім сабою...

***

Ранкам, стоячы на тралейбусным прыпынку, вочы ў вочы сустракаюся з маладзенькай прыгожай дворнічыхай. Апранутая ў аранжавую камізэльку паверх спартыўнага чорнага трыко, яна зграбае бруд з тратуару побач са мной... Я — больш-менш адукаваны пісарчук, з торбаю, напханаю чужымі рукапісамі, куру, перамінаючыся з нагі на нагу, чакаючы грамадзкага транспарту...

І вось — мы незнарок зазірнулі адзін аднаму ў вочы... Адкуль гэтая зьбянтэжанасьць? Чаму яна, засаромеўшыся, адвяла позірк? Чаму і мне раптам стала няёмка перад ёй, і я, ня ведаючы пра што думаць, чамусьці ўзгадваю, што кінуў свой папярэдні недапалак на тратуар каля пад'езду, не данёсшы колькі крокаў да сьметніцы...

За што нам абодвум так сорамна? За саміх сябе? За той недапалак, які яна падабрала ці яшчэ падбярэ за мной? За венік у руках і сумку з рукапісамі? За тое, што не наадварот? Што ўсе рэчы ня ў тых руках? За свой лёс? За што, Госпадзе?!

А тралейбуса ўсё няма і няма...

***

Чамусьці трывала ўсталявалася выснова, што чалавек баіцца вышыні... І чамусьці ніхто гэтай высновы не абвяргае. Наіўная выснова, бо насампраўдзе тут першасна псыхалягічнае: чалавек баіцца не самой вышыні, а бездані пад сабою...

Гэтым я хачу сказаць, што чалавек па сваёй духоўнай прыродзе засьцерагаецца не высокага, а нізкага...

***

Ужо другі дзень запар сноўдаюся з кута ў кут па кватэры сам ня свой, да адчаю апатычны і хваравіты... Ня ведаю, як я выйшаў бы з таго стану, каб не тэлефонны званок...

Не назваўшыся да канца размовы, чалавек прыемным людзкім голасам молада-аптымістычна гаварыў мне пра літаратуру, сьвет, людзей, што я, падтакваючы ў трубку, паступова забыўся на самога сябе — такога, яшчэ хвіліну назад, нямоглага і бязвольнага...

Разьвіталіся бадзёра, з разьлікам на заўтрашнюю сустрэчу. Цімохам Васільевічам Віткам быў той васьмідзесяціпяцігадовы чалавек.

Мне стала сорамна за сваю нямогласьць. Я закурыў і сеў за пісьмовы стол... Жыць трэба да самай сьмерці, малакасос! Вучыся...

***

На свой першы чалавечы гераічны ўчынак я не забыўся і сёньня. Мне было дзесяць гадоў, калі я засланіў маці сваім тонка абцягнутым скурай шкілетам ад сукаватага палена, якое занёс для ўдару ашалелы ад самагонкі бацька...

Добра памятаю, што нават не пасьпеў спалохацца і заплюшчыць вочы... Палена было яловае, з круглым жаўтаватым сукам, з расколінай наўздоўж, не зусім сухое, зь зімнага двара... Маці прыносіла дровы зь вечара і клала ў печ, падсушваючы для ранішняй распалкі...

Бацька ўжо ў магіле, але зрэдку яшчэ ўрываецца ў мае сны з тым самым яловым сукаватым паленам, і змушае мяне назаўтра палохацца і перажываць за ўжо састарэлую адзінокую маці, якая, дарэчы, спаліла тое палена назаўтра ў печы, на цёплым чаране якой я па-дзіцячы смачна спаў...

***

Бацька мой, асабліва ў п'яным асьляпленьні, што здаралася часьцей, чым наадварот, быў жорсткім як да маці, так і да нас, чатырох дзяцей... Ганяў і лупцаваў няшчадна...

Але дзіўная ўсё ж людзкая прырода: я баяўся яго, але паважаў — у дзяцінстве, шанаваў — у маладосьці, шкадаваў — у адноснай старасьці і невылечнай хваробе... І цяпер — помню і люблю...

За што? Усяго толькі за тое, што жыву?..

***

Як усё пераменліва ў чалавеку! Адным разам — хочацца жыць, другім — не. Шкада, што трэцяга разу не бывае.

***

Апоўначы сяджу адзін у мройным сьвятле настольнай лямпы, гляджу ў акно, зашклёнае густой цемрай, думаю пра НЕШТА, ня ведаю ШТО...

І хочацца плакаць... і плачу.. і сьлёзы цякуць па маім твары... і я адчуваю спагадлівую цеплыню... і захлынаюся ў іх...

І ніхто на сьвеце ў гэты найвышэйшы момант майго жыцьця ня можа забараніць мне быць такім вось — яшчэ не паднебным, але ўжо й незямным...

І ў гэтых самотных сьлязах, нябачных нікому, я і ёсьць увесь — ЧАЛАВЕК...

***

Ня мае значэньня, колькі пражыў паэт — дваццаць пяць ці восемдзясят пяць...

Паэзіі ад гэтага ня меншае і ня большае...

***

Вясковы знаёмы мужык усё падбірае, што ня ўбачыць. Усё да рук яго прыстае, прыліпае, прырастае...

Ідучы па вуліцы, падымае на ўзбочыне літровую бляшанку з-пад таматнага соку, ужо і скасабочаную, і тамсям парыжэлую...

— Навошта яна табе, Іосіфавіч?

— А чорт яго ведае... Жыцьцё цяпер такое, не ўгадаеш, як яно павернецца. Хай будзе... Глядзіш, заўтра прывязуць тамат на разьліў — шукай пад яго посуд... А ў мяне — напашэве... Выгну, вычышчу, вымыю... А не, дык таводу ў калгасным двары набяру, мо калі завесы ў дзьвярах папэцкаю... рыпяць, халера...

***

Позьняя восень, а чалавечай сьпеласьці ўсё няма і няма...

***

Нярэдка літаратары прылюдна прызнаюцца, што пішуць толькі таму, што больш анічога рабіць ня ўмеюць...

Нават дзяржаўныя рэфэрэнты з стажам ня робяць такіх прызнаньняў...

***

Сырым лістападаўскім падвячоркам ідуць па праспэкце Скарыны тры маладзенькія, падстрыжаныя пад нуль, у навюткай, але кашлаватай форме, курсанты міліцыі, падроблена на публіку гуляючы дручкамі-дубінкамі, аднак не агрэсыўна, так, для паказной зухаватасьці...

І толькі згледзеўшы вынырнуўшых з паўзмроку маладзічак, ніякавеюць, прыціскаючы тыя дручкі да сьцёгнаў...

Яшчэ не абцёрханыя горадам, службай і начальствам, вясковыя хлопцы з ужо вымыкаючым гонарам. Глядзець на іх цешна і забаўна...

Наблізіўшыся да мяне — худавата-хлапечага дзядзечкі — адзінага самотніка на тралейбусным прыпынку, пашушукаўшыся, два праходзяць наўзбоч мяне міма, а адзін не зусім сьмела топчацца да мяне. Напаўразгублена-ніякавата просіць: „Прасьціце. Не знайдзёцца ли у вас сигаретки?" Раблю трохі напыжлівы выгляд, але нясьпешна зь бязмоўнай паўзай працягваю „космасіну", а павагаўшыся, дадаю яшчэ дзьве. „Спасіба", — нэрвовым ад шчасьлівай неспадзеўкі голасам мямліць малады міліцыянцік Рэспублікі Беларусь і подбегам кіруецца да сваіх, запаволена шлэпаючы, калегаў па службе... „Калі ласка!" — каб было чутна ўсім, кідаю наўздагон ім па-беларуску. Усе трое, як па ка-

мандзе, азіраюцца, па-дзіцячы пасьміхаюцца, ківаюць галовамі і нечакана салютуюць мне ўзьнятымі ўверх дручкамі-дубінкамі...

Адыходзяць... Запальваюць... Сіняваты дымок цепліць змрок, адганяючы самоту душы...

Хоць бы добра прайшло іх дзяжурства гэтай ноччу, хоць бы якія мужланы не спаганілі іх яшчэ вясковай геннай чалавечнасьці... І на чым трымаецца дзяржава? Ці не на гэтых сараматлівых рэштках людзкасьці?..

***

Мой дзядзька пасьля трагічнай пагібелі жонкі ў свае шэсьцьдзясят з гакам вырашыў узяць сабе жанчыну з суседняй вёскі гадоў на дзесяць-пятнаццаць маладзейшую за сябе.

Вечарам запілі тую справу, а назаўтра — жанчыны і сьлед растаў... Бабы па-суседзку ў яго і пытаюцца: „Што ды як?.." Дзядзька ж ім прастадушна па-вясковаму адказвае без аніякаватасьці і выкрунтасаў: „Ды курва яна, вам кажу... Улеглася ў ложак адразу без ... усяго... без станіка, без гэтага, без усяго... Вон! — кажу... Не хапала мне яшчэ й на старасьці ганьбы ды сораму..."

***

Кажуць, што я пэсыміст і мэлянхолік. Ну, ня ведаю... Ня ўпэўнены... Наўрад ці... Трэба падумаць...

***

Кожны чалавек імкнецца быць патрэбным. Хто — дзяржаве, хто — сям'і, хто — культуры, хто — маскультуры і г.д.

Але па вялікім рахунку імярэк Івановіч, Пятровіч, Сідарэвіч, Галубовіч нікому не патрэбныя. Патрэбныя якраз дзяржава, сям'я, культура, маскультура і г.д.

***

Калі б напрыканцы чалавечага існаваньня быў іншы выбар, апроч сьмерці, — жыць было б цікавей...

Гэта, вядома, не азначае, што ўсе выбіралі б ня сьмерць, а НЕШТА іншае... Можа, якраз наадварот. Гэта як на той захмеленай вечарынцы. Просіць чалавек сыграць (ці ўключыць) яму што-небудзь для душы. Але адзін — весела скача

пад матыў „Лявоніхі", а другі — шчасьліва плача пад палянэз Агінскага...

***

Доўгі міжгародні званок... Дачка бярэ тэлефонную слухалку, вітаецца і хуценька, як апёкшыся, працягвае мне. „Нейкая Японія..." — шэпча неўразумела...

І сапраўды — тэлефануюць зь Японіі (?!). Аказваецца, рускамоўнага сябра майго маскоўскага занесла на тыя „богведамадзе" астравы. Паэт, перакладчык маёй кніжкі, родам зь Бялыніч, вядзе сэмінар на факультэце славістыкі аднаго зь японскіх унівэрсытэтаў. А заадно лечыць сына, які гадаваўся ў беларускай бабулі, ад вядомай чарнобыльскай хваробы...

Гамонім на радасьці хвілінаў пятнаццаць... Схамянуўшыся, па-савецку спагадліва падказваю: „Завязваем, браток, бо не аплоціш размову". „Дык кінь ты, мне тут маўчаньне даражэй абыходзіцца ..." — самотна выдыхвае ён з таго канца сьвету...

Тым жа вечарам тэлефануе яшчэ адзін сябра зь менскага бульвару Шаўчэнкі. Узрушаны і нэрвовы, як заўжды, выгаворваецца да інтымнай галізны... Зноў жа абачліва заўважаю, што цяпер гарадзкія размовы таксама аплочваюцца..." А хто мне аплоціць адзіноту?.." — крыўдліва падсумоўвае ён.

О Божа, як пуста ў цеснаце зямной!

***

Чалавек жыве ў зьвязку *з усім* і толькі таму *зусім* не памірае...

***

Усё жыцьцё я пісаў і пішу самога сябе, і чым больш пішу, тым больш упэўніваюся, што пішу не таго, хто ёсьць, а таго, хто хоча быць...

***

Чалавек ва ўсім недасканалы. Самадастатковы ён толькі для скрухі.

***

Што са мной адбываецца?.. Ня пішацца, ня думаецца, не жывецца... Сяджу ноччу на кухні і слухаю вецер за акном. Восеньскі, парывісты, манатонны... Я сяджу за сьценамі блёчна-бэтоннага дому, але гэты вецер пранізвае наскрозь і намагаецца выдзьмуць зь мяне душу, за якую плоць мая трымаецца з апошніх сілаў, быццам у гэтым ёсьць яшчэ нейкі сэнс — трымаць душу там, дзе яна зьнемагае...

Але ці ня так і ўсё жывое: на ўтрыманьні плоці і трыманьні душы?..

***

Колькі высокіх жаданьняў, памкненьняў, летуценьняў так і засталіся няспраўджанымі?!

Але, можа, дзякуючы ім не праявіліся і нізкія, жывёльныя інстынкты...

***

Чалавек паразытуе на ўсім і захоўвае не сваю прыроду, а сваю пароду...

Чытаю эсэ Акудовіча „Хто я? альбо Мяне не было, няма, ня будзе...". Сказаць, што гэты тэкст жывучы, тое самае, як забыцца на існаваньне гэтага тэксту...

Прыпомнілася асацыяцыя вэрлібрыста-нябожчыка Ўладзімера Бурыча:

Я заглянул к себе ночью в окно
И увидел
Что меня там нет
И понял
Что меня может не быть

***

Ня думай пра сябе многа. Гэта зробяць за цябе іншыя...

***

З усёй сучаснай беларускай прозы вельмі часта на розум прыходзіць вось гэтае, запамінальна-яркае, пташнікаўскае, зь яго клясычнага апавяданьня „Львы": „Джукі блажыла".

Жыцьцё такое і сказ пра яго лякянічны, адчаканены, ювэлірны... Лепш не напішаш. Ды, зрэшты, ужо й напісана.

„Джукі блажыла" — і адразу, усім нутром і ўсёй істотай сваёй, адчуваеш, што гэта беларускі нацыянальны сказ канца XX стагодзьдзя.

***

Ноччу пісаць неяк няёмка. Усе нармальныя людзі сьпяць, я ты, як той ненармальны, быццам за імі падглядаеш... хоць, па сутнасьці, ты падглядваеш на адзіноце за ўласным інтымным жыцьцём...

Пішы, пішы, брат, ніхто і не зважае, што ты там пішаш, бо ўсе ўжо даўно заўважылі тваю ненармальнасьць...

***

Нарадзіўшыся, чалавек ня надта сьпяшаецца адкрываць свае вочы на сьвет божы. Можна ўяўвіць, наколькі пасьля ўражвае яго гэты сьвет, калі, канаючы, ён ужо ня ў сілах іх заплюшчыць. Чаму ж нам так страшна глядзець у вочы нябожчыка, якія мы закрываем? Там жа адлюстраваны ўвесь наш астыглы сьвет, у якім мы жывём...

***

Пасьля нейкай урачыстацьці ў нацыянальным тэатры, патэлефанаваў знаёмы літаратар. Сумна паскардзіўшыся, што атрымаў афіцыйнае запрашэньне толькі на адну асобу, а да ўсяго яшчэ і ня быў дапушчаны да банкетнага стала, раптам горача-інтымна пераходзіць на дэтэктыўнае...

Аказваецца, быў на ўрачыстасьці і той чалавек, якога ён ня тое што ня любіць — ненавідзіць. І нават казаў слова з сцэны, і што ўжо зусім цяжка паверыць — прамаўляў „панашаму". Між іншым, чалавек той блізкі да згаданага тэатра — можна сказаць, сталуецца праз дарогу... Калі ўсё скончылася, чалавек сьмела зьявіўся ў фае, і, як падалося, зусім адзін, і пайшоў літаратару насустрач...

Не ад страху, што нехта пачуе ці падслухае, але ад неймаверна магчымай разьвязкі, літаратар пачаў па-гадзючаму шыпець-шаптаць у слухалку: „Ня ведаю, што найшло на мяне... Мільганула міжволі думка: як толькі параўняемся — плюну яму ў твар, у ненавісную мне морду, прабач... На-

бліжаемся... У мяне ўжо поўны рот сьліны... Ну, кажу табе, за паўмэтры ад яго быў... І тут, ня ведаю, імгненна выскачыла іншая думка — у мяне ж у выдавецтве кніжка ляжыць... падрыхтаваная да друку... у друкарні ўжо... карэктура была... А пасьля гэтага выпадку, вядома ж, — ня выйдзе! Разумееш: ня-вый-дзе!!! Ну, колькі мне за той плявок дадуць?! Год-два... А кніжка ня выйдзе, кніжка, якую я пісаў, праседзеўшы ў адзіноце-самоце, каля дзесяці гадоў! Лёня, ты разумееш сытуацыю?! О-о-о!.. Я прайшоў міма і праглынуў тую сьліну. Як многа яе сабралася, дзядзька, і ўся ўва мне...”

***

Гляджу сярод ночы на канале НТБ эратычную шоў-праграму... І чым далей гляджу, тым мацней пераконваюся, што фізыялягічнае ўва мне больш устойлівае, чым інтэлектуальнае...

***

Толькі нядаўна вычытаў у Зоські Верас, што ў 1916 годзе, жывучы ў Менску, ужо моцна, хварэючы на сухоты, наш Максім Багдановіч адмаўляўся на шкоду здароўю ад цукру і піў гарбату несалоджанай, саромеючыся душой перад малымі згаладалымі дзецьмі імпэрыялістычнай вайны...

А ўжо працуючы ў Камітэце дапамогі ахвярам вайны, прынёс увесь свой цукровы паёк у „Беларускую хатку”, каб раздаць яго дзецям...

Надта мяне гэта ўразіла. Таму адразу і пішу пасьля прачытаньня, перапоўнены нейкім асаблівым пачуцьцём да натуры Паэта.

А з галавы не выходзіць даччынае, штодзённа-навязьлівае: „Тата, купі „Марс”... „Сьнікерс”... гумку... марозіва...” Я па магчымасьці купляю, бо сам усё гэта люблю — салодкае, не гаворачы ўжо пра тры абавязковыя лыжачкі да кубка чаю...

Магчыма таму і ня маю такой кніжкі „з друкарні пана Марціна Кухты”, а маю іх аж некалькі з агульнанароднага паліграфкамбінату. І, можа, таму словы ў маіх кніжках, хоць і падобныя да Максімавых, ды колер, пах і сэнс у іх ужо іншы... Што і казаць — заварка імпартная і цукру бязь меры... Губы зьліпаюцца — вусны нямеюць...

***

Калоць сьвіней для мяне — пакутлівая справа, хоць сьведкам і „саўдзельнікам" гэтага я быў незьлічоную колькасьць разоў. Жыў побач зь сьвінафэрмай, працаваў там, дый дома...

Прымаразкамі калоць сьвінча бацькі заўжды клікалі суседа, мамінага роднага дзядзьку Міхаля, ужо старога, нэрвова-хворага, у якога трэсьліся рукі. Маці супакойвала сьвінчо цёплым пойлам, чухала за вухам; бацька, брат альбо я тым часам узьдзявалі на заднюю нагу скураны пасак з зашмаргай — падсякалі рахманую жывёліну і ўтрох-чатырох завальвалі яе на бок, а пасьля на сьпіну... Трымалі за ногі, і сьвінчо тое (а здаралася і па дванаццаць пудоў!) рабілася бездапаможным. Толькі і магло, што дрыгаць пруткімі заднімі нагамі... тут і прыходзіла чарга дзядзькі Міхаля, які да таго часу не прыймаў у агульнай завальнай справе аніякага ўдзелу, хіба што даваў, скупыя і раздражняючыя ўсіх, парады...

Ён падыходзіў да сьвіньні з правага боку, падбіваючы свой бахіл ёй пад сьпіну, левай рукой намацваў адно яму вядомае месца пад лапаткай безабароннай жывёліны, нэрвовай рукой падводзіў да таго намечанага месца швайку, што хадзіла ў яго правай руцэ ходырам, прыстаўляў яе ўрэшце вастрыём да шэрсьці і пачынаў ціха-пяшчотна загаворваць і сьвінчо, і нас, і сябе самога, супакойваючы ўсіх разам, і — нечакана, у адзін момант, адным разам утыкаў швайку па самае колца, праварочваў яе там, у сьвіной грудзіне, раз-другі-трэці — адымаў руку, выдыхаў, адсопваўся... швайка тырчэла на нашых вачах у сьвіной грудзіне, падрыгваючы ў такт зраненаму сэрцу... Сьвіньня сапла глыбока, забіраючы ноздрамі паветра, пахрыпваючы і паступова задыхаючыся, пачынала сіпла вішчаць і моцна біцьуздрыгваць заднімі нагамі...

„Цяпер добра трымайце — будзе даходзіць..." — казаў будзённа дзядзька Міхаль, і не азіраючыся, выцершы аб мамін фартух швайку, адыходзіў дадому.

Канвульсіі і агонія зазвычай былі нядоўгімі. Ногі сьвіньні паступова пачыналі дрыжэць і выпроствацца... Наступаў канец...

Сэрца маё аджывала і пачынала біцца рытмічней.

... Сёньня дзядзьку Міхалю без малога дзевяноста. Ён дарэшты сапсеў. Даўно не ўстае, мочыцца ў ложку і пакутуе невядома за што на гэтым сьвеце, які ўжо даўно яму ня мілы...

Мы з бацькам так ні разу і не адважыліся ўваткнуць швайку. І ўсё ж ні бацька, ужо чатыры гады як нябожчык, ні я не перажывем дзядзьку Міхаля, які ніколі ня схібіў з ударам і ня змусіў жывое доўга пакутваць ад наканаванага лёсам болю...

У Стральцова амаль пра тое ж напісана таленавіцей. Аднак талент і майстэрства тут могуць ня выратаваць, бо жыцьцё робіць сваю справу голасна, а сьмерць — моўчкі...

***

Калі б кожны жыў так, як пра яго кажуць на хаўтурах, то зямны сьвет быў бы ідэальным...

***

Са мной на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве вучыліся двое армян — паэт і крытык — самавітыя, інтэлігентныя хлопцы, якія вылучаліся сярод той „вэАЛКАШНАЙ" брацыі, асабліва расейскай — зарыганай і адкрыта шавіністычнай.

У той першы год нашай вучобы і здарылася ў Арменіі страшная трагедыя — землятрус... І мяне зь імі паяднала гора — наш Чарнобыль яшчэ быў сьвежай ранай...

Абодвум, калі так можна сказаць, пашанцавала: яны былі тут, а ня там, а да ўсяго ніхто з блізкіх асабліва не пацярпеў. У жанатага паэта Норыка жонка-настаўніца выскачыла з вучнямі ў двор за дзьве хвіліны да таго, як ад школы засталіся толькі руіны...

Абодва рваліся на радзіму. Цешылі спадзеўку на ўзнаўленьне жыцьця. Але і там — бяда — вайна, Карабах...

Ацалець пасьля дзьвюх народных трагедыяў чалавеку неймаверна цяжка. Абодвух і ня стала. Крытык памёр ад сардэчнага прыступу. Паэт загінуў у аўтакатастрофе...

***

Аднойчы напрасіўся зайсьці да мяне на кватэру з сваім рукапісам Алесь Наварыч. Менавіта на кватэру, а не ў рэ-

дакцыю. Ці то каб пабачыць, як я жыву, ці проста пагаманіць тэт-а-тэт, ці яшчэ чаго...

Глядзець не было на што, гамонка на адной каве ня клеілася, а пра тое „яшчэ чаго" цяпер вось сяджу позьнім вечарам і думаю...

Ну, зайшоў, ну, так-сяк пагаманілі, ну, забраў рукапіс... ну, а яшчэ што... Госпадзе, для чаго ж тады ўсё-ткі прыходзім?

А можа, у гэтым пытаньні і ўвесь сэнс прыходу...

***

Можна мысьліць і пісаць абсурдна, але нельга ўвесь час абсурдна жыць. Душа пільна вартуе розум і пожад плоці...

***

Апошнім часам сталі запамінацца сны, сталі ўражваць сымбалічнасьцю ў дачыненьні да рэчаіснасьці.

Учора сьнілася балота — дрыгвяністае, зарослае... і я празь яго ці то ад некага ўцякаю, ці то сьпяшаюся некаму насустрач... Але відаць, што не ўцяку і не дайду, бо яно штораз зацягвае ўсё глыбей. І вось ужо няма сілы выбрацца зь ягонай багны...

Прачынаюся ад рэзкага болю: аказваецца, нага мая патрапіла ў пастку паміж сьцяной і бакавіцай канапы...

Які пасьля гэтага сон — ляжаў і думаў пра вёску, пра маму, адзінокую, хворую, састарэлую, з усімі яе гаспадарчымі клопатамі...

Трэба ёй купіць новыя ўцепленыя гумовыя боты, а то як толькі макрэць, гразюка — у яе зноў кашаль і бухае, што бубен...

***

Колькі вершаў! А паэзія — сірата...

***

У паэзіі столькі вершаў, як у немаўляці бразготак, але яна ўсё плача і самоціцца, пакуль не назаве іх сваімі імёнамі...

***

Адзін палымяны пісьменьнік у запале захмялелай палемікі: „Усе вы там у „Крыніцы" — жыды, усе на „іч": Акудовіч, Галубовіч, Разановіч!.."

І ў навіслай паўзе чуваць, як раз-пораз парыпвае крэсла пад намесьнікам галоўнага рэдактара „ЛіМу" Барыса Пятровіча... Псэўдонім? Тым больш...

***

У стаматоляга я быў гадоў дзесяць назад. І з таго часу ні разу не ўспамінаў пра свае зубы. А люблю я чай з сухарыкамі. Вечарам. І вось — хрупнула каронка ў правым ніжнім кутку... Божа, якi нечалавечы вэртыкальны боль час ад часу я трываю ўжо трэція суткі запар!

І як я сёньня зайздрошчу сябру свайму Купрэеву, у якога ўвогуле няма зубоў. А бывала ж, спачуваў яму, калі гасьцяваў наездам, губляючыся, што падаць Міколу да чаркі, каб ня трэба было жаваць...

Брат мой, на сваёй прамерзлай мансардзе прыпомні цёплым словам гуманіста Шамякіна, і — „вазьмі мой боль"!

***

Ня ведаю, як цяпер, а гадоў пятнаццаць-дваццаць таму, у некаторых паляшуцкіх вёсках захоўваліся дзіўныя паганскія звычкі.

Прыкладам, у Люсіна, што пад Ганцавічамі, на Юрай кароў досьвіткам на пашу выганялі толькі мужнія жанчыны. Калі ж тым часам трапляўся ім на вочы выпадковы мужчына, то ўсе бабы, як па камандзе, паварочваліся да яго сьпінамі ды, перагнуўшыся, загалялі свае ружовашчокія дупы...

Ведаючы падобны звычай, ніхто ніколі не крыўдаваў, больш таго, успрымаў тое як належнае. Звычай жа гэты, неардынарны і вульгарна-цынічны па сёньняшнім разуменьні культуры, азначаў толькі адно — ухвалу жыцьця, роду і яго працягу...

Аднойчы выйшла з тым паганскім звычаем непрадбачаная накладка. Форменны канфуз. Пётр Міронавіч Машэраў рабіў аб'езды сацыялістычнага Палесься. Аб'езды ды аблёты ардэнаноснай рэспублікі былі яго каньком. І вось аднойчы ранкам едучы машынай з суправаджэньнем з Хатыніч у Люсіна, а можа наадварот (пэўна, сьведкі ўдакладняць пераказаны мне Купрэевым аповед), па дарозе непадалёк іх маршрута гналі тутэйшыя жанкі сваіх кароў

на пашу. Забачылі яны мужчын у машынах — дый задралі свае спадніцы да акруглай галізны, павярнуўшыся азадкамі да дарогі...

Што было пасьля?! Хацелі ўсіх пакараць — ад вялікага начальства да малога, уключаючы тых, упэўненых у нятленнасьці быцьця, люсінскіх жанчын... Але нехта сьмялейшы давёў Машэраву пра мясцовы звычай і паганскія народныя традыцыі. Пётр Міронавіч расьсьмяяўся і забараніў, крый Божа, каго караць...

Канечне, я ня маю на мэце сказаць гэтым, што Машэраў быў бацькам нацыі ці нешта падобнае. Перш за ўсё, я хачу сказаць, што плоць нацыі і яе галава былі па тым часе здаровымі і жыцьцяздольнымі...

***

Зь вечнасьці нічога не выпадае. Нават наш час, які мы адлічваем, — вечнасьцю ўлічваецца...

***

Яшчэ і сёньня старыя людзі на вёсцы гавораць: „Ой, і не пытайся, любачка, адна я цяпер, як вока ў лобе... Усе мае за сьветам жывуць..."

Для гэтых людзей і цяпер куток бацькаўшчыны ёсьць адзіны ўспрымальны сьвет, але і ён ужо ня поўны, ня цэлы, бо нехта з блізкіх аказаўся па-за яго межамі... Гэта значыць — у Баранавічах, у Слуцку, у Менску.

У кожнага сваё разуменьне „космасу" і свая мяжа „гравітацыі"...

***

Добра, што мы вітаемся правай рукою, — яна не ад сэрца, не ад поўнай шчырасьці, не ад поўнай любові, не ад усяго чалавека...

Бо, Госпадзе, колькі людзей я прывітаў за свае амаль паўвекавое жыцьцё, колькі рук — правых і няправых — пацiснуў?! Былі сярод іх людзі добрыя, душэўныя, таленавітыя, але былі і подлыя, цынічныя, падсудныя і нават забойцы...

Ці не таму мая правая ўсё часьцей — то змушана, то інтуітыўна — хапаецца за сэрца?..

І ці не таму нашы левыя прысардэчныя рукі такія кволыя, апатычныя, самотныя... адзінокія і безабаронныя?..

***

Бацька мой, цясьляр знакаміты, рабіў, лепш сказаць, майстраваў дамавіны для адышоўшых вяскоўцаў. Ладныя, выверaныя да сантымэтру. „... Ляжаць там што ў панскай пасьцелі...”

Але памёр сам — і няма каму зрабіць апошні прытул. Урэшце, ня горш зьбілі на калгасным двары ў пілараме...

Кажуць, няма чалавека — няма праблемы, а тут — якраз наадварот, бо як чалавечна не жыві, а хоць адну праблему пасьля сваёй сьмерці ўскладваеш на людзкія плечы...

***

Ёсьць у эга-эсэ Дранько-Майсюка „Стомленасьць Парыжам”, дзе трохі адсьвечвае нарцысызмам і такое: „... баюся застацца сярэднім паэтам...”

Я застацца не баюся, абы пашчасьціла. Тым больш, што сярэдзіна мне не пагражае, бо як на мяне ні глядзі — я ня свой, але й не чужы — заўжды крайні... А ўжо зь якога боку той край — усё адно. Стоячы на краі пра тое ня думаеш...

***

Быў у Алены Васілевіч. З усіх кутоў сьветлай кватэры веяла шчырасьцю і адкрытасьцю, як скразьнячком... і толькі пад крэслам, з накінутай квяцістай хусткай-канаплянкай, адзінока-сараматліва затаілася шпулька белых нітак...

Алена Сямёнаўна ня бяз гонару паказвае мне кніжныя рарытэты: коласаўскую „Новую зямлю” дваццаць сёмага году выданьня, пажоўклую, там-сям пашкуматаную, зь мяккімі знакамі і „ня”, ды некалькі томікаў Льва Талстога трынаццатага году, яшчэ добра захаваных... Дазваляе патрымаць-пагартаць іх... Маўчым... Неабдумана і не да месца кажу ёй пра сьмерць Бродзкага, пра словы Рэйна: „солнце русской поэзии закатилось...”, тыя словы, што адрасаваліся Пушкіну...

Недаўменьне ў яе вачах, лаўлю на сабе сонечны бляск акуляраў, адводжу позірк, — яна замілавана схіляецца над букіністычнымі томікамі Коласа і Талстога і гладзіць іх пяшчотна тонкімі, яшчэ элегантнымі пальцамі...

А ў галаве маёй круцяцца радкі нобэлеўскага ляўрэата-нябожчыка:

Прощай Бобо, прекрасна Бобо.
Слеза к лицу разрезанному сыру.
Нам за тобой последовать слабо,
Но и стоять на месте не под силу.

***

У той жа Васілевіч вычытаў пра модны шык маладых Крысько і Скрыгана — галіфэ, абшытае леямі, юхтавыя боты... Так напрыканцы дваццатых уваходзілі ў беларускую літаратуру нашы сёньняшнія клясыкі.

А мне пры гэтым лезе ў вочы наш сучасьнік Славамір Адамовіч — таксама галіфэ з падцяжкамі, хромавыя боты...

Можа, у гэтым і прыхаваны малады „рэваншызм"? Не, кажуць, гэта сучасны бытавы постмадэрнізм... Мне няёмка распытваць, што гэта такое па сутнасьці. Цёмны я ў гэтым сэнсе чалавек.

А вось Акудовіч ведае, не зважаючы на тое, што працуем мы разам і зарабляем на хлеб-соль пароўну...

***

Прыйшоў вечарам дахаты хай сабе і ня зь цяжкай працы, але — галодны. Такі, што пераапрануўся, памыў рукі, уключыў тэлевізар — і на кухню... Хоць гарачага чаю з батонам... І ўжо насыпаючы цукар у кубак, пачуў з пакою вершы, рускія, але балючыя, і па радках помных, і па голасе пазнаў Анатоля Жыгуліна...

І нечакана захапіла мяне да астатку і вершамі яго, і сыбірыядай, і руднікамі, і холадам-голадам, і баландой, і злымі аўчаркамі... што неўпрыкмет прастаяў пры дзьвярным вушаку хвілін пятнаццаць, да канца перадачы...

Вярнуўся на кухню і не адразу, ужо зь нейкім прысаромленым пачуцьцём, выпіў той схаладнелы кубак чаю з пахучым сьвежым батонам...

***

Я ніколі нікому не навязваў сваіх ідэяў, запаветных думак ці перакананьняў. Спрачацца — спрачаўся, адстойваць — адстойваў, але нічога *не навязваў*, заўжды памятаючы навязаных азьвярэлых сабак...

... Зьвяглівае, навязьлівае — толькі таму, што *навязанае...*

***

Часам гаворыш, каб толькі не маўчаць, каб падтрымліваць самую гаворку, бо доўгае маўчаньне тваё выклікае падазронасьць: што ж ён задумаў, гэты маўчун?!

А нічога ён не задумаў дый ня думае нават... Проста стаміўся і вас слухае...

Зрэшты, магу што-небудзь сказаць, каб чаго-небудзь не падумалі...

Прыкладна такім уяўляецца мне сучасны літаратурны працэс...

***

Пачаў, але ж да канца так і не дагледзеў фільм, дыплёмную рэжысэрскую працу артыста Кайданоўскага, добра вядомага па „Сталкеру" Таркоўскага. Па-першае, ня тыя тэхнічныя і матэрыяльныя выдаткі, каб зрабіць нешта відовішчнае (а кіно — гэта ўсё-ткі відовішча). Па-другое, трэба быць Талстым, каб яшчэ раз перапісаць-перажыць „Сьмерць Івана Ільіча"...

Зрэшты, заўчасны скон самога Кайданоўскага і ёсьць найлепшая прыватная ілюстрацыя да талстоўскай трагедыі...

***

Дрэвы растуць крыва — гэта відавочна. Але паспрабуй выпрастаць...

***

Што б ні пісаў — усё гаворыць тваім голасам. Нічога нельга выказаць, апроч сябе.

І самы выдатны і самы няўдалы твор — гэта ТЫ...

***

...Укладваючы асфальт каля рэстарану „Бярозка" ў правінцыйным Клецку, я змушана адбываў дзесяць сутак пакараньня. Мясцовы міліцэйскі ізалятар быў у самым цэнтры горада і меў цёмны і занядбаны выгляд, як звонку, так і знутры. Камэра была аб'ёмная, кубічная, затхлая, змрочная, зь нізкімі дашчанымі нарамі. Сядзела нас там шасьцёра, і ўсе, як знарок, з суседніх вёсак. Знаёмыя яшчэ па школе...

Зрэшты, як я туды трапіў... Аказацца на сутках звыкла пітушчаму чалавек па тым часе (1976) не было аніякай праблемы. Пасьля гранёнай шклянкі сьпірту, выпітай зь сябрамі, што перапала нам у выніку нейкай матэрыяльнай авантуры, я ўздумаў ехаць дахаты ў вёску. Білет мне на аўтастанцыі купілі той, што і трэба было, ды пасадзілі зусім ня ў той аўтобус. Адразу ж па выезьдзе із станцыі дзядок-канралёр, як пасьля высьветліся, — паважаны пенсыянэр раённага масштабу, правяраў пасажырскія квіткі. Квіток у мяне знайшоўся, ды не на гэты рэйс — сварка, лаянка... Ну, вядома, п'яны дундук. Не разумеў, што мне дабро робяць — ссаджваюць, каб не заехаў у супрацьлеглы бок. Дзядок прыпыніў аўтобус у горадзе насупраць пастарунка, гэта было якраз па дарозе, дый здаў мяне савецкім беларускім міліцыянтам. Тыя надавалі кухталёў і кінулі на адсыпку ў цёмную камэру... Назаўтра судзьдзя за нейкія пяць хвілінаў і аформіў мне тыя дзесяць сутак арышту.

... І вось — сядзім... Праўдзівей сказаць, ляжым, хоць і мулка. Хлеб, соль, вада... Ніколі ня думаў, што на трэція суткі гэта ўсё так смачна, так чакана і ўсяго гэтага так мала...

Пасьля ўжо сталі выводзіць на работу ў горад, укладваць асфальт каля местачковага рэстарану. Хоць і цяжкая праца, але на волі — там і накурышся, і пажуеш... Сяброў сноўдае процьма: той — гэта, гэты — тое... Дзень да вечара...

На пятыя суткі ноччу ў калідоры ізалятара затупалі, забразгалі замком... Дзьверы адчыніліся, у асьветленым іх праёме паўсталі два пакамечаныя начным дзяжурствам сяржанты, гарлаюць: „Ну, што залётныя?! Два дабраахвотнікі на гадзіну — і двое сутак адпісваем у крэдыт!.."

Дабраахвотнікі — усе! Выбар быў за шустрэйшымі і менш заспанымі. Пасадзілі ў варанок, павезьлі кудысьці за горад. Цемра беспрасьветная. Аварыя на шашы. Згарэлы бэнзавоз. Загарнулі ў брэзэнт труп кіроўцы, паехалі назад. У бальнічным моргу згрузілі брэзэнт зь нябожчыкам на алюмініевы доўгі стол... Смурод той — даруй, Госпадзе — і па сёньня, здаецца, ня чую, а памятаю... заснуць было ўжо немагчыма.

Скасьцілі, праўда, толькі адныя суткі. Лягавыя, адно слова! Ім веры не давай...

І толькі прыехаўшы ў вёску пасьля адсідкі, даведаўся я ад знаёмых, што пазаўчора пахавалі майго аднаклясьні-

ка з суседняй вёскі Колю Архіпавага. Згарэў, заснуўшы за рулём бэнзавозу... Што тут казаць, калі мову адымае... Добры быў хлопец, свойскі, безадказны, ціхі, непітушчы...

Вось і мне дапамог, чым мог... І я, хоць і зьняволены, але ўсё ж па сваёй волі, падабраў яго, нямоглага, з вузкай і заежджанай дарогі жыцьця...

Пухам яму зямля, па якой яшчэ хаджу я нясьпешна, але ўжо стомлена.

***

На вечарыне „Бум-бам-літа" ў Доме літаратара было нечакана многа публікі і дастаткова слоўнага маразку, але не было сумна.

Седзячы побач са мной, сакратар СП Алесь Пісьмянкоў усё хваляваўся, што няма Сыса, які сарваў бы, як заўжды, гэтую вечарыну. Я сказаў яму, што Сыс тут, а ён усё ня мог паверыць.

Наіўны Алесь, хіба можа Сыс сарваць такую бедламную вечарыну?! Сваім зьяўленьнем на сцэне ён толькі скрасіў бы яе. Але — не, дадаваць свой аўтарытэт у гэтай справе іншым Анатоль Ціханавіч і ня думаў, хоць, пэўна ж, і „бум-бам-літаўцы", як і Пісьмянкоў, на тое падсьвядома спадзяваліся...

Тым больш *гонар* Сысу...

***

Кожны ведае, што ён жыве, але пераважная большасьць людзей гэтага ня ведае. І ведаць ня хоча, што нейкі ты недзе там нечым жывеш...

Ці не адсюль наш чалавечы эгаізм — імкненьне да славы і вядомасьці?

***

Нечакана зайшоў на кватэру Сыс. Цьвярозы, элегантны, падкрэсьлена інтэлігентны... Павіншаваў жонку і дачку з жаночым сьвятам, падараваў два аранжавыя апэльсіны. Выпіў шклянку кока-колы. Акінуў вокам кватэру, упэўніўшыся, што, падараваная ім на ўваходзіны, карціна тэлевізыйнай мастачкі Алены Каравай з выявай туманнай Каложы на месцы, сьпешна адкланяўся...

„Дурдом", — падумаў я, самотна перажоўваючы яго экстравагантны цьвяроза-прыстойны візіт.

Зрэшты, на тое й Паэты, каб зрэдку зьдзіўляць сваёй неардынарнай прысутнасьцю нашу празаічную будзённасьць...

***

Я ведаю, што пасьля зімы прыходзіць вясна, а пасьля жыцьця сьмерць... І гэтага дастаткова, каб мысьліць насуперак веданьню.

***

Слухаў і глядзеў па НТБ інтэрвію з А. Сакуравым перад паказам яго фільму „Ўсходняя элегія", зьнятага ў Японіі. Запалі яго словы, што Масква — самадастатковы горад-монстр з сваёй інтэлігенцыяй, прэсай, тэлебачаньнем і т.п., што Масква непатрэбная Расеі, а Расея непатрэбная Маскве...

Гэта быў сучасны і неарданарны суразмоўца. Такіх на Русі мала, таму ўвачавідкі абмялела сама Русь менавіта як нацыя руская.

Ён гаварыў скупа, пакутна, разумна, спатыкаючыся, губляючы і знаходзячы патрэбнае слова ў патрэбны момант... І самае галоўнае, што словы тыя для авангарднага мастака былі надзіва простымі і даходлівымі, на мой погляд, нават для непадрыхтаванага да падобнай гаворкі чалавека.

І ў тым пераканаўчая сіла Таленту, не зважаючы, у якім мастацкім накірунку дзейсьніцца яго Творчасьць...

***

Зямны час зьмяніў свой рытм. Жыцьцё чалавека паскорылася. Такія, як я, людзі, якім пад пяцьдзясят, — стамляюцца, не пасьпяваючы за часам ні фізычна, ні духоўна...

Яшчэ дваццаць-трыццаць гадоў назад справы чалавечыя дзеіліся спакайней, разьмераней, надзейней, спагадней для самога чалавека. Амаль не было разьліку на далёкую асабістую пэрспэктыву, не было рызыкі ў дзеяньнях і будзённых намаганьнях.

Дзень быў роўны дню, а ноч — ночы, любоў — любові, а зло — злу, рубель — рублю, а беднасьць — беднасьці, чалавек — чалавеку, а Бог — Богу...

Цяпер дзень стаў карацейшым, а ноч даўжэйшай, любоў — меншаю, а зло — большым, рубель — роўным беднасьці, а беднасьць — нявартая рубля...

Чалавек імкнецца быць роўным Богу — і Бог паскарае рытм жыцьця...

Я — адстаю, адстаю... Але — застаюся. У сваім часе. Зь сябе ня выбежыш...

***

Трэба было мне па сваёй памяці занатаваць пра тое, як...

Але — не... Пакіну гэтую радасьць іранічнага натхненьня Леаніду Дранько-Майсюку, хоць ён і ня быў сьведкам таго, як... І ўсё ж ніхто іншы ня зможа так напісаць „Пра тое, як пасварыліся Алесь Сьцяпанавіч з Анатолем Ціханавічам”...

Вядома, адна справа, калі графаманка-палюбоўніца задушвае п’янага таленавітага Рубцова Мікалая Міхайлавіча, і зусім іншая, калі адзін магутны талент душыць другі ня менш буйны талент... Праўда, і ў гэтым выпадку ўсё магло скончыцца на мінорнай трагічнай ноце...

Затое ўвайшло б у гістарычныя літаратурныя аналы! А так... невядома нават, ці захоча пісаць „пра тое...” Л. Д.-М.

***

Людзі хочуць наблізіцца да Бога, таму што палохаюцца духоўнай адзіноты, але ўсё яшчэ далёкія ад Яго, таму што баяцца адысьці ад сябе...

***

Здавалася, вясна ўжо стаяла на парозе акалелага сьвету... А сёньня зранку — зноў сьнег, вецер, макрэча...

Стыхія разгулялася паўсюль — у прыродзе, у грамадзтве, у кожным асобным чалавеку...

Палітычныя вятры за апошнія дзесяць гадоў выдзьмулі зь людзкіх душаў адчуваньне вечнай прыгажосьці, пакінуўшы там пустку быційных расчараваньняў.

Як загнаны зьвер, ужо зьмірыўшыся з гіблым выракам, удыхваю ў сябе апошні водар жыцьця...

***

Мастацтва — гэта ня тое, што створана ці яшчэ творыцца, а тое, што з табой створана ці яшчэ створыцца...

***

Вось гэты зацемкі... Іх трэба альбо пісаць альбо чытаць... Мне, яму, ёй, вам — няважна.

Я выбраў першы варыянт...

***

Мітынговасьць зацягвае, як алькаголь. Кожны з нас пакутуе за Айчыну ў меру сваёй любові да яе. Іду ў шматтысячнай калёне пад бел-чырвона-белымі сьцягамі і, пераадольваючы боль у страўніку, крычу разам з усімі „Жыве Беларусь!", ясна прытым усьведамляючы, што не жывем ні я, ні яна, а — хварэем, што час ня лечыць нас, а набліжае агонію.

Але мы ствараем міт, бо ведаем, што толькі ў міце адраджаецца з попелу птушка Фэнікс...

Што нам дае гэта, апроч надзеі? Адчуваньне ўласнага дачыненьня да стварэньня міту — ілюзіі нашага зямнога існаваньня.

Таму, трываючы боль у страўніку, я крычу на ўвесь Сусьвет: „Жыве Беларусь!", укладваючы ў гэтыя словы адзін-адзіны сэнс : Госпадзе, я — грэшны раб Твой, зьлітуйся — даруй мне грахі мае...

***

Прадвесьне... Апатыя.. Ня ведаю, навошта жыву, пішу... Апатыя не да жыцьця, а да сьмерці, не да жывога, а да мёртвага...

Апатыя не да мокрага, бруднага і цяжкага сьнегу, што растае ў мяне на вачах... Апатыя да сёньняшняй рэчаіснасьці...

***

Студэты спыталі прафэсара-філёляга, як гэта людзі складаюць анэкдоты. Было тое за сталінскім часам.

„Сядзяць і *сачыняюць*, — коратка адказаў прафэсар і як бы няўзнак дадаў: — Сачыняюць і *сядзяць*..."

Мне падабаецца гэты трапны анэкдот пра анэкдоты, Ды ўжо й пры нашым часе, прыпамінаючы „рэваншыста"

Адамовіча зь яго вершам „Убей президента", за які ён вось цяпер і сядзіць... Анэкдот!..

***

У нас па сутнасьці адбываюцца банальныя „рэчы". А ляманту — на ўвесь сьвет! Такога розгаласу не заслугоўваюць ні той, хто творыць гэтыя „рэчы", ні той, хто надае ім такое значэньне...

Не дзяржава, а — край зь людзьмі на балоце...

***

У гэтай краіне, дзе ты ні пасяліся, — хоць зь якога боку апоек суседам будзе. У мяне цяпер, дзякаваць Богу, — зьнізу. Маці гадоў сямідзесяціпяці і сынок-бадзяга гадоў сарака пяці... Рэдка калі павітацца можна — напітыя да бязмоўя, толькі хрыпла мыкаюць ды брудна і неразборліва лаюцца. А вечарамі крычаць-грукочуць і б'юць посуд. Не ўяўляю — што ўжо там біць...

Хрушчоўка, перакрыцьці блёчныя, тонкія — усё чуваць, хоць вушы ватай затыкай. Асабліва ў ваннай. І вось сёньня, на каталіцкі Вялікдзень, чышчу ранкам зубы — чую і вушам сваім веры не даю; адчуваецца, што яшчэ ў ложку, непахмелены, перасохлымі губамі, іржава-выбачальным голасам: ма-ма, ма-му-ля...

Я нават разгубіўся ад неспадзеўкі. Госпадзе, думаю, ну ёсьць жа Ты, хоць і па вялікіх сьвятах... Які Макаранка ці Сухамлінскі мог спадзявацца на падобнае?!

Ды за такую „пяшчоту", якую ён адшукаў на донцы сваёй спаскуджанай душы, я сам даў бы яму чарку для апахмелкі...

Няхай і не „homo sapiens", але „беларуса-савецікусчалавекус"...

***

Літаратура, як, дарэчы, і ўсякае высокае мастацтва, трымаецца на асобах неардынарных, нярэдка нават звыродлівых, як фізычна, так і псыхічна, — гэта сьведчыць пра тое і сцьвярджае тое, што толькі чалавек, якому ўдаецца вырвацца за межы наглуха замкнёнага кола ўнармаванай чалавечай цывілізацыі, можа стварыць суб'ектыўны мастацкі вобраз аб'ектыўнай рэчаіснасьці.

Можна было б прыводзіць для „ілюстрацыі" сказанага многія прыклады і шмат якія імёны — яны ўсе на паверхні, а большасьць на слыху сёньняшніх інтэлектуалаў. Таму — ня буду. Дадам хіба, што, перачытваючы Эзру Паўнда, я фізычна адчуў, што мне нестае ўнутранай духоўнай моцы, каб вырвацца з гэтага зялезнага ўнармаванага бытаваньня.

Нармальна нарадзіцца, нармальна жыць і нармальна памерці — гэта і ёсьць норма (ЗАКОН) цывілізаванага чалавечага рабства. Зьмірыўшыся зь сьветам, ты зьміраешся з сабой — і ў гэтым твой скон як творцы...

Не здарма ж Бог і боскае зьяўляюцца сынонімамі Творцы і творчасьці. Той Сілай, якая ўзвышаецца над звыклай мітусьнёй сьвету...

***

На кінатэатры „Вільнюс" больш тыдня вісіць абвестка. Чырвоным колерам буйнымі літарамі: „ПРИГЛАШАЕМ МОЛОДЕЖЬ НА РУССКОЯЗЫЧНУЮ ДИСКОТЕКУ!

„Nicht verstehen!" — коратка выстрэльвае з памяці школьны набытак зь нямецкай...

***

Вечарам напрыканцы цягамотна-пустой „Панарамы-АТН", паказалі сюжэт дзікага савецка-беларускага цынізму. Пятнаццаць зуброў зь Белавежскай пушчы завезьлі ў радыяцыйна забруджаную зону Бабчынскага лясьніцтва...

Яшчэ здаровыя волаты айчыннай прыроды стаяць у лясным масіве і асуджана ліжуць набрынялы цяжкі чарнобыльскі сьнег...

Дыктарка за кадрам: „Можа, радыяцыйная зона абароніць гэтых рэдкіх жывёл лепш, чым „Чырвоная кніга"...

Безумоўна, і карэспандэнта і навуковых эскпэрымэнтатараў, што зьдзейсьнілі гэтае злачынства, трэба занесьці ў чорны разьдзел „Кнігі Гінэса".

Магчыма, я ў нечым памыляюся з-за сваёй навуковай недасьведчанасьці, але, пэўна, не настолькі, каб выйсьці за межы разумнага...

***

Гарадзкія бабулькі падобныя да павукоў. Сядзяць дзенебудзь у закутку на сонейку і прадуць сваю сонную слоў-

ную павуту, чакаючы, пакуль туды ўскочыць зьнямоглае ад плачу дзіця...

***

Для чалавека, што жыве ў цывілізаваным грамадзтве, Айчына — гэта ўсё, што *ёсьць*...

Для цывілізаванага беларуса, Айчына — гэта, найперш, тое, чаго *няма*...

***

Ёсьць людзі, якіх любіш цалкам, а некаторых толькі часткова — за нешта канкрэтнае, за нешта адно...

З апошніх — Мікола Купрэеў. Зрэшты, усяго чалавека не прымае нават зямля, а дзеліць яго зь небам... і гэтым вырашае нашыя эгаістычныя і небязгрэшныя адносіны да жыцьця...

Таму, Мікола, не крыўдуй — усё наша з табой паасобку яшчэ недзе некалі зьлюбіцца...

***

Нам здаецца, што ўвесь час мы думаем пра жыцьцё. На самой справе мы думаем пра сьмерць, намагаючыся пазьбегнуць яе ці хоць бы адцягнуць на пэўны час...

Бо як ні думай, а па вялікім рахунку — усё жыцьцё *трацiцца* на сьмерць...

***

Я — *беларус*. Ну, што ж, такая ўжо мая доля...

***

Напрыканцы XX стагодзьдзя зьявілася на Беларусі яшчэ адна нацыянальная меншасьць — чарнобыльцы. Ужо праводзяцца сярод іх фэстывалі народнай творчасьці, мастацкія і дзіцячыя конкурсы... засталося самае цынічнае — правесьці конкурс прыгажосьці і выбраць „міс Чарнобыль"... Ї ўвогуле — абвясьціць рэфэрэндум аб аб`яднаньні чарнобыльцаў Расеі, Украіны і Беларусі. Гэткі саюз за выжываньне меншасьці... Апошні фарс на зыходзе XX стагодзьдзя...

***

У чарговы раз наведаўся з кароткачасовым візітам Мікола Купрэеў. Ён хоць і ў фаворы цяпер — лепшы літара-

тар берасьцейшчыны, кандыдат на атрыманьне Дзяржаўнай прэміі, ляўрэат прэміі часопіса „Крыніца" — але як быў Міколам, так і застаўся. Дарэчы, у кішэні яго пінжака — сьцёртая пуцёўка-ўзнагарода ў Злату Прагу, аднак — цягне яго сюды, у княства „залатых віцязяў"...

Прывёз новую аповесьць.

... Праводзячы яго ў зваротны шлях (куды?), сілком змусіў забраць клунак з рэчамі, якія ён паўгоду назад пакінуў у рэдакцыі „Крыніцы" — сваё ўношанае адзеньне.

Празь дзень тэлефануе вахцёрка з Дома літаратараў: ваш сябар Купрэеў пакінуў у нас швэдар, кашулю і шалік...

Ну, што тут скажаш. Здаецца, у чалавека толькі тое і ёсьць, што на сабе ды пры сабе, а ён усё ж пры кожным выпадку ўмудраецца яшчэ нешта пакідаць людзям: дакумэнты, даведкі, грошы, гадзіньнікі, адзеньне, рукапісы...

Ёсьць прадчуваньне, што неўзабаве, маючы такі талент бескарыснай растраты, *пакіне* нам і сябе самога...

***

Прыехаў да мамы на Вялікдзень, а там — ні з таго ні зь сяго — імжака ды мокры сьнег валіць... З апоўдню да ранку. Нас цэлы гурт — трое братоў з жанкамі ды сястра і ўсе зь дзецьмі. У хаце душна, пра ўсё гаворана-перагаворана, а ў двор ня вылезьці... „Награшылі мы", — кажа, як бы сама сабе маці...

Апоўначы зьявіліся пад вокнамі валачобнікі — падвяселеныя тутэйшыя дзецюкі — рыпаюць хромкай ды галёкаюць: „Хрыстос васкрос! Хрыстос васкрос! Хрыстос васкрос! Так валачобнае дасьцё ці песьню сьпяваць?.."

„Уісьціну васкрос! Уісьціну... Уісьціну... так, хлопчыкі, так дамо, — выбегшы ў сенцы, просіць-кажа заспаная маці, падаючы ім яйкі і бутэльку самагонкі, — дзеці малыя ўжо сьпяць, разбудзіце, крый Божа, разравуцца на ноч гледзячы... Ідзіце з Богам..."

І тыя, выходзячы ў цёмнай непагадзі з двара, раптам, ужо ў весьніцах, хрыпла гарлаючы, заводзяць: „Сне-го-пад, сне-го-пад... Если жен-щи-на про-о-сит..."

Ляжу, слухаю гэты вэрхал выміраючай роднай вёскі, самотна думаю: ці *ўваскрэсьнем*?..

***

Вясна!.. Цьвітуць дзяўчаты... Доўга, летуценна і безразважна цягнуся за высока аголенымі стройнымі ножкамі квітнеючай маладзіцы... Бы на камень, натыкаючыся на знаёмага літаратара. „Ну што, добрыя ляжкі, га?!" — грыміць ён на ўсю вуліцу, затхла аблізваючы перасохлыя губы. Прачынаюся... Балюча падаю зь нябёс на зямлю. Вочы засьцілае шэры асфальт...

***

Бальшавікі-ленінцы ўсё ўбівалі ў галовы цёмнага люду, што „труд облагораживает человека"...

Успамінаю гэту патэтычную рыторыку, назіраючы ў тэлеэкране за ўшанаваньнем ангельскай каралевы Елізаветы. Ёй — семдзясят гадоў. Сорак зь іх — на каралеўскім троне... Яшчэ здаровая, рухавая, з ружовашчокім інтэлігентна-сямейным тварам, на вуснах і ў вачах — нязгаслы вугалёк жаночай стрыманай какетлівасьці...

Брава! Брава! Хай жыве каралева!

„Жыве Беларусь!" — ужо каторы год да хрыпаты зрываю свой голас на шматлікіх мітынгах і шэсьцях, адраджэнскіх сходах ды застольлях...

А мама мая, гаротніца Соф'я Паўлаўна, адгараваўшы на польскай паншчыне ды ў савецкім калгасе ўсё сваё сьвядомае жаночае жыцьцё — высахла, схварэла, згасла, трымаючы і сёньня без мужыка ўжо звыклую сялянскую гаспадарку: карову, сьвіней, кур, качак і чацьвярых катоў, што тройчы на дзень абціраюцца ля яе ног, мяўкаючы каля цёплай спадніцы... „А як жа я, сынок, без гаспадаркі?! Куды ж я рукі дзену?.. У дамавіне належуся яшчэ."

Маме таксама семдзясят гадоў, як і ангельскай каралеве Елізавеце. „Труд облагораживает человека".

Vivat каралева! Жыве Беларусь!

Не памірай і ты, мама...

***

... Гадзіна ночы... Душна... Гляджу фільм Мілаша Формана „Адрыў"... Жонка сьпіць раскрытая, уроскід, агаліўшыся да клубоў, маленькія грудзі ўздымаюцца пад тонкай белай сарочкай імпульсыўна і часта...

Душна ноччу з дваццаць пятага на дваццаць шостае красавіка... За свае пражытыя сорак шэсьць гадоў я не прыпамінаю такой цяжкай зьбітай начной задухі. Форткі адчыненыя, у іх цёмна і пустынна. Фіранкі не варухнуцца... Неба нямое... Можа, калі б ня гэтая зьнясільваючая духата — усё было б так, як і заўжды, учора, заўчора, год, пяць і нават дзесяць гадоў назад. Нешта сьмяротнае і небясьпечнае падсьвядома вынікае з гэтай начной задухі... Ня ведаю што...

Заўтра „жалобны юбілей" чарнобыльскай трагедыі. Магчыма, гэта напамін... ці папярэджаньне...

Фільм скончыўся. Духата засталася. І на пятым паверсе ў гэтым доме няма вады, каб апаласнуцца ў душы. Іду на кухню. Запальваю цыгарэту — і задыхаюся канчаткова...

***

Мой сакурсьнік па Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве чачэнскі паэт Зэлімхан Яндарбіеў пасьля гібелі Дудаева — зноў навідавоку...

Дзіўная рэч — інтуіцыя, прадчуваньне, прадбачаньне... Усё, напісанае вышэй, напісалася ўчора позьнім вечарам (28.04 96 г.). Далей чамусьці не пайшло, занатавалася проста як факт.

А сёньня днём Масква паведаміла пра гібель Яндарбіева. Сядзім, самотныя, з жонкай на канапе ды ўспамінаем зьвязанае з Зэлімханам...

Сур'ёзны, інтэлігентны, адукаваны, дабрадушны , ветлівы, трошкі незаўважна-адсутны ў кампаніі і як бы прысутны па-за ёй...

Аднак пра многае напішацца, можа, калі пазьней. А пакуль ляжыць перада мной падараваны ім літаратурны часопіс „Орга", чацьвёры нумар за 1988 год, з маім вершам у Зэлімханавым перакладзе.

Я добра памятаю, што не даваў яму ні свайго арыгінальнага беларускага тэксту, ні падрадкоўніка... Па ўсім відаць, што адабраў ён гэты верш для перакладу на нашых сэмінарскіх занятках, калі абмяркоўваліся мае паэтычныя высілкі...

Чаму менавіта гэты, адзін з самых дарагіх мне вершаў, якім употай ганаруся за падтэкст, што паспрыяў яго зьяўленьню ў „Літаратуры і Мастацтве" яшчэ за брэжнеўскім

часам?.. Ня ведаю... І ў яго, відаць, спрацавала творчая інтуіцыя.

Паколькі цяпер вершаў увогуле не чытаюць за выняткам тых, хто мае дачыненьне да рыфмарства, то мне вельмі карціць выдрукаваць яго яшчэ раз, балазе ён мае толькі дванаццаць радкоў.

Прычакаўшы глыбокага сьнегу,
Аб'яжджаюць каня мужыкі...
Маладому, шалёнаму бегу
Дзьве аглоблі сьцінаюць бакі.
Ні на міг не правісьне ляйчына,
Не папусьціць свабоды рука,
І — туды, дзе глыбее лагчына,
Да апошняга правіць рыўка...
Вось ён — потны, загнаны, зьнямоглы —
Ад тугі і адчаю захроп...
Заўтра стане пакорна ў аглоблі
І бяз пугі ня пойдзе ў галоп.

Чамусьці ў перакладзе Яндарбіева атрымалася трынаццаць радкоў. Вядома, я пісаў пра нашых коней і пра нашых мужыкоў... Там і мужыкі не такія, і коні больш гарачыя... І аб'яжджаюць іх інакш — даўжэй і ўпарцей не паддаюцца яны дрэсіроўцы і ўправе...

А „загнаных коней прыстрэльваюць, ці ня так", Зэлімхан?..

... Дзякаваць Богу, сёньня ўжо ведаю, жывы, брат, пакуль — жывы...

***

Божа, якая шчасьлівая наша мова! Ніхто ніякую іншую, мабыць, так ня любіць, як мы сваю — купка беларусаў ад плоці і духу яе...

Безь яе мы нячутныя, нябачныя, нязнаныя, нямыя — ніхто...

І ніхто нас ня можа пазбавіць яе, не пазбавіўшыся нас.

Яна — нашы народзіны, сьмерць і ўваскрашэньне...

***

Чалавечы дух мацуецца на адзіноце і аганізуе ў натоўпе.

***

Гавораць, што мастацтва стала прадажным, што ім гандлююць...

Можна купіць кніжку альбо карцінку, квіток у тэатар ці кіно; але як прадаць альбо купіць тое, што па-за тэкстам, па-за рамай карціны, па-за сцэнай, па-за экранам?..

Як прадаць альбо купіць тое, чаго няма ў прыродзе, але ёсьць у душы чалавека-творцы! Прадаць чалавека?

***

Купіў дачцэ ружовы шарык.

— Набяры духу і надзьмі — вялікі-вялікі...

Надзімаю. Праз хвілінаў колькі вяртаецца як пакрыўджаная...

— Не лятае... Ты духам надзімаў?

***

Ужо чатыры гады, як бацька ляжыць глыбока ў зямлі...

Дзікунскае, падсьвядома-таемнае жаданьне ўзьнікае ў мяне час ад часу пры начной самоце-бяссоньніцы: зазірнуць туды, пабачыць, ці цэлая труна, ці захавалася аблічча, ці ёсьць...

Што гэта? Псыхічнае адхіленьне ці неадольны пожад зазірнуць у твар самой сьмерці? А можа — вечнасьці?..

***

Людзі не пасьпявалі асэнсоўваць, што яны гавораць — таму зьявіліся пісьменьнікі...

***

Дзіўны гэты народ — беларусы. Дзяржаўнага грунту няма, а яны ёсьць... Прарасьлі, як трава ў багністым балоце, — ня выкасіць...

***

Тое, што адбываецца ўнутры мяне, ужо адбылося звонку...

***

Травень. Поўдзень. Цяплынь ліпеньская.... У шортах, голы да пояса, вару сабе яйка на абед...

Праз адчыненеае насьцеж кухоннае вакно — раптам! — напльвае аднекуль зблізу мэлёдыя жалобнага пахавальнага маршу, паступова запаўняючы ўсю прастору... Да адчуваньня ўласнай адзіноты прымешваецца чуцьццё забытасьці, пакінутасьці...

Музыка чалавечай жальбы адыходзіць некуды далёка, сьціхае...

Яйка пераварваецца...

***

Ужо гадоў сорак таму на жніве сярпом перарэзала маці сухажыльлі на ўказальным пальцы правай рукі. Так і не разгінаецца ён у яе з той пары. Замінае гэтая, як яна кажа, загагуліна ў рабоце, асабліва дробнай — шыць, садзіць бульбу ці рассаду, пісаць... Праўда, зь пісаньнем у яе і без таго туга было, во, як зараз у мяне... так, часьцей за ўсё ў пэнсыйнай ведамасьці...

А нядаўна скідвала з вышак у хляве цюкі з саломай, а шпагаціна з далоні — чырк! — і зачапілася за той палец сагнуты, за тую загагуліну, і ўвесь цяжкі , утрамбаваны машынай, цюк на тым пальцы няшчасным павіс над токам... Добра, што сама ўніз не абрынулася. Мяса да косткі зрэзала...

Палец гноіцца, рука распухла, дзеці далёка — няма каму пажаліцца і пашкадаваць няма каму...

Які электарат у Лукашэнкі, Госпадзе, Божа мой — усё вытрывае, усё аплача, усё аплаціць!

У тэлефоннай размове кажу ёй: „Што ты, мама, пакутуеш столькі гадоў з гэтым пальцам?" Адсеяліся, час вольны да сенакосу, паедзь у раённую бальніцу ды няхай яго ампутуюць. Зь яго ніякай помачы табе, адна няўдобіца. Адрэжуць — лацьвей будзе..."

Маўчыць, як пакрыўджаная, а пасьля, бы вінаватая, кажа: „Што ты гаворыш, сынок, — ужо ж гоіцца... Як гэта сваё адрэзаць? Сорак гадоў быў, то хай і будзе... Колькі таго жыцьця... У цэласьці памерці хачу..."

***

Па вялікім рахунку — усё насельніцтва Беларусі вясковае. У вёсцы яно звыкла адгароджваць свае сядзібы платамі, тут — у горадзе — шкліць балконы. І гэтыя ўжо не

вяскоўцы, а па-гарадзкому кажучы, „дзяроўня". А цяпер, во, у іх яшчэ й лецішчы. Адным словам, у чужы гарод не палезуць, бо ў сваім хапае... Толькі не чапайце іх...

„Мая хата з краю" — лепш і ня скажаш. Хоць зь якога краю. Няхай сабе й Паўночна-Заходняга.

***

Сёньня вечарам жонка насмажыла дранікаў. Зь мясам. Многа. Пульхныя. Сальныя. З падгарачкай... І зь сьмятанай...

О, браткі мае, невыказны цымус па нашым часе...

На добрых хвілін трыццаць абсалютна забыўся на прэзыдэнта...

***

Усё мной пражытае жыцьцё як бы прыпынілася і, разьвітваючыся, глядзіць мне ўсьлед...

Так летнім надвячоркам адыходзіць ад чалавека яго цень...

***

Кожны сапраўдны Паэт, які хоча застацца ў гісторыі літаратуры, павінен быць здольным завершыць свой лёс геніяльна...

***

Канец працоўнага дня. Час пік. Сьпякота... У перапоўненым тралейбусе жанчыны пахнуць сабой... Не зважаючы на тое, мужчыны млявыя і апатычныя...

Кантралёр спакойна выбірае ахвяру...

***

Мужчыны, хоць і глядзяць на жанчынаў па-рознаму, але бачаць іх аднолькава...

***

Заходзіць у рэдакцыю маладая паэтэса. Паказвае вершыкі і — сябе... Яшчэ не стары рэдактар мітусьліва прыкідвае: як бы задаволіць яе прэтэнзіі не друкуючы...

***

Пад вокнамі нашай хрушчоўкі адцьвіла чаромха. Пачынае згасаць бэз і сьнежнымі купкамі ўбіраецца ў квет рабіна...

І ўсё гэта — там, унізе, пада мной, толькі апусьці долу вочы... Аднак радасьці былой ужо няма — адцьвіла даўно, адбуяла. Толькі ржавы налёт журбы на высахлых вуснах...

Пяты паверх жыцьця... У нашым доме вышэй ужо не жывуць...

***

Ёсьць адчуваньне, што раблю ня тое, ня тым жыву, трачуся на ілюзіі. Вось і сёньня: чытаў чорт ведама што, хадзіў „туды -ня ведаю куды", гаманіў абы з кім, піў каву на хворы страўнік, глядзеў тэленавіны з таго сьвету, курыў бязь меры, нешта крэмзаў без задавальненьня...

Сорамна за такое жыцьцё перад уласным дзіцем. Праўда, ад гэтага сораму можна ненадоўга схавацца, прыкрыўшыся кавалкам хлеба, які нібыта зарабіў ты невядома ў каго, невядома за што...

Дзесьці глыбока ў памяці трызьняцца радкі латыша Іманта Зыедоніса:

> ... От этого не умирают,
> Так можно жить за годом год.
> И многие не умирают...

***

Літаратура — гэта тлумачальны слоўнік жыцьця бяспамятнага чалавецтва...

***

Цікава, ці расказваюць дрэвы сваёй вясновай лістоце пра восень?..

***

На футбол хаджу з валідолам... Адно слова — *балельшчык*, хоць і рускамоўнае. Бо нашыя словы — *аматар* альбо *заўзятар* — гэтую даўнюю хваробу чалавецтва характарызуюць аддалена і аморфна...

***

Усё-ткі горад не агрубіў мяне дарэшты. Зноў пусьціў выпадковую сьлязу, гледзячы нейкую мэлядраму па тэлескрынцы...

Яшчэ не дабраў цынічнай мужнасьці, каб адолець сэнтымэнтальнасьць душы...

***

Сёньня днём была навальніца. З бліскавіцамі, з громам... Але хутка скончылася. Стаю з дачкой на балконе пад апошнімі кроплямі дажджу — цяжкімі, буйнымі...

Цёмна-шэрыя грозныя хмары грузна пасунуліся ўбок Масквы — і над Менскам адразу пасьвятлела...

***

Знайшоў у сваіх запісах такое: „І ў сямейным ложку можна спаць *асобна*..."

Нешта, відаць, з уласна-інтымнага, напісанае яшчэ да неўразумелай руска-беларускай „*Супольнасьці*".

***

Пазаўчора — суп. І ўчора — суп. І — сёньня...

Нічога. Зьмірымся. Ператрываем. Перажывём...

Ёсьць людзі, якія штодня пішуць вершы, і, магчыма, якраз яны перажывуць тых, хто піша прозу... А зрэшты, калі й наадварот...

Справа ня ў супе...

***

У гэтым жоўтым будынку на Камсамольскай, як толькі туды трапляеш, апынаешся ў няяснай шэра-рудой і чорна-карычневай прастрацыі... Ці, можа, табе так здаецца ў тваім прыгнечаным стане.

... Бясконца доўгія калідоры зь незлічонай колькасьцю зачыненых дзьвярэй. Ні душы... Лесьвіца. Зноў такі ж калідор... Ні табе, нікому ня чутныя твае крокі. Няма рэха. Не адгукаешся сам сабе... Дзьверы, дзьверы... І ўсе зачыненыя. Усе і ўсё — за дзьвярыма... Справа, на адной зь іх, іранічна кідаецца ў вочы ярка-чырвоная шыльда: КАССА... І тут, як усюды, — нехта працуе, нехта расплачваецца... Карацейшы

калідор у тарцы ўпіраецца ў яшчэ адзін доўгі, паралельны таму, якім ты ўжо ішоў. Зноў цёмныя зачыненыя дзьверы з вывешанымі на ручках таблічкамі: ИДЕТ ДОПРОС... На некаторых яны перавернутыя адваротным пустым бокам: там ужо скончыўся допыт — зусім? Для каго?..

Дзьвярная ручка яшчэ цёплая. Цемнаваты пакой. Шэра ў ім і, відаць, сыра — у кутках на столі бурыя падцёкі. Сталы, крэслы, цёмна-фіялетавыя фіранкі... У дзьвярах — свежа адрамантаваны і неахайна зафарбаваны вушак. Хто тут мог выбіваць дзьверы?! Куды ён хацеў уцячы-выбегчы?! У гэты цёмны бясконцы калідор, што паралельна зьвязаны з такім жа бясконцым калідорам?..

На стале — кампутар. Трохі ясьнее на душы, усё-ткі атрыбут сучаснасьці. Сядзім, гамонім. Даволі адукаваны, інтэлігентны малады чалавек насупраць... Палім. Задымліваем і без таго цьмянае сьвятло дня.

І — раптам — у самым кутку, ля адзінага акна, погляд мой натыкаецца на тумбачку. Старая дыхтоўная тумбачка, але стальніца на ёй не драўляная, а каменна-гранітная ці мармуровая — тоўстая, цяжкая, сьлюдзянога колеру... На ёй — графін з вадою... І я ўсё, раз за разам, кідаю вачмі на тую стальніцу, груваcткую, акамянелую, што ўціскае лёгкую драўляную тумбачку ў падлогу. Мне падалося — на ёй кроў... Але — не, гэта проста так адшліфаваны да глянцу каменны зрэз... Падсьвядома ўзьнікаюць кніжныя і вусныя згадкі не маіх гадоў...

Кузьма Чорны. Белы, як прасьціна, твар, галава — на краі стальніцы...

Чарговае пытаньне чалавека насупраць адцягвае ад навязьлівых асацыяцый.

... Спалена паўпачакі цыгарэтаў на дваіх. Няма чым дыхаць... Годзе ўжо. Тым больш гэтая гаворка пра літаратуру ў падобным месцы — як трава ў пустыні... У прынцыпе, яна нам абодвум да фені. Стаўлю подпісы на старонках кампутарнага друку — усё правільна, усё так, „верно", „согласен", „дополнений не имею"... Шэсьць ці сем подпісаў. Любуецца. Подпіс у мяне і сапраўды прыгожы, неардынарны, можна сказаць, экзатычны. Не для такіх установаў, канечне...

Здаецца, усё, можна ісьці. Праводзіць мяне тым жа, вядомым яму і, магчыма, апастылелым шляхам — адзін бы

я адсюль ужо, пэўна б, ня выйшаў... Ні чалавека, ні голасу, ні рэха... Мажны, наеты паставы забірае пропуск...

Адчыняю вузкую палову дзьвярэй, і — вось, я на вуліцы!.. Вуліца ўсё ж тая — Камсамольская... Звыкаю вачыма да сьвятла, удыхваю паветра — чыстае, сьвежае, халаднаватае... І ніякае яно не забруджанае, гэта пацьвердзіць кожны, хто выйшаў адсюль.

Гляджу на занураных, сьпешных, абыякавых гараджанаў... Няма радасьці жыцьця на іх тварах...

Госпадзе! Людзі, ды паглядзіце вы на чалавека! Ён — выйшаў...

Праўда, там ужо перавернута таблічка і вызваліўся пакой...

***

Госпадзь справядлівы нават у тых выпадках, калі на наш зямны погляд, абыходзіцца з намі несправядліва.

Да прыкладу, ён змоладу забраў здароўе ў Максіма Багдановіча, але ж прытым не забыўся надзяліць яго бесьсьмяротным талентам...

Чаму так? Не чалавечае гэта разуменьне... Ня людзкае — але боскае.

***

Ужо год, як ануляваная наша гістарычна-дзяржаўная сымболіка. Аднак ні Пагоня, ні бел-чырвона-белы сьцяг ня зьніклі з нашай памяці і нашых вачэй...

Вось і сёньня. Зайшоў у тралейбус маладзенькі, высокі, злёгку прышчаваты курсант міліцэйскай школы. Усунуты з ног да галавы ў летнюю МУСаўскую форму. На галаве — пілотка. А на пілотцы — кукарда з Пагоняй!..

Людзі — хто зь непрыязьзю, хто зь недаўменьнем, хто з замілаваньнем — не-не ды кідаюць на яго погляды... І ён гэта адчувае, раз-пораз азіраецца, сябе неўпрыкмет аглядвае — што ж у яго ня так, што не ў парадку? Пра Пагоню ў яго і задняй думкі няма...

Выйшаў ён каля Камароўкі і ўсё няўцямна стаяў там, насупраць Якуба Коласа, як сам ня свой...

Што ж, такі лёс нашай сымболікі . Яшчэ доўга будзем да яе прыглядацца, каб звыкнуцца і зжыцца зь ёй...

***

Зноў — тралейбуснае...

Заходзіць у салён каля Дома друку маладзіца-нэгрыцянка — клубы, ах! — акруглыя, выпуклыя, танцуючыя... А да таго ж, што ў іх рэдка, — і тварам вабная, сымпатычная. Стала насупраць сямейнай парачкі. Абаім пад трыццаць. Інтэлігентныя, гожыя... Ён як бы газэтку чытае, але міжволі, неўпрыкмет сьлізгае з газэтнай старонкі па тых ладных нэгрыцянскіх клубах.. Раз, другі, трэці.. Ды ад жончынага вока і зрэнкі не схаваеш. Скмеціла і — штурхель локцем пад бок!..

Ды ўжо ж, такая жонка-прыгажуня сядзіць поруч, а ён лыпае-зырыцца на гэтыя чорныя, пэўна, потна-бліскучыя, прутка абцягнутыя сукнёй, нэгрыцянскія клубы! О-о-о...

Але што праўда, браткі, то і я сьцьвярджаю — не клубы то былі, а наркатычная музыка страсьці! — вартыя пільнага вока сапраўдных мужчынаў...

Здараюцца, дзякаваць Богу, і ў наш самотны час маленькія зямныя радасьці...

***

Днём як бы й ня чуеш рову сотні матораў на вуліцах горада. А глыбокай ноччу дастаткова скрыгату тармазоў адной лядачай таксоўкі, каб праклінаць усю тэхнічную цывілізацыю...

Чалавек жыў бы спакойна, калі б яго не трывожыў уласны розум...

***

У наш час, каб захаваць цнатлівасьць душы, іншым разам для яе абароны трэба праяўляць фізычную агрэсыўнасьць і вонкавую вульгарнасьць...

***

Памятай: нешта сьцьвярджаючы, нешта аспрэчваеш...

***

Усю ноч наскрозь сяджу перад цёмным кухонным сталом пры сьвятле настольнае лямпы...

Думаю... Пра што? Аб чым я адзінока думаю ўсё сваё жыцьцё?..

Пад рукамі разварот „ЛіМу". Чытаю Разанава, зь якога вынікаюць асобныя сэнсы, знакі, сымбалі і зьнікае канкрэтны чалавек...

Наварыча, што насьцярожна стаіўся ў начным закутку падтэкста сваёй кароткай сьвітальнай прозы...

Пра што ж мы думаем?..

Як і ў навэле Наварыча, сьвятло за акном ужо расьсейвае змрок, і, здаецца, вось-вось, таемнае адкрыецца майму разуменьню — так сіта адвейвае палову ад зерня...

Не, не... Гэта толькі паднебнае сьвятло спускаецца на зямлю і высьвечвае абрысы жывога, але не яго сутнасьць... Зьмежваюцца, зьліпаюцца векі вачэй... Непад'ёмны, нечалавечы цяжар расплюшчыць іх нанова...

Каб думаць? Пра што? Навошта?

Урэшце, і я, бяссоны, і тыя, што спалі, — усе будзем пэўна ведаць толькі адно — што была ноч...

О Гасподзь, навошта ж Ты стварыў чалавека, не адарыўшы яго спасьціжэньнем сэнсу жыцьця і сьмерці, апроч іх вобразаў — дня і ночы...

***

Мяне няма за што любіць — і гэта я ведаю.

Але мяне няма за што й ненавідзець — хоць у гэтым я ня ўпэўнены.

***

Кожны чалавек уяўляе пра сябе больш, чым ён ёсьць...

***

Усё-ткі ў маральным, сьвядома-беларускім пытаньні я знаходжуся ў больш прывілеяваным становішчы, чым, да прыкладу, мае калегі Ўладзімер Някляеў і Леанід Дранько-Майсюк, незалежна нават ад таго, што адбываецца наўкол і паўсюль...

Трэба ж было такому здарыцца, што выпаў мне гонар дажываць свой век на вуліцы Кастуся Каліноўскага! І што вы мне тут ні кажыце, а гэта не адно і тое ж, як жыць на вуліцы У. Леніна ці К. Маркса, няхай сабе і ў больш рэспэктабэльным раёне...

Ды вось, хоць бы хвіліну назад — падпісваў на канвэрце свой зваротны адрас — і пачуваў сябе так *сувэрэнна*,

што нават росьпіс зрабіў разьняволена-размашысты, не раўнуючы, як Багданкевіч на нашых дваццацітысячных купюрах...

***

Дзіўна, што прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь *Лукашэнка* ня мае тэрытарыяльных прэтэнзіяў да суседняй Літвы.

Ды ўзяць хоць бы тыя ж „*Лукішкі*" — ну ўжо гэта то бясспрэчна наша...

***

Кожнаму з нас — жывому — у час глыбокага роздуму, адчаю ці натхненьня хочацца апынуцца сам-насам, пабыць *адсутным*...

Чаму ж, канаючы, у час свайго найвышэйшага зямнога акту, чалавек прагне *прысутнасьці*?...

***

Ад'ехала на тыдзень малая дачка — і жыву як затурканы, як ня цэльны, ня поўны жыцьцём чалавек...

Мабыць, калі ў цябе зьяўляюцца прадаўжальнікі роду, то ні ты, ні яны ўжо ня могуць быць незалежнымі адно ад другога.

Так творыцца своеасаблівы эвалюцыйны арганізм вечнасьці, дзе — жыцьцё тваё ўжо *ёсьць ня толькі тваім жыцьцём*, як і сьмерць твая ўжо *ня ёсьць тваёй сьмерцю*...

***

Зайшла ў рэдакцыі гаворка на грамадзка-палітычныя тэмы. Дранько-Майсюк, гартаючы кніжку паэзіі паляка Ўладзіслава Бранеўскага, устаўляе свае пяць злотых: „А вось, хлопцы, Бранеўскі сядзеў пры ўсіх рэжымах! Чатыры разы ці, можа, больш..."

Не раздумваючы, кажу даўно асэнсаванае: найвялікшая мудрасьць — гэта заставацца чалавекам пры ўсякім рэжыме і да таго ж, па магчымасьці, не адседжвацца...

***

Нікому ня верыць і верыць усім — аднолькава небясьпечна.

***

Быў на магіле бацькі. Паржавела агароджа, вырасла трава, быльнік, зацьвілі кветкі, што пасадзіла сястра...

Нешта расьце, нешта сохне, нешта іржавее, а нечага і некага ўжо няма і ня будзе...

***

Маці зь цёткай Надзяй жнуць у агародзе сярпамі жыта. Аціхла... Захмурэла... Зьбіраецца на дождж.. Клічуць мяне ставіць снапы ў шуркі.

Прыпамінаецца за гэтай жывой спорнай работай даўняе-даўняе, з самага маленства помнае... Калі яшчэ не было камбайнаў, жанкі-калгасніцы жалі вялікія надзелы (дзялкі). Я там, у аўсяных снапах, і нарадзіўся...

Сёньняшні тэхначас і гэтыя жытнія шуркі... Усё, на першы погляд, часовые зьвязваецца ў адзін час, як у адзін сноп, і ўсталёўвае гармонію... А хлеб з гарадзкой крамы пахне мне перадснавальнічным жытнім коласам і рукамі маці...

***

Мая амаль дзевяностагадовая бабуля вырашыла прапалоць градку. Зачапіла рукой за цьвік у плоце , і сарвала скуру аж да косткі... Скура ўжо тая, як высахлая на сонцы бяроста ці выветраная добрушская папера, — рвецца і шкуматаецца... Кроў толькі сабралася пры глыбокай ране... Перабінтоўваю, а праўнукі (мая дачка і сястрын сын) шушукаюцца між сабой: у бабы Лімы ўжо й крыві няма...

Яна ж ня чуе іх, а толькі пагладжвае малых па галоўках левай рукой ды нагаворвае: радасьць мая, кроўка мая, крывіначкі родныя...

***

Шамякін здольны многае пісаць, а Быкаў — многае перажыць... Таму Бог піша за Быкава і перажывае за Шамякіна...

***

Сёлета многа сьліў. Ужо некалькі лапаў абламалася пад цяжарам пладоў...

Згінаемся, ломімся пад тым, што самі й спараджаем...

***

Бабулька-суседка састарэла дарэшты. Сагнутая ў крук, ліпіць на сонейку на самым краёчку лаўкі каля сваіх весьніцаў. Нічога ўжо ня бачыць, ня чуе... Толькі трубны голас.

Ідзеш і крычыш ёй штомоцы: „Дзень добры Вам!!! Гэта я — Лёня Зонін!!!"

— Дзякуй, сынок, дзякуй... Пазнала...

Вось і ўсё жыццё. Шчасьлівае, няшчаснае? Пражытае... і пазнанае.. Іншым яно й не бывае.

***

У дзядзькі Мішы баліць рука — пасьля пералому зашчаміла нэрв. Абшываем зь ім гараж для машыны майго малодшага брата. Работа ўвішная, потная — настукай шэсьць цьвікоў-сотак у кожную дошку, а дзядзьку, як-ніяк, за шэсьцьдзясят. Аднак, ад роду цягавіты і мяне ўхойдаў..

Ужо й безрукаўка мокрая, але, даў Бог, — дождж... Спорны, цёплы, жнівеньскі... Перакур...

Дзядзька ж — не, схаваўся пад павецьцю і выпроствае на рэйцы старыя, іржавыя, гнутыя цьвікі, выцягнутыя ім яшчэ на досьвітку з старых дошак... Працаголік? Не, беларус, забіты ў быт да самай плешкі... На іх і трымаецца наш хісткі дом. Як некалі сказаў рускі паэт: „Гвозди бы делать из этих людей, не было б в мире крепче гвоздей". Баюся што-небудзь дадаць, бо сапсую й гэта што ёсьць...

***

У Лявона Зайчысінага на дрывотні і пад застрэшшам хлява высяцца кастры дроў. Не кастры, скажу вам, а творы мастацтва. Бяз шчылінкі, складзеныя паленца ў паленца. Колатыя трохкутна. Беразак. Піленыя (у нас кажуць: рэзаныя) пад спэцыяльную мерку — цюцелька ў цюцельку, сук ня сук...

Люба-дорага глядзець. А ўсё гэта патрабуе нясьпешнай і цягавітай працы, на якую ня кожны здольны, больш таго, той-сёй яшчэ і пасьмяецца: бач, няма чалавеку работы...

А Лявон сядзіць на ганачку старэнькай сваёй, але чысьценькай і дагледжанай хаткі і самазадаволена пазірае на тыя кастры — працу рук і душы... І маім вачам вабна...

Культура складаецца з дробязяў. Паленца да паленца і — Храм. У кожнага — свой і ва ўсіх — адзін...

***

Усе мы — наркаманы. Наркаманія — не хвароба, гэта прага зьмены душэўнага стану. Пожад новых адчуваньняў жыцьця...

Ты — наркаман, і няважна — хлебчаш ты гарэлку ці курыш гашыш, жарэш сала ці пералічваеш грошы ў сваім кашальку, гадзінамі не выключаеш плэер ці да поўначы пішаш нікому незразумелыя тэксты...

***

Чытаю „Дзёньнік аднаго генія" Сальвадора Далі. Пра п'укі (ад зразумелага ўсім дзеяслова пукнуць). У Далі пукі набываюць свае абрысы і афарбоўку, але ня маюць своеасаблівага калярыту пахаў.

Каюся, аднойчы я хацеў напісаць пра гэта. Аказваецца, Далі ўжо напісаў...

Чым больш жывеш, тым больш упэўніваешся, што ўсё ўжо напісанае, усё ўжо пукнута... Да цябе і безь цябе... Праўда, тое-сёе часам выветрываецца...

***

Зацемкі свае пішу пераважна ў тралейбусе, едучы вечарам з работы. Там — у цеснаце, гаме, дзіўных пахах, дыханьні твар у твар — і пісаліся і пішуцца ў галаве ўсе мае зацемкі.

Вершы так ня пішуцца і ня думаюцца. Вершы пішуцца, калі людзі пачынаюць сыходзіць, калі ля цябе застаецца ўсё менш і менш людзей і паступова пустка паглынае тваю адзіноту..

І тады ты пачынаеш запаўняць тую пустку словамі, ратуючыся ад невымоўнага...

***

Яшчэ не было таго літаратара, які б на поўным сур'ёзе прызнаў сябе бесталанным.

Я мог бы быць першым. Вядома, мог бы...

***

Бяссоньніца... як усьведамленьне вечнасьці...

***

Апоўначы жонка прыймае душ... Слухаю заплюшчанымі вачыма...

***

Безумоўна, я — псыхічна хворы чалавек. Іначай, хіба рыфмаваў бы словы ў такім шаноўным узросьце?..

***

Тыдзень таму патэлефанаваў Вітка: як там яго „постаць" у „Крыніцы" рыхтуецца, на які нумар заплянавалі?

Кажу: падрыхтавалі, будзем даваць у 23-ім нумары...

Зь лёгкай інтэлігентнай празарлівай іроніяй пытаецца: 23 нумар — гэта на які месяц, вы ж спазьняецеся, ці дажыву я да 23 нумару?..

Тры дні дома я яшчэ даводзіў той матэрыял да глянцу... У панядзелак прынёс здаваць. Памёр, кажуць, у пятніцу Вітка...

Хацеў адкрыць фортку, пацягнуўся да яе і — асеў ціхенька на падлогу...

Меркавалі даваць яго „постаць" у рубрыцы „ТЫ", гэта значыць, як жывога, дзейснага літаратара, а цяпер давядзецца пераносіць у рубрыку „Я", гэта значыць, адышоўшых з жыцьця, але не зь літаратуры, для тых, хто ўсё-ткі пасьпеў адкрыць фортку, каб не задыхнуліся астатнія-ія-і-я...

***

На зямлі так многа людзей, што — ні сёньня-заўтра — я буду ўжо лішнім... Праўда, ТАМ іх яшчэ больш... Аднак, і вымярэньні ТАМ іншыя.

***

Самота забірае ўсяго чалавека, а радасьць толькі частку...

***

Жаль — вось што застаецца ад нашага жыцьця блізкім людзям...

***

Гэта хмельная багемная ілюзія, што сабраўшыся нейкім блізкадумным гуртам, мы можам зрабіць-стварыць нешта вартае высокага мастацтва.

Усё адметнае творыцца паасобна...

***

Асабістае назіраньне. Прыхільнікі творчасьці Коласа — людзі пераважна звычайныя, прыземленыя, абачлівыя...

Творчасьцю і асобай Купалы, найперш, захапляюцца тыя, хто здольны на неардынарнасьць: летуценьнікі, бабнікі, багемнікі...

***

Нарэшце я надумаўся пафарбаваць вокны сваёй кватэры. Звонку ўжо ашалупілася нудна-зялёная жэсаўская фарба, дрэва загніло ад дажджоў і патрэскалася пад сонцам...

Скажу шчыра, доўга не хацелася брацца за гэтую мазьлівую справу пры маёй хранічнай лянотнасьці, але калі ўжо вырашыў, што, праўда, не бяз жончынай зьвягі-прынукі, то ўзяўся, як гэта заўжды бывае ў мяне на пачатку, з ахвотай і, можна сказаць, мастацкай насалодай.

Пачаў з кухоннага вакна, дачакаўшыся ад'езду жонкі з дачкой у вёску.

Справа мала-паціху заладзілася. За вакном цёла, сонечна. Пад вакном — зялёная трава, дрэвы, кусты... Дзіцячы рэй і розгалас...

Пэцкаю сябе, седзячы ў насьцеж расчыненым акне на падваконьні...

І — раптам! — у нейкім сваім одуме няўзнак апусьціў вочы ўніз — рука каўзанулася, цела цепанулася вонкі, нутро пахаладзела, ногі ватныя... Ачомаўшыся, зьлез з падваконьня ў кухню... Запаліў цыгарэту, думаю-маракую, сам сябе супакоўваю... А што, каб сапраўды зваліўся, жахнуўся долу зь пятага паверху?! Ну, пэўна, не разьбіўся б дарэшты, бо ўнізе зямля мяккая — кветнік, кусты, трава... Зламаў бы шыю ці пазванок... А калі б і на сьмерць разьбіўся — даволі арыгінальны скон, рамантычны нават...

Ужо асьцярожнічаючы, дафарбоўваючы тое акно звонку, стоячы знутры. Спускаюся на вуліцу — файна глядзіц-

ца... Вяртаюся, вару каву, п'ю яе задаволена-расслаблены... Гаспадар!

Але тая думка ўсё грызе мяне дастатку. Ну, разьбіўся б на сьмерць... Прыйшло б колькі сяброў на хаўтуры. Няўзнак зазірнулі б у тое акно — паахалі б: і акно прыгожае і за акном — рай зямны, нездарма гэты ідыёт туды выпырхнуў... Пэўна, і так хто-небудзь зь іх падумаў бы.

Дый што казаць, гэта ж дзьве вялікія розьніцы, як бацюць у Адэсе: адна справа — выпадкова вываліцца з акна пятага паверху ўласнай кватэры і зусім іншая — праваліцца ў сьмярдзючы каналізацыйны люк на цёмнай незнаёмай вуліцы...

Фу-у...

Але тут ужо, які каму шанец выпадзе. Каму лёс пасьміхнецца, а каму — скурчыць міну...

Адным словам — не забывайце паглядзець у акно перад тым як яго фарбаваць...

***

Шукаць сваё трэба ў сябе пад нагамі. Сваім далёка не раскідвацца...

***

Заключны канцэрт на віцебскім „Славянскім базары". На сцэне сьпявае сваю бясконцую песьню польска-французская савецкая сьпявачка Эдзіта П`еха... Глыбокае дэкальтэ, ногі аголеныя вышэй каленяў...

Уяўляю сваю вясковую цётку Маню, гэткага ж 60-гадовага ўзросту, зь сінюшнымі, парэзанымі з-за аперацый на венах, нагамі, якая ўсё сваё сьвядомае жыцьцё адгарбела на сьвінафэрме, у гнаі ды сырасьці...

І, о Госпадзе, думаю я, чамусьці ўпэўнены, што і яна глядзіць гэты канцэрт, змахваючы слязу ад прывітальных слоў любімага прэзыдэнта, і па-мацярынску, бо не была замужам і ня мае дзяцей, любіць гэтую П'еху, як сваю ненароджаную дачку, ня ведаючы і не здагадваючыся, што яна яе равесьніца...

***

На мой суб'ектыўны пагляд, жанчынам не абавязкова займацца літаратурнай творчасьцю.

Яны ніколі не напішуць твор роўнавялікі таму, што маюць самі зь сябе...

***

Чаму многія недалюбліваюць яўрэяў? Таму што імі не нарадзіліся...

***

Які бесчалавечны сьвет наўкол! Асабліва тады, калі ты адзінокі і бездапаможны...

„Зямля была нябачнай і пустой і цемра над безданьню; і дух Божы лунаў над вадою..." (Біблія)

„Хочется белого-белого, лебедей..." (Зыедоніс)

Самота душы...

***

Пра што мы маўчым? Пра сябе... Пра што гаворым? Пра сябе?.. І дзе ж зьберагаем сваю існасьць? У сабе...

***

Ад пачатку вынаходніцтва тэлефоннай сувязі два абанэнты слухалі адзін другога, знаходзячыся на дзьвюх супроцьлеглых канцах аднаго дроту. Сёньня вас могуць пачуць і на яго трэцім канцы...

***

Ня памятаю ўжо як называлася тая амэрыканская кінакамэдыя, дзе запаў мне такі пасаж: амэрыканцы адыходзяць не разьвітваючыся, а рускія — разьвітваюцца не адыходзячы...

***

Быў у Сьвятланы Марчанкі. Хворая, але здаровая духам кабета. Мысьленьне чыста мужчынскае, аналітычнасухаватае, бяз бабскіх сантымэнтаў і лішніх словаў...

На памяць дастаўся ад яе сувэнірны адпаліраваны аўтаматны патрон, з гільзай і куляй, але бяз пораху. Сын з арміі прывёз. Стаіць на палічцы — адзінока, забыта... Заюдзіла мне яго займець...

— Для каго? — пытаецца з прыхаваным падтэкстам.

— Для сябе… — кажу.
— Тады — бяры…

Прыехаў дахаты і паставіў патрон на кніжную паліцу. Дачка праз колькі часу шэпча жонцы: „Ну, тата й дадумаўся — паставіў патрон поруч зь іконкай Божай Маці…”

Жонка мне тыя словы перадае. Гляджу — сапраўды так… Хоць патрон і пусты, і сувэнірны і іконка камэрцыйна-канвэерная — і якраз, можа, найбольш пэўна адлюстроўваюць наш сёньняшні час…

І ўсё ж — патрон прыбіраю. Магчыма, перадару каму-небудзь. Добра было б, каб тым чалавекам аказаўся патэнцыйны самагубца. Глядзіш, у нечым доме зьявіліся б яшчэ адна іконка… і пэўная вера…

І ўсё гэта дзякуючы аналітычнаму розуму Сьвятланы Марчанкі.

***

У тыпаграфіі рассыпалі набор кніжкі Алеся Асташонка. Кніжку, якую па каліве слоў зьбіраў аўтар на працягу дзесяці гадоў жыцьця…

„П`яная кніга” — так яна мелася быць названай. Аднак, дзякуючы свайму хмелю і лігачоўскай цьвярозасьці выдаўцоў, заблыталася, завалэндалася, не дайшла да свайго месца на кніжнай паліцы…

У Артура Рэмбо ёсьць такі верш — „П`яны карабель”. Можа, і адтуль узьнікла ў Алеся асацыяцыя пры выбары назову сваёй кніжкі. Хоць было і ёсьць процьма іншых, куды бліжэйшых і па часе і па тэме.

Але па сутнасьці — гэта працяг адной кніжкі чалавечага жыцьця, якое рассыпаецца перад нашымі вачыма…

***

Сьвяткаваньне ўласнага дня нараджэньня заўжды псуе мне настрой. Ты і ня хочаш яго адзначаць, але заангажаваны калегамі, — мусіш. А калі мусіш, то якое гэта сьвята?

Таму я заўжды бяру адпачынак у жніўні. На дванаццаты дзень якога і выпадае мой дзень нараджэньня. У вёсцы за працай пра яго й не ўспамінаеш…

Каб людзі ня ведалі вылічэньня часу, жыць было б цікавей, асабліва пасьля пяцідзесяці і, найперш, жанчынам… Ну, здаровы — то й жыві сабе далей меры ня ведаючы…

А так, над намі, як дамоклаў меч, вісіць гэтая магічная 100-гадовая лічба чалавечага веку, дацягнуцца да якой перашкаджаюць нам, прынамсі, і нашыя дні нараджэньня...

> Ёсьць у мяне даўнія вершаваныя радкі:
> Ёсьць два няведаньні, у якіх вучуся
> Шчасьлівым быць і знаць сваю пару:
> Ня ведаў дня, калі я нараджуся,
> Ў якую ноч — ня ведаю — памру...

Выдатныя радкі (і гэта не запозьнены камплімэнт сабе, а ўдзячнасьць прыродзе), але наўрад ці зразумелыя за сьвяточным сталом з нагоды нараджэньня.

А ўвогуле, я прыхільнік сьмерці, калі жыцьцё дажываецца да канца, а ня цягнецца да скону...

І ўсё ж: „сто лят" вам, дарагія ЗАСТОльнікі днёў нараджэньня!

***

Пра розныя неардынарныя здарэньні ў Дамах творчасьці напісана столькі мэмуарнай літаратуры, што — жах! чаго там толькі не тварылася і ў савецкі час і ў цяперашні...

Я ніколі ня меў ні звычкі, ні ахвоты, як некаторыя іншыя, — асабліва „на халяву" ці са скідкай Літфонду — езьдзіць туды адпачываць ці што-небудзь тварыць.

І, відаць, толькі дзякуючы гэтай сваёй заганнай несавецкай звычцы, я так і ня быў ні ў адным Доме творчасьці і, само сабой зразумела, — нічога дрэннага там не натварыў...

***

Мяняю стары перакідны каляндар 1996-га году на новы. Натрапляю на такія запісы. „Трэба хоць што-небудзь прачытаць з Гегеля! Сорамна перад В. А." „Усё-ткі — прачытаць Гегеля!" „Неабходна прачытаць Гегеля!"

Усё гэта на працягу тыдня...

Прачытаў Гегеля. „Навуку лёгікі". Не зразумеў... Нашта было траціць час на чытаньне? Каб уявіць магчымасьці ўласнага розуму. Уявіў? Не. Чаму? Таму што не ўявіў магчымасьцяў розуму Гегеля...

Без камэнтару.

***

Рэгулярна гляджу па „астанкінскім" расейскім канале тэлебачаньня „Сьмехапанараму" зь Яўгенам Петрасянам.

З нашых у падобным жанры найболып выдзяляецца проста „Панарама", асабліва зь Інгай Хрушчовай...

***

Палітычная сытуацыя ў рэспубліцы рэзка абвастрылася ў сувязі з маючым адбыцца рэфэрэндумам і паводзінамі большасьці дэпутатаў ВР...

Лукашэнка патрапіў у скандальнае становішча.

Глядзеў па БТ яго прысутнасьць ў Століне на „дажынках". Твар разгублены, вочы патухлыя... І словы яго перад адлётам да публікі, нібы спэцыяльна абкарнаныя пры мантажы: „Я прощаюсь с вами..." І — зацямненьне, і пасьля, адразу ж — мінорная музыка на фоне восеньскай палескай прыроды, пачатак вядомага тэлевізыйнага фільма Віктара Турава „Людзі на балоце"...

*Дажалі*!? Наўрад ці...

***

Гамонім-абмяркоўваем з жонкай нечаканы альянс камуністаў і дэмакратаў (аж да БНФ!) дзеля супрацьстаяньня Лукашэнку...

І жонка, раптам, згадвае, як на пачатку перабудовы нехта з расейскіх літаратараў, прыехаўшы з ЗША, сказаў пры сустрэчы Бродзкаму, што Еўтушэнка пачаў выступаць у друку супроць калгасаў... На што Бродзкі, нэрвова затушыўшы недапалак, без заіканьня выпаліў коратка, як з аўтамату: „Если Евтушенко — против, то я — за."

***

У адным з нумароў „Новага мира", чытаючы „вершапрозу" Бітава, аслупянеў, натыкнуўшыся на два радкі піцерскага прабітага паэта-бамжа Грыгор`ева (ужо нябожчыка, які, дарэчы, другім з расейскіх паэтаў пасьля Пушкіна, быў адпеты ў Канюшыннай царкве):

Лежу я в одиночестве
На человеке голом...

Ну што, мужыкі, хіба не здаралася?! А калі здаралася, значыць, — паэзія, як сьцьвярджаў Вазьнясенскі Андрэй...

***

Яшчэ летам у вёсцы напісаліся-выдыхнуліся пятнаццаць вершаваных радкоў... Неставала шастаццатага, заключнага.

... І ўжо колькі часу яго няма і няма. І гэта пры тым, што амаль штовечар я пра яго адсутнасьць задумваюся (ці ён мне напамінае тамі, ужо адзінока-сіратлівымі, пятнаццацьцю радкамі?...)

Верша не адбылося, але адбылося і яшчэ адбываецца нешта больш значнае, чым сам верш — працягваецца пошук яго скону...

Толькі ня скончаны верш працягвае жыць...

***

Затрымаўся на нейкіх пасядзелках. На пачатку першай гадзіны ночы тэлефануе туды жонка.

— Ты хоць пазваніў бы, што затрымліваешся. Я тут хвалююся, ня дай Божа, здарылася што ў дарозе. Ноч жа наўкол глухая, нераўнуючы як у піліпаўку...

Госпадзе, думаю, яна яшчэ ўсё дае веры, што я магу некаму спатрэбіцца, што са мной усё-ткі яшчэ нешта можа здарыцца... Прыемна спадзявацца...

***

Найбольш красамоўнымі бываюць філёзафы ў кампаніі на падпітку. Адзін нешта абсурдна даводзіць, другі — аспрэчвае... каб, у рэшце рэштаў, разысьціся, адзін другога падтрымліваючы: яны ведаюць, што зямля круглая і іншы пункт апоры, пра які патэтычна марыў Архімэд, да гэтага часу так і ня знойдзены...

***

Акудовіч за добрым кампанейскім сталом можа піць усё без разбору: самагонку, гарэлку, віскі, каньяк, віно, пэпсі, чай, каву, мінеральную ваду і проста ваду з-пад крану, калі толькі нешта з гэтага пераліку наліта ў ягоную чарку...

— Валянцін, — часам просіш, — паберажы здароўе...

— На жаль, нічога вечнага няма, — няўзнак буркоча ён,

разьвіваючы зь безнадзейным у філязофіі, але ўдзячным слухачам, сваю ідэю-фікс, што чалавека па сутнасьці не было, няма й ня будзе, а расхваляванаму, напітаму і ашаломленаму суразмоўцы безапэляцыйна даводзіць, што таго ўвогуле ўжо й цяпер няма... сёньня, вось тут... пустое месца...

І таму нічога не застаецца як пагаджацца, самнамбулічна адкрываць рот і ківаць няўпэўненай галавой...

Прыглядзішся ўважліва збоку — і сапраўды, чалавека поруч з Акудовічам няма... А Валянцін ёсьць! Ён зноў падымае нечым налітую чарку, і да сьлёз ня хочыцца верыць, што аднойчы ня будзе й яго.

***

Вычытваю рукапіс сваёй будучай кніжкі пасьля рэдактарскіх правак Дранько-Майсюка. З усім пагаджаюся. Даходжу да гэтага: „Жонка сьпіць раскрытая, уроскід, агаліўшыся да клубоў, маленькія грудзі ўздымаюцца пад тонкай белай сарочкай імпульсыўна і часта..."

І тут заўважаю, як рэдактарскі аловак Дранько-Майсюка, па-фетаўску „тлуста" і грубавата, прайшоўся па „клубах і маленькіх грудзях" маёй жонкі...

Ведаючы Леаніда Васільевіча як датклівага, тонкага эстэта, з выкрасьленымі „клубамі" з-за грубаватага інтыму я пагаджюся, але ніяк не магу даўмецца, чаму ён не пагадзіўся з маім бачаньнем „маленькіх грудзей"... Гэта дужа зьдзівіла і азадачыла. Ці то ён не давярае маім вачам, ці то — трэба меркаваць! — на яго погляд, грудзі маёй жонкі аніяк не маленькія...

***

Бегла праглядваю чарговы канстытуцыйны артыкул Паўла Якубовіча ў „Советской Белоруссии", і думаю, што з гэтага артыкула вынікае для „Нашай Нівы" Сяргея Дубаўца...

***

Я — алькаголік... Быў ім, таму што ня меў пэўнасьці ў сваёй меры. Застаўся ім, таму што ня ведаю меры сваёй пэўнасьці...

***

Шамякін на Радзе СП Беларусі даводзіў, што пры фінансавай мэтазгоднасьці можна аб'яднаць газэты „ЛіМ",

„Голас Радзімы", „Наша слова", „Культура"... Адно, маўляў, толькі важна — захаваць пры гэтым традыцыйны назоў будучай аб'яднанай літаратурна-мастацкай газэты: „Літаратура і Мастацтва"...

Гэта як пад адной вокладкай зьмясьціць тэксты Шамякіна, Навуменкі, Чыгрынава, а на супэрвокладцы аўтарства пазначыць абрэвіятурай Саюза пісьменьнікаў Беларусі...

***

Акудовіч — майстар спорту па горным турызьме. Літаратура — гэта яго чарговы пад'ём угору...

Часам ён прызнаецца, што на сёньня самай непрыступнай і высокай для яго ёсьць напісаная намі гара літаратуры...

***

Месяцы тры як зарокся не пісаць вершаў. Я напісаў іх дастаткова. Навошта пісаць лішнія?..

Аднак жа, не — зноў засьвярбела... Адназначна, што я, як і ўсе іншыя, графаман...

***

ГРАФАМАН — гэта той, хто бясконца піша вершыкі пра сьнег, бярозы, радасьць і сьлёзы...

А той, хто рыфмуе выключна патрыятычную, грамадзянскую, трыбунную тэматыку, — гэта ўжо ГРАМАФОН.

Дубавец гэта зразумеў раней за іншых.

***

Падчас пісьменьніцкага сходу памёр Капусьцін. Хворы, сардэчнік, каб адзяхнуцца ад пустой арытмічнай гаварыльны, выйшаў у фае і раптам — упаў...

Я падымаўся якраз з прыбіральні ў залю. Ляжыць на падлозе чалавек, раскінуўшы рукі, — як разгорнутая кніга... Над ім стоўпіліся пісьменьнікі, ня маючы як дапамагчы, і ўжо не дачакаўшыся хуткай дапамогі, асьцярожна склалі рукі нябожчыка па-хрысьціянску, загарнулі старонкі яшчэ адной, да канца так і не прачытанай, кнігі чалавечага жыцьця...

***

Воляй-няволяй схіляюся да брылёўкай формы і стылю. Прачытаў і пазначыў у першым томе Івана Гарына („Пра-

рокі і паэты", „Віён", стар. 334): „... английский король Эдуард повесил в своем клозете герб Франции, не потому, что хотел ее (Францию) унизить, а потому что страдал запором и вид герба помогал ему облегчится. От страха."

Можна было б зрабіць і камэнтар, але тое было б залішне для газэты, разьлічанай на творчую інтэлігенцыю..

***

Мінчук, што лушчыць семкі — хоча ён таго ці ня хоча, так гэта ці ня так — адназначна зьяўляецца для мяне электтаратам... Менавіта базарныя семкі ёсьць паказчыкам адсутнасьці інтэлекту і інтэлігентнасьці...

Прыгледзьцеся, як многа наўкол шалупіньня! І як мала тых, хто зьвяртае на гэта ўвагу...

***

Чытаючы дзёньнікі М. Танка („Полымя, № 9, 1996 г.), узьнікла асацыяцыя зь вядомымі радкамі Ўл. Маякоўскага, своеасаблівы пэрафраз: „Чытайце, зайздросьце, я — беларус Савецкага Саюзу."

І многа чаго яшчэ ўзьнікла з таго, што зьнікла...

***

Навошта ты ўдасканальваеш у сабе маю нялюдзкасьць?

***

Літаратура, а тым больш паэзія, ня пішуцца крывёю, як можна іншы раз пачуць ці прачытаць у „откровениях" клясыкаў.

Паэзія пішацца жарсьцю і лёсам... Крывёй пішацца зусім іншае... Да прыкладу, ясенінскі нэкралёг самому сабе: „До свиданья, друг мой, до свиданья..."

***

Жанчына, пачынаючы з свайго сьвядомага дзявоцтва, фізычна і ўнутрана падрыхтаваная да гвалту. Больш таго, падсьвядома чакае гэтага...

Мужчына дзейсны да гвалту толькі інстынктыўна і рэфлексыйна...

***

Мне падабаецца гэтая жанчына. І — выдатна! Любуйся ёй і вока цеш. Ды, не... Я хачу яе... Аднак, нельга, немагчыма... Па розных прычынах. І маральных у тым ліку.

Тады — забудзься на яе і ўспрымай як звычайную...

О чорт, я думаў пра сябе значна лепш. Не, такі як і большасьць...

***

Заўжды цяжкім для мяне было проста і адкрыта глядзець чалавеку ў вочы. Здавалася б, ні ты яму, ні ён табе нічога ня вінны, — абодва шчырыя. І ўсё ж, глыбока зазірнуўшы ў вочы *чалавеку насупраць*, міжволі адчуваеш нейкую непамыснасьць, што змушае цябе ў рэшце рэштаў адвесьці свой пагляд ад яго вачэй.

Магчыма, усё заключаецца ў гэтым трошкі недасказаным слове *пагляд*, можа, у нашым выпадку гэта ні што іншае як *падгляд*... Падгляд за той самай непамыснай таемнасьцю, якую хавае кожны з нас на самым донцы сваіх глыбокіх вачэй...

Калі хочаце займець блізкае сяброўства альбо моцнае каханьне, — не заглядвайце вельмі часта і залішне доўга ў вочы абранага чалавека. Гэта небясьпечна. І для вас і для яго. Ва ўсякім разе, убачанае — не зразумееце, а ва ўзаемаадносінах нешта істотнае страціце...

***

Літаратура, якая хоча займець водгук у чалавечай душы, павінна пісацца ўсім чалавекам, сутнасьць лёсу якога мэтафізычна асацыюецца зь яго словам...

***

Нішто так ня ўзносіць, як усьведамленьне сваёй адзінкавасьці і непаўторнасьці ў гэтым сьвеце.

І нішто так не суцяшае, што памрэш як і ўсе...

***

Нядаўна я ўпершыню заглянуў з дачкой у краму „Прырода", што насупраць парка Чалюскінцаў. Жонка параіла нам паглядзець на хамэлёна, які зьмяняе афарбоўку ску-

ры. Аднак, на небараку ўжо нехта спакусіўся — купіў-такі.. Ну, што ж...

Прыпыніліся каля шматлікай разяватай публікі. У тэрарыюме бясьпечна разгульвае чысьцютка-белае куранё — туды-сюды — на хаду зьдзёўбваючы прасыпанае проса...

А наводдаль, на высахлай сучыне, на першы погляд, мірна драмаў-выграваўся пад сьвятлом электралямпы сьветла-шэры самавіта-сыты ўдаў...

Калі куранё падышло да пасудзіны з вадой, ён як бы нехаця заварушыўся, расплюшчыў вочы і стаў раз-пораз выкідваць вусікі раздвоенага языка, ды павольна-асьцярожна выцягваць-пасоўваць сваё гібкае гадзёчынае цела ў тым жа накірунку...

Не пасьпеў я сказаць дачцэ пра мірнае суіснаваньне розных відаў жывёльнага сьвету — пра што насамрэч падумалася — як удаў маланкава „выстраліў", ашчэрыўшы сваю ружова-зубатую пашчу, і — схапіў беднае птушанё ўпоперак тулава...

Ад нечаканасьці сэрца сьцепанулася як ад удару электратокам! Дачка дрыганула руку, вырваўшы яе з маёй і інстыктыўна адскочыла ад тэрарыюму... Больш да ўдава яна не падыходзіла. А той усё абкручваў сваім целам лёгкую здабычу, сьціскаючы яе, пакуль куранё ня выпусьціла дух, і толькі пасьля, агледзеўшы зь якога боку зручней пачынаць трапезу, стаў паступова заглытваць у сабе — усю цалкам — яшчэ цёплую няшчасную істоту...

За ўсім гэтым гідліва і страшна было назіраць, аднак, нечым яно прыцягвала выпадковую публіку, нібыта ўдаў гіпнатызаваў яе, і натоўп здранцвела, але неадступна ўпіваўся тым жудасным дзействам...

Ужо вяртаючыся з дачкой дадому, я ўвесь час думаў пра наша чалавечае жыцьцё-быцьцё, тым больш асацыяцыі з драпежным удавам і бясьпечным куранём былі відавочнымі, асабліва напярэдадні чарговага рэфэрэндуму, у выніку якога — як ні круці — нехта будзе сыты, а нехта зьедзены. Зьедзенымі, вядома, будуць галодныя...

***

Сустракаліся аднойчы ў Менску Якубовіч і Казінцаў... ды ну іх ... да Арафата!

***

Да гэтай пары я так і не прачытаў „Уліса" Джойса. Зьбіраўся, праўда. Як для „гжэчнага" літаратара, то гэта, мабыць, дзікунства.

Але, што ўжо... Магчыма, на аднаго эпігона будзе менш...

***

Зацемкі гэтыя пішуцца ўсё радзей, без былога імпэту, інэрцыйна...

Нешта падобнае здараецца ў нумізматыцы: аднойчы разумееш, што зь мінулага больш нічога ўжо ня выцыганіш, і проста трэба счакаць час, пакуль дзяржава адчаканіць свае новыя манэты, на якія ты зноў купішся...

***

Я адзінокі толькі днём. Ноччу ўсё поруч...

***

Зьвёў мяне рускамоўны беларус Вячаслаў Казакевіч, што па кантракту ўжо трэці год запар выкладае славістыку ў Японіі, з карэспандэнтам газэты „Майніці", які сабраўся прыехаць на Беларусь, каб напісаць японцам, што мы ёсьць...

У рэшце рэштаў, я пагадзіўся быць гідам. І японец, далікатна гэтак, ветліва-інтэлігентна, штодня вызваньвае мяне па тэлефоне з Масквы...

— Я хочу посетить ваша страна...

— Какое солнце сейчас в ваша страна?... (рэч усяго-наўсяго толькі пра надвор'е).

— Ваша страна радиоактивна?..

— А страна ваша...?

І гэтак далей і да таго падобнае... Пасьля адказаў на такія пытаньні — чаго ўжо і ехаць...

***

Шкада... Пашкадаваць трэба... Пашкадуйце...

Гэтыя словы найчасьцей можна пачуць ад люда беларускага. Літасьцівы наш народ, боскі... Аднак, увесь час выклікаючы толькі шкадобу да сябе ці да іншых, і Чалавекі мы ў поўным сэнсе гэтага слова?

Бо шкадоба — гэта ўсяго толькі інстынкт, а не праява ўсьведамленьня і розуму.

***

Жалоба ў Доме літаратара па загінуўшым Анатолю Майсеню. Малады таленавіты публіцыст, палітоляг... Не ўтрымаўся ўсё-ткі і ён на гэтым коўзкім спрадвечным беларускім шляху паміж Масквой і Варшавай...

Дзьве яшчэ маладжавыя жанчыны глядзяць з тратуара на даволі людную жалобную працэсію..

— Каго ж гэта праводзіць так шмат народу прыйшло?

— Гэтага... журналіста, што на алімпійцы разьбіўся...

— А... бач ты... А то я і думаю, не пісацеля, мабыць... На пісацельскія пахаваньні столькі народу не прыходзіць...

— Колькі чытачоў — столькі і народу...

Вось і ўсё. Бывай, Толя...

***

Пра маскультуру. За абедам выпадкова слухаю музычную праграму па рыдыёстанцыі „Маяк". Для лётчыка-выпрабавальніка Кандаурава, які ляжыць у вельмі цяжкім стане ў шпіталі, сьпявак Юліян прамаўляе ў жывым этары: „Я очень люблю лётчиков-испытателей. Это для меня что-то неземное. Поэтому я с удовольствием исполню сегодня для вас песню Пахмутовой „На пороге разлуки"...

О-о-о!!!

***

Тольки выходзячы на сьвет з мацярынскага лону чалавек бывае дарэшты шчырым. І толькі адыходзячы зь сьвету ў зямное лона — абсалютна сумленным.

У астатні час ён дамагаецца кампрамісу паміж жыцьём і сьмерцю...

***

У паэзіі ўсе словы па сутнасьці другасныя. Яны неабходныя паэту толькі для таго, каб выявіць невымоўнае і тым самым перараканаць чытача ў адсутнасьці тэксту...

І чым больш другасных слоў, тым менш паэзіі...

***

Ну, вось і прайшоў рэфэрэндум...

Але ня цешце сваё самалюбства, Аляксандар Рыгоравіч. Як казаў мудры філёзаф: *усё праходзіць*...

***

Літаратура — гэта маё асабістае жыцьцё. І я папрасіў бы вас ня ўмешвацца ў яго, калі вы не жадаеце несьці роўную са мной адказнасьць за тое, што са мной адбываецца...

А вы ж не жадаеце, праўда?

***

Можаш любіць Разанава, можаш Някляева... А Сыс цябе сам палюбіць...

***

Творчасьць — гэта ўваскрашэньне душы зь мярцьвеючай плоці...

***

Часьцей за ўсё тое, што ты хацеў напісаць, якраз і застаецца ненапісаным...

Аднак, важна, каб з напісанага табой, чытач якраз тое адчуў і зразумеў...

***

ЯК СУГУЧНА лермантаўскае *мінулае* майму *сучаснаму*: „Люблю отчизну я, но странною любовью...”

Паўтара стагодзьдзя прамільгнула ў вечнасьці, а разгадкі гэтай *„странности”* ўсё няма. І нічога новага не сказана, апроч сказанага: „Но я люблю — за что — не знаю сам...”

***

Спрадвеку Расея як бы *сымбалізавалася* Іванамі, а Беларусь — Янкамі...

А сёньня — прыслухайцеся, пачытайце — Іваны засталіся, — а — Янкі? Пасьля Купалы — як вымерлі...

Бадай, адзін Брыль ад іх застаўся — Іван Антонавіч...

***

У рукапісу літаратар пазнаецца больш поўна, чым у адрэдагаванай і выдадзенай кніжцы.

*Тут* ён — яшчэ сам па сабе, а *там* — ужо разам з усімі.

***

Жанчына дае, забіраючы... Мужчына бярэ, пакідаючы...

***

Сёньняшні чалавек *ня зьмесьціцца* ў пірамідзе Хеопса, бо ўсе эгіпецкія піраміды ўжо зьмешчаны ў ім, як уся *прамінулая* культура — у *сучаснай*...

***

Дарэмна мама мая перавезла сваю маці (маю дзевяностагадовую бабулю) да сябе. Яна ў нашай хаце хутка сканае...

Не хацелася ёй гэтага пераезду, хоць і спачувала дачцэ, якой штодня трэба было бегаць да яе праз усю вёску — нацепліць хату, карміць, прыглядаць...

Як маленькая, квадратная, але чысьценькая, відная да кожнага куточка, да глянцу выбеленай столі, хатка — сьветлая і ціхая, бы *каплічка*... Больш за сорак гадоў, хворая ці акрыяўшая, яна там была *адна*...

Але адзін чалавек доўга быць ня можа. Калі не прыходзіць іншы чалавек, калі ня йдуць людзі — прыходзіць Гасподзь...

Мне здаецца, што адразу Ён стаў прыходзіць сюды, да яе, ноччу, а пасьля, упэўніўшыся ў яе даверы і адзіноце, — прыйшоў назаўсёды...

Вось чаму яна не хацела пераходзіць і ня хоча жыць у нашай хаце — яна баіцца пакінуць *свайго* Бога ў *адзіноце*...

***

Крыўдаваць на крытыку, тым больш літаратурную, абсурдна. Усё мае сваё прызначэньне.

І нельга патрабаваць ад нажа, скажам, склейкі рэчаў, якія ён разразае. Гарэлка не цьвярэзіць, а — хмеліць...

Крытык апэлюе да твора і твор *выдае* свайго аўтара. Аўтар не прызнае *абазнанае* і — крыўдуе...

***

... адно з двух: альбо ў нас ёсьць філязофія, альбо ў нас няма Акудовіча...

***

Бывае, што апранутая жанчына больш *уражвае*, чым распранутая... Аднак, ня трэба забываць, што само *ўражаньне* залежыць ад мужчыны, а не наадварот...

***

Кожны пісьменьнік *варты* сваіх твораў і ня больш таго...

***

Едучы на працу, зайшоў у мэтро. Нечакана адчуў сябе блага. Сэрца асунулася, патухла ў вачах, ногі паслаблі... Прысеў, праглынуў таблетку валяр'янкі, якія заўжды маю пры сабе — на ўсякі выпадак... Патрохі супакоіўся...

Бачу, шыбуе па плятформе, проста на мяне, Алесь Наварыч. Селі ў перадапошні вагон. Гамонім напаўголаса. Дзеліцца са мной сваёй чалавечай радасьцю: усё-ткі атрымаў ордэр на чатырохпакаёвую кватэру ў Малінаўцы... На станцыі „Чалюскінцаў" цягнік чамусьці спыняецца, толькі напалову выйшаўшы з тунэлю... Што такое? Аварыя? Цішыня... І — раптам — шум, гам... Далей — страшней. Машыніст набягу адчыняе ўнутраныя дзверы вагонаў, каб выходзілі з задніх праз пярэднія. Выходзім прадчуваючы нядобрае. На самой станцыі — нечалавечы крык і нямы жах на тварах пасажыраў...

Паміж першым вагонам і плятформай па пояс заціснуты маладзенькі хлопец... Вочы вылузваюцца з вачніц, просіць літасьці, крычыць жывёльным голасам... Усе — разгубленыя і спустошаныя... Чым і як дапамагчы?! Міжволі адварочваешся — глядзець страшна, немагчыма... Вызваліць яго можна толькі адвярнуўшы вагон. Гэта няхутка і праблематычна. Хлопец, можна сказаць, *жывы нябожчык*... Пакуль жывы — ён крычыць!.. Прабач, прабач, прабач, калі можаш, чалавеча! Божа, зьлітуйся над ім... Трэба хутчэй сыходзіць з гэтага гіблага месца, пакуль дарэшты ня здалі нэрвы... Куды? Чалавек жа — крычыць! Ад сябе ня сыдзеш...

Нарэшце ўсё ж выходзім з мэтро і, здаецца, перастаем чуць той жудасны нечалавечы крык... Аднак, гэта ня так: *унутры нас* чалавек крычыць да нас!

На працу валакуся пешшу. Ногі падгінаюцца ад напружаньня. Думаецца living рознае, але ўсё прыцягальнае да таго, *што там*, да крыку таго...

Чамусьці ўспамінаецца рубцоўскае:
Поезд мчался с полным напряженьем
Мощных сил,уму непостижимых,
Перед самым, может быть, крушеньем,
Посреди миров несокрушимых.

.................................................................

Вот он, глазом огненным сверкая,
Вылетает... Дай дорогу, пеший!
На разъезде где-то, у сарая,
Подхватил меня, понес, как леший!

Вместе с ним и я в просторе мглистом
Уж не смею мыслить о покое, —
Мчусь куда-то с лязганьем и свистом,
Мчусь куда-то с грохотом и воем...

.................................................................

Перед самым, может быть, крушеньем
Я кричу кому-то: „До свиданья!.."
Но довольно! Быстрое движенье
Все смелее в мире год от году,
И какое может быть крушенье,
Если столько в поезде народу?

Ах, Мікалай Міхайлавіч, Мікалай Міхайлавіч... Яшчэ як бывае...

Чуеце — чалавек крычыць?! І — другі — і — трэці... І сам крычу таксама, хоць ведаю, што ніхто нічым ужо не дапаможа мне ў гэтым драматычным чалавечым жыцьці...

Заціснуты між быцьцём і бытам, радасьцю і нягодамі, днём і ноччу, сьвятлом і цемрай... — крычыць чалавек... Каму?! Да каго?..

***

Паэзія як бы выветрылася з жыцьця, так, як выветрываецца сьвежы пах вясновага гною ў гародзе...

Пасьля любуемся кветам, смакуем плады, ужо не памятаючы таго паху...

— Зіма... І ў хлявах шчыльна зачынены дзьверы...

— Я люблю Стральцова.

— І я люблю...

— І я...

— Мы любім Стральцова.

А я вось не люблю. Навошта яму, *нябожчыку*, мая запозьненая любоў?...

Я — у пэўным сэнсе — *перажываю* Стральцова і, магчыма, што нават перажыву...

***

Калі разумнага абзавеш дурнем — ён задумваецца... Калі ж дурнем назавеш дурнога — той адразу рэагуе...

***

Замітусіўся апошнім часам прэзыдэнт, адчуўшы рык расейскай воўчай гайні...

Але наўрад ці схаваецца ад іх у сваім балоце... Тым больш зімой — па цалітку сваю здабычу яны ня ўпусьцяць...

***

Паэзія ня ёсьць старая ці новая, старажытная ці сучасная. Паэзія нязьменная ад таго часу як яна ўзьнікла.

Зьмяняюцца сынтаксіс, марфалёгія, артаграфія і нашае ўспрыманьне паэзіі. Не чалавек *абнаўляе* паэзію, а паэзія абнаўляе чалавека...

Хіба абрады народзінаў і пахаваньня штосьці істотнае мяняюць у саміх народзінах і сьмерці чалавека?..

***

Тэлеперадача па ГРТ пра Іосіфа Бродзкага.

Успамінамі дзелецца Яўген Рэйн: „... и вот в чем парадокс: его, великого труженика, судят за тунеядство!"

Выключаю *с омерзением* тэлевізар. Калі пра паэта людзям кажуць, што той быў вялікі працаўнік, без усялякага тлумачэньня, тым больш, калі гэта кажа таксама паэт, то мне — паэту-лайдаку, хочацца аднаго: каб ніхто з маіх блізкіх і знаёмых не пачуў тых рэйнавых словаў, і не палічыў Бродзкага, Рэйна ... мяне, а — найгорш — самога сябе за ідыёта...

***

Найбольш шчырае — самае інтымнае.

Да прыкладу, наколькі палярныя, настолькі і блізкія — сэкс і споведзь... Тут ня схлусіш чалавеку, які табе даверыўся. Іначай — які сэкс і якая споведзь?!

***

Я ўсё хачу спасьцігнуць гармонію ў каханьні. Аднак, пакуль адчуваю пэўную раздвоенасьць. Вобразна кажучы, жыве ўва мне і бунінскі Міця зь яго рамантычнай пакутнасьцю і мележаўскі Васіль зь яго ўтравелай прыземленасьцю... Ноччу — я пакуль яшчэ мройлівы Міця, днём — ужо непапраўны Васіль...

„Сена на асфальце" — вось і ўся мая гармонія...

***

Пры сёньняшнім разьвіцьці сьвету незалежнасьць не павінна быць (стаць) самамэтай дзяржавы. Самамэтай павінен быць інтэлект нацыі — яе мова, культура, навука, адукацыя...

Толькі пры захаваньні і няспынным разьвіцьці інтэлекту чалавек у дзяржаве робіцца сувэрэнным — самадастатковым, унутрана ўпісаным (інтэграваным) у сусьветны кантэкст (лад жыцьця)...

***

У рэдакцыю зайшла маладая жанчына гадоў трыццаці. Яшчэ — ва ўсім! Прыехала зь Віцебска, каб толькі пабачыцца з паэтам Дранько-Майсюком. Па памяці чытае мне вытрымкі зь яго вандроўных эсэ, вершы, строфы, радкі...

Прызнаецца, што закаханая данельга.

Пытаецца : ці знаёмы я з паэтам асабіста, ці ведаю ці бачыў на вочы гэтую яго А.?

— Мабыць, вельмі прыгожая?..

— Ды, не, — кажу я, — гэта своеасаблівы паэтычны вобраз жанчыны-каханкі...

— Праўда?!

Якая яна была шчасьлівая, Лёня!..

***

Сталы чалавек з правінцыі дасылае мне свае вершы. Дзіцячыя, прымітыўныя, недасканалыя, але — шчырыя...

Мне нашмат цікавей чытаць ягоныя лісты. І перапісваюся я зь ім, і беспэрспэктыўна кансультую яго толькі з-за адной фразы зь яго ліста: мусіць, паэзія — гэта в ы н і к м і н у л а г а...

***

Зайшоў у рэдакцыю Сыс. Выцьверажаны. Выветраны. Паголены. Чыста апрануты...

Гамонім праз пень-калоду... Больш маўчым... Палім.. П'ём гарбату... Кажу яму: „Давай, Толя, зробім з табой гутарку, ды дадзім нарэшце ў „Крыніцы" тваю неардынарную „постаць"...

Іранічна-змрочна фыркае: якая „постаць" (з агідай да сябе), якая гутарка, пра што?.. Пра мае запоі ды вычварэньні?..

Ды, не — кажу, — навошта пра непатрэбшчыну... Пра літаратуру, пра паэзію паразважаем на ўсім узроўні...

— Што я табе скажу пра літаратуру? Я пра яе анічога ня ведаю...

... Пайшоў... пакінуўшы мне на роздум нейкае ідыёцкае адчуваньне... Уся трагедыя чалавека — у СЛОВЕ.

***

Акудовіч — бясспрэчна разумны. Шкада, што не для ўсіх...

***

Цяжка пісаць пра людзей нават блізкіх табе, паколькі ты іх дасканала ня ведаеш, як бы не ствараў ілюзію свайго веданьня...

Намнога прасьцей пісаць пра сябе, хоць і тут узьнікаюць нюансы і непаразуменьні. Непаразуменьні, але ўжо з тым, што ты пра сябе ведаеш...

***

Заявіўся ў рэдакцыю пасьля дзесяцімесячнай адсідкі Славамір Адамовіч. Атрымаць ганарар за свае артыкулы, што друкаваліся ў нас на працягу згаданай пары.

Гаманілі нядоўга і неяк аднаскладна. Адчувалася пэўная няёмкасьць з абодвух бакоў. Я папрасіў вершаў. „Няма.

Магу толькі напісаць па памяці для рубрыкі „Я маю твор..." рускамоўнае чатырохрадкоўе. Пісаў у каталажцы..."

Забег Уладзя Арлоў, на хаду прыгрэўшы на грудзях апальнага паэта. Дастаў з сумкі, у якой заўжды знаходзіцца нешта вартае для любой сытуацыі, два аранжавыя апэльсіны...

Калі Ўладзя сышоў, Славамір паклаў адзін аранжавік у сваю торбу, другі — абабраў і, разьдзяліўшы на дзьве палові, абсалютна інстынктыўна і шчыра, адну працягнуў мне... Разьвітаўся пасьпешна: трэба на вакзал, едзе да бацькоў...

Гэта быў ужо трохі іншы Адамовіч, чым той, якога я ведаў . Чуйны, чульлівы, сьцішаны сам у сабе, падкантрольны сам сабе псыхалягічна і разумова... Вывераны і лякнічны ў словах, рухах, ашчадны да свайго й чужога часу..

У сувязі з апэльсінам, я думаю, у яго адбылося міжвольнае „самазьняволеньне": адзінае рэдакцыйнае акно было закратаваным і напалову зашторaным, а ў дзённым паўзмроку квадратнага пакою пад стольлю гарэла сьвятло... А тут яшчэ — нечаканая перадача ад Арлова... Ну, і — само сабою — дзяльба з сукамернікам, са мною, значыць...

Апэльсін — салодкі, прастора — геамэтрычная, чалавек — часовы, жыцьцё — вечнае...

Што ж, як казаў Лынькоў: дзярзай, уюнаша!..

***

Паказваю назаўтра Алесю Разанаву тое рускамоўнае чатырохрадкоўе Славаміра Адамовіча.

Чытае зычна, рэзюмуе нечакана: „Лірычны стишок... *камэрны...*"

***

Міжволі, парушыўшы прынятыя беларускія літаратурныя норавы, я стварыў прэцэдэнт: назваў адкрытым тэкстам, яшчэ, даў Бог, жывога і творча квітнеючага, Алеся Разанава геніем...

Як зь мяне кпілі! Нават сам абазваны...

Аднак, мінуўся час і сытуацыя пачала набываць клясычны характар разьвіцьця... пачаўся матэматычны, аналітычны і практычны доказ, агалошанай мною, тэорыі...

Філёзаф Акудовіч нарэшце прылюдна прызнаў геніяльным левае вуха Разанава (ці — правае, дакладна ня памя-

таю)... Прычым прызнаў тое безапэляцыйна. Мяркую, неўзабаве нехта прызнае гэткім жа і астатняе вуха. Ну, а там, калі чарга дойдзе да рук, асабліва да правай, пішучай, то прэцэдэнту будзе абвешчаны поўны і канчатковы давер...

Карацей, будзе прынята па частках тое, што было мною абвешчана цалкам і адразу...

Таму ў некаторых жыцьцёвых дробязях трэба — хоцькі-няхоцькі — прызнаць і мой прыватны геній ці хоць бы прарочы голас...

***

Часам людзі без адчуваньня гумару ды іроніі ставяць мяне ў тупік. Да прыкладу, рассыпаешся аж да няёмкасьці кампліментамі ў адрас ужо абцёрханай жыцьцём жанчыны, і раптам бачыш — яна верыць!..

Глядзіш на яе — і ўжо ня верыш сваім вачам... І пачуваеш сябе поўным ідыётам бяз гумару і іроніі...

***

Чытаючы рэдакцыйныя рукапісы, часам сутыкаешся зь неадпаведнасьцю тэкста і творцы.

Часта добры сам па сабе чалавек піша благія вершы. Альбо, што ня рэдкасьць, — наадварот.

Здавалася б, якая несправядлівасьць! А раздумаешся — не, усё як-раз справядліва.

У дабраце не спавядаюцца. Няма сэнсу. Яна і так відавочная і ўхваленая.

Спавядаюцца ў чаканьні крыжа, а не вянца...

***

Варочаюся ў пятніцу вечарам з працы. На вуліцах і ў гарадзкім транспарце процьма падпітых і п'яных мужыкоў...

Дачасна адзначаюць заўтрашні дзень Абаронцаў Айчыны (23 лютага). Сьвята, як для Беларусі, штучнае, але, што ўжо...

Пах перагару, лаянка несусьветная, абразы, зьнявагі... нават уявіўшы іх цьвярозымі, не магу ўявіць іх абаронцамі. Найперш — агрэсарамі... НАТА мае рацыю...

***

Адзін даволі вядомы літаратар распавядае: „Прысьніўся сон пад раніцу — атрымліваю Нобэлеўскую прэмію!.. Чы-

таю лекцыю па-ангельску, а сам чытанага не разумею... Плюнуў і давай шпарыць па-беларуску... І тут — бачу — яны не разумеюць... І настолькі ўсё натуральна, што — прачнуўся. Сяджу, думаю: ці ня сон гэта?!"

***

Паэту трэба вымагаць слова зь сябе, не вымагаючы сябе з слова...

***

Ёсьць падсьвядомае адчуваньне, што чалавецтва дарэшты выгаварылася на сваіх мовах. І ўжо няпэўна, але прагаворвае сваю новую агульную мову, і зусім магчыма, што гэта будзе ня мова сэнсавых гукаў (бо яна не пасьпявае за часам), а мова духоўных прадчуваньняў, прадбачаньняў і празарэньняў...

***

Паэзія — гэта не бясплоднае рытарычнае закаханьне да нечага ці некага, гэта самая што ні на ёсьць інтымная сувязь паэта зь сьветам.

І калі ўжо семя гэтай блізкасьці зароненае, то яно апладняецца ў душы і ва ўсёй тваёй істоце, як ў жаночай матцы, — сьпее, расьце, разьвіваецца, шырыцца...

І ты жывеш — зь ім унутры — як бы двайным жыцьцём, і яго і сваім: сьпіш, ясі, ходзіш на службу, гамоніш зь сябрамі, злуешся, радуешся, смуткуеш... А тое, унутранае семя, абрастае вонкавым досьведам твайго жыцьця... ты жывеш абцяжараны сьветам...

І так працягваецца і дзень, і два, і тры, і тыдзень, і месяц...

Але аднойчы ў слоўных муках ты ўсё ж нараджаеш верш...

І калі ён жывы і людзі прымаюць яго за паэзію, то ты любіш яго, як сваё дзіця, а калі — мёртвы, то спратваеш, як жанчына выкідыш...

***

Кожная наша думка ганарлівая, паколькі мае намер сябе сьцьвердзіць.

***

Гэтая зацемка пераважнай сутнасьцю сваёй належыць Генадзю Шупеньку. Аднойчы, падбіваючы яго ў тэлефоннай размове да напісаньня артыкула пра Анатоля Сыса, я, відаць, сапсаваў яму і без таго ня лепшы настрой.

„А табе хіба яшчэ не даводзілася чуць такое? — пытаецца ён і, пачуўшы мой неўразумелы мык, распавядае, — Ідзём гэта мы неяк пішучай кампаніяй у Дом літаратара. Насустрач — Сыс. Ужо ў добрым стане: „О-о-о!!! Каго бачу!..” Ну, абдымкі, прыпаданьне да ўпалых грудзей... чалавек збоку падумаў бы, што гэта гістарычна-сьлёзная сустрэча пасьля доўгай ростані... Так сустракаюць у нас толькі салдат пасьля дэмабілізацыі альбо рыштантаў пасьля турмы... Ну, няважна... Працягвае ўрэшце руку і мне. „Ты мяне ведаеш?” — зьвяртаецца да мяне з унутранай упэўненасьцю, што, вядома ж, ведаю...

А як жа, кажу, хто ж Сыса ня ведае! Дабрэе на вачах... І, раптам, пры ўсіх гундосіць самадаволена: „І я цябе ведаю! Ты — Шкраба”. Неба памеркла ў маіх вачах... Так што, прабач, браце, сапраўднага Сыса я пакуль яшчэ ня ведаю...”

Паклаў я трубку, ды сам сабе маракую: вось, здавалася б, просталінейны Сыс, а захаваў такі крывізну іранічнага мысьленьня...

***

Разглядваем-расшыфроўваем з Акудовічам і карэктаркай Галяй рэдактарскія праўкі Алеся Разанава ў апошняй часопіснай карэктуры...

Наскальны клінапіс!

Які мудры чалавек, а добра пісаць так і не навучыўся...

***

Прыходзім неяк рэдакцыйным „крынічным” гуртом для запісу на адну з студый беларускага тэлебачаньня. Пасадзілі перад камэрамі, уключылі асьвятленьне. Штосьці ня тое. Рэжысэру не падабаецца. Твары блікуюць...

Выклікаюць грымёршу. Тая ходзіць з пудраніцай ад аднаго да другога, мэзгаючы ружаватай ваткай насы, шчокі, „сакратаўскія” ілбы...

Натыкаецца на барадатага, зараслага іржавым шчацьцём Уладзю Арлова. Разгубленa пытаецца ці то ў нас, ці то ў рэжысэра, ці то ў самое сябе, адсутна ўзіраючыся ў знанага айчыннага літаратара: „А з гэтым, што рабіць?.. У яго ж твару няма...”

***

Прачытаў за дзьве ночы рукапіс Сяргея Верацілы. Трыццаць шэсьць старонак самапісных завітушак — на адвароце контурных картаў, камэрцыйных блянкаў, даўніх студэнцкіх курсавых работ... Папера пашкуматаная, зацёрханая, ня надта чыстая...

Аднак ёсьць нейкая магія — і задумы, і сюжэту, і стылю, і вар'яцтва, і шчырай графаманіі...

Чытаць было цяжка, сьлепа, чакаючы канца, і не жадаючы яго...

Магчыма, гэта і ёсьць тая беларуская літаратура, якой няма...

***

Я быў нармальным, у меру адукаваным і інтэлігентным чалавекам — беларусам па плоці, крыві і духу, але без асаблівых комплексаў...

Лукашэнка зрабіў зь мяне ярага нацыяналіста, пакуль яшчэ без шызы, аднак — хто ведае...

***

Бабкова разумею *фрагмэнтарна*...

***

Стаміўся ад літаратуры дарэшты. Асабліва ў апошнія гады на рэдактарстве...

Бясконцы тэскт чужога жыцьця...

***

Ці выбівалі вы дываны на чыстым, бялюткім лапіку сьнегу пад вокнамі свайго дома? Ну, хоць раз за ўсю зіму?!

На тым месцы, дзе вы ўвішна і няшчадна малацілі свой хатні дыван, застаецца цёмны, брудны прастакутны сьлед. Гэта асабліва выразна бачна з вышыні пятага паверха, як, да прыкладу, у маім выпадку.

Прыкладна такой застаецца памяць зямлі пасьля кожнага чалавека...

***

Літаратура наша маладая. Яна ўсё яшчэ не перасягнула ўзросту Максіма Багдановіча...

***

Па „Панараме" абвесьцілі, што адзін з жыхароў вёскі Сялец, што на Берасьцейшчыне, купіў сабе самалёт, які стаіць у яго на сядзібе...

Дыктарка Інга Хрушчова яшчэ зыранізавала ў прэзыдэнцкім стылі: гэта, маўляў, людзі пачалі назапашваць сродкі ўласнай абароны ад натаўскага пашырэньня на Ўсход...

З згаданага Сяльца і паэт ды філёзаф Алесь Разанаў. Распавядаю назаўтра яму гэтую навіну — стрымана пасьміхаецца, а крылы з-пад кашулі ўжо вымыкаюць...

***

Завітаўшы ў „ЛіМ", пачуў як нехта з супрацоўнікоў, вычытваючы апошнюю карэктуру, няўзнак сказаў, што, вось, добры аповед Пташнікава будзе ў заўтрашнім нумары, праўда, цягамотны для чытаньня ды, як заўжды ў яго, занадта мнагаслоўны...

Назаўтра, купіўшы тыднёвік і прабегшы вачыма па старонках, адклаў Пташнікавых „Французжанак" на позьні вечар: каб паснулі сямейнікі, каб сьцішылася душа, каб — адзін...

Я памятаю папярэдні яго аповед у тым жа „ЛіМе", выдрукаваны, мабыць, з год таму... І нават ня сам той аповед, не сюжэт, ня фабулу, не героя, а менавіта сваё ўнутранае ўражаньне, свой уласны стан падчас чытаньня і пасьля...

З Пташнікавым у мяне заўсёды так. Я ведаю, многія яго недалюбліваюць за нясьвецкі лад жыцьця, за ўнутраную аўтарскую ізаляцыю, за самасьць, ну, і за тую самую тэкставую мнагаслоўнасьць...

Чытаў я доўга, упарта, занудліва, часам раздражнёна, але ўважліва і без адрыву... Там-сям спатыкаючыся на асобных словах і сказах, тады-сяды роздумна супыняўся на іншых словах і іншых сказах...

Скончыў чытаньне, як разагнуўся пасьля цяжару, што нёс, не ўсьведамляючы навошта, куды і каму...

Зварыў каву, запаліў... Я ўжо ведаў, што ад ўсяго аповеду гэтага, як і ад папярэдняга, на мяне абрынецца і яшчэ колькі дзён будзе гнясьці, не да канца зразумелая мне, адчуваньне жалю, смутку, тугі, няўпэўненасьці ў чалавечым жыцьці, што зноў забуду прымітыўны сюжэт і героя-„джынджыка", безь імя і лёсу, але буду памятаць тую пасьляваенную прыроду жыцьця — гнятлівую, сырую, халодную, росную, пыльную, прапахлую матузам, хлебам і траской, што нітуецца ўва мне з самой прыродай чалавека...

З Пташнікавым у мяне заўсёды так. І сёньня — таксама. Падобна.. Блізка... Безвыходна...

***

Пра літаратуру нічога канчаткова-пэўнага нельга сказаць, бо яна і ёсьць бясконцым і няўтомным выказваньнем чалавецтва...

***

Кожны дзень — „Новости", „Вести", „Сегодня", „Панарама"...

Хутка ашалею ад палітыкі... Вар'яцкі дом цікавы не вар'ятамі, а дактарамі-дыктатарамі, якія там практыкуюць. Сумнавядомыя Навінкі ўжо не выклікаюць паталягічнай грэблівасьці, а — настальгію па былым здароўі...

***

Хто чытаў філігранна-іранічнае эсэ „Пробники" Віктара Шклоўскага , той павінен ведаць, наколькі камічна выглядае чалавек, што вісіць уніз галавою, папраўляючы пры гэтым гальштук...

Гэта эсэ пра спарваньне племянных коней. Калі, для распальваньня любоўнай жарсьці, да маладой кабыліцы падпускаюць маларослага жарабка, які пры ўсім сваім жаданьні, нічога „істотнага" ня можа зрабіць, апроч як давесьці самку да пажаданага стану... І вось тады, у самы што ні на ёсьць хвалюючы момант, кавалера адцірають і выпускаюць з стойла адборнага племяннога жарабца-вытворніка...

Гэта ячшэ пра тое, як цяжка пачувацца інтэлігентам у публічным доме...

***

Паглядзіце, як сябе трымаюць на публіцы Клінтан, Шырак, Коль, Гавэл... Нязмушана, лагодна, з гонарам да сябе і з павагай да людзей. А як трымаюцца, да прыкладу, Ельцын і Лукашэнка? Пашчэнгі сьціснутыя, пальцы ў кулаку, вочы бегаюць, вусны зьбялелыя, словы, як халастыя вінтовачныя стрэлы...

Яна стаяць за трыбунай ці на подыюме, нібы ў апошні раз, таму ўсё, што яны адтуль ні кажуць, укладваецца ў адным-адзіны парафраз: Это есть наш последний и решительный бой!"

Саюз бальшавікоў і камсамольцаў можа быць парушаны толькі піянэрамі, якія, канечне ж, — „заўжды гатовы!"

Што ж, такая наша беспартыйная доля...

***

Літаратура — гэта працьма словаў, у мітульзе якіх я ўжо мала што разумею.. Проста — пішу іх і чытаю, чытаю і пішу... Маніякальнасьць.

***

Адзін старадарожскі разьбяр па дрэве падараваў мне фігурку бурацкага божка, а мо — шамана, калі яны ёсьць у іх народнай абрадавай традыцыі. І стаіць ён на маім стале, і — то палохае мяне, то раздражняе, то падбадзёрвае, то сьмяшыць, то натхняе...

Поруч зь ім, такога ж карычневага колеру, — попельніца, у выглядзе зношанага чаравіка, што курчыць неапісальную міну — „просіць есьці" — і я пэрыядычна кідаю ў яго абсунутую халяву недапалкі гарадзенскіх цыгарэтаў...

Яны — адзіныя сьведкі маіх вытворчых пакутаў і бяссоньня...

Мне зь імі добра. А калі блага, то я адчыняю фортку насьцеж і слухаю выцьцё тралейбусаў ды ляскат трамваяў...

Вершы ж пішуцца тады, калі ўвогуле нічога ня чуеш, апроч сябе... І як толькі такое здараецца, і з-пад пяра вылузваецца твая чарговая „геніяльнасьць", ты абавязкова

натыкаешся вачыма на зьдзеклівы жэст бурацкага бажка і зьедлівую іронію самабытнага чаравіка...

***

Лукашэнка ўспамінаецца да месца і не да месца — убіўся ў галаву, як вош...

Жонка, пасьля чарговых расейскіх навінаў па тэлебачаньні, выйшла на балкон па моркву. Варочаецца, зачыняе дзьверы і ў роспачы хапаецца за галаву: „Госпадзе! Чаго ж гэта я на балкон выходзіла?! Не галава — адміністрацыя прэзыдэнта!"

***

Я аднойчы пісаў, што Дранько-Майсюк танцуе прыгожа, элегантна, вытанчана — для душы...

А вось Пётра Васілеўскі танчыць авангардна, у стылі постмадэрн. І тут ужо трэба мець нэрвы...

***

Вычытаў выпадкова на папцы з рукапісам аповесьці Ю. Станкевіча, ім ці яшчэ кім прыдуманы, наватвор з тлумачэньнем, як гэта робяць апошнім часам на сатырычных старонках газэт: АГАЛЕЦ — непаўналетні злачынца. Відаць, ад рускага „оголец".

Як у „дзясятку" ўляпіў!

***

Нацынальны боль нас ужо атупіў... Мы зайшліся ад яго...

І найлепшы сродак ад гэтай „хваробы" — ад гэтых сьлёз і дзіцячых літаньняў — толькі адзін: здаровы чалавечы гонар.

Мы ёсьць, не зважаючы на вас, а вы ёсьць, толькі на нас зважаючы.

І ўсяго. І боль адпусьціць...

***

Перада мной стаіць гадзіньнік, які рытмічна вылічвае час з майго жыцьця. Я гляджу на ўсе ягоныя стрэлкі — і недаўменна дзіўлюся. Ужо ж даўно мудра сказана: ня час ідзе, а мы праходзім... Тады навошта абсурдна займацца яго вылічэньнем?

Час Купалы, час Разанава, час Лукашэнкі... Час кожнага з нас... А можна і так: *спадчына* Купалы, *каардынаты* быцьця Разанава, *дэкрэты* Лукашэнкі...

Ход часу заўважаецца толькі тады, калі ў чалавеку ці ў акаляючым яго сьвеце нешта зьмяняецца. Час ніадкуль не ідзе і нікуды не сыходзіць — ён проста зьмяняецца... Як і сам чалавек — нараджаецца ад людзей, жыве зь людзьмі, памірае сярод людзей... Чалавек зьмяняецца, а людзі застаюцца...

Гэтак і час. Мы — з часу, мы — у часе, мы — пасярод часу...

Мы — ЧАСОВЫЯ...

***

На сьвет трэба глядзець, як на асобнага чалавека ў шматлюдзтве.

Сьвет — адзіны, але не адзін, ён — шматмільярдны...

***

Як толькі ні выкручваем язык сваёй мове — хто вялікадзяржаўнасьцю, хто — трасянкай, хто — тарашкевіцай, хто — уласным досьведам і неадукаванасьцю...

У кожнай дзяржаве, кажучы жаргонам, мова „ў законе" — і ў Германіі, і ў Францыі, і ў Расеі...

Пакуль у нас ня будзе пэўнасьці з мовай, яна так і застанецца н я п э ў н а й . . . н е з а к о н н а й...

***

У „ЛіМе" — чыстыя і ясныя, як выплаканыя вочы, — вершы Данута Бічэль...

Усе мы — адзінаверцы ў высокім храме Паэзіі...

***

Літаратура — гэта тое, што павінна балець чытачу, а ня тое, што баліць літаратару...

***

Шо такое сон? Творчасьць.

Знакамітая карціна Гоі „Сон розуму нараджае пачвараў", насуперак свайму назову, якраз гэта і пацьвярджае.

Сон, як і мысьленьне, не паўтарае пражытае, а адлюстроўвае чалавечую падсьвядомасьць — наша паралельнае жыцьцё, разьдзяляючы яго на „ноч" і „дзень", на цёмны і сьветлы час нашага існаваньня...

Сон — перадумова творчага жыцьця. Ён перастварае ўжо створанае чалавекам...

Не праспаць жыцьцё, а — прысьніць, пражыць яго, як сон...

***

Купілі дачцэ магнітафон. Увесь час увушшу гучаць новыя, неадпаведныя маёй душы, рытмы...

Не магу пісаць з свайго голасу. Магчыма і гэта — імітацыя „пад фанэру"...

***

Я ўжо даўно задумваюся над тым: навошта я пішу свае рыфмаваньня і празаічныя тэксты?

Хіба я магу абнадзеіць імі заведама няшчасных людзей? Тады — навошта? Абнадзеіць сябе, захаваць маску скамароха на стомленым твары?

Усе мы няшчасныя. Тое, ўшто мы пілім, габлюем, будуем, варым, адліваем, штампуем, разбураем, пішам, малюем, не набліжае нас да шчасьця ні на ёту...

Хто адважыцца сказаць, што ён пражыў шчасьлівае жыцьцё, той несусьветны хлус.

Хіба шчасьлівае жыцьцё павінна канчацца сьмерцю?

А яно ж канчаецца...

***

Усе кніжкі, як і людзі, і формай і зьместам падобныя адна да адной. Але чым больш чытаеш кніг, тым менш пазнаеш людзей, і — наадварот...

***

Закалыхваем сваю мову і свой нацыянальны дух рыфмаванкамі, плачамі, замовамі, калыханкамі...

Сьпіць мова ў народзе і дух дрэмле: „Ехаў Бай па сьцяне ў чырвоным каптане. Баяць ці не?" *Не*!

***

Напрыканцы лютага сяджу ноччу на кухні пры адкрытай фортцы. Чытаю кніжку Клімовіча, выдадзеную ім за ўласны кошт. Выдатная паліграфія...

За акном зь віскатам і галашэньнем марцуюць каты...

Жонка даўно сьпіць... Наскрозь адольвае шчымлівы сум...

***

Той, хто многа піша, ведае мала. А той, каго азарае, ня мае часу занатаваць.

Ісьціна — імгненная, як бляск бліца...

***

Прысьніўся сон на „тарашкевіцы"... Прахапіўся. На жаль, „тарашкевіца" — гэта прамінулы сон...

***

Замкнутае кола... Няма чым дыхаць, няма з кім гаварыць, няма каго слухаць..

Усё бясконца паўтараецца... і аніяк не канчаецца эпоха Ірада, Пілата, Юды...

Але ж гэта й эпоха Хрыста, эпоха ўвакрашэньня...

***

Што зробіць сапраўдная жанчына ў апошнюю хвіліну перад адыходам? — *Паглядзіцца* ў люстэрка.

Што ў падобным выпадку зробіць сапраўдны мужчына? — *Паглядзіць* у акно...

***

На тэлебачаньні ў нас працуюць „*кісельныя* барышні", а на радыё — *„ядроныя"*...

***

Тры выхадныя дні — кату пад хвост. Пагартаў некалькі кніжак, палыпаў перад тэлевізарам, думаў, піў каву, спаліў тры пачкі цыгарэт...

І толькі ў нядзелю вечарам, лежачы ў гарачай ваньне, я зразумеў, што — старэю, што пражыў дарма, што ўсё маё пісаньне — гэта нездаровы, ненармальны лад лянотнага

жыцьця, абломаўшчына... што пасьля сябе я не пакіну ў гэтым сьвеце радасьці і аптымізму людзям, а толькі безадказнае, нямое пытаньне — ? — да гэтага ж сьвету і гэтых людзей...

***

Крый Божа, пісаць адразу пасьля абеду! Ня псуйце чытацкі настрой капуснай адрыжкай.

Паляжыце — і ўсё пройдзе...

***

Гавораць, што на зямлі пакуль яшчэ больш добрых людзей, што дабро ўсё яшчэ перамагае зло...

Аднак, людзі чамусьці хлусяць часьцей, чым гавораць праўду. Няхай часам і ў імя дабра. Дый сам я, каго знаёмыя лічаць дастаткова шчырым, хлушу часьцей, чым гэта *неабходна*.

Найперш мы хлусім сабе пра сябе, пасьля — сабе пра іншых і ўрэшце — іншым пра сябе...

Хлусьня гэтая як бы дробная, непрыкметная, невызначальная, ні на што не прэтэндуючая, нібы гульня з праўдай у хованкі...

Але па часе, незаўважна для нас саміх, маленькія нашы паўсядзённыя няпраўды ствараюць вакол нас няпраўдзівы сьвет. І паступова гэты сьвет пачынае здавацца несправядлівым. Зразумела, у дачыненьні да нас саміх...

І — нараджаецца зло... Яно жыве пакуль жывуць людзі. З адным чалавекам яно не памірае. Зло памрэ разам з усімі...

***

Прачытаў у „ЛіМе" вершы ўжо нябожчыка Міколы Федзюковіча. Даўно так не спачуваў самоце іншага чалавека... Той самоце, якая адных — прызямляе, другіх — узвышае...

На жаль, Федзюковіч быў зь першых.

***

Даю Акудовічу пачытаць свае новыя вершы. Каб ужо ня так бэсьціў, як зазвычай бывае, няўзнак дадаю: „Лічы што крывёю пісаныя..."

Назаўтра, прабачальна-інтэлігентна кажучы пра абсурднасьць паэзіі ўвогуле, і шкадуючы мяне, выдыхае клінічнае. „Гемаглябіну ўсё ж малавата...”

***

На пад'езьдзе да Севастопальскага парку тралейбус раптоўна спыняецца... Маладая дзяўчына-кіроўца вылазіць у лютаўскую ветраную хлюпату, зазірае пад днішча машыны, стукае па абшыўцы, ляпае далоньмі, пакрыквае... Усе глядзяць у вокны, заўважна нэрвуюцца. Вядома, вечар, непагадзь, стома — хочацца хутчэй у жытло...

А дзяўчына заходзіць з другога боку тралейбуса — і ўсё паўтараецца...

— Ну, что же это такое!? —ня стрымліваецца мажны пажылы пасажыр.

—Ды кошку ці сабаку, мабыць, з-пад колаў вытурвае... разьвялося, даў Бог... — спрабуе тлумачыць яму дабрадзейная цётка.

Нарэшце дзяўчына залазіць у салён, чырвонашчокая, разьветраная, прабачальна пасьміхаючыся... А ўжо да кабінкі ўсёй сваёй мешкаватай, непаваротнай тушай сунецца, расьпіхваючы старых і малых, той самы, нэрвова-гарачы...

— Ты милашка, на работе или где?! Тебе людей доверили перевозить или в бирюльки играться?!

Пасажыры яго астуджваюць, маўляў, не душыць жа коламі хатнюю жывёліну.. А ён агрызаецца ўжо на ўсіх і прэ на кіроўцу — нахабна і злобна: „Я опаздываю, например! Я с работы еду! А тут — кто во что горазд! Я тебя вот, милашка, спрашиваю — ты людей взялась перевозить или собак?!”

„Ну, что вы так раскричались?! Кто сядет, того и везу...” — ціха, але не бязь дзёрзкасьці, кажа яму дзяўчына, адчуваючы сымпатыю большасьці пасажыраў, і кранае тралейбус зь месца...

***

Недзе ў Грэцыі ці на Кіпры забілі бандзюгу-кілера, былога міліцыянта Салоніка. Некалькі дзён запар мусоляць гэты сюжэт з ранку да вечара па ўсіх каналах...

Памёр у Баўгарыі выдатны рускі лірык Уладзімер Сакалоў — ...

Ну каму гэта ў Расеі цікава?!

***

Я ніколі не змагу напісаць аб'ёмную рэч — аповесьці, крый Божа, раман.

Я — чалавек самотны і гультаяваты, а проза патрабуе здароўя і працаздольнасьці...

Я люблю дэталь, мэтафару і — сябе. Мне лягчэй апісаць нязначную дробязь, якую толькі што змахнула з майго стала мая дачка па-за маімі вачыма...

***

Найбольш невыноснае — гэта жаночы холад у цёплай начной пасьцелі...

***

Чалавечы розум і чалавечая дурнота ня маюць *межаў*...

Таму ня трэба зьдзіўляцца, заўважаючы іх як *тут*, так і *там*...

***

Адчуваньне ўласнай бязгрэшнасьці — ужо ёсьць вялікі грэх...

***

Усё самае-самае ў чалавеку абрываецца на пачатку разам з мацярынскай пупавінай і ўзнаўляецца напрыканцы зямлёй на могілках продкаў...

***

Хворая і састарэлая бабуля ўсё ноч на Хрыстовае ўваскрашэньне малілася ў ложку... Ня спаў і слухаў — уражаньне як пабыў на ўсяночнай... Таемна — без папа і паствы...

***

Выклікалі ў суд сьведкам па справе *Адамовіча*. Што я магу засьведчыць? Хіба толькі тое, што ён не *Алесь*... а Славамір...

Раней судзілі за літаратуру, цяпер — за вершаваныя праклямацыі. Чыста — „зваротныя правакацыі"...

***

Ідзём зь Пятром Васючэнкам з рэдакцыі „Крыніцы" да плошчы Перамогі... У падземным пераходзе — вясельная працэсія да помніка...

Пытаюся ў Пятра, чаму гэта маладыя абралі неадпаведны іх урачыстасьці сымболь для шлюбнай цырымоніі. Васючэнка падымае вочы на вышыню стэлы вядомага помніка і пытаецца ў мяне замест адказу: „А ты, што, не разьбіраешся ў *фалічных* сымболях?.."

***

Ноччу ўсчаўся моцны вецер. Якраз глядзеў па НТБ французкі фільмі „Пад сонцам сатаны".

Гэты вераломны вецер і гэты богашукальны фільм стваралі самотную атмасфэру пакінутасьці чалавечай душы — сіратлівасьць зямнога чалавека пад небам...

Кладучыся спаць, зірнуў на гадзіньнік. Як мітусьліва круцілася ў замкнутым коле сэкундная стрэлка! Ашаломлены яе безвыходнасьцю, я нават не зьвярнуў увагі на дзьве другія — застыглыя, быццам сам час мяне ўвогуле не цікавіў...

***

У Разанава няма таго, што ёсьць у Акудовіча, але і ў Акудовіча няма таго, што ёсьць у Разанава...

У Галубовіча якраз ёсьць тое, чаго няма ў абодвух, аднак жа няма й таго, што яны маюць...

А вось у Някляева ёсьць усё тое, чаго ня маюць усе трое...

***

Сярэдзіна траўня. Цьвіце чаромха...

А тваё ўласнае жыцьцё адцьвітае... На яго ўжо ніхто ня зарыцца, ніхто ня ломіць, як вось гэтую чаромху пад тваім акном падгуляныя маладзёны пісклівым старшаклясьніцам...

Ні паху ўжо ў твайго жыцьця, ні квету — неба стала недасяжна высокім, а зямля — цьвёрдай і неадступнай...

***

Усё, што ты падараваў людзям пры жыцьці, сплочваецца імі пасьля тваёй сьмерці...

***

Яшчэ не пасьпеў сам, як аўтар, прачытаць лімаўскі артыкул да юбілею Міколы Купрэева — ужо тэлефануюць... „Адабрям-с" — і да таго падобнае.

... Звоніць колішні гаспадар цяпер ужо маёй „хрушчоўкі".

— Мне сказалі, што ў сёньняшнім „ЛіМе" ты зноў успомніў маё прозьвішча ў сваёй пісаніне...

— Так. А ты прачытаў?.

— Калі ты яшчэ раз дзе-небудзь згадаеш маё імя — застрэлю, графаман!!!

... кароткія гудкі...

Самае сумнае ў гэтай гісторыі — што не застрэліць жа... Бо не Дантэс яшчэ.. Але ўжо й ня Пушкін, таму і прозьвішча ня згадваю...

***

Літаратура, асабліва паэзія, — гэта хвароба. Паталёгія...

Здаровы літаратар — графаман. Як творца, ён канае раней уласнай сьмерці: яго здароўе нікога не хвалюе, а пра хваробу ён нічога ня ведае...

***

Леў Талстой запісвае ў дзёньніку пасьля блізкасьці з жанчынай: „ Это *было* так прекрасно, что *не может кончиться* смертью..."

Шэдэўральна! Хоць бы ўжо тым, што мінулы і будучы час пакінутыя клясыкам без дапасаваньня. Сьпешка. Эмоцыі! Імгненьне жыцьця! Што — час, што — вечнасьць?!

***

Не магу трываць пустой дзяжурнай камплімэнтаршчыны. Асабліва, калі нутром адчувеш, што пахвальба ў твой адрас зробленая з „прыцэлам у адказ"...

— Лявон, віншую — файна рэч...

— Міхайлавіч, ну, няма словаў!..

— Лёнечка, які ж у вас сьветлы і самабытны талент!..

Прыкладна на гэтых словах я заўжды перапыняю гэты „хваласьпеў” з чыіх бы ён вуснаў не сыходзіў і пераводжу размову на другое...

Гэта, як іншым разам касірка на тваёй працы „выпрабоўвае” цябе зь першай зарплаты на „вшивость” — перадае табе трошкі большую суму грошай, чым тую, за якую ты расьпісаўся ў ведамасьці... і — чакае ці вернеш... А ты, ня маючы звычкі пералічваць тое, што табе даюць, жывеш пэўны час несумленным чалавекам сярод усёй бухгалтэрскай „кумпаніі”...

Затое наступным разам табе ўжо выдаюць на рукі тыя грошы, якія ты сапраўды зарабіў, а то й „сумленная” касірка тады-сяды, звучыўшы тваю даверлівасьць, можа і недадаць такую-сякую дробязь...

Ніхто з нас ад тых дробязяў не бяднее, не багацее...

Таму не кажэце мне пустаслоўных кампліментаў. Усё адно будучыя кантралёры ў архіўнай бухгалтэрыі часу дакладна вылічаць колькі я каштаваў і каштую насамрэч...

***

У мяне вясковая культура. На іншую і не прэтэндую.

Бывае, што ахопіць хваля цёплых пачуцьцяў да якога чалавека — і я доўга стаўлюся да яго вельмі паважліва... аж да таго часу, пакуль...

І тады — я зноў жа ў прыліве адваротных пачуцьцяў магу агаломшыць яго сваёй сярмяжнай, вясковай нетактоўнасьцю...

Гэта як добра помнае зь дзяцінства. Сунешся пашпарэйкам, калупаючыся ў носе, па пыльнай вясковай вуліцы, а з-за плоту цябе раптам аклікае стары дзед і працягвае мяккую сакавітую бэру...

Ты хвацка і без разважаньняў бярэш яе, і сараматліва патупіўшыся, ніяк не дасі рады выцiснуць зь сябе тое „дзякуйце”...

А калі дзед тупае назад ад плоту, ты зазіраеш праз частакол яму ўсьлед... і сароменочыся, крычыш старому наўздагон на ўсю вуліцу: дзеда, а ў вас порткі на срацы парваліся!...

Хоць стой, хоць падай... Ну, не паміраць жа мне з-за гэтай вясковай, неадшліфаванай на праспэкце Леніна-Скарыны, культуры...

Я ўсяго толькі хачу быць шчырым, хоць і ведаю, што *„тая дзірка"* так і застанецца пакуль ня зносяцца *ўсе штаны*...

***

Ужо дзевяць гадоў вісіць над маёй бяссоннай начной галавою карціна Алены Каравай, назову якой я ня ведаю. Па няпэўных акварэльных мазках мастачкі, пільна ўглядзеўшыся, можна выявіць там туманны сілуэт старажытнай Каложскай царквы ў Гародні... Прынамсі, я так і лічу, і даводжу да тых, хто не пагаджаецца і шукае сваё разуменьне ўбачанага, і тым, хто ўвогуле ня хоча ці ня можа нічога, апроч цьмянай плямы там, бачыць...

Няхай... Ня так усё тое важна, як істотна іншае...

Сама карціна вельмі важкая — добротная масыўная рама, шкло, аб'ём... да таго ж, вісіць яна на адным не зусім надзейным цьвіку..

Пад гэтай карцінай і стаіць раскладная канапа, на якой я сьплю з жонкай. Я, на жаль, якраз ля самай сьцяны — пад карцінай...

Супакойвае (вельмі на тое спадзяюся!), што там намаляваная менавіта Каложская царква (Сыс падараваў на ўлазіны — адсюль і гэтае маё спадзяваньне, а не канкрэтная ўпэўненасьць).

Царква — значыць, нейкім чынам ляжу пад Богам...

Жонка ўсё просіць зьняць карціну зь небясьпечнага месца і перавесіць. Але тут — найшла каса на камень: ад лёсу не ўцячэш...

І лепш ужо *быць пахаваным* пад рэшткамі старажытнай Каложы, чым *сканаць* пад друзам сучаснай рэпрадукцыі...

Жыву пакуль, дзякаваць Богу, хоць сплю ўсю больш коратка і трывожна...

***

Дык — *чалавек* стварыў літаратуру ці *Літаратура* стварае Чалавека?..

***

Я задаволены сваім жыцьцём і сваім лёсам. Ідыёт...

***

На тым жа месцы, дзе ўчора сустрэўся з Скарынкіным-старэйшым, сутыкнуўся сёньня з малодшым, яго сы-

нам Андрэем. Зацяты таленавіты славанафіл... Толькі што скончыў у Маскве Вышэйшыя літаратурныя курсы, якія калісьці прайшоў і я.. .

Пытаюся: „Авяр'янаўну ты наўрад ці ведаеш? Куратарам у нас была. На пэнсіі ўжо, напэўна..."

„Да нет, недавно новые зубы вставила и работает." — Шчыра і без усялякай задняй іроніі адказвае Скарынкін-малодшы...

***

Пасьля Вялікдня, прыехаўшы зь вёскі, — адразу з дарогі ў ванну...

Ужо абдаваўся душам, як наступіў нагой на абмылак — і паехаў... Адчуваю, усьведамляю, нават бачу, што падаю, а зрабіць нічога не магу.. — ногі паўзуць-едуць самі па сабе... і — аб край ванны скроняй!..

На кароткі час страціў прытомнасьць... Калі расплюшчыў акрываўленае вока, ачомаўся, пасядзеў, раптам, безбалюча падумалася: забіўся б, дык памыты, чысты, усё менш клопату блізкім людзям...

Што ж, па ўсім відаць, абмыюць, як і ўсіх...

***

Пачуў па радыё „Рокс", што ў амэрыканскім штаце Агаё на шоу-канцэрце аднаго папулярнага сьпевака адбылося наступнае: у самы разгар шумнага выступленьня, разгарачаны ад бязьмежнай любові натоўпу, сьпявак скокнуў з высокай сцэны проста ў публіку, нікольі не сумняючыся, што тая прыме яго ў свае абдоймы... Аднак, здарылася нечаканае — прыхільнікі папулярнай рок-зоркі расступіліся, і абагаўлёны маэстра бухнуўся з вышыні на шэры бэтонны пляц...

Разьбіўся так, што ня скончыў выступленьне...

Вось як бывае шуткуюць з улюбёнцамі іх прыхільнікі.

***

Пацюпа любіць слова... Учэпіцца — не аддасьць. Ну, і насіся зь ім, гадуй сабе...

Бедная нацыя. І *словы* — сіроты, і *сіроты* — бясслоўныя...

***

Яшчэ, здаецца, ня так даўно чакаў у вёсцы лістоў-рэцэнзіяў альбо адпісак з сталічных рэдакцыяў. Вучыўся жыць і пісаць...

А во ўжо — сяджу і праўлю тэксты іншых людзей у саліднай рэдакцыі.

Божа, сам сябе лаўлю на думцы, ды цябе самога яшчэ правіць ды правіць — і ў тэкстах, і ў жыцьці... Але ўжо, апроч лёсу, няма каму гэтым займацца...

Шкада, што будзеш на той сьвет *выпраўлены* такім недасканалым і дарэшты *нявыпраўленым*...

***

*Увесь* чалавечы *сэнс* хаваецца ў поцемках падсьвядомасьці. І *няма* аніякага *сэнсу* шукаць яго пры сьвятле абачлівага розуму...

***

Нават калі сёньняшнія дзяржаўныя ідыёлягі *пакладуць усю сваю душу* на чорную справу спусташэньня нацыянальнага беларускага духу — у іх нічога не атрымаецца.

Хутчэй, як заўжды было ў гісторыі, яны ўсё-ткі задарма *пакладуць сваю душу*...

***

У кожнага народу ёсьць носьбіты нацыянальнай ідэі і носьбіты дзяржаўных сымболяў — сьцягоў, гербаў, партрэтаў...

Першыя *носяць сваё* — непахісна-спрадвечнае — у душы і ў сэрцы. Другія *трымаюць казённае* — трапятліва-хісткае — у самлелых руках...

***

Спартыўны камэнтатар Гомельскі падчас баскетбольнага матчу на Першынства Эўропы: „Если игрок *в движении* — он всегда *на месте*."

!!! Без камэнтару.

***

Тры гады ўжо калодай сяджу ў сваёй пракопчанай цыгарэтным дымам „хрушчоўцы"...

Пішу, чытаю, хварэю, дурнею...

Ніяк не магу адсюль выйсьці... Ня ведаю — куды? Выйсьця няма...

Вынясуць?..

***

Чытаў успаміны пра Юрыя Дамброўскага...

Згадалася ня раз чутае калісьці і за ўласнаю сьпіною: „Таленавіты, алкаш, сука...”

Праўда, Дамброўскі быў нашмат буйнейшы ўва ўсіх адносінах...

***

Бог ня даў мне вонкавай мужчынскай прыгажосьці. Затое надзяліў разуменьнем яе. Таму ўся прыгажосьць ува мне ўнутры... Не мая асабістая — *чалавечая...*

Але гэта ўжо — глыбока інтымнае...

***

Рэдагаваць інтымную прозу Купрэева, як акультурваць прыроду: гэтае дрэўца — сюды, гэты бераг рэчкі — туды, гэты пагорак — у нізінку, гэтыя блёвіны — выцерці...

Прыгожы краявід атрымліваецца, але — штучны і нежылы. Сюды самога Купрэева і на вяроўцы не зацягнеш...

А рэдагаваць трэба. Літаратура, як і прырода, павінна задавольваць ня толькі творцу, але і самую сябе...

***

У маладосьці жыў *дробязямі*, а час цягнуўся *марудна...*

Цяпер жыву *падрабязна*, а час пралятае *імгненна...*

***

Пляваць мне, у рэшце рэшт, на гэтую літаратуру!

Калі б не нутраны пожад — зразумець самога сябе, я не схіліўся б у рабскім паклоне ні перад адным яе словам...

***

Ніякі гадзіньнік не пакажа колькі *ёсьць* часу на белым сьвеце...

***

У старых вясковых баб (а іншых па сутнасьці і няма) перадсьмяротная нэндза...

Большасьць мужыкоў даўно парацьна могілках косткі, а тут — хоць парвіся... А летам яшчэ дзеці і ўнукі наедуць... Гарадзкія — дапамогі, як з казла малака, а ўсім — дагадзі...

Хоць бы пахавалі па-людзку...

Зьбяруцца надвячоркам па-суседзку дый нэндзяць... Ужо й не да тэлевізараў ім, не да Лукашэнкі... Сваёй зямной мудрасьцю дапялі й яны да сутнага: *жыцьцё*, хоць і тваё, але аднаму табе як бы і не прыналежыць — разыходзіцца па людзях, а *сьмерць* — пэўная, твая, ні з кім ёй не падзелішся, ні на чые плечы ня ўзваліш — ну, хіба ўжо калі з хаты выносіцьмуць...

Як тая Каця кажа: „А што мне *ваш* (ужо — наш, а быў жа — іх і яе) Лукашэнка?! У мяне — свой сын у Мінску, пра яго дбаць трэба... А ў *яго* свая матка жывая, яна хай і перажывае... У мяне — сваё гора, у яе — сваё".

Хто і калі паставіць *помнік* вялікай, гарапашнай, гарбатай *беларускай бабе* — прамаці нашае балотнае гісторыі?..

***

Ніколі ні ў кога нічога ня клянчыў і не выпрошваў... Быў упэўнены, што не дадуць?

Не, ведаў, што прапануюць *чужое*...

***

У лесе каля мамінай вёскі адкрылі пяшчаны кар'ер. Машына за машынай — запылілі ўсю вёску... Няма чым дыхаць старым людзям...

Бабы скрушна шуткуюць: „Цяпер хоць дусту купляць ня трэба..."

***

Зося — зь лесу, як ад калодзежа, — з двума *поўнымі* вёдрамі грыбоў...

Людзі — ад расы да аваднёў — лес той на здор стопчуць, а дахаты — хоць вачэй не паказвай...

Ужо і высочвалі тую Зосю — марная справа: толькі пойдзе ў прылесак — згіне, як прывід...

І дзяцей у Зосі, як грыбоў... „Старшы перне — вугал зьверне, а малодшы ў порткі верне".

Мы ў лес — за насалодай, яна — за патрэбай, мы — шукаем, яна — знаходзіць... мы цешымся *грыбамі*, а яна — *дзецьмі*, якіх тымі грыбамі корміць...

Ідзеш паўз Зосіну хату, як паўз грыбны бор... Пахне...

***

Блукаючы па ваколіцы, неўпрыкмет зайшоў на сьвінафэрму, дзе калісьці доўгі час працаваў электрыкам. Многае адразу ж прыпомнілася — і добрае і ня вельмі... І чаго тут толькі не здаралася?!

... сьвінча нагу ў мэханічны транспарцёр усуне — выкруціць, тут яму і шыла ў бок... Ураз асьвяжуем — ды ў хвойнічак, што побач... Павяндлічка, пячоначка, трохлітровік...

Кампанія была ганаровая. Далёка вядомая. Квартэт — віртуозы Вароніна...

Цяпер тут ціха. Даўно ўжо... Адзін на вяроўчыне з-за жонкі ачапіўся (яна яго і мезенца не каштавала), другі пад хмелем на матацыкле разьбіўся (прычым упершыню едучы не за рулём, а ззаду), трэці, халасьцяк-аднагодак мой, адсьвяткаваў жаночае сьвята 8 сакавіка і на раніцу ўжо не прачнуўся... Я вось у пісарчукі (як яны жартавалі) падаўся...

Няма тут цяпер каму жаль жыцьця любіць, рэдкую радасьць па чарках разьліваць, песьняй лёсу навакольны лес агаломшваць...

Адтуль, непадалёку — на могілкі пацягнула: сьпярша — бацьку, а пасьля ім тром — Антону, Івану ды Пецю пакланіўся...

Сеў на пагорку, запаліў... Ні сьлязы, ні жалю, ні камяка ў горле...

...адна *сьветлая памяць*...

***

Мне абрыдзелі гэтыя літаратары-пісьменьнікі-паэты і ўсе іншыя інтэлігентныя хлюпікі! Сваім нездаровым аплёмбам і мэлянхоліяй! Мабыць, і сам такі побач зь імі (з боку лепш відаць)...

Толькі ў вёсцы сярод простых людзей і адчуваеш сябе паўнакроўным — *зямным і грэшным* — чалавекам...

***

Бабы ў сяле ўсё жывуць, а мужыкі мруць, як мухі...

Цётка Маня на гэта зазначае: „Жылі б жа і яны, каб не *паскурваліся*..." Глыбокі ўздых — і вінаватая паўза... і ў ёй — увесь нявыказаны падтэкст — ад *курава* да *курвы*...

***

„О, якая сёні ўласьць! Дзісьцыпліну дзяржаць, пымаш, пэнсію плоцюць... Цяжко, калі начысто казаць, але як падумаеш, што пры пазьняках яшчэ паганей было б, то яно нічога — лямку цягнуць можно... Шкада, во, страны ўжо — жыцьцё на нет зьбегла, на павуціне ліпіць..." — распавядае мне каля вясковай крамы ўтравелы дзядзька гадоў сямідзесяці...

— Купілі што?

— Хлеба, во... Што я куплю? Мякіш выядаю, бо зубоў адно на патраўку і засталося...

— А дзеці дзе?

— У „*саюзе*" ўсе, дзякуй прэзыдэнту... А то за кардонам былі б... Сын — у Салехардзе, дачка — у Хабараўску...

— На лета прыяжджаюць?

— А чаго ім цяперака ў такую даль ехаць-траціцца... вайны нямашака пакуль і я жывы яшчэ...

Разыходзімся... Магчыма, што на наступнае лета й ня ўбачымся. І што зьменіцца? Анічога. Быў чалавек і згіне... Добра, што дзеці застануцца ў „*саюзе*"... Шкада, што ня з бацькам...

***

Беларускае нацыянальнае жыцьцё ў вёсках назапашвалася, а ў гарадах растрачвалася...

Гэта, найперш, адчувалася на разьвіцьці культуры і літаратуры.

Зрэшты і цяпер мала што зьмянілася. Бацькі здабываюць — дзеці збыткоўваюць. І бульбу, і сала, і слова, і гонар, і сумленьне... Толькі прагрэсія пступова зьмяншаецца. Усё больш састарэлых склератычных бацькоў і, як мне здаецца, усё менш бяспамятных дзяцей-бэйбусаў...

І зусім магчыма, што *беларускае жыцьцё* канчаткова зьменіць сваё месца прапіскі...

***

Нядаўна памерла ў нашай вёсцы кабета. Гаўрушыха (мужыка Гаўрушам звалі).

Вось ужо на язык порсткая была, хоць гіру вешай. Усё пра ўсё ведала, усё пра ўсіх баяла. Пойдзе па ваду, а прынясе плётак. Сустрэнешся зь ёй на ранку — у абед разыдзешся. Гудзе над вухам, што камар балотны, не адгонішся...

„Што я табе, Лёнік, скажу, ты толькі выслухай — езьдзіла я ў Клецак да свайго Вані: у аўтобус ня ўбіцца, ля шафёра стаю і кажу яму, як во табе, — у аўтобус жа ня ўбіцца, старая баба, а стаю, за што грошы брацъ; а шафёр маладзы, пад вусамі, ня выспаны зь нядзелі, мо на танцах усю ноч швэндаў — крый Божа, выверне ў каляіне ці ў якую аварыю ўстрэме, каб на сон не хіліла, я яму пра Васіля майго, малодшага, што трактарыстам у нас, расказваю: кажу, мой па танцах ня швэндае, гарэлкі ня цухліць, а ня жэніцца, ліха яго бядзе, а сама грошы на квіток у руцэ заціснула дый камечу, і забыла пра іх, як на духу табе кажу, зьлезла ў Клецку, адышлася, чую нешта ў руцэ ў мяне шамаціць — грошы тыя на квіток, вот чыста табе кажу, думаю, буду вечарам назад ехаць — аддам, ды галава, во, усім на сьвеце забітая, упомніш хіба, то, слухай, Лёнічак мой, прыйшла ж я да Вані — а ў яго на дзьвярах замок, ой, я — туды, я — сюды, слухай...”

Памерла Гаўрушыха, пухам ёй зямля, але Гаўрылаў яшчэ хапае, толькі вушы падстаўляй... Баюць і баюць, а людзі ж, скажы ты, слухаюць...

***

Людзі, задзеяныя ў грашовых махінацыях, кар’ерных інтрыгах, сумнеўных кампаніях і безразборлівым донжуанстве, паміраюць, як правіла, адзінока і паскудна...

***

Збор грыбоў — гэта своеасаблівая чытка партытуры лясной сымфоніі, якую піша сама прырода...

Вочы твае *слухаюць* колер і фарбы перапрэлай лістоты, іржавайігліцы, рудой травы, зелянівага імху, шэра-

чорнага ламачча — ад высокай ноты ўзрушэньня, да самай нізкай ноты расчараваньня, ад мінору да мажору, ад грыба да грыба...

***

Мужык за сваім плотам дровы коле. А ў яго на дрывотні тых дроваў — кастры незьлічоныя...

Кажу яму: „у вас столькі дроваў назапашана, а вы ўсё яшчэ колеце". Ён, не міргнуўшы вокам, з усьмешкай адказвае: „Ты паглядзі, сынок, ува ўсіх маіх суседзяў ужо ўсё ёсьць, а ў мяне, лічы, *нічога*... Няхай хоць дровы будуць..."

***

Прыгажосьць жанчыны — ня ў мілым тварыку, цупкіх грудках, круглых клубах ды стройных ножках...

Гэта ўсяго толькі пажадная (спакушальная) вабнасьць самкі.

Прыгажосьць жанчыны месьціца ў яе сэрцы і ў яе адносінах да мацярынства.

Каханая твая — табе прыгожая.

Жонка, маці тваіх дзяцей, — таксама прыгожая.

І твая маці — як боская, несумненна найпрыгажэйшая.

Мера жаночай прыгажосьці — у тваёй уласнай прыналежнасьці да гэтай жанчыны...

***

Вечарам мама доіць карову. Слухаем з дачкою звон даёнкі. Кожны струмень мае сваё гукавае адценьне, рытміку, мэлядычную незавершанасьць...

*Белая музыка* малака... Як у паэзіі — *белыя вершы*...

***

Я так многа і спантанна думаю, што ўжо не заўсёды магу лягічна занатаваць тое, што думаю...

***

Людзі з слабым зрокам і слыхам больш уважлівыя і паважлівыя. На пачатку гэтага ад іх патрабуюць іх фізычныя недахопы: яны больш пільна ўглядваюцца і больш чуйна прыслухоўваюцца да навакольных...

Паступова тое робіцца звычкай.

У большасьці ж людзей зрок і слых добрыя, затое недахопы ўвагі і чуйнасьці відочныя...

***

У нядзелю, сьпякотай, пайшоў на могілкі. Да бацькі на адведкі. Але, незаўважна для сябе, самотна-агаломшаны хадзіў там ад магілы да магілы гадзіны зь дзьве...

Колькі блізкіх, родных, знаёмых і сяброў маіх ужо тут!

Стаю ля агароджаў, ды ўспамінаю-думаю... Чаму — яны, а не я? Чаму так рана? Разьбіўся, залыгаўся, гарэлка зьвяла... Мала хто па хваробе...

Чые магілы дагледжаныя, чые — забытыя-зарослыя...

Векавыя дубы над усімі шумяць... Такімі магутнымі, неабдымнымі, дуплістымі я іх памятаю яшчэ з маленства. А ўсё шумяць... І выпала ж ім стаяць-жалобіцца над нябожчыкамі, іх сокі п'ючы... Дзе-небудзь у лесе ці пры дарозе — сьпілавалі б даўно...

Што чалавечае жыцьцё? Каму? Навошта?

Можа, менавіта для жалобы ды жалю?

Я таксама памру. І хачу, каб над галавою самотнай дачкі шумелі, напітыя маёй зялёнай крывёю, гэтыя ж векавыя дубы-волаты...

Сеў пад іх шатром — запаліў... Прыхінуўся сьпіной да ўкарэлага ствала — і чую, як гудзе ў шырокім цёмным дупле бясьсьмяротны чалавечы дух...

***

Усё, што я пішу, настолькі суб'ектыўнае, што прымерваць *тое* да сябе можа толькі нягідлівы і хамаваты эгаіст...

***

На вясковай канюшні, дзякаваць Богу і добрым людзям, яшчэ вядуцца коні. Ня так многа, як у часы майго маленства, але зь дзясятак ёсьць. І на вяроўках у стойлах не вісяць, а на выгане на добрай пашы выбрыкваюць ды ад аваднёў адганяюцца...

А ня так даўно ажарабілася чорная кабыла. Вяду туды дзевяцігадовую дачку, часова вызваліўшы яе ад вывучэньня табліцы множаньня, каб паказаць жарабя. А яно на

хісткіх ножках усё цягнецца пысай да цёплага кабылячага вымя...

„І колькі ж яму ўжо, гэтаму малышку харошанькаму?..” — пытае дачка. „*Месяц...*” — добразычліва адказвае конюх.

— То праз *восем месяцаў* яго ўжо й запрагаць можна будзе?..

*Дзіўная* арыфмэтыка ў гэтых *дзяўчатак-аксэлератак...*

***

Чым даўжэй жывеш, тым больш аддаляешся ад ўсяго таго, з чым быў зьвязаны на працягу свайго жыцьця...

З гадамі ўсё меншае на тваіх вачах... І гэты лес раней, здаецца, быў гусьцейшым і больш грыбным, і рэчка Лань была больш шырэйшай і больш паўнаводай, і яблыкі — смачнейшымі, і людзі — здаравейшымі і маладзейшымі...

І ўвогуле, здаецца, што ўсяго было больш і ўсё было большым...

Мы адыходзім, і ўсё, што аддаляецца — большае ў памяці...

***

Багданкевіч быў „дрэнным” банкірам, але ў турму *нізашто* ня сеў.

А Віньнікава была добрай — і села...

***

Колькі ж у нас, беларусаў, дзён незалежнасьці?

Ды пакуль, шчыра кажучы, аніводнага. Можа, яшчэ будуць...

***

Цётка-пэнсыянэрка расказвае мне пра сваю маскоўскую трыццаціпяцігадовую пляменьніцу-халасьцячку.

— Лёнічак, яна ж такая культурная, але ж занадта пераборлівая. На добры лад, ужо гадоў дзесяць як замужам была б... Такі файны хлапец хадзіў... Дружылі... І ён — ёй і яна — яму даспадобы былі... Аж прыйшоў ён неяк, а яна — глядзь! — у яго шнурок на адным туфлі *разьвязаны...* І — усё! Дала ў хамут... Расхадэус — і ніякіх табе апраўданьняў і перапрашэньняў...

А сёньня, во, ужо якую пару галавой пакутуе... Круціцьцісьне ў скронях і ўсё, данельга... А маладая ж яшчэ... І што ў той галаве *завязалася*?..

Дадам хіба тое, што і сама цётка, маючы шэсьцьдзясят гадоў, таксама дзеўка-векавуха... Людзі кажуць, што ўсё перабірала кавалераў у маладосьці: то боты парваныя, то кашуля з латкаю — так і пражыла ня з мужам, а з старою маткаю...

***

Вярнуўся ў Менск зь летняга адпачынку. Ад мамы зь вёскі прыехаў. Цела, асабліва рукі ад вясковай работы прыемна адгукаюцца сэрцу — чуйна...

Ну, што...

Ну, у гарачай ваньне паляжаў выцягнуўшыся, ну, кіпу сьвежых свабодных газэтаў прагледзеў упоперак, ну, НТБ паглядзеў, ну ...

Выйшаў на сонечны балкон, сеў і самотна, да ўзвыву душы, як загнаны воўк, гляджу настальгічна на блізкі грэбень зялёнага лесу, *туды* — за Ўручча...

***

Падчас майго летняга адпачынку ў вёсцы, у кватэру, бліжэй да вечара, патэлефанавалі. Жонка ўзяла слухалку.

— Скажыце, калі ласка, ці няма часам побач з вамі Ўладзі Арлова?

— ?!

***

Могілкі таксама маюць сваю *гісторыю жыцьця*: нараджэньне (першае пахаваньне), росквіт і сьмерць (апошняе пахаваньне, запусьценьне, забыцьцё...)

***

Заўтра — сорак сем гадоў *як буду жыць*...

***

У жонкі пачынаецца нэрвовы цік, як толькі я апраўдваю што-небудзь у палітыцы Лукашэнкі...

Да чаго ён давёў людзей! Нармальна не пасьпіш з жонкай, прагледзеўшы чарговы выпуск „Панарамы"...

Мабыць, толькі застарэлыя бальшавікі ды такія людзі, як я, што ўспрымаюць жыцьцё з здаровай іроніяй, могуць адчуваць сябе пры такой уладзе больш-менш нармальна: *жыць па-за* Лукашэнкам... Хто — у мінулым... Хто — у будучым...

***

Сяджу над разгорнутым нататнікам, сілюся нешта напісаць... Душная ноч... Думкі стомленыя, словы цяжкія...

Але вось гэтыя словы запісваю...

Для чаго, навошта, каму?

Зрэшты, ці не такім чынам і пісалася і пішацца пераважная большасьць літаратурных тэкстаў?..

***

Чысьціў хатнюю бібліятэку... Каля двухсот непатрэбных кніжак назьбіралася, набытых яшчэ па тым часе...

Каму аддаць? Хто возьме?!

Занёс позьнім вечарам, па прыцемку, да кантэйнэраў зь сьмецьцем, пакінуў іх там у зьвязках... Нават такія кніжкі няёмка выкідаць на людзях...

А нехта ж паліў і нішчыў выдатныя кніжкі на вогнішчах пры вялікіх натоўпах...

„Мае" не залежацца. І, можа, ужо ў каго дома, а хутчэй за ўсё, абмененыя на макулятурным складзе на нешта лепшае, сучаснае — Чэйза ці Аляксандру Марыніну...

У маёй хаце зьявілася вольнае месца для новых кніжак...

Шкада толькі, што альбо кніг *такіх* няма альбо хоць *такіх* грошай.

Вядома, грэх кніжкі з хаты выкідаць. Адно суцяшае: небязгрэшныя аўтары іх пісалі і сам — *грэшны* — пішу...

***

Прачытаў інтэрвію Шамякіна ў „ЛіМе". Непахісны дзед!

Як кажуць, на разьведку пайшоў бы менавіта зь ім, а не з Барадуліным. Рыгора Іванавіча ўсялякія ворагі тыпу Сораса *падкупіць могуць*...

А Іван Пятровіч, калі й *прадасца*, то *сваім*...

***

Нават клецкая раённая газэта „Да новых перамог" друкуе пра свайго земляка, ураджэнца калгаса „Шлях да камунізму", панэгірыкі ажно на ўсю трэцюю старонку, а Марчук яго выдаваць ня хоча...

Не хорошо это, товарищи, не по государственному...

***

Кахаць жанчыну — як мроіць пра вечнае...

***

Калі табе забалела — значыць, некаму перастала...

***

... і ўсё **ж** — атупеньне: ад сонца, ад дажджу, ад чужой палітыкі, ад сваёй нямогласьці, ад бяздарнасьці, ад... Пекла...

Яшчэ ня позна ўладкавацца якім-небудзь падвозчыкам смалы... Але — не... Лепш ужо *цяпер* згарэць тут, чым *пасьля* смажыцца там...

***

Дні робяцца падобнымі адно да аднаго...

Іх ужо немагчыма адрозьніваць і лічыць...

Уся арыфмэтыка зводзіцца да ўчора і заўтра — да тых дзён, дзе мяне *ўжо* няма ці *яшчэ* не было...

***

У мяне часта ўзьнікаюць думкі, за якія няёмка перад самім сабою. Зрабі іх публічнымі і цябе асудзяць за амаральнасьць...

Але, цікава, што падобныя патаемныя думкі круцяцца ў галаве, бадай, кожнага чалавека. Хто ведае, стаў бы людзкі сьвет горшым ці лепшым, калі б усё наша патаемнае раптам адкрылася, нераўнуючы як скрынка Пандоры...

І ці не *адтуль* — вялікія чалавечыя адкрыцьці, вынаходніцтвы, шэдэўры мастацтва і літаратура?!

Нездарма вырваўся з вуснаў эпілептыка Дастаеўскага гэты спалох перад людзкой „непостижимостью": „Широк человек! Я бы сузил".

***

Хлопец, рэдактар на беларускім радыё, атрымаў пакой у інтэрнаце на Ангарскай. Калі ён адчыніў дзьверы, то ад нежыці там у яго заняло дых.

— І што, тут калі-небудзь людзі жылі?

— Так, — адказала камэндант, — Тут жыў паэт Сыс...

Рэдактар доўга наводзіў марафэт. Усё вымеў, вычысьціў, выдраіў, пабяліў і пераклеіў шпалеры...

Неўзабаве сваё былое жытло наведаў захмелены паэт. Пераступіўшы парог, ён паўмёртва зірнуў на сьцены, і, зьбялеўшы, панікла выдыхнуў: „Ты садраў шпалеры, о засранец, мае шпалеры... Там жа былі занатаваныя ўсе даўгі... Як жа я цяпер ведацьму, *хто* і *што* мне вінен?.."

***

Трэба трымацца ў баку ад таго, што ў любы момант можа ўпасьці каменем на галаву.

Але так жывучы, можна ўвогуле апынуцца на задворках грамадзтва. Асабліва ў нас і ўсёньняшні час менавіта...

***

Карла Маркса хавалі восем чалавек, калі ўлічваць двух далакопаў. Мне хапіла б і паловы: жонкі, дачкі і тых двух, вышэй згаданых... Сьмерць — не народзіны, калі на чалавека большае, а якраз наадварот.

***

Падчас поўнай апатыі слухаю Талькова і Данчыка. „Родина моя" і „Магутны Божа"...

Душа адгукаецца на словы, як лясное рэха... Толькі шум векавых дрэваў, разгубленасьць, адзінокі голас і — рэха *адтуль* ...

***

Сьмерць — спрадвечная тэма высокага мастацтва. Яна — геніяльная, бо ўсё — ад сьмерці...

І да ўсяго несьмяротнага яна спрычыненая.

***

Сыс прасіў пяць тысячаў рублёў на хлеб. Грошы былі, але ня даў. З прынцыпу...

Грашыма хлеб *не даецца.*

***

У падземным пераходзе паклаў тысячу рублёў у вялікі футарал студэнта-віялянчэліста. На хаду, нават зь нейкай сараматлівасьцю (ад чаго?), не ўслухоўваючыся ў мэлёдыю, а ўслухоўваючыся ў сябе...

***

Чалавека на гэтым сьвеце нічога не задавальняе дарэшты...

І нярэдка канае ён, здаволіўшыся шукаць задавальненьне ад уласнага жыцьця...

***

На балконе завяліся восы, у расколіне паміж блёкамі. Я намерыўся іх зьвесьці — запхнуць дзірку рызьзём. Аднак, пакусалі, не падпусьціўшы...

Хадзіў з распухлымі пальцамі. Вырашыў — няхай жывуць.

Падобным чынам трэба ўжывацца прэзыдэнту з апазыцыйнай прэсай.

***

Гуляў з дачкою ў карты... Нечакана для сябе застаўся *дурнем*...

Не дзіцячая гэта забава. Трэба забараніць.

***

Нельга зашываць рот нэрвова трасучыміся рукамі. Ні сабе, ні іншым... Гэта занятак для мазахістаў. Зрэшты, калі ўжо так няўстрым... І ўсё ж — не на тэлекамэру, мужыкі, не на публіку — не калечце псыхіку дзяцей...

***

Наконт адной вядомай ідэі двух палітыкаў.

І аднаму — хочацца, і другі — ня супраць. І ўжо, здаецца, ані мяжы, ані якіх іншых перашкодаў для зьдзяйсьненьня задуманага акту няма...

Бяда толькі ў тым, што кожны хоча заняць і *адстаяць* упадабаную ім пазыцыю...

Цікава, хто ж каму саступіць і хто перад кім схіліцца?..

***

За нейкую выхадку ўдарыў дачку па твары. Ня спаў. Разважаў-маркоціўся...

Колькі ў жыцьці маім сустракалася розных ідыётаў і прайдзісьветаў, якіх я мог бы ўдарыць... Па чым папала... А ня ўдарыў. Ні разу.

А дачку — любімую, бездапаможную — ударыў вось... І — так балюча...

***

Толькі гібель ангельскай прынцэсы Дыяны змусіла ўсе расейскія тэлеканалы забыцца на існаваньне будучага расейскага прынца...

***

З жанчынамі ў мяне няма праблемаў. І натхненьне, дзякуй Богу, не пакідае.

А вось Муза — не даецца...

***

Лічы што анэкдот.

Прыходзіць ня надта п'яны Сыс у рэдакцыю „ЛіМу". Там — Вярцінскі ў атачэньні супрацоўнікаў...

Сыс і кажа да ўсіх, зьвяртаючыся да Анатоля Іліча: „Анатоль, ты ўсё-ткі застанешся ў гісторыі беларускай літаратуры..."

Вярцінскі расплываецца ў задаволенай усьмешцы.

Сыс ляпае яго па плечуку і, як нічога не было, дадае: „Абавязкова застанешся... Я табе верш прысьвяцíў..."

***

Чытаючы „дзёньнікі" Максіма Танка, унутрана адчуваеш, што гэты чалавек, увесь да рэшткі, „пайшоў" на Паэзію.

Тое і засталося, што гарэла і грэла. І застанецца, як у яго там:

Абвясьцілі: паэт!
А я ім не зьбіраўся быць,
І не стараўся быць,
І не хацеў быць.
І пра гэта

Добра знае агонь,
На якім я паліў
Свае вершы.
Я перакананы:
Агонь умее маўчаць.
Няўжо мяне выдаў
Попел?

А „дзёньнікі" — так, ад чалавечай слабасьці, ад апусташэньня... Попел ад прозы ... жыцьця.

Чытаем толькі таму, што напісана тою ж рукою, што і „Авэ, Марыя"... Ён прадчуваў, што „на экзамене" часу яму будзе няпроста:

У мяне спыталі:
— У якой імпэрыі
Не заходзіла сонца?
Я адказаў:
— Толькі ў адной — У імпэрыі паэзіі...
І праваліў экзамен
Па гісторыі.

***

І яшчэ — у дагонку да „дзёньнікаў" Танка: „Я пайду на выставу М. Савіцкага, пра якога з захапленьнем піша В. Быкаў..." (1979г.)

Хадзіў тады ці не хадзіў? Пайшоў бы сёньня ці не пайшоў бы?.. У тых карцінах Савіцкага і цяпер усё засталося так, як і было. Зьмяніўся наш погляд на мастацтва ці мастацтва зьмяніла наш сьветапогляд? Калі чалавек мае дачыненьне да чалавека...

Усё так. Адкуль жа пытаньні? З самога часу? Ці проста часовыя?

***

Прачытаўшы інтэрвію з Анатолем Сысам у газэце „Звязда", перастаеш зьдзіўляцца буйнай фантазіі Ільфа і Пятрова: амбітным дзецям лейтэнанта Шмідта і незадачлівым братам Астапа Бэндэра...

***

Непадалёк ад уваходу ў вінную краму сядзіць бабка і гандлюе семкамі. Адтуль выходзіць пакамечаны мужчына

ніякага веку з пляшкай віна і, схіліўшыся над старой, гундосіць: „Слухай, бабця, дай пару семак на закусь".

Бабка гідліва сыпле яму ў растапыраныя пальцы шчопаць семак, бурклівa дадаючы: „Як вы мне абрыдзелі сваёй закусьсю..."

О, за Брэжневым мы ўсё-ткі закусвалі цыбуляй, гурком, хлебам...

Былі часы! Цяпер — семачкі...

***

У нас усе народныя пісьменьнікі і паэты апраўдваюць гэтае, нададзенае ім званьне.

Яны — менавіта народнікі. Песьняры ды змагары за лепшую долю...

Ну і якая сёньня нашая доля?!

***

Перачытваў факсыміле „Спадчыны" Янкі Купалы. На той час ён быў збольшага адукаваным, інтэлігентным чалавекам і франтаватым мужчынам...

А чытаеш — мужык мужыком. Гэта вам не „вясёлае імя Пушкіна".

Люблю Багдановіча...

***

Я часта фантазую ў як бы ўжо не сваё будучае. Зрэшты — маё, але пасьмяротнае...

Да прыкладу, жонка мая, сухенькая ўдава, узгадвае пра мяне ў гаворцы з сваёй сяброўкай-пэнсыянэркай: „калі б ня я, то *мой* не напісаў бы таго, што напісаў..."

І праўда, думаю, *мо й* не напісаў бы таго, што напісаў. Шкада...

***

Каханьне — гэта нешта такое эфэмэрнае, што немагчыма быць дарэшты ўпэўненым у сваім дачыненьні да яго, а тым больш, быць яго ўласьнікам...

***

Вечарам перачытваў Ігара Шклярэўскага. Пранікліві да глыбіні пры-роднага таленту паэт...

Хацеў напісаць: рускі, ды нешта замінае. Ня слова, а дух... І — беларускі — напісаць замінае тое ж. Ня дух, а слова...

***

Выдатная нізка вершаў у „Крыніцы" Юрася Пацюпы з Гародні... Адчуваньне слова, мера эмоцыяў, цьвярозасьць думкі — чытаеш, як ідзеш на золку роснай лясной сьцежкай... Менавіта — сьцежкай, а не дарогай, гасьцінцам ці шляхам... ня ведаючы, дзе сьцебне цябе пругкай галінай, а дзе акропіць жывой чыстай прахалодай боскай расы...

Ня шлях тут сутнасны, а прырода. Прырода таленту...

***

Галіна Дубянецкая — зь вершамі ў часопісе „Полымя" — як дзіцятка не ад нашых літбацькоў у беларускай мацігаэзіі...

Гэткая падчарка зь зімовымі пралескамі з Андэрсэнавай казкі „Дванаццаць месяцаў"... Самадастатковая — словам, жыцьцём, лёсам...

Вырак — не няшчасьце, вырак — абранасьць...

***

Сядзеў уначы, разважаў пра літаратуру, і раптам падумалася: каго з нашых сучасных літаратараў пазнаў бы па адным-двух вершах, па адной-дзьвюх старонках тэксту?

У паэзіі, да прыкладу...

Барадуліна, Разанава, Някляева, Дранько-Майсюка, Артымовіч, Купрэева, Бічэль, Булыку, Сыса, Дубянецкую, Пацюпу, Гуменюка, Шніпа, Баярына, Вярцінскага, *Пранузу з Прыходзькам*, Адамовіча, Скоблу, Акуліна (па бардаўскім акцэнце), Аксак Валю, Таню Сапач, Мінкіна, Макарэвіча (па маякоўскай лесьвічцы), Мятліцкага (па тэматыцы), ну і, бадай, па лірычнай чысьціні халоднага стылю — Пісьмянкова...

Запісваў як здумоўвалася. Як бачыце, сьпіс даволі шырокі... Гэта ў паэзіі. А ў прозе? Адразу прызнаюся, тут я менш начытаны.

...Брыля, Глёбуса, Пташнікава (дарэчы, ня ведаю, як для каго, а для мяне — гэта наш найпершы празаік), Быкава (па тэматыцы), Федарэнку, Станкевіча (па калізіі), Чоба-

та (па акрэсьленасьці „крэсавага"), зноў жа Купрэева, Кудраўца, Казько, Арлова (незалежна ад жанру і тэматыкі), Асташонка (па нэўрозу творчай манэры), Сакрата Яновіча, Пятровіча, Шамякіна (па клясавай ідэалёгіі), Алексіевіч (па жанры), Вайцяшонак (па лёсавым выпакутаваным стылі) ... Ах, Казлова Толю (па таемнасьці якой-небудзь сьвечкі, сярнічкі, талісмане...).

Таксама — даволі прыстойны ліст.

А ў крытыцы, калі „пайшла такая п'янка"?

Акудовіча (па ўсім — розуме, „гжэчнасьці" і запудрываньні мазгоў), Шупеньку (па традыцыйна-клясычным патасе і стылёвым хаосе), Конана (па талерантным хрысьціянскім почырку), Кісьліцыну (па жаночых праявах), Тычыну (па роўным, выверaным дыханьні), Станюту (па інтэлігентным слэнгу і франтаватасьці), Бур'яна (па тэатральна-акторскай эмоцыі), *Марціновіча* (па ўсім і паўсюль), магчыма, Бугаёва (па шырокім акадэмічным замаху і адначасна дзіцячым зьдзіўленьні — рэдкі выпадак!), яго дачку Люду (па эстэтычным гусьце) ды Сямёнаву Алу Іванаўну (па флёру, мройным стылі і французскім акцэнце) ... Васючэнку (калі не заказное), Афанасьева (па глыбока схаваным сэнсе)...

Дубаўца! — ледзь не забыў! Хоць тут, здаецца, якраз той выпадак, калі „нельга забыць"...

не, браткі, гэта ня я такі чытач і бібліяфіл, а гэта такая, значыць, літаратура нашая ёсьць. Прыкладна. З таго, што менавіта мне бліжэй па духу, з таго, што чытаў і чытаю...

А яшчэ, пэўна, многіх ня ўпомніў, а яшчэ ёсьць тыя, каго не чытаю ці рэдка чытаю, але, кажуць, пішуць яны і ня горш... Перапрашаю. Літаратура — такая справа цягамотная, усіх не перачытаеш...

У кожнага з нас свой лёс, свая слава і бясслаўе... І кожны мае права маракаваць пра гэта па-свойму...

***

Не сьпяшайся запісваць вячэрнюю думку. Перасьпі зь ёй.. Ранкам ты зьдзівішся яе ўчорашняй змрочнасьці. Яна прасьвятлее...

***

Гуманнасьць да злачынцы — гэта апраўданьне ня толькі зьдзейсьненага ім, але і магчымых злачынстваў з

боку тых, хто іх апраўдвае, ня маючых пэўнасьці ў сваёй маральнасьці да канца...

***

Ува ўсім недахоп, мера і перанасычэньне... Ад недахопу — хістае, ад перанасычэньня — стамляешся...

Мера ж — невызначальная...

***

Адзіны, хто заўжды прайграе ў палітычных гульнях, — гэта просты народ, плебс, прашу прабачэньня...

Толькі ён ідзе „ва-банк" з пустымі кішэнямі і з „шасьцёркамі" на руках...

***

Чалавечы розум бездапаможны. Ён да гэтага часу так і ня змог паралізаваць у чалавеку барбарскія інстынкты. Па вялікім рахунку, чалавечая фізыялёгія і разумовая сутнасьць так і засталіся першабытнымі... Чалавек і стварае, і разбурае. І чым дасканалей створанае, тым страшней сіла разбурэньня...

Ці не таму так мірна і бясьпечна ўжываюцца ў нашай сьвядомасьці Гамэр і Нэрон, Гандзі і Гітлер, малпа і Пол Пот...

***

Чалавечая сьвятасьць — міт. Богу гэта *ведама* ад самага пачатку. Ды і самі мы ўяўляем пра сябе Бог *ведае* што...

***

Дурань, усё ніяк не магу пагадзіцца з Дарвіным, што чалавек паходзіць ад малпы...

А чаму, скажам, не наадварот? Эвалюцыя ж яшчэ ня скончылася...

***

У жывым этэры Прыднястроўскай Малдаўскай Рэспублікі выступае наш сумнавядомы па сваёй *дзіцячай хлусьні* Азаронак. Вядучая, з воблікам жанчыны трыццатых гадоў, падараваўшы напрыканцы перадачы яе герою плюшавае ваўчанё, кажа: „Этот волчонок — вам от нас. Мы надеемся, что вы из одинокого маленького волчонка выра-

стете там в большога зубастого волка, который будет драться за нашу единую державу...”

Азаронак: „Да я не один там уже, нас, можно сказать, целая стая”.

І гэта ўсё паказвае, ужо ў запісе, наш восьмы канал. Каковы *канальи* у нас однако!..

***

Не шукай праўды жыцьця ў людзях. Шукай — у сабе. Знойдзеш — будзеш пакутаваць. Ня знойдзеш — таксама...

***

Мае сябры? Дзіўнае пытаньне да чалавека, які нават сам з сабою мае напружаныя і неадназначныя стасункі...

***

Ну ніяк мне не разьмінуцца з Брылём у гэтых сваіх пісанках. Прачытала жонка ўслых тое зь яго, што я некалі прабег вачыма, відаць, без асаблівай увагі. А дарэмна...

Дык, значыць, Янка Брыль запісвае з аповеду іншага чалавека наступнае: „Тарашкевічаў бацька, шкадуючы сына, пытаўся: „Броня, як ты думаеш, народ наш ужо дарос да таго, каб за яго галаву аддаваць?”

І вось, думаю... Думаю, што неўзабаве падобнае пытаньне можа задаць мне і мая дачка...

Гэта спрадвечнае пытаньне, бо на яго ніколі не было, няма і ня будзе пэўнага адказу...

Пытаньне жывога да мёртвага...

***

Пра бальшыню нашых паэтаў-вэрсыфікатараў можна сказаць так: жыцьцё іх празрыстае, як дыстыляваная вада ў шклянцы, а вершы ўскаламучаныя зьменлівай патрэбай часу ...

Была газіроўка, была крэмсода, была фанта, ёсьць спрайт, будзе... І гэта ўсё лілося, льецца і будзе ліцца...

Такая ўжо вартасьць вады, як яе ні каламуць, з чым ні перамешвай...

***

Улетку сабраліся ў мамінай хаце браты, цёткі ды суседзі... Гамоняць. Цётка кажа: „Ой, Лёнічак, ніхто з нас і

падумаць ня мог, што ты сёньня такім чалавекам станеш... (Якім, праўда, не ўдакладняе.) От, думалі, так п'яны пад плотам і зваляесься..."

Разышліся, дык мне, раптам заманілася ў малодшага брата, што ў роднай вёсцы шафёрыць, распытаць пра маіх былых дзяўчат-каханак, за якімі я калісьці валачыўся. Пасьля тых цётчыных словаў уверзлася мне ў галаву, што былыя мае абраньніцы, што мяне „пракінулі", сёньня пра тое вельмі ж шкадуюць...

Брат пачухаў патыліцу і кажа: „Двое зь іх за п'яньню замужам і ў адной зь іх мужык ачапіўся нядаўна, а трэцяя да гэтай пары бабіцца, загадвачы клецкім пітным месцам... Кажуць, што ты ўсё свае вершыкі складаеш, дзяцінееш, гаспадаром ня стаў, жывеш ад заробку да заробку ў сваёй хрушчоўцы, з бэнээфаўцамі па Менску бегаеш... Нічога яны зайздроснага ў тваім жыцьці ня бачаць..."

А я то думаў! Перафразуючы вядомую песьню зь „Сямнаццаці імгненьняў вясны": *о женщинах не думай свысока...*

***

Спыніўся гадзіньнік. Трэба ізноў заводзіць, падганяць час... Да якога часу?!

***

Павучка ў ваньне змыла вадой у ракавіну. Дачка рыдае па ім несуцешна...

Праз колькі дзён жонка ляжыць з хворай галавой на канапе... Дурэе вакол яе, лезе зь недарэчнымі пытаньнямі... Не разумее.

Мама ж, во, жывая перад вачыма на канапе ляжыць, у каналізацыю яшчэ не правалілася...

***

Да Ўладзі Арлова прыехала сястра. Сустрэліся яны ў рэдакцыі часопіса „Крыніца". Не пасьпела яна з дарогі прысесьці, як усунуўся ў пакой Сыс.

Уладзя знаёміць: „Гэта — вядомы паэт Анатоль Сыс, а гэта — мая сястра Таня".

Сыс: „Праўда сястра?! Родная?! Таня, дай шэсьцьдзясят тысячаў! Заўтра аддам..."

Нейкім чынам і гэта паэзія. Ня танку, ня хоку, вядома. Сыскі — ад слова сыск ці, як у маім краі кажуць, — сызмы...

***

Што прыносіць душэўнае задавальненьне ў гэтым жыцьці?

Сон і ўспаміны... Мажлівае і былое... Усё астатняе — праводзіны часу... праца розуму і фізыялёгіі...

***

Чаму мне заўжды так трывожна і дыскамфортна ў натоўпе, нават тады, калі я зь ім, нібыта, салідарны?..

Аднадушша —— вось што бянтэжыць... Душа і розум ня могуць быць закладнікамі нават самай сьветлай ідэі, паколькі чалавек сам — ад пачатку да канца — закладнік Божы...

У чалавека адна ідэя — боская, у Бога адна праблема — чалавечая...

***

Па НТБ перадалі, што расейскі прэзыдэнт „смотрит телевидение и читает газеты"... Як навіну неардынарную!

Гэта ўсё адно, як пра электарат казаць, што „они работают, пьют и спят"...

***

Уражаньні ад інтэрвію з Чарнамырдзіным заўжды змрочныя. На ўсе пытаньні ў яго адзін адказ: „Не будет этого!.. Так не будет, я вам сказал!.."

А што ж тады ўвогуле будзе?! Чарнамырдзін, відаць, думаў, што ён і будзе. А Ельцын вырашыў, што Кірыенка...

***

Людзі мудрэюць не з уласнага розуму, а ад вопыту чалавечага жыцьця. А — дурні? Дурнота ж мае ня меншы вопыт...

***

Творца, на жаль, сьмяротны, а творчасьць — безабаронная, як дзявочая цнота...

***

Едучы ў перапоўненым тралейбусе, кажу жонцы, што намнога лацьвей і хутчэй езьдзіць у падземцы.

— Не люблю езьдзіць у мэтро. Пад зямлёй мне страшна...

Дзіўлюся. Як на мой погляд, то ўвесь чалавечы страх — на зямлі. Тут яго чалавек і пакідае, у рэшце рэшт...

А пад зямлёй страху ўжо няма.

***

Па тэлевізіі перадаюць як архіважную навіну, што недзе ў Амэрыцы рэжысэр Сьпілбэрг трапіў у аўтааварыю і атрымаў лёгкае пашкоджаньне; быў завезены ў лякарню, дзе яму аказалі дапамогу і адпусьцілі дахаты...

Уздых палёгкі (ці іроніі?) у дыктара: усё добра, дзякаваць Богу, усё абышлося...

А вось беларускі рыфмар Галубовіч учора вечарам выціснуў на носе вугор і ўвесь дзень на працы сядзеў з чырвоным „рубільнікам", аднак, у паліклініку не зьвяртаўся. Спадзяецца, што заўтра ўсё будзе „о'кей".

А мо і трэба было зьвярнуцца, пакуль яшчэ лячэньне дармавое... Раптам — страшная інфэкцыя! І праз пэўны час — рыфмар Галубовіч „ад'ю"?! І ніхто нават прычыны сьмерці ня ўведае... Але цяпер, абвясьціўшы тое, я спакойны... як Сьпілбэрг...

***

Чалавек — істота складаная... Каб быць простым — трэба быць геніяльным.

***

Часта ўначы — пэўна, такое здараецца з многімі — сядзіш на адзіноце, глядзіш сьлепа, паліш і як бы думаеш — ні пра што і пра ўсё разам... Думаеш і ня думаеш, нібыта за цябе нехта думае, а ты толькі адчуваеш тое думаньне — і пакуту, і задавальненьне, і раздражненьне...

Як назваць такі стан — рэанімацыяй мінулага, перастварэньнем спраўджанага?

Мабыць, нешта падобнае адбывалася з Хрыстом на крыжы... Бог — думаў, а Ён — разумеў...

***

Не магу трываць абмежаваных нацыяналістаў.

Рачное русла трымае ваду ў берагах, але ня стрымлівае яе — Плынь, каб заставацца чыстай, павінна рухацца і абнаўляцца...

Стаячая вада — гніе, пакідаючы *людзей на балоце*... Патрэбна пратока...

***

Федарэнка напісаў даволі няўдалую для свайго клясычнага ўзроўню рэч — „Пáмарак". Не ўтрымаў *магутнага* назову, які, бы валун, падмяў пад сябе ўвесь зьмест аповеда...

Усе мы — *пáмаркі*. Усе слабыя, сьмяротныя...

*Пáмаркі* Творцы і Госпада нашага...

***

Ад графаманіі, як і ад шызафрэніі, дарэшты не вылечваюцца...

Таму і не ліквідуюцца выдавецтвы і вар'ятні.

***

Чалавек памірае тады, калі перастае адчуваць боль... Сама б жыць...

***

Калі б чалавек сапраўды верыў у бясьсьмерце, ён ня меў бы страху перад жыцьцём...

***

Усё, што бачыцца ўначы, няўбачнае ўдзень...

***

Позна ноччу глядзеў фільм амэрыканскай (распалячанай?) рэжысэркі Агнешкі Холанд „Поўнае зацьменьне". Пра ўзаемаадносіны (пераважна сэксуальныя ) сусьветна вядомых Паэтаў Поля Вэрлена і Артура Рэмбо...

Глядзеў з гідлівасьцю...

Трэба мець *маральнае права* на мастацтва, роўна як і *мастацкае права* на мараль...

***

Кожна чалавек лічыць, што ён жыве правільна.

І гэта — правільна зь яго боку, бо тое, што пра жыцьцё канкрэтнага чалавека кажуць зь іншага боку, гэта ўжо ня праўда яго жыцьця, а толькі погляд на тое жыцьцё альбо пэўныя стасункі з тым (чужым) жыцьцём...

***

Я ўпэўнены, ніколькі не камплексуючы, што дасягнуў у літаратуры пэўнага ўзроўню прафэсыяналізму, і мог бы напісаць прыстойны тэкст у любым яе жанры, апроч нікому не патрэбных аб'ёмных паэмаў ды раманаў — з-за фізычнай лянoты...

Сумна і роспачна гэта ведаць...

***

Проза — мнагаслоўная. Паэзія — шматзначная.

***

Ад блізкасьці з жанчынай заўжды чакаеш задавальненьня свайго жаданьня, а ў рэшце рэшт, усё сканчаецца адным і тым жа — стратай жаданьня...

***

Правінцыйны чалавек, які складвае наіўныя вершыкі, стаміў мяне дарэшты. Прыжджае з такой далі штомесяц... Дацiскае, гундосіць: „Слухайце, Леанід Міхайлавіч, можа, вам якую пасылку даслаць... Яблык там, груш, кампоту, сокаў якіх ці гуркоў..." „Ня трэба, братка, хапае ў мяне", — кажу яму, а сам думаю: не перашкодзіла б, халера... Але каб хоць адзін у яго мала-мальскі верш быў... тады можна было б і на бартэр згадзіцца, а так...

Але тады б і ён свае гуркі сам еў бы...

***

Чалавечае шчасьце — гэта апраўданьне свайго зямнога існаваньня перад Богам...

***

Мастацкая творчасьць павінна быць падобнай да біблейскай, а значыць, — надзеленай прыгажосьцю, муд-

расьцю, яснасьцю і ў той жа час заставацца таямнічай і неразгаданай...

***

Я доўгі час, з дастаткова празрыстых прычынаў, шукаў сам у сабе апраўданьне таму, што адбываецца ў жыцьці і творчасьці сумна вядомага і абсалютна таленавітага паэта Анатоля Сыса...

Як бы некаторыя на гэты лёсавы знак нашай літаратуры і „культуры" не рэагавалі, але, хоцькі-няхоцькі, трэба прызнаць, што такі знак ёсьць.

Я высока цаню і люблю Сыса, аднак гэта не пазбаўляе мяне права на засьцярогу. Падсьвядома я прадчуваю тое, што будзе, але не магу адназначна сфармуляваць тое, што ёсьць... Таго, што дзеецца насуперак чалавечай волі, пазьбегнуць немагчыма...

І ўсё ж чытаю ва Ўладзімера Салаўёва: „Утверждать, что гениальность совсем ни к чему не обязывает, что гению все позволено, что он может без вреда для своего высшего призвания всю жизнь оставаться в болоте низменных страстей, это грубое идолопоклонство, фетишизм, который ничего не объясняет, и сам объясняется лишь духовною немощью своих праповедников. Нет! Если гений есть благородство по преимуществу, или высшая степень благородства, то он по преимуществу, и в высшей ступени обязывает."

Як бы няма аргумэнтаў для спрэчкі, але недзе глыбока ў душы пытаньні застаюцца... як выключэньне з агульнапрынятых правілаў...

***

Спазнаць жынчыну дарэшты, як зьлётаць у Космас, *далёка* ня кожнаму выпадае...

***

За поўнач... А гадзіньнік цікае сабе й цікае... Жалеза — што яму час... Ржавее памяць...

***

Упершыню за дзесяць гадоў аб'явіўся на кухні прусак. Мабыць, з суседняй кватэры, што *здаецца* і пераходзіць з рук у рукі розным небеларускім „купі-прадай"...

Івось — першы эмігрант... Пэўна, і там — *анархія* альбо *дыктатура*...

***

Зусім выпадкова натрапіў на радыёхвалю „Сталіца", на „пазыцыю" Багадзяжа. Новыя „стихи" Браніслава Спрынчана ў аўтарскім выкананьні...

Агаломшаны, слухаў тыя безвыходна-крыклівыя вершыкі, як засьмяглы сьпякотным днём — рэха ў пустым калодзежы...

***

Наўкол — аморфнасьць, апатыя... Як вымерла нешта ў людзях...

Самнамбулай — дзень да вечара...

Сяджу апоўначы, бубню сам сабе пад нос: рабы, рыбы, рабі, робы, рабяты, рабаты, робаты, рабінзоны, рабін зоны...

Спаць трэба... Але хіба з гэтым засьнеш?...

***

Нічога ня хочацца ўжо... Сядзеў бы перад тэлевізарам — і слухаў бы і слухаў Лукашэнку... Аж пакуль ня вырасла б „благосостояние всех простых граждан"...

І сядзім — і слухаем... Глядзіш, і той, хто слухаў, — ужо *сядзіць*...

***

Беларуская літаратура, у пераважнай большасьці сваёй, — зямная, і нават прыземленая. Гэта ад нашай нацыянальнай мэнтальнасьці — спакою, працавітасьці, рахманасьці...

Беларусы, у спрадвечнай працы сваёй, схіленыя над зямлёй, бачаць, ведаюць і адчуваюць кожную быліну, кожны зямны корань...

Неба для беларуса — гэта той Космас, дзе ён уяўляе сябе толькі адышоўшым адсюль...

А паэзія зямлі і паэзія неба — непарыўныя, як чалавечы лёс, як нараджэньне і сьмерць...

Ці зьведаем гэтую гармонію ў літаратуры мы, беларусы, пакажа час, які, дасьць Бог, змусіць нас бачыць зоркі ў небе, як бульбу ў разоры...

***

Я добра, можна сказаць, падрабязна памятаю, а пры намаганьнях памяці, і ўяўна бачу ўсіх блізкіх мне людзей, што даўно ці нядаўна ляжаць на нашых высокіх вясковых могілках...

Усе яны былі вельмі *жывымі людзьмі*... Я — сярод іх — буду ляжаць *нябожчыкам*...

***

У кожным чалавеку я шукаю дабро і любоў... І расчароўваюся ў *сабе*, калі не знаходжу...

***

Усё былое прайшло і мінула... А мы ўсё азіраемся...

***

Пустуе перад ваччу кубак з-пад выпітай кавы. Выключаю сьвятло — і ён напаўняецца змрокам і зьліваецца зь цёмнай ноччу...

Так чалавек напаўняецца часам — і паглынаецца вечнасьцю...

***

Сьмерць — самы пільны вартаўнік жыцьця...

***

Ня будзь шчырым дарэшты, не палохай людзей. Ім дастаткова страху ад праўды ўласнага жыцьця...

***

Апалове ночы — дзікі, нямы крык з вуліцы: „Жыве Беларусь!" Ад нечаканасьці, засяроджаны ў цішыні на сваім, скаланаюся ўсім нутром... Інстынктыўна адсоўваю фіранку на кухонным акне: *а хто там ідзе*?!

*Ноч. Вуліца. Ліхтар. Атпэка...*

***

Творчасьць — гэта жыцьцё, а вытворчасьць — сьмерць...

***

Жывём калгасам, паміраем аднаасобна...

***

Беларуская савецкая літаратура напісана плугам, сярпом ды касой... Молатам убітая ў сьвядомасьць... Я — адзін зь яе герояў...

***

Людзям важна тое, што чалавек ім *кажа*, а ня тое, што ён *думае*...

Чалавеку ж важна тое, што ён *думае*, а ня тое, што ён *кажа*...

***

*Усе* — людзі, а *ўсё* — Бог...

***

Юбілей — ялей на старасьць...

***

Раіса Баравікова бярэ інтэрвію ў Алеся Разанава да яго юбілею. Для свайго часопіса „Алеся", былой „Работніцы і сялянкі"...

Разьлілі па кубках чай... Землякі. З аднаго, Бярозаўскага раёну.

І Рая, зь вёскі Пешкі, пачынае задаваць свае незямныя пытаньні Алесю, зь Сяльца, які адказвае на іх паднебным вясокім стылем...

Уражаньне такое, нібыты яна толькі што разьвіталася зь Юпітэрам, а ён хвіліну таму строс зь сябе вэнэрны пыл...

Няўжо гэта, думаю, тая самая *„дзяўчынка на шары"*, гатовая сёньня бясстрашна наткнуцца на *„вастрыё стралы"*?!

Сыходжу. Пакідаю адных. Далей ад граху...

***

Люблю перачытваць першыя кніжкі, асабліва паэтычныя. Нешта ёсьць у іх натуральнае, жывое, таямнічае...

Ня маю цікавасьці да „выбранага" і „збору твораў". Ад іх пахне лясным пілаваньнем і макулятурным пылам...

Сёньня вось падаравалі ў „ЛіМе" „Азбуку" Анатоля Сербантовіча. Перакладаю з рукі ў руку, з трымценьнем гартаю пажоўклыя старонкі...

Маленькая кніжачка маленькага трагічнага чалавека... Якраз для мяне...

***

Што рабіць, калі ўсё баліць?

Пастаяць на высокім балконе... Калі *не адпусьціць жыцьцё*, значыць, — адпусьціць боль...

***

Я люблю сьмерць... Адкрыта здраджваю жыцьцю...

Дачка яшчэ гэтага не разумее і любіць мяне, *грэшнага*...

***

Калі Дудараў быў стройны, вёрткі і датклівы, яму даваліся *тонкія* рэчы...

Цяпер, калі ён зрабіўся мажным, медзьведзяватым і неперабарлівым, — тонкія рэчы яго *староняцца*...

***

Паэзія — гэта калі *забываешся*...

Проза — калі *ўспамінаешся*...

***

„Мертвая страна. Мертвая страна. Мертвая страна. Всё недвижимо, и никакая мысль не прививается".

Васіль Васільевіч Розанаў. Шчыры, мудрэйшы чалавек, як бы, вось, сядзіць перада мной і заклейвае сьлінай парваную папяроску... Іранічна, праведна пасьміхаецца: што, маўляў, хіба ня так? Не паўтарай, сынок, ня будзь папугаем...

***

Нарадзіць чалавека ад любімага мужчыны — вось вяршыня жаночай *творчасьці*. Усё астатняе — *„от лукавого"*...

***

Калі б ня раньняя сьмерць Максіма Багдановіча ды не таямнічая гібель Янкі Купалы, то на Беларусі зусім не было

б арэолу яго вялікасьці Паэта... (Няма нацыянальнага літаратурнага іміджу...)

Ну, селянін Колас ды інтэлігент Купала складалі жалесныя вершы пра беднае беларускае жыцьцё...

Жалейка, гусьлі, дудка, скрыпка — песьняры-музыкі вогулам...

Таму і ўсьвеце на сёньняшні дзень нашую паэзію, можна сказаць, ня ведаюць альбо ведаюць на ўзроўні фальклёру...

Каб існавала паўнакроўная Паэзія, трэба каб быў Паэт, а ня дзьве сотні вершаскладальнікаў...

А няма Паэта, то як бы няма й нацыі. Лёс Паэта вызначальны і прарочы для таго народа, якому ён Богам дадзены і мову якога сьцьвярджае пад небам...

***

Безумоўна, я — не гаспадар. Я нават ня ведаю, колькі каштуе хлеб у краме... Праўда, я ведаю, што двухтомнік Мантэня каштуе чатырыста тысячаў рублёў...

Аднак, гэтая *абазнанасьць* засмучае мяне самога. Што ж, у кожнага свае *вопыты*... І задарма яны не даюцца...

***

Так і ня скончылі спрэчку ў „ЛіМе" пра літаратурны імідж...

Нехта зірнуў на гадзіньнік — шарэла... Усіх чакалі жонкі, дзеці, крамы, цякучыя справы і краны, тэлеэкраны, вячэра, самапіскі, папера...

Надвор'е на вуліцы было *сырое, мележаўскае*... Разышліся сумна і звыкла...

***

Я люблю быць у пакоі з зацягнутымі фіранкамі на вокнах. Жонка ж трываць ня можа, калі фіранкі зацягнутыя, а на двары яшчэ не сьцямнела.

Мужчына, у пераважнай большасьці, — эгаіст і хоча пачуваць сябе гаспадаром у нажытай ім таемна-творчай прасторы...

Жанчына — нааадварот, хоча паказацца звонку, уся будучы ўнутры, — пакрасавацца, памільгаць, пастаяць перад люстэркам альбо перад вакном...

Таму за кожнай зацягнутай фіранкай, як за тэатральнай заслонай, *творыцца*, не да канца вызнаная, *драма* чалавечага жыцьця...

***

У кожнага чалавека — *свая* літаратура. У мяне — тым больш, я сам пішу...

***

Усякая вера ёсьць *спачуваньне* чалавека самому сабе... Ад немачы...

***

Такое дзіўнае адчуваньне — нібыта сонца ўжо стамілася грэць людзей, і людзі становяцца ўсё больш *халоднымі*...

***

Нельга забіць цьвік глыбей яго даўжыні...

***

Фолкнэр — як антыпод сваёй творчасьці...

***

У артыкуле Ўл. Фірстава ў „Знамени" чытаю: „Ведь даже если все русские в Мордовии запишутся в мордвины, республика все равно не станет полностью мордовской. Почему? Да потому, что в национальной библиотеке книг на мордовском языке менее 1%, потому, что в школах Мордовии мордовский преподается как иностранный, и потому, что мордвам снятся сны на русском... И еще много „потому"..."

Здаецца, здалёк кажуць, а як блізка, і быццам бы іншай мовай, а як зразумела...

***

Э. Ханок у інтэрвію „Свободным новостям": „... вы меня приучили к тому, что если я открываю вашу газету и не вижу ехидных заметок про песню „Товарищ президент", мне уже неинтересно читать. Что касается самой песни — я думаю ее сделать в манере Роберта Рождественского. Это не значит, что я поддерживаю или не поддерживаю президента, — я хотел просто нарисовать портрет сильного человека. К

сожалению, по тексту пока этого не получилось. Но я ее обязательно доделаю, песня еще займет свое место на отечественной эстраде... Некоторые решили, что я подлизался, и мне дали звание. Извините, но, во-первых, звание я получил до концерта. Вр-вторых, я его заслужил как минимум лет десять назад, но только президент восстановил справедливость. И поэтому фраза „президент сделал меня человеком" полностью соответствует действительности..."

Во як! І — хоць бы што...

Праз колькі дзён чытаю ва ўжо згаданым „Знамени" выказваньне Ю. Вішнеўскай: „Добро, коли человек умеет, например, на виолончели играть. Такой может позволить себе роскошь — поддержать любого „демократического жулика." (Маецца на ўвазе „сладкая парочка" Ельцын-Растраповіч — заўвага мая.) Подумаешь, Герберт фон Кароян вон, говорят, Гитлера поддерживал, и ничего — дирижировать не разучился. А вот тому, кто на виолончели не играет и дирижировать тоже не умеет... тогда плохо дело. Тому приходится думать, куда он вкладывает свой единственный капитал — моральный."

Аказваецца, на ўсе пакутныя пытаньні жыцьця чалавек яшчэ на гэтым сьвеце знаходзіць пэўныя адказы.

***

У паэзіі няма ні вечнага, ні спрадвечнага... Паэзія — заўжды новая, яна — дзіця ўсякага часу...

***

Ужо на зыходзе дня разумею, што яго і не было...

***

Чым даўжэй жывеш, тым карацей пішаш... Вузее прастора часу...

***

Так доўга не пісаць вершаў, каб забыцца, як гэта робіцца...

Ня ўспомніць і — напісаць аднойчы...

***

А.Камю — сухі, як скарынка хлеба для галодных...

***

Мы ўсё яшчэ *бальшавікі*. Можна сказаць — усе... Па сваёй чалавечай прыродзе, па набытым ідэалягічным імунітэце... Кожны хоча — каб *больш*. Нават культурная інтэлігенцыя, эліта нашая.

Каб больш грошай, каб большая кватэра, каб больш канцэртаў, выступленьняў, кніжак, ганарараў, каб, у рэшце рэштаў, больш пашаны, славы... Дзеля ўсяго „большого-большего" — „мы за ценой не постоим"...

Госпадзе, усё яшчэ ўсе *бальшавікі*...

***

Вычытаў у інтэрвію Лукашэнкі маскоўскаму „Собеседнику", што, аказваецца, ён у юнацтве пісаў вершы і нават друкаваў іх у „Комсомольской правде"...

Ну, не раўнуючы, — Лук'янаў...

Зрэшты, чаму не раўнуючы?!

***

Уся літаратура — выдуманая і надуманая. Найперш дакумэтальная...

***

Многія ня любяць, калі я пішу пра Сыса ці Купрэева. Чаму? Таму, што *так* пісаць і *так* жыць, як Сыс і Купрэеў, яны ня могуць...

А *так* хочацца! Пісаць хочацца, а жыць — колецца... Зайздрасьць.

***

Перажываю жыцьцё, асэнсоўваючы пражытае заднім розумам, падобна, як карова жуе жуйку...

Усё гэта можна назваць *малаком мысьленьня* альбо *малочным сэнсам*...

***

Адно, што ёсьць пэўнае ў Разанава — гэта яго хада. Ня толькі творчая, мастакоўская, але і проста чалавечая, зямная...

Хто зьвяртаў увагу на яго хаду, той заўважаў, што прысьпешаны Разанаў ідзе ў паўлёта, як у тэлевізыйшчыкаў ка-

жуць — „у рапідзе". Запаволены насамрэч, роздумны, нясьпешны — ён чуйна намацвае зямлю сваімі доўгімі нагамі. Стаіць Разанаў нязрушна, упэўнена, а сядзіць трымаючыся зямлі альбо трымаючы зямлю пад сабою. Я ніколі ня бачыў Разанава сядзячага па-шляхетнаму — нага за нагу...

Гэта ёсьць яго чалавечая праява, знак любові і павагі да зямлі і сваёй зямной сутнасьці, яго родавая, радзімная адмета — паляшуцкасьць.

Ён падобны да куліка, які ўцякае-сыходзіць зь любімага ім балота, каб пасьля — там і тут — нахвальваць яго...

... Ужо напісаўшы папярэдні тэкст, перачытваў наноў (у які раз!) „Шлях-360"... Аслупянеў, засяродзіўшыся на вершы „Страла" (за шэсьць-сем гадоў да „Вастрыя стралы" напісаны):

між птушкамі і людзьмі
разьвітваецца кулік
страла скіравана ў самоту
куды не дайду — іду
што аддаю — не аддасца
між птушкамі і сабой
кіруе стралой самота
бывай я пайшоў дадому
разьвітваецца кулік

Усякі шлях адольваецца хадой... І *ўсякая* наша чарговая думка ёсьць вынікам папярэдняй і папярэджаньнем наступнай...

***

Адна рэч — чалавекам нарадзіцца. І зусім іншая — чалавекам памерці...

Нарадзіцца — якім Бог даў. Памерці — якім Бог прыме...

***

У Разанава — юбілей, а ён і заўважаць таго ня хоча, як бы й ня верыць... Цяжка пераканаць паэта ў надыходзячай *старасьці*...

***

Літаратура — гэта жыцьцё, але ня ўсё жыцьцё — літаратура...

***

У „ЛіМе" Федарэнка і Пятровіч загарэліся гуляць у шахматы... Да іх далучыўся Станкевіч, а пасьля і я...

Шахматы былі мініяцюрныя, і Станкевіч паабяцаў прынесьці з дому стандартныя, гульнявыя — і прынёс, аднак, ня ў „ЛіМ", а да нас — у „Крыніцу". Згулялі мы зь ім у рэдакцыі ня больш як дзьве партыі...

Ды раптам Алесь Разанаў стаў падбіваць мяне згуляць зь ім ў „*паддаўкі*"... Тлумачу яму, што гэта ж ня шашкі... Не, давай у „*паддаўкі*" і ўсё тут...

Алесь Сьцяпанавіч, чалавек неардынарны ва ўсім — паўсюль шукае новыя формы і жанры... Магчыма, тыя, дзе ёсьць шанец *выйграць*...

***

Жыць усё цяжэй... Хоць, здавалася б, за паўвека перажыў усякага. Сядзеў у псыхушцы, па сутках у КПЗ, быў у ЛПП...

А цяпер сяджу ў бясьпечным рэдакцыйным пакоі — і задыхаюся, і вар'яцею...

***

У чарговым „Ліме" — на развароце — з аднаго боку — вэрсэты Разанава, з другога — вершы Грахоўскага. Чамусьці ўспомнілася, як аднойчы ў Доме літаратара Сяргей Іванавіч усхвалявана выпаліў, што, маўляў, *такога,* як у Разанава, ён мяшок за адну ноч напіша...

Паэты — прарокі. Праўда, не заўжды тыя прароцтвы збываюцца ў поўнай меры... Вось і ў Грахоўскага — абяцанага напалову: напісанага — мяшок, аднак, зусім *не такога*, як у Разанава...

***

Карэктуру першай кніжкі паштальён Пеця падгадаў прынесьці мне якраз у разгар вясельля маёй сястры. Карэктуру прачыталі ўсе — ад свата да музыкантаў, — таму ад яе мала што засталося...

Мяне і бацьку ехаць да жаніха ў Карэліцкі раён не пусьцілі. Падпітых, маці замкнула нас у летніку... Мабыць, у мітусьні забыўшыся, што там, пад ложкам, стаялі два

трохлітровікі самагонкі... Калі праз суткі вясельныя вярнуліся дахаты — нас ледзь адкачалі... Ня дзіва, што сыгнальны экзэмпляр кніжкі я атрымаў у ЛПП. У ёй былі двойчы выдрукаваныя два вершы...

Але гэта мая любімая кніжка.

Другая кніжка пісалася і складвалася мной найперш з мэркантыльных мэтаў — грошы (ганарар!)...

Найлепш з усіх прафэсыйных крытыкаў напісаў пра яе паэт з Слоніма Мікола Канановіч, дасылаючы свае вершы ў „Крыніцу" на маё імя (сьмела!) : „Не магу прыгадаць, калі я пазнаёміўся з паэтам Леанідам Галубовічам, помню толькі , што гэта была „Споведзь бяссоннай душы". Дарэчы, вельмі *зручная* кніжка, калі пасеш каровы — у кішень паклаў і пайшоў..."

А-у, беларускія бялінскія! „Слабо", аднак...

***

Ідзём з Навагодніх пасядзелак у „Крыніцы" з Дранько-Майсюком і Станкевічам. Гамонім нешта пра сваё набалелая, прадзіраючыся скрозь сьвяточна-напіты рускамоўны натоўп... Я — цьвярозы, хлопцы — зь лёгкім эйфарычным водарам шампанскага...

У пераходзе перапыняе нас бомж, аднак, даволі прыстойны для гэтай катэгорыі людзей. У адказ на нашыя запытаньні, чаму ён, беларус, не размаўляе з намі, беларусамі, па-беларуску, фанабэрыста лапоча нейкую даўно завучаную фразу па-французску, што выводзіць зь сябе як паэта, так і празаіка...

Зрэшты, чалавек просіць у нас усяго толькі цыгарэту...

Машынальна даю дзьве...

Ідзём далей, а Станкевіч усё басіць-дапытвае мяне: чаму я даў гэтаму антынацыянальнаму бомжу ажно дзьве (?!) цыгарэты...

Кажу няўцямна-іранічна: „Дык ад дзьвюх жа хутчэй загнецца..."

***

Вычытваю апошнюю карэктуру тэкстаў да „постаці" Івана Шамякіна, карэктарка зьвяртаецца да затлумленага іншым Алеся Разанава: „Алесь Сьцяпанавіч, што, так і бу-

дзем пакідаць празь „і" беларускае выраз: сьвет — бардак, а людзі — блядзі?.. Ці яшчэ раз зьверыць з арыгіналам?" — Ну колькі можна, гэта ўжо даўно зьверана-пераверана і ясна як Божы дзень...

***

Чым больш разумнеюць машыны, зробленыя чалавекам, тым больш машынальным робіцца сам чалавек...

***

Як абрынуліся на Сяргея Дубаўца за яго наўмысна правакацыйны артыкул у „ЛіМе" „Ружовы туман"...

Як усе раптам высьвеціліся, знайшліся, загукалі, замахалі рукамі — маўляў, „мілы чалавек", тут мы, вось, пастой, пачакай, ну аніяк не дамо рады без староньняй дапамогі выбрацца з гэтай дрыгвы!

Адзін нават у экстазе роднага бацьку дубаўцовага ўспомніў да драбніц — да ўсіх яго былых савецкіх рэгалій і чыноў...

Вядома, напалохаўшыся, але счакаўшы, ушалопалі — гэта ж арыенцір для выхаду і выбаўленьня, знак гэта — куды і на каго выходзіць...

Нарэшце, дзякаваць Богу... хоць лапці сушыць давядзецца яшчэ доўга...

***

Людміла Рублеўская паказвае на *брылёўскі* тэмат маіх зацемак, Пятровіч зь Івацэвічаў піша, што яны *розанаўскія*, Бадак сьцьвярджае, што *верасаеўскія*...

Словам, спасылаюцца на многіх, але, дзякаваць Богу, ні на абы каго. Аднак — які разнабой! І раз няма пэўнасьці ў „плягіяце", то напісаў іх — ці хоць бы занатаваў з чужых слоў — усё-ткі я сам...

***

Закаханы сабака, што ўлягаў на сьледзе з усіх ног, раптам, запыніўся, абнюхаў паветра вакол сябе і закруціўся на месцы — ён улавіў пах уласнага хваста..

Бегчы далей было бессэнсоўна і бязмэтна... Можна было толькі вяртацца назад... па ўласных сьлядах... Але ззаду ўжо наганялі паляўнічыя... І — сабака завыў па-воўчы...

***

Я — за рэалізм у літаратуры: пісаць так, як жывеш...
Але каб прыгожа пісаць, трэба прыгожа жыць...

***

Вершы — чужыя і скончаныя. Паэзія — незавершаная, але свая.

***

Чалавек, які цябе абсалютна нічым *не займаў* у гэтым жыцьці, раптам, пачынае займаць усе твае думкі...
Так вясковы пастух, *займаючы* статак, абрывае на досьвітку твой салодкі сон...

***

Кажуць, што ёсьць *чалавек* з прозьвішчам Росьцікаў. Ня ведаю, ня ведаю... Магчыма... Столькі людзей у сьвеце, столькі прозьвішчаў! А паспрабуй знайсьці *чалавека*...

***

Адзіная твая жанчына, як папараць-кветка, — цьвіце толькі раз... Прагледзіш усе вочы...

***

Сьмяротная ня толькі атрута, але й насалода... Паміpae ўсё...

***

У мяне няма і ніколі не было зайздрасьці да каго-небудзь ці чаго-небудзь... У мяне — зайздрасьць да будучага...

***

Там, адкуль я сышоў, ужо ўсё сканала. Там, куды я імкнуся, яшчэ нічога не нарадзілася...

***

Похва — вузкая, а сьвет — бязьмежны... Адтуль сюды крычма вылузваешся...
Ну, што ж — цяпер жыві! Назад ходу няма...

***

Каханьне — прыцягвае, зачароўвае, зблiжае...
Блiзкасьць — задзiночвае...

***

Жанчыны, што займалiся *прастытуцыяй*, на старасьцi веку робяцца бясплоднымi. Памяць iх — *цнатлiвая*...

***

Чалавек — тонкая матэрыя. I чым танчэй ён, тым больш *прасьветлены*...

***

Белая мука — чорны хлеб...

***

Усё, што вакол чалавека — нечалавечае. Усё чалавечае — у самiм чалавеку...

***

Жыцьцё — рэчаiснае. Мастак — амаральны. Творчасьць — iрэальная.

***

Нарадзiцца *багатым*, памерцi *бедным* — вось якой, на мой погляд, павiнна быць аснова фiлязофii чалавечага жыцьця...

***

Асацыяцыi: *халодная вясна 1998 году*...

***

Крытык Алесь Бельскi распавядаў, што Генадзь Пашкоў выкрэсьлiў зь яго ўступнага артыкула да хрэстаматыi цытату зь мяне: што, ужо лепш за Галубовiча нiхто ня пiша?! Прыемна чуць...

***

Зайшоў у рэдакцыю „Крынiцы" малады, нядаўна абшлюблены, паэт. Кажа мне, схiлiўшыся, амаль iнтымна, бо непадалёк сядзеў даўно зашлюблены Валянцiн Акудовiч: „Слухайце, Леанiд Мiхайлавiч, а вам, што — жонка дазваляе друкаваць такiя вершы?" „Якiя?" — пытаюся.

— Ну, вось з апошняй падборкі, эратычныя, калі ня горш, кшталту: *„буду вецер той вынюхваць з-пад шаўковае сукенкі...”*

Што яму сказаць — дазваляе, не дазваляе, я і не пытаюся ўвогуле...

„Добрая ў вас жонка”, — кажа.

Не, каб сказаць: добрыя вершы...

***

Даводзіцца чуць і чытаць: ён падае ёй каву ў ложак...

Я таксама вару каву і падаю, бывае... Праўда, ня раніцай і ня ў ложак...

Але хіба кава ад гэтага робіцца менш *горкай* і не такой *чорнай?*..

***

Жанчына пасьля душа — пахне, як кветкі пасьля дажджу...

***

Часта рэдактары паэтычных тэкстаў (у прыватнасьці Р. Барадулін і Л. Дранько-Майсюк) робяць заўвагі пры зьбегу складоў такіх, да прыкладу, слоў: *ужо пай*шоў, няў*жо пам*ёр, падра*хуй*, рука*піс зда*ў...

Але ж гэта ўсё расейскія гукасловы. Я ня буду іх перакладаць на беларускую мову. Нават Купала пісаў : „Годзе, брахні ўжо, падкупленых звадаў!”

Таму, калі ўсё ж наліта *свае*, то, як кажуць беларусы: „*Пі зд*ароў!”

***

Літаратура напоўненая словамі, як акіян вадою... Вычарпаць немагчыма. Даліваць наіўна... Хочаш быць прыналежным да яе — *плыві*...

***

Не спадзявайся, што вясной памаладзееш і ты...

***

Распавёў я ў рэдакцыі гісторыю пра начны візіт да мяне Анатоля Сыса, а Разанаў пераказаў нам іншы выпадак: як Суша з тым-жа Сысом завалакліся апоўначы да Яўгена Лецкі. Выпілі, вядома... Слова за слова — Сыс пачаў

лаяцца, крычаць... А ў Лецкі жонка з дачкой сьпяць — нэрвы ў яго й здалі (а ў каго не здалі б ?!)... Ухапіў ён ці то нож ці то відэлец з стала і кінуўся да Сыса: „Я табе, падла, вочы мярзотныя выкалю!"

Аднак, Сыс яго ўвобмірг абяззброіў, упаўшы на калені ды ўзмаліўшыся: „Лецка, Жэнечка любы, выкалі мне вочы, выкалі, прашу цябе — хачу стаць *беларускім гамэрам*!.."

***

Паэт павінен зьдзіўляць... Але, перш, чым зьдзівіць іншых, ён павінен зьдзівіцца сам...

***

Ну аніяк не магу ўявіць побач з сабой у цесным перапоўненым тралейбусе Брыля, Быкава, Навуменку, Шамякіна, Дударава, Някляева...

Як, мабыць, ня могуць і яны ўявіць мяне побач з сабой у іншым транспарце...

Ці хоць бы ў гэтым пераліку...

***

Адведваю маму, якая ляжыць зь інсультам у баранавіцкай бальніцы... На вуліцы — сьнег, мяцеліца круціць... Прыехаў, заходжу...

— Зіма, ой зіма, сынок, ты ж хоць у споднікак гэтай халадэчай ці да сівых валасоў усё саромеешся, усё ў трусах?..

А сама ледзь на нагах трымаецца... Высахлая, бледная...

Ма-ма...

***

У беларусаў — спачатку *каханьне*, а пасьля ўжо *любоў*...

У расейцаў *„любовь"* адразу і назаўжды...

Мы і тут з прыглядкай і памяркоўнасьцю...

***

Выдрукавала „Литгазета" маю нізку „зацемак" у перакладзе В. Ліпневіча... Чытаў па-руску, як чужое, прапалі мая стылістыка ды іронія...

Падумалася неверагоднае: што найбольш файна мяне пераклаў бы ВасільСёмуха... Вядома, калі б я напісаў свае зацемкі па-нямецку... Сёмуха ня столькі перакладчык — як творца...

У яго „чужая" літаратура нічога не губляе, а нашая, дык бясспрэчна, — многае набывае...

***

Дачка мая — жонцы: „Мама, я цябе так люблю, як любяць мам пасьля сьмерці... Вось так цябе люблю, пакуль ты жывая..."

***

Прачытаў у адным выданьні пра афрыканскае племя „бушменаў", у мужчынаў якіх увесь час *„цьвіце корань"*. Яны могуць уступаць у палавую сувязь праз кожныя пятнаццаць хвілінаў... Аднак, жанчыны ім дазваляюць *гэта* ня больш як тры-чатыры разы ў год...

Першая раэкцыя: о-о-о! Наступная: а-а-а...

***

Раней чалавек быў *паўнейшым*. Усё *існае* ён змушаны быў накопліваць і насіць у сабе...

З надыходам галоснасьці, свабоды і дэмакратыі — ён стаў *пусьцець*. Зь яго паступова выйшла ўсё — і лішняе, і неабходнае...

„Человек испустил дух..."

***

Ніхто, апроч маці, на гэтым сьвеце ня любіць нас так, як мы таго вартыя ці нявартыя...

Ніхто так ня любіць маці на гэтым сьвеце...

***

Самае *геніяльнае* ў літаратуры — гэта пісьменьніцкія *задумы*...

***

Я *думаю*, што я *жыву*...

*г. Масква — г. Менск — в. Вароніна*

*1989-1998 гг.*

Літаратурна-мастацкае выданьне

---

Леанід Галубовіч
**Зацемкі зь левай кішэні**

Каардынатар сэрыі *Бабкоў І.*
Мастацкі і тэхнічны рэдактар *Фядорчанка А.*
Карэктар *Казлова А.*
Кампутарны макет *Санько С.*

Падпісана ў друк 28.07.98 г.
Фармат 84x108/32. Папера афсэтная № 1. Гарнітура „Букмэн".
Ум.-в.а. 7,22. Ул.-в.а. 8,02. Наклад: 300 ас.

Беларускі гуманітарна-адукацыйны культурны цэнтар
(па замове ЭўроФоруму)
Ліцэнзія № 209 ад 11.02.98 г.
*220050, г. Менск, в. Кірава, 21*

АООТ Яраслаўскі паліграфкамбінат.
Ліцэнзія № 061109 от 23.04.92

Усё пазьней кладуся спаць... Сяджу, п'ю каву, чытаю, куру, пішу ўсякі суб'ектыўны маразм як зараз, мрою, вольна думаю пра ўсё і нічога — мысьлю сабе...

Карацей: ноччу мне жыць ясьней.

***ЛЕАНІД ГАЛУБОВІЧ***



ГАЛЕРЭЯ